# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(713) КРАСАВІК, 2013

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**

4



www.maladost.lim.by

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск

## У НУМАРЫ:

# «Маладосць»: маладым — маладое!

✓ **ПРА СІМВАЛІЗМ**
✓ **ВІНШАВАННЕ**

Восень — лепшая пара, каб закахацца, летам — самы час адпачываць, на зіму спіхнём спасылкі-спадзяванні… Што ж вясне? Ды проста: свежы вецер!

Гэта адзначае кожны, хто хоць калі цікавіўся гісторыяй «Маладосці» (а не мець дачынення да гэтай справы ніяк не маглі: а) студэнты — хаця б філолагі і журналісты; б) гісторыкі літаратуры і яе крытыкі; в)… я) усе больш-менш адукаваныя людзі): тое, што часопіс з’явіўся на свет не зімою (бо марныя спадзяванні выстуджваюць сэрцы), не восенню (бо каханне не цярпіць канкурэнцыі), не летам (скрозь адпачынак вызіраюць толькі мары), а вясною — калі ляціць шалёна вада, плывуць паважна аблокі, і стаіць у душы цеплыня, а скразняк працінае свядомасць, — глыбока, як кажуць, сімвалічна.

«Маладосць» віншуе з днём свайго нараджэння ўсіх: заснавальнікаў і членаў рэдакцыйных калегій розных гадоў, супрацоўнікаў рэдакцый розных пакаленняў, паэтаў і празаікаў, крытыкаў і публіцыстаў, «эпізадычных» чытачоў і пастаянных падпісчыкаў, знаўцаў беларускай мовы і прыхільнікаў беларускай літаратуры, кожнага, хто хоць адзін раз, але друкаваўся на старонках выдання. Пажаданні? «Хто не выпіша “Маладосці”, атрымае ад нас у косці», як прапанаваў адзін паэт. Трэба больш сур’ёзна і са спасылкай на ўзрост? Ды ну яго!

**«Маладосць»: маладым — маладое!**



*Да размовы пра сімвалы. Аляксей Кулакоўскі — аўтар аповесці «Васількі» і першы рэдактар часопіса, які возьме васілёк сабе за сімвал.*




*Да пытання навацый у сімвалізме. Кветкі на вокладцы часопіса з’явіліся яшчэ ў год яго нараджэння.*



Адам МАЛЬДЗІС

# Заўсёды нешта пачыналася з «Маладосці»...

— Праглядаючы, што канкрэтна было напісана мною для «Маладосці», ды ацэньваючы, як я, уласна кажучы, да гэтага часопіса ставіўся, бачу, што мая праца ў ім досыць сур'ёзная. І гэта пры тым, што я заўсёды імкнуўся знайсці нейкія хоць і цікавыя, але дробязі. Заўсёды нешта пачыналася з «Маладосці»…

**Першыя публікацыі Адама МАЛЬДЗІСА ў «Маладосці» былі адкрывальніцкія. У тым сэнсе, што ён адкрываў імёны тых людзей, што нашымі не лічыліся. І вось праява: рукапіс апошняга яго твора для чытачоў «Маладосці» рэдакцыя папросту губляе...**

— Так-так. Мне павінна было споўніцца 75 гадоў, і з гэтай нагоды Раіса Баравікова папрасіла прынесці «штонебудзь, але каб толькі з таямніцай, у дэтэктыўным плане» — якраз як у Караткевіча. Я падумаў: «Што ж я магу прынесці ў рамантычна-ўзнёслым і адначасова прыгодніцкім плане?» І ўспомніў, што некалі ў Польшчы, у час першай сваёй замежнай навуковай камандзіроўкі мне ўдалося дабіцца таго, каб у беларускія рукі трапіў архіў Яніны Гурыновіч, пляменніцы Адама Гурыновіча. Аказалася, што сярод тых твораў былі вершы — і на польскай мове, і на беларускай, і на рускай. Усё гэта ўжо апублікавана, але заставаліся недрукаваныя лісты. Не самога Гурыновіча, а дзяўчат, якія пісалі да яго. Ён жа быў студэнтам з Пецярбурга, ды такім, па здымках відаць, досыць прывабным. Так у маё распараджэнне трапілі лісты дзвюх вельмі розных жанчын. Першая — Станіслава Пяткевіч, ідэйная асоба, марксістка, якая рашыла ахвяраваць сваім юнацтвам дзеля вялікай мэты. Яна працавала дзесьці ў Вільні швачкай, лісты яе на польскай мове, сухія, скупыя. Другая — Ружа (ці Роза?) Швайніцкая, жанчына-агонь. Яе выразы ў лістах вобразныя, квяцістыя. Гэта Швайніцкая захаплялася вершамі Гурыновіча — ды і сама потым пачала пісаць.

Лісты Гурыновіча да гэтых асоб невядомыя. А вось тое, што прыходзіла на рукі яму, у пляменніцы захавалася. Я пачаў думаць: што, калі змясціць гэтыя лісты, а да іх дадумаць, што мог пісаць Гурыновіч у адказ, — выкарыстоўваючы яго стыль? Гэта магла б быць драма. І я зрабіў сцэнарый для тэлефільма ці тэлеперадачы — не памятаю ўжо. Гэта прайшло, адбылося — і знікла: тады ж не было моды, каб аўтар атрымаў на памяць запіс праграмы. А ў мяне нават і тэксту не засталося. І калі Раіса Баравікова мне так сказала, я пачаў пісаць нанава. Трэба ж было менавіта ў гэты час звярнуцца да мяне Алесю Карлюкевічу — з просьбай узнавіць працу над «Літаратурнымі мясцінамі Беларусі». Так я пераключыў увагу — і п'еса выйшла з-пад майго кантролю.

Дзеючыя асобы ў ёй — Адам Гурыновіч, маці яго, Станіслава Пяткевіч і Ружа Швайніцкая. У тых лістах і вершыкі нават былі: гэта ўсё дакументальнае… Але сапраўды — згублена ў рэдакцыі.

То будзе ж некалі нават і вельмі цікава! Вы толькі сабе ўявіце: роля «Маладосці» ў вяртанні твора Мальдзіса…

*Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ*



# *Калі трэба ставіць шматкроп'е...*

— Пісаў некалі для «Маладосці» вельмі харошы крытык Рыгор Бярозкін. Эстэт! Яго цікавіла найперш прыгажосць — душы, жэсту, учынку, рэчы. Патрабавалі ж тады ад літаратуры не эстэтыкі, а «сацыялогіі»: хочаш ці не хочаш, падавай творы пра рабочы клас ці калгаснікаў.

**Акадэмік Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ успамінае, што заказ для пісьменнікаў у даўнейшыя часы існаваў літаральна. Чалавек разглядаўся па спецыяльнасці і пасадзе. Асоба сама па сабе тагачасную ідэалогію не надта цікавіла. А калі правесці паралель з сучаснай літаратурай? Здаецца, сёння таксама на першым месцы «хто», а не «які».**

— Сёння, як на маю думку, іншае: героя паказваюць яшчэ больш шматгранна — заглядваючы не толькі ў сацыяльныя сувязі, але і ў біялогію, нават у хваробы. І робіцца часам так, што ўсяго гэтага залішне. Возьмем аповесць «Рай даўно перанаселены». Алена Брава, як я паглядзеў, вельмі таленавіты аўтар, і цяжка яе з кім-небудзь параўнаць па багацці дэталяў, назіральнасці і глыбіні позірку. Але гэта аповесць з «перадазіроўкай». На ўсё ў ёй націск робіцца такі, што захліпаешся. А я ж як чытач хачу і ўдых зрабіць, і выдых — я жыць хачу і дыхаць гэтым творам! Ты б мяне па ім павадзіла, паказала — я ж не перашкоджу тваёй думцы. Але мы заходзім у тупік, і нават пачынае здавацца, што ўсё напісанае — няпраўда. Гэта не ў традыцыі нашай літаратуры…

Дык вось, атрымліваецца, што сённяшняя канцэпцыя літаратурнага героя больш шматгранная. Пашырыўся, я б сказаў, сектар творчай свабоды. Несумненна, гэта патрабуе ад пісьменніка новых ведаў. У прыватнасці, сучасных тэорый у галіне псіхалогіі. Але ўрэшце ўсё вызначае талент.

На пачатку 60-х з'явіўся ў нашай літаратуры цікавы пісьменнік Барыс Сачанка. Добра памятаю яго аповесць «Барвы ранняй восені». Адны крытыкі яе прыхільна сустрэлі, другія ж, наадварот, сказалі, што гэта недакладна і таму няправільна, што аўтар залішне акцэнтуе ўвагу на недахопах нашай рэчаіснасці. Ну, розныя ёсць крытыкі, як і людзі бываюць розныя. Але, на мой погляд, і, зрэшты, так адзначана ў гісторыі літаратуры, гэта быў крок нашай прозы наперад. Сачанка быў маладым, і гэта маладосць, гэта свежасць успрымання жыцця, якая, напэўна ж, губляецца, калі чалавек робіцца мудрэйшым, бо ён страчвае наіўнасць і нечаканасць у прыняцці рашэнняў, і шмат што яшчэ, — гэта ўсё было ў Сачанкі.

У літаратуры ёсць вечныя тэмы — каханне, сэнсу жыцця, старасці, смерці, абавязку — усяго таго, без чаго чалавек увогуле немагчымы. Сёння я чакаю, хто напіша пра каханне так, каб гэта мяне здзівіла, каб стала нешта зразумелым у духоўным свеце маладых людзей: як яны кахаюць? Вядома, каханне ў кожнага сваё, вельмі рознае. Ну дык і няхай у адной кнізе будзе па-рознаму пра гэта сказана, але няхай гэта будзе сказана! І ўвогуле, пісьменнік не павінен ставіць кропкі на рэалізацыях сваіх задум. Заўсёды трэба ставіць шматкроп'е.



*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*

# *Шчаслівыя-шчаслівыя працоўныя дні!*

Хораша сёння было ў гэтай сталічнай гімназіі распавядаць школьнікам пра наш літаратурна-мастацкі часопіс «Маладосць» і гуляцца з беларускімі словамі. *Насоўка, засень, воцат…*

Яны не ведаюць, што гэта такое. Гэтаксама, як не ведаюць, што ёсць сучасная беларуская літаратура. Напрыклад, Адам Глобус і Юры Станкевіч. Іх сказы зачытваю, каб ведалі пра *насоўку* ды *воцат*. І нашы такія несучасныя на выгляд часопісныя старонкі, з асобным творам, — у падарунак дасціпным, тым, хто ўсё ж здолеў загадку *насоўкі* разгадаць.

Цяжка сказаць, калі я абрала сваю працу ў часопісе «Маладосць». Можа, калі была дзесяцікласніцай? Тады я ненавідзела школу, фізіку і матэматыку. Па-падлеткаваму пагарджала аднакласнікамі. Рэальнасць была невыноснай, балючай, нецікавай… І таму я збягала ў кніжкі, каб… хоць нейкае апірышча і смак!.. Каб быць Кацяй-якая-чытае-кніжкі, а не пасрэднай нікчэмнасцю. Я палюбіла беларускую мову (але пагарджала аднакласнікамі!). І гулялася з мамай у родныя словы вечарамі: *насоўка, засень, воцат…* Купіла Дастаеўскага ў перакладзе на беларускую, выпрасіла ў бібліятэцы другі камплект падручнікаў на матчынай мове, гадзіну «вісела» ў кнігарні — не Муракамі і Каэльа, а… сучасная беларуская літаратура! Не вельмі шчаслівая дзяўчынка, часам зусім няшчасная. Сябе — не любіць, аднакласнікаў — не любіць. Затое цэлы нататнік з беларускімі словамі.

Аднойчы я заўважыла ў газетным шапіку, на выбітным месцы, часопіс «Маладосць». («Маладосць» у газетным шапіку?!. «Маладосць» на выбітным месцы?!. Цяпер, у 2013-м, толькі марым пра шчасцейка такое!) На дварэ ўладарыў 2003 год, і я, школьніца, улюбёная ў беларушчыну.

Неўзабаве я стала падпісчыцай «Маладосці», яе заўсёдным чытачом. Сама сабе ўражвалася: з якім імпэтам прагортвала новы нумар! І ўглядвалася ў незнаёмыя яшчэ твары беларускіх літаратараў і вучыла з «Маладосцю» беларускія словы.

Сусвет як быццам падміргваў мне, даваў цікавыя знакі.

Глыбока шаную сваю працу ў «Маладосці», і сваіх калег глыбока шаную, і свой працоўны пакой, які мы дзелім з паэтам Рагнедам Малахоўскім. У нашым пакоі маюцца дзве *бес-каш-тоўныя* шафы — архіў «Маладосці» ад самага пачатку, ад 1953 года. Падарожжа ў гісторыю выдання — гэта захапляльна, гэта сакавіта! Люблю савецкія нумары «Маладосці», з прыгожай маральнасцю, грунтоўнасцю і якасцю. А яшчэ люблю родныя, прасякнутыя загадкавым водарам маіх школьных гадоў, нумары першай паловы 2000-х: разам з імі я вучылася размаўляць па-беларуску, адкрывала для сябе сучасную беларускую літаратуру.

Гэту кнігу не назавеш ні ўнікальнай, ні арыгінальный — такія выданні ствараюцца на «адзін-два-тры». Але (парадокс ці не?) чытацца яна будзе гэтаксама, як пісалася і ўкладалася, — лёгка, весела, захапляльна. Іншымі словамі, у гэтай кнігі ёсць шанцы стаць сапраўдным беларускім бестселерам. А таму, калі вы марыце стаць пісьменнікам або рэдактарам літаратурнага выдання (чым чорт не жартуе, калі анёлкі дрэмлюць?), ды і калі нават вы ўжо з'яўляецеся першым, або другім, або першым і другім адначасова, не прамініце тое, што стваралася як быццам да юбілею часопіса «Маладосць», а на самай справе спецыяльна для вас. Увогуле, правільней тут будзе напісаць: «Для шырокага кола чытачоў».

Для вельмі шырокага кола чытачоў.

## АНАТАЦЫЯ НА ВЫДАННЕ «СКРОЗЬ “МАЛАДОСЦЬ”...» — НЕ САМУЮ СУМНУЮ КНІГУ ПРА ГРОШЫ, ЧОРНЫ ШАКАЛАД, ПІСЬМЕННІКАЎ І ЛІТАРАТУРУ

Усе, хто прыклаў руку да справы выхаду гэтай кнігі ў свет, безумоўна, хацелі б, каб тэксты з яе разабралі на цытаты — і каб апошнія разляцеліся па гэтым свеце, не пакідаючы сумнення ў сваёй арыгінальнасці і слушнасці ні на адзін друкарскі сімвал. Зрэшты, гэты працэс пачаўся ўжо, і дай Бог чытачам шчасця не спыняць яго да той пары, пакуль пад сонцам песціцца зямля. А пакуль тое, аўтарам усіх тэкстаў гэтай кнігі — напісаных ад рукі ці на машынцы, а таксама прамоўленых на дыктафон, — адрасуецца першая падзяка. Даволі, трэба дадаць, вялікая.

Раіса Баравікова

Рабінавая гронка

Рабіна гронкай распаліла
світанак. Там, дзе лес радзее,
я сёння зноўку паўтарыла
урок няспраўджанай надзеі.

Ты не адзін, а я зірнула
Так, як глядзяць на закаханых,
нібыта ўпершыню адчула
ласкавасць рук, навек адданых.

Паўночны вецер быў лагодным,
і турбавала толькі тое,
што мой світэрак старамодны
залішне змрочным быў са строю.

Шчаслівы міг чакаць кагосьці,
хацела засмяяцца звонка,
а ты не ўспомніў маладосці...
Бывай, рабінавая гронка!

Р. Баравікова.

27.03.2013 г.

З кнігі паэзіі „Каханне".



Віктар ЛУПАСІН

# Як вывучыць беларускую мову?

## Ніяк, яна сама вывучыцца

***Бераце і пачынаеце размаўляць на чым умееце. Просіце ўсіх папраўляць, калі няправільна ўжываеце словы. Чытаеце беларускія кнігі або часопіс «Маладосць». Праз паўгода вас пачнуць пытаць, дзе вы так добра вывучылі мову. Праз год, паслухаўшы вас, людзі самі будуць на яе пераходзіць.***

Але ж канкрэтна тут гэты цудоўны алгарытм не па адрасе. «Маладосць» чытае 0,03 % беларусаў (дзелім 3 тысячы наклада на 9 мільёнаў насельніцтва, якія ўжо і без таго ведаюць мову — яшчэ нават і мае памылкі павыпраўляюць у гнеўных лістах). Таму асноўная наша задача — не самім любіць і шанаваць матчыну мову (але гэта таксама трэба рабіць), а паўздзейнічаць на рэшту нашага народа.

Дакладней, я цяпер напішу крамольную рэч. Матчынай мовай беларуская была ў сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя, калі ішла масавая ўрбанізацыя з беларускамоўнай вёскі ў рускамоўны горад. Цяперашнія гарадскія беларусы альбо рускамоўныя ў другім, трэцім пакаленні (большасць), альбо беларускамоўныя ў першым. Доля апошніх імкліва павялічваецца, і гэта яшчэ адно адрозненне сучаснасці ад становішча 30—40 год таму.

Такім чынам, маем беларуса з рускамоўнай большасці, абавязкова памяркоўнага, то бок не «мне ваш язык не нужен», а «сорамна, матчына мова ўсё-такі». Як мы можам рэальна яго абеларусіць, калі памяркоўны беларус ідзе за большасцю, а большасць — рускамоўная?

Беларус павінен быць беларускамоўным, бо ён беларус, і беларус павінен быць рускамоўным, бо ён — частка большасці, — нічога не нагадвае?

Калі не нагадвае, я распавяду. Быў такі савецкі навукоўца, Генрых Саулавіч Альтшулер. Гэты Альтшулер праславіўся тым, што распрацаваў тэорыю вырашэння вынаходніцкіх задач. І ў ягонай тэорыі мы знаходзім 40 спосабаў развязаць супярэчнасць. Спосабы адаптаваны пад тэхнічныя вынаходніцтвы, а мы іх паспрабуем прымяніць для сваёй справы.

Прынцып драблення. Аб'ект дробіцца на незалежныя часткі альбо робіцца разборным. Хм, а ў гэтым нешта ё! Вядома ж, беларуса мы расчляняць не будзем. Ну а калі гэтую рускамоўную большасць? Га?

Прынцып вынясення. Аддзяляем ад аб'екта частку, якая перашкаджае, альбо выдзяляем адну, з якой будзем працаваць. Прынцып мясцовай якасці. Нешта незразумелае. Прынцып асіметрыі, прынцып аб'яднання, прынцып універсальнасці... «Матрошкі», антывагі, папярэдняга антыдзеяння. Што ж, папярэдняе антыдзеянне ёсць, яго нават самім рабіць не трэба... Прынцып папярэдняга дзеяння. Я яго выкарыстаў у пачатку артыкула, калі вучыў пераходзіць на мову. Прынцып «загадзя падкладзенай саломкі». Што ж, вельмі беларускі прынцып! Прынцып эквіпатэнцыяльнасці, прынцып «наадварот»... Прынцып непарыўнасці карыснага дзеяння!

Там было шмат прынцыпаў. А ідэальны вынік, паводле тэорыі Альтшулера, — зрабіць так, каб беларусы самі сабой пачалі размаўляць па-беларуску.

Добрай беларусізацыі, шаноўныя!

**Сяброў па суполцы** віншуе з юбілеем Беларускі саюз музычных дзеячаў. Выдатны оперны саліст (бас), прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Міхаіл Зданевіч адзначае 70-годдзе. Старшыні Асацыяцыі дамрыстаў і мандаліністаў БСМД, педагогу, лаўрэату міжнародных конкурсаў, ініцыятару правядзення міжнародных дзён мандалінна-гітарнай музыкі Mandolinissimo Мікалаю Марэцкаму — 60.




**Акварэльныя фарбы** або каляровыя алоўкі спатрэбяцца чытачам кніжачкі «Сонечны ліхтарык». У ёй — вершы і загадкі для дзяцей, змешчаныя ў раздзелах «Ад двух да пяці...» і «Ад пяці і...», напісаныя па-беларуску і руску. Сабраныя пад маляўнічай вокладкай творы больш як 30 аўтараў-аматараў суправаджаюцца чорна-белымі малюнкамі (мастакі Г. Сітнікава і А. Сітнікава). Укладальнік гэтага зборніка, кіраўнік народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца», прадстаўніца БСМД Ірына Карнавухава замовіла да пэўных вершаў контурныя выявы сюжэтаў і персанажаў. І атрымалася арыгінальная размалёўка для творчага сямейнага чытання. Набыць яе, як і ўсе зборнікі ды музычныя дыскі клуба «Жывіца», можна ў Мінскім абласным цэнтры народнай творчасці.




**З калекцыі «Маладосці».** Такі значок і цяпер можна атрымаць за асаблівыя заслугі перад часопісам.

**Хлапчукі выбіраюць хор.** Цяпер многія гарэзы жывуць рэпетыцыямі: штудзіруюць рэпертуар, з якім будуць выступаць падчас Другога рэспубліканскага фестывалю хароў хлопчыкаў і юнакоў. Свята, якое арганізуюць Беларускі саюз музычных дзеячаў і яго некамерцыйны прадзюсарскі цэнтр «Класіка», распачнецца 21 красавіка канцэртам хору хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў Полацкім Сафійскім саборы. Працягнецца фестываль у Мінску: 27 красавіка выступленні харавых калектываў адбудуцца ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, 28 красавіка — у сталічнай філармоніі.



***Франт Сыракомля пэндзля Шэмеша.*** *Да лютага наступнага года ў Нацыянальным мастацкім музеі доўжыцца выстаўка аднаго партрэта — партрэта Уладзіслава Сыракомлі працы Адама Шэмеша. Паэт і краязнаўца Людвік Кандратовіч, што ўзяў псеўданім Уладзіслаў Сыракомля, выпускнік нясвіжскай дамініканскай школы, працаваў у адміністрацыі радзівілаўскага палаца і праславіў сябе як паэт, пісьменнік, краязнаўца і вялікі рамантык. Ён не проста пазіраваў Адаму Шэмешу як мастаку — яны былі добра знаёмыя. Сыракомля нават назваў неяк Шэмеша «чалавекам, вольным ад дробязных поглядаў, якімі так часта кіруюцца творчыя людзі». Каб паглядзець у твар таму, хто так вось фармулюе думкі, трэба наведаць музей.*

*Вераніка МАНДЗІК*

# НА ЎЗМЕЖКУ МАЙГО ЮНАЦТВА



***Вераніка Мандзік нарадзілася 9 жніўня 1984 года ў вёсцы Сямашкі Мастоўскага раёна. Аспірантка Цэнтра беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Вершы друкаваліся ў «ЛіМе». Паэзія для Веранікі — адмысловы спосаб самапазнання і спасціжэння рэчаіснасці.***

* * *

Лятали крылы. Хадзілі ногі.
Хапалі рукі прыгожыя формы.
На прысак гарачы маёй трывогі
Лілі дажджы і гразіліся громы.

А вочы шчурыліся блізарука —
Яны не хацелі насіць акуляраў.
Тады размытыя людзі і вулкі
Здаюцца сном, а не сумнай явай.

Спявалі голасна поп-артысты
Пра шчасце, здраду і пра каханне.
А я выкідала з дому са свістам
Усе магчымасці нашых спатканняў.

Смяяліся вусны і плакалі вочы
З ілжывых страсцей і праўдзівых прытворстваў.
А я апранула настрой свой святочны,
Пайшла адраджацца пад зорны россып.

* * *

Не распытвай мяне, што было
На ўзмежку майго юнацтва.
Не знайду я праўдзівых слоў,
Каб у гэтым табе прызнацца.

Не шукай дыялогу вачэй —
Двух вільготна-блакітных бяздонняў.
Крышку боязна ім яшчэ
Падзяліцца сваім неспакоем.

Можа, лепей давай памаўчым
І паслухаем шэпт кляновы.
Бачыш? Лета ідзе на спачын,
Каб праз год расцвісці нанова.

Будзе зноўку празрыстая гладзь
Заляцацца да сонца нясмела…
Толькі — чуеш? — не трэба пытаць,
Што было і што не адбалела.

* * *

Ну, што глядзіш ты сумнымі вачыма?
Табе я не змагу дапамагчы.
Ніякай не шукаючы прычыны,
Мне хочацца схавацца, уцячы.

Ад ветру, што мне жвірам сыпле ў вочы,
Ад попелу даўно забытых дзён,
Ад вечнай беспрытульнасці дзявочай,
Ад думкі, што пустуе мой перон.

Ад тых дарог, дзе след мой загубіўся,
Ад тых, што вабяць, клічуць на прастор.
Ад страху, што аднойчы пасяліўся
У сэрцы і жыве да гэтых пор.

Ад вечнай мітуслівасці крыклівай,
Зацятага маўчання валуноў…
Ты ведаў, што ў душы маёй цнатлівай
Не можа пасяліцца слодыч сноў?

Ізноў глядзіш ты сумнымі вачыма,
Ізноў я не змагла табе сказаць…
Забудзь наступствы і забудзь прычыны,
Каб болей не хацелася ўцякаць.

* * *

А мне лягчэй ніколечкі не стала…
Як ноч падорыць небу зарапад,
Прыходзь у парк. Я смутнай Чорнай
Паннай
Злаўлю амаль забыты твой пагляд.

Нябачная, прайду з табою поруч,
Нібыта не было пяці гадоў.
Прабач мне. Я сама спазнала горыч
Бяздумна кінутых калісьці слоў.

Сама сабою жорстка пакарана,
Усё ж змагла б твой боль я залячыць.
Вяртайся. Па табе засумавала
Радзімка на пакінутым плячы.

Аднак падкажа мне халодны лівень,
Што ты для іншай марай стаў святой.
Збывайся ж для яе. І будзь шчаслівы.
…Мая віна. Мой сум. Мой неспакой.

* * *

Дазволь мне стаць крыху
сентыментальнай,
Дазволь цябе крыху прыраўнаваць
Да не са мною выпітых світанняў
І зор, што не для нас з табой гараць.

Сагрэтая ашчаднаю пяшчотай,
Я не адна каторы год — і ўсё ж
Прыгледзься: усміхаючыся ўпотай,
Гуляе наша лета басанож,

Адпушчанае так неасцярожна
У хмельна-бесклапотным забыцці…
А ты казаў, што нам з табою можна
Бясконца доўга ў леце тым цвісці.

Цяпер туман ахутвае світанні,
Цяпер ідуць асеннія дажджы…
Дазволь мне стаць крыху
сентыментальнай,
Каб потым зноўку раўнадушнай жыць.

* * *

Сплываў паволі ў вечнасць Млечны
Шлях…
Плыла зямля пад тонкімі абцасамі.
Аскепак шчасця грэўся на руках,
Штосьці абяцаў, глядзеў вачыма ласымі.

Я шчасце прыціскала да грудзей —
Тугое, трапяткое — толькі б выспеліць!

Баялася: а раптам прападзе?
А раптам з рук няўмелых вёртка
выскачыць?

Вакол мяне вірыўся зарапад,
І галава кружылася захмелена.
Я верыла: не вернецца назад
Усё, што мной забыта і адменена.

І ўсё было так хораша тады,
Так дзіўна, непадробна, непадкуплена,
Што я і не заўважыла, як ты
Падкрадваешся крокамі нячутнымі.

Зацята змоўклі зоркі ў вышыні.
Шапталі вусны горача, спакусліва:
«Каханая, даверся, абдымі…»
І вось грахоўны яблык я надкусваю.

Сплываў паволі ў вечнасць
Млечны Шлях,
Маёй не абцяжараны малітваю.
Я грэлася ў няшчырых тых руках,
А шчасце побач плакала, разбітае.

* * *

Хто сказаў, што каханне не помсціць?
Не сціскае да болю грудзі?
Час ад часу няпрошаным госцем
Адгукацца ў табе яно будзе.

Выпадковая наша сустрэча
(Ну, вядома ж!) не значыць нічога.
Проста ты быў з другою кабетай,
За руку я трымала другога.

Хто сказаў, што каханне не прагне
Паўзабытых жаданняў здзяйснення?
Таму, мабыць, паглядам сасмяглым
Ты глядзеў нам услед у здранцвенні.

А калісьці прызначыць спатканне
Не хапіла ці духу, ці сілы…
І, прызнацца, дагэтуль шкада мне —
Не з табою я стала шчаслівай.

* * *

Пад пільным позіркам тваім
Нямеюць ногі.
Прыйдзі, прыляж на мой кілім,
Мой лёс убогі.

На паўімгнення затрымай
Трымценне сэрца.
Святлом нязбытных нашых мар
Дазволь сагрэцца.

Ён не даваў мне ласкі той,
Якой жадала.
Таму і цеплыні тваёй
Заўжды мне мала.

А ты нічога не прасіў —
І меў паўсвету.
Не ведаў, колькі маіх сіл
Пайшло на гэта.

Прыйдзі ж, прыляж на мой кілім,
Мой лёс убогі.
Што ўгатавана абаім?
Адна дарога.



*Галіна ПЯРУН*

# «МОЖАШ НЕ ВЯРТАЦЦА...»

*Апавяданне*

Мікола задаволена зазірнуў у кошык. Сёння, як ніколі, яму шанцуе на грыбы. Ды не на якія-небудзь сыраежкі, а на добрыя, зусім не чарвівыя баравікі, чырвонагаловікі і лісічкі. Іх нават шукаць не трэба. Сядзяць сабе на бачных месцах і чакаюць яго, нават далёка ў лес ісці не давялося.

Будзе смачная вячэра! Мікола нават праглынуў сліну, калі яскрава ўявіў смажаныя з цыбуляй і смятанай грыбы.

У думках зноў узнік незадаволены твар жонкі. Пасля чарговай сваркі ў душы застаўся непрыемны асадак.

Ён зірнуў на гадзіннік — палова восьмай, а здаецца толькі зайшоў у лес. Трэба збірацца дахаты, бо хутка сцямнее. Шкада толькі, што не ўзяў торбу з сабой: кош паўнюткі з горкай, а грыбы так і трапляюцца па дарозе. Мікола спыніўся, каб зрэзаць яшчэ адзін баравік, які вытыркваўся карычневым капялюшыкам з-пад елкавай лапкі. Непадалёк, каля купіны, нерухома сядзеў шэраруды заяц. Смешна выцягнуўшы ўперад галаву, ён нібыта прыслухоўваўся да чагосьці. Цікава, што чалавек не спалохаў яго і не прымусіў зварухнуцца. Мужчына засумняваўся — жывы гэты вушасцік, альбо не? Ледзьве заўважна заяц звалюхнуўся з лапы на лапу і зноў застыў, быццам яго загіпнатызавалі. «Дзіўная справа! — падумаў Мікола і вырашыў не чапаць шэрага. — Хто яго ведае? Можа, ён шалёны! Тады не абярэшся непрыемнасцей».

Мікола зрэзаў баравік і таксама прыслухаўся. Ніякага шуму не чуваць. Увогуле, дзіўная супакоенасць апусцілася на лес. Нават вершаліны дрэў не гайдаліся ад ветру. Шолах лістоты затаіў свой таемны шэпт. На хвіліну здалося, што час спыніўся. Прадчуванне небяспекі закралася ў душу.

А цішыня чаравала сваім безгалоссем. На хвіліну здалося, што на галаву быццам уздзелі нябачны каўпак, які перашкаджае гукам далятаць да вушэй. Наваколле проста акамянела. Толькі грукат уласнага сэрца аддаваўся ў галаве. З балота пацягнула задушнай вільгаццю. Ноздры заказытаў салодкі водар багу-



**_Галіна Пярун нарадзілася 21 жніўня 1975 года ў Заслаўі. Скончыла педагагічную гімназію г. Беразіно і медыцынскі каледж. Жыве ў Магілёве, працуе ў паліклініцы. У гэтым годзе выйшла першая кніжка на рускай мове «Прости». Імкнецца кожную хвіліну траціць не дарма, а з карысцю для творчасці, сям'і і грамадства._**

ну. Ад хвалявання ў Міколы на скронях выступілі кропелькі поту. «Трэба хутчэй вяртацца дахаты».

Мужчына накіраваўся ў бок вёскі. Ногі глыбока правальваліся ў мяккі мох, на паверхню выступіла мутная вада. «Няўжо заблукаў? Тваністае балота павінна знаходзіцца крыху далей». — Мікола ўзяў лявей і праз некалькі крокаў намацаў падэшвамі цвёрдую паверхню. За невялікім хмызняком паказалася дарога. Вядома, захапіўшыся зборам грыбоў, ён і не заўважыў, што апынуўся на Грышкавым балоце.

Дрэннае месца. Вяскоўцы звычайна яго абыходзяць бокам, хоць восенню тут шмат журавін. Растуць прывабныя ягады ў самых гразкіх месцах, дзе пад невялікімі купінамі хаваецца смяротна-небяспечная багна. Праглынула яна ў свае нетры ўжо не адну жывую істоту. Няма для яе розніцы: ці то жывёліна, ці то чалавек. Некалі і малады Грышка загубіў сваё жыццё ў чэпкіх, бязлітасных лапах прорвы. З таго часу і блукае яго душа ў пошуках прытулку. Мясцовыя шмат гісторый апавядалі пра гэтае балота, а потым, з цягам часу, так і сталі называть — Грышкава балота.

Мікола прабіраўся праз густы хмызняк. Калючыя галінкі чапляліся за вопратку, хвасталі па твары і балюча ранілі цела. У хуткім часе гушчар парадзеў і наперадзе паказалася дарога. Мужчына з палёгкай уздыхнуў, але хваляванне ўсё роўна не пакідала яго. Дзіўная цішыня непрыемна ўздзейнічала на Міколу. А ў галаве гучала цудоўная мелодыя. Здавалася, адбываецца ўсё нібыта ў сне. Нават трэск сухога галля пад нагамі падаваўся не такім, як заўсёды.

Грыбнік накіраваўся да вёскі, але не паспеў зрабіць і кроку, як раптам з гушчару, адкуль ён толькі што выйшаў, імкліва выбегла некалькі дзікоў з маленькімі парасятамі. Не звяртаючы ўвагі на чалавека, яны хутка перабеглі дарогу і зніклі за маладымі ялінкамі. Мікола здзіўлена пазіраў услед паласатаму статку. Ад нечаканасці ён нават не паспеў спалохацца. Сямейства іклатых так блізка прабегла каля яго, што ён разгледзеў закручаныя хвосцікі ў маладняка. Пэўна, штосьці асаблівае прымусіла іх ратавацца ўцёкамі.

Паводзіны зайца і дзікоў наводзілі на трывожныя думкі. «Мо пажар! — усхваляваўся мужчына. — Толькі агонь мог прымусіць жывёл паводзіць сябе такім чынам».

Агледзеўшыся па баках, Мікола прынюхаўся — дыму і гару не адчувалася. Неба над хвоямі раптам пацямнела, і лес паціху зашумеў. Мужчына ўзрадаваўся: невыносная цішыня знікла, растварылася, як і не было яе. Прырода зноў напоўнілася разнагалоссем. Душнае паветра насыцілася вільгаццю, прыемна запахла ігліцай. Вецер мацнеў з кожнай хвілінай. І па тым, як гайдаліся кроны дрэў, Мікола зразумеў, што дождж абрынецца незвычайны. Цяпер яму прыходзілася не ісці, а шпарка бегчы, бо шквал ветру гнаў па дарозе, піхаючы ў спіну шалёнымі парывамі. Маладыя тонкія дрэўцы амаль да зямлі хілілі вершалінкі, толькі ствол дужага шматгадовага дубаволата стаяў нерухома, губляючы зялёную лістоту. Да таго моманту, калі мужчына апынуўся на ўскрайку лесу, неба зусім пацямнела. Недзе ў далечыні чуліся грымоты. Першае, што ўбачыў Мікола, калі выбег на адкрытае месца — вялікая чорная хмара накрыла родную Журоўку. Здавалася, што само неба апусцілася на зямлю і паглынула жудасնай цемрай дахі будынкаў і кроны садовых дрэў. Дажджавое покрыва ахінула ўвесь небасхіл, не пакінуўшы ніводнага светлага краёчка. Хмара насоўвалася з неверагоднай хуткасцю, падмінаючы пад сябе ўсё жывое. Вецер шалёна шкуматаў вопратку мужчыны, надзімаў яе ветразем. Знясілены Мікола бразнуўся на зямлю. Хапаючыся за кожную травінку, ён папоўз у напрамку вёскі. Над гала-

вою з незвычайнай хуткасцю праносілася living рознае смецце. Зацярушаныя вочы слязіліся, перашкаджаючы глядзець наперад. Потым зусім знікла святло — настала сапраўдная ноч. Цемра загусцела так, што не было відаць рук. Угары раскацiста грымнула і гулка пранеслася па ваколіцы. Мужчына адчуў, як пад ім задрыжала зямля і скаланулася паветра. Потым грымнула яшчэ раз, і маланка падзяліла неба на две паловы, асвятляючы на імгненне наваколле. Хлынуў дождж, буйныя кроплі балюча захвасталі па плячах. Прыціскаючыся да зямлі, Мікола поўз як мага далей ад лесу. Наперадзе павінна быць рэчка Брусята. Невялікі хмызняк на яе беразе будзе добрым прытулкам у гэту непагадзь. З усёй сілы Міколу прыходзілася трымацца за дзёран. Кожны метр даваўся праз сілу, моцны вецер так і наравіў адарваць чалавека ад зямлі. У суцэльнай цемры даводзілася прабірацца навобмацак, спадзеючыся на памяць. Раптам над галавой шуганула нешта вялікае і аб'ёмістае ды вельмі хутка пранеслася зусім побач. Мікола нават адчуў вагу прадмета. Гэта было нешта надзвычай цяжкае. Напор ветру толькі ўзмацняўся з кожнай хвілінай. Пальцы рук аслаблі і расціснуліся. На імгненне віхура адарвала Міколу ад зямлі, нейкі момант ён знаходзіўся ў бязважкасці. Неверагодная сіла з лёгкасцю трэсла, шпурляла, круціла ў паветры Міколу, а потым, як пушынку, апусціла на дно канавы ў глейкі пясок. Мужчына намацаў корч і з усяе сілы ўчапіўся за яго. Штораз зямлю сатрасалі магутныя грымоты. Пярун біў з такой сілай, што, падавалася, быццам некалькі гармат страляла адначасова зусім побач. Маланка штохвілінна выкідвала свае стрэлы ў неба, азараючы наваколлі палкім святлом.

Дзікі жах не пакідаў Міколу. Упершыню за сваё не такое і доўгае жыццё ён пашкадаваў, што не слухаўся бабулю ў дзяцінстве, калі яна вучыла яго маліцца. Менавіта цяпер ён меў у гэтым вострую патрэбу. Лежачы ў бруднай вадзе пад праліўным дажджом, ён адчуў сябе драбнюткай казюлькай: бездапаможнай і неабароненай. Мікола разумеў, што ў гэтым велізарным свеце ён толькі маленькая часцінка ад яго цэлага, зусім бяссільная і кволая перад магутнай стыхіяй.

Раптам з боку лесу пачуўся шум і жудасны трэск. Неймаверная сіла круціла і ламала дрэвы. Вырывала іх з каранямі, шпурляла ў розныя бакі. Шум дажджу, раскаты грому, бліскаўкі маланак, скрыгат і трэск — усё змяшалася. Свядомасць адмаўлялася разумець тое, што адбываецца. Мікола страціў прытомнасць і ў забыцці праляжаў да раніцы

Мужчына расплюшчыў вочы. Над ім распасціралася блакітнае, бяздоннае неба, светлае і чыстае, без адзінай хмаркі. У самай вышыні, над галавою, самотна кружляла невядомая птушка. Дзесьці паблізу працягла стракаталі цвыркуны. Мікола асцярожна прыслухаўся, ніколі раней яму не прыносілі такую асалоду гэтыя гукі. На душы штосьці радасна зварухнулася і захацелася крыкнуць: «Жыццё працягваецца!»

Мужчына паспрабаваў узняцца, але нясцерпны боль працяў усё цела. У вачах пацямнела і закружылася ў галаве. Каб не паваліцца, ён прысеў на кукішкі і прыгледзеўся. Месца, дзе цяпер знаходзіўся, было зусім не знаёмым. Замест прыгожых драўляных будынкаў паўсюль стаялі паўразбураныя хаты. Многія садовыя дрэвы, вывернутыя з каранямі, валяліся на агародах. Мужчына зірнуў у бок лесу і абамлеў. Там, дзе яшчэ ўчора надвячоркам ён збіраў грыбы і бачыў дзікоў, сёння ўсе дрэвы былі скошаны амаль пад корань і бязладна ляжалі грудамі. Паласа буралому цягнулася на некалькі кіламетраў. Пэўна, калі б узняцца на вышыню птушынага палёту, то можна было б убачыць Беразіно. Сэрца зашчымела ад болю. Пра такое бедства ён

ніколі не чуў, а тут самому давялося ўбачыць маштабы страт. Слёзы роспачы набеглі на вочы.

Учора, у паспешлівай блытаніне, ён павярнуў у іншы бок. Толькі цяпер, агледзеўшыся, зразумеў, што гэта Шавярніцкія могілкі.

На дарозе стаяла шмат народу, чулася ўсхваляваная гамонка. Наблізіўшыся да натоўпу, Мікола спыніўся і паглядзеў на разбітыя помнікі. А яшчэ вывернутыя карані дрэў выцягнулі за сабой на паверхню некалькі спарахнелых трун. Жанчыны, хрысцячыся, ціха плакалі, а мужчыны бездапаможна разводзілі рукамі.

Усю дарогу дадому Мікола ўспамінаў жонку, і на сэрцы рабілася тужліва. Калі вечарам пасля працы ён збіраўся ў грыбы, то яна не адпускала яго. А потым, нагаварыўшы шмат крыўдных слоў адно аднаму, яны пасварыліся. Мікола махнуў рукой і паабяцаў хутка вярнуцца. Доўга не чакаючы, са злосці, жонка крыкнула: — Можаш зусім не вяртацца!

Цяпер, успамінаючы гэтыя словы, Мікола вельмі хваляваўся, бо ведаў, што жонка сказала гэта абы сказаць. Мусіць, цяпер яна, небарака, не знаходзіць сабе месца.

З цяжкасцю даваўся кожны крок. Дарога паўсюль была ўсыпана дробнымі каменьчыкамі, смеццем і бітым друзам. У хаатычным бязладдзі валяліся розныя прадметы і рэчы. Тут можна было пабачыць і нечыя боты, і цэглу, і галлё з зялёнай лістотай і нават колы ад аўтамабіляў.

Яшчэ здалёку ён заўважыў сцены сваёй хаты. Будынак без даху сіратліва глядзеў пустымі вокнамі на гаспадара. Хваляванне нарастала з кожнай хвілінай.

Аднекуль выскачыў дварняк. Аглушаючы вуліцу радасным брэхам, ён кінуўся насустрач Міколу. Высока падскокваючы на задніх лапах, сабака імкнуўся лізнуць гаспадара ў твар. На шум з двара вызірнула спалоханая жонка. Калі ўбачыла мужа жывым і здаровым, то расплакалася. Змарнелы твар жанчыны гаварыў сам за сябе — гэтая ноч была нялёгкая і для яе. Моцна прытуліўшы да сябе каханую, Мікола цалаваў яе ў мокры ад слёз твар і прыгладжваў растрапаныя валасы. З асалодай удыхаючы такі знаёмы і прыемны ейны пах. Сабака, узрадаваны вяртаннем гаспадара, кружляў вакол прыціхлай пары, віляючы хвастом і падымаючы дарожны пыл. Міколу падалося, што ніколі ў жыцці ён не адчуваў сябе такім шчаслівым…



*Максім ШНЯК*

# ВОСЕНЬ НА ВУСНАХ

**КАЛІ ТЫ МЯНЕ НЕ ПАЧУЕШ**

Калі ты мяне не пачуеш,
Мой голас павісне лістотай альбо павуцінкай
На самых танюткіх галінках.

Калі ты мяне не пазнаеш,
Мой воблік патоне ў свеце вялікім
І стане маленечкім блікам.

Калі ты мяне не падхопіш,
То я пратачуся ў глебу імгненна
І там застануся насеннем…

Пакуль ты мяне не ўзгадаеш.

**АЛЕ**

Але…
гэта ўсё выпадковыя крокі,
Бо ў цемры маруднай я вуснамі
Сцежку шукаю — не зрокам.

Але…
не ўцяміць такога кірунку:
Праз слоту у парк і далей…
Далей ад раптоўных стасункаў.

Але…
толькі зараз я маю надзею
Прайсці да канца гэты шлях,
Спазнаць, ад чаго вар'яцеюць.

Але…
гэта ўсё. Гэта ўсё несумленна:
Марудная ноч, і надзея, і вусны,
І сцежка, і я, і чужая … Алена.



***Максім Шняк нарадзіўся 2 верасня 1985 года ў пасёлку Бешанковічы Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «Мастацкая апрацоўка вырабаў з металу». Займаецца дызайнам мэблі, посуду, электронікі, фурнітуры і многіх іншых прадметаў прамысловага дызайну. Творы публікаваліся ў часопісе «Маладосць» і «ЛіМе».***

**ВОЧЫ**

Вочы — дзве лодкі на роўнядзі
твару —
Ноччу дрэйфуюць да берага
мары.
Рукі — дзве хвалі на рэчцы
пяшчоты —
Ноччу спрабуюць даведацца,
хто ты.

**ДОТЫК**

Дотык
Матылькай
Узнік у паветры.

Будзеш
Лавіць яго?
Не, не паверу.

Лепей крані
Яшчэ раз
Нетаропка.

Чуеш?
Я — дотык.
Любой сваёй кропкай.

**ГЭТЫ СОН**

Цемра палюе на вочы
Вечар раскідвае сум
Дзень незваротна пабег
Мроі лятуць на крысо
Хочаш,
Прынясу
І табе
Гэты сон?..

**КАЛЫХАНКА ДЛЯ АЛЕНЫ**

У ліхтара дрыготкі німб
(Начныя жахі абміні).
На сцежцы спяць твае сляды
(Пяшчотны сон убачыш ты).
Прыціх у лужыне лісток
(Гарачы чай, у мроі скок).
Ледзь чутна ў цемры йдзе цягнік
(На плечы коўдру нацягні).
Нібыта ў фользе поўні свет
(Спакою птах на думкі сеў).
І кожны гук трывожыць слых
(Не будзе ўночы думак злых).
Узводзіць Бог наступны дзень —
Туды цябе твой сон вядзе.

**ВОСЕНЬ**

Восень рэжа пярсцёнак з бурштыну,
Згодна ўласнай язычніцкай модзе,
І ў аскепках хавае сцяжыны,
Але мы іх, напэўна, не знойдзем…
Як не знойдзе і восень збавення
У сваёй далікатнай рабоце,
Жаль пануе ў яе сутарэннях,
Але мы іх ніколі не знойдзем…

**ВЕЧАР**

Важныя словы крадзе халадэча.
Рэшткі цяпла і відарыс дзяўчыны.
Марудная поўня. І вечар.
Кароткі такі… і нічыйны.

**ТУТ МЫ**

Крохка… крохка
Пальцы…
Ўзяцца…
Зверху месяц
Каламутны.
Ледзьве ледзьве
Пальцы!
Ўзяцца!
На прыпынку
Побач…Тут МЫ

**ЗДАЕЦЦА**

…І калі восень
Вачыма
Ўсміхнецца
Кіне у сэрца
Апошняй
Спакусай
Й лісце пакіне
Прытулак
На вецці
І калі восень
На вуснах

І калі восень
На вуснах
Застыне
Будзе чаканай
І блізкай
Здавацца
Й смуткам абдыме
Як роднага
Сына
І калі восень
За пальцы

І калі восень
За пальцы
Кранае
Дотыкам дражніць
Ласкава
Смяецца
І калі восень
Сумлення
Не мае
І калі восень
Здаецца…

**ЧАСОВЫ**

Словы — пастка.
Калі ласка,
Не кажы далей…
Пакідае ноч
Свой подых
На халодным шкле.

— Ты — часовы…
Мала словаў
Зараз і заўжды.
Ноч ахутвае
Спакоем
І плыве, як дым.



Стася НАРКЕВІЧ

*Аднакласнікам прысвячаю*

# РАЗВІТАЛЬНЫ ВЯСЕЛЬНЫ ВАЛЬС

*Апавяданне*



**Стася Наркевіч (Анастасія Лазебная) нарадзілася 28 чэрвеня 1952 года ў вёсцы Куляшы Маладзечанскага раёна. Працуе рэдактарам газеты «Мы і час» Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. У мінулым годзе выйшла яе казка «Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце», а ў гэтым — казка-размалёўка «Віялета, бабулечка і чароўны дроцік».**

— Ніна Іванаўна, ты дзе? — крыкнула Марыя Пятроўна, падыходзячы да адчыненага акна. А калі ўбачыла, што тая сядзіць на падлозе і разглядае фотаздымкі, сказала:

— Сядзіш, карткі нейкія тасуеш, а не адчула сэрцам, што госці амаль на парозе. Ды толькі на масточку штосьці з машынай здарылася. Загрукатала яна і спынілася, што той наравісты конь. Мабыць, трактар патрэбны, каб прыцягнуў яе да твайго дому. Мо схадзіла б, зірнула?

— А божачкі, канешне, нават нідзе не кальнула. Я так захапілася, што ўжо з добрую гадзіну сяджу і ўсё забаўляюся. Ведаеш, прыемны занятак знайшла. Дык, кажаш, каля крынічкі, на масточку стаяць? Цікава, а хто ж машынай кіраваў, мо Тамарачка. Казала, што ўжо атрымала правы, — дзялілася сямейнай навіной Ніна Іванаўна.

— А хіба я ведаю? Бачыла толькі, як адчыніліся дзверы і з салона выйшла твая дачка, потым выбегла Волечка, а за ёй выкаціўся, што мячык, муж Тамары.

Ніна Іванаўна адклала ўбок стары жоўты альбом з надпісам: «Тут дзесяць класаў пройдзена…», у якім яшчэ ляжала гара фотаздымкаў, кінула на іх позірк і выйшла да Марыі Пятроўны на вуліцу. Толькі наблізілася да брамкі — зірнула направа, туды, дзе знаходзіўся масток, а калі ўбачыла чырвоненькую «мазду», якая пад'язджала ўжо да дашчатага доміка Ніны Іванаўны, не вытрымала і папракнула суседку:

— Ты што, Марыя Пятроўна, схлусіла. Бач, самі прыехалі, ніякая дапамога не спатрэбілася.

— Вось і добра. Менш клопату табе. А то дзе б ты знайшла той трактар, — выкруцілася Марыя Пятроўна. — У калгасе гарачая пара. Сенакос.

Жанчыны падышлі да машыны, з багажніка якой Тамара і Леанід ужо даставалі рэчы. Ля іх тупала чатырохгадовая Волька. Малая, як толькі ўгледзела бабулю, адразу кінулася да яе на рукі.

— А якая ж ты вялікая! — падымаючы ўнучку, прамовіла Ніна Іванаўна. — Праўда, як былінка. Такая ўжо лёгкая. Цябе, відаць, бацькі не кормяць?

— Голадам морым. Паспрабуй ёй у рот што-небудзь упіхнуць. Бяда з гэтай ежай, — замест прывітання адказала дачка. — Апусці гэтага няўструя на зямлю, і мы з табою па-людску павітаемся.

— А мы і так павітаемся, — і Ніна Іванаўна пацалавала ў шчаку Тамару, потым зяця і сказала:

— Хадзем у хату хутчэй. Вы толькі не звяртайце ўвагі на вэрхал, які я там учыніла. Каб ведала, што вы сёння з'явіцеся, прыбрала б.

— Мамулечка, што ж ты такое натварыла?

— Фотаальбомы з гарадской кватэры сюды прывезла. Ледзь не надарвалася. А сёння ўселася і пачала іх разглядаць. Гляджу і быццам яшчэ раз сваё жыццё па другім крузе прабягаю.

— Во, і мы пазнаёмімся з тваім юнацтвам. А то ты, як партызанка на допыце, нічога і ніколі не расказвала нам з сястрой, — заходзячы ў хату, дакарала Тамара.

— Хіба толькі вечарам знайду хвіліну-другую, каб зрабіць экскурсію ў мінулае, а цяпер палуднаваць самы час.

— Мама, а мы не галодныя. Гадзіну таму ўсталі з-за стала. Пасля што-небудзь перахопім. Дай толькі вадзіцы папіць ці кампоту. Я ведаю, што ты кожны дзень яго гатуеш з вішань.

— А я вішань хачу, я вішань хачу! — залямантавала Волька. — Вунь тых, што вісяць над дарожкай, — і паказала пальчыкам на спелыя, амаль чорныя ягады.

— Ідзі з бацькам да дрэва. Вішань столькі сёлета, што ажно голле ломіцца. Ужо не ведаю, што з імі рабіць. Што абяру, а што шпакі здзяўбуць, — гаварыла бабуля ўнучцы.

— Пакуль вы будзеце смакаваць вішні, я дапамагу прыбраць у пакоі. А то і праўда, няма куды ногі паставіць. Толькі зірну на гэты сабраны скарб, — заўважыла Тамара і нахілілася над альбомамі, над стосікам пажоўклых ад часу фотакартак, адну з іх узяла ў рукі.

— Мамачка, гэта ты? Колькі табе было гадоў, калі фатаграфавалі? А дзе здымак рабілі? Дзесьці за мяжой?

— У Санкт-Пецярбургу. Гэта першая мая ўзнагарода за добрую вучобу. Я тады вучылася ў сёмым класе.

— А чаму ты ні мне, ні Веры нічога пра Піцер не гаварыла раней? Можа, і мы вучыліся б лепш, і нас бы вазілі па розных гарадах.

— Ну і дзівачка ты, дачушка. Хіба ж гэта вялікая перамога — выдатная вучоба? Гэта — абавязак кожнага школьніка вучыцца старанна і сумленна. Хаця, шчыра табе прызнаюся, я не вельмі шмат часу тым урокам адводзіла, бо даваліся мне прадметы вельмі лёгка. Ды і настаўнікі былі іншыя. Яны, калі каму якая-небудзь тэма была незразумелай, непад'ёмнай, займаліся з дзецьмі па сваёй ініцыятыве дадаткова. І бясплатна. А як тлумачылі новы матэрыял, амаль разжоўвалі, толькі глытай. І той, хто быў уважлівы, а яшчэ і кумекаў нядрэнна, мог і ў кніжку не зазіраць. Што мы і рабілі. Таму больш займаліся спортам, шмат чыталі пазакласнай літаратуры, удзельнічалі ў мастацкай самадзейнасці, ездзілі па вёсках з канцэртамі, хоць такі занятак шмат часу аднімаў, затое як было цікава. А калі ў шаснаццаць гадочкаў набегла каханне, быццам вясновы вятрыска, наогул не хацелася за падручнікі брацца. Такі тлум стаяў у галаве, не давядзі божа.

— Здаецца мне, не толькі ў цябе. Многія падлеткі праз хваробу з дыягназам «першае каханне» прайшлі і выжылі, многаму навучыліся, — удакладніла Тамара, якая зусім нядаўна абараніла кандыдацкую па псіхалогіі.

— Што праўда, то праўда. Першы таямнічы погляд, першы пацалунак, першае спатканне — гэта так загадкава і хвалююча, так рамантычна і ўзнёсла. Асабліва калі на цябе хлопцы пазіраюць. Але, што цікава, мала хто з маіх сябровак з аднакласнікамі сустракаўся. Дзяўчаты выбіралі кавалераў старэйшых за сябе на два, тры, а то і болей гадоў.

— А колькі ж вас было?

— Трыццаць тры чалавекі. Самы вялікі клас у школе. І ведаеш, як нас называлі настаўнікі — «звярынцам».

— Нічога сабе?! За якія такія ўчынкі вы атрымалі не вельмі прыгожую мянушку? У абліччы якога звера хадзіла ты? — пырснула Тамара.

— Ой, не памятаю. Напэўна, лісы. А чаму так нас празвалі, думаю, за своеасаблівыя паводзіны. Не хацелі мы паддавацца агульнай дрэсіроўцы і не паддаваліся. Кожны з нас быў і ў падлеткавым узросце асобай. А гэтага некаторыя настаўнікі не хацелі заўважаць. У многіх маіх аднакласнікаў тэмперамент выбівала, што той корак з шампанскага. Настаўнікі любяць дзяцей ціхіх, падатлівых, а не задзір і ветрагонаў.

— А вучыліся вы як?

— Па-рознаму. Да восьмага і ў восьмым класе ўсё ішло роўна, мала было чацвёрак. Але, калі перайшлі ў дзявяты, палова з'ехала на тройкі. Настаўнікі змяніліся, як і адносіны да нас, усё ж старшакласнікі, на парозе самастойнага жыцця стаялі, а дурэлі, што малыя. Бывала, нават урокі зрывалі: то нямецкую мову, то рускую. Вось, зірні, на адну з завадатарак беспарадку. Праўда, прыгожая дзяўчына, Галя Бярозка. Стройная. Ножкі, быццам іх вытачылі з ліпы. Высоканькая. А як гуляла ў баскетбол… І як грала на струнах.

— На гітары? — удакладніла дачка.

— Кінь ты. Ніякая там не гітара, не балалайка. Аднойчы нацягнула струну пад накрыўкай сваёй парты, тады ж сталоў не было, і давай брынкаць. А гісторык на адно вуха быў глухаваты. Мо хвілін дзесяць насіўся па класе, што індык, чырвоны-чырвоны, і не мог улавіць напрамак даволі моцнага гуку. Толькі смех і погляды аднакласнікаў, якія былі скіраваны ў бок Галі, выдалі месца, дзе знаходзіўся прымітыўны музычны інструмент. З трэскам ляцела наша Бярозка з класа. Не паспела яна дзверы зачыніць за сабой, як сутыкнулася з класнай, Валянцінай Міхайлаўнай. Давялося прызнацца, у чым справа. А куды дзецца? На другі дзень у настаўніка прасіла прабачэння і дазволу наведваць яго прадмет. А на матэматыцы сядзелі мы, быццам укапаныя. Дарэчы, гэты прадмет мала хто разумеў. Бо тлумачыла Марыя Васільеўна і даказвала тэарэмы на рускай мове. А мы, дзеці, якія жылі ў вёсках, ведалі яе, быццам замежную, са слоўнікам. Вось заміначка і атрымалася. Толькі некалькі вучняў, а гэта Зойка Восеньская, Гэля Лясная, Мечык Наважылаў ды Росцік Зямляк, разбіраліся ў геаметрыі, фізіцы ды алгебры. Два гады цягнулі на сваіх гарбах увесь клас, так і да выпускнога давялі. Толькі Расціслаў ніколі не даваў спісваць. Чакаў наш акадэмік, што мы за розум возьмемся. Самі будзем рашаць задачкі. Вось які быў самастойны і адказны. На ляту ўсё хапаў, быццам тыя чайкі хлеб. Пакажу табе яго здымак. Бачыш, які дапытлівы позірк у юнака. Сур'ёзны. Недзе вялікім чалавекам стаў.

— Цікава, дзе яны, твае аднакласнікі, што скончылі, кім працавалі? Пэўна ж, некаторыя, як і ты, ужо на пенсіі. Толькі хлопцам вашым, відаць, не пашанцуе. Ім пенсійны ўзрост павялічаць у хуткім часе, — з веданнем справы гаварыла Тамара.

— Канешне ж, адпачываюць. А што рабілі — не ведаю. Сорак гадоў мінула, я многіх і не бачыла з таго часу. Ведаю, што толькі чацвёра з нашага «звярынца» атрымалі вышэйшую адукацыю.

— Трое матэматыкаў і ты?

— Не зусім так. Гэля паступіла ў інстытут, але потым яго кінула. Зоя скончыла вядучы ў рэспубліцы ўніверсітэт як, дарэчы, і Тэрэза Пятрова. Зоська, так любілі мы называць Зою, працавала ў адным з міністэрстваў нашай краіны праграмістам. Тамарачка — заслужаны настаўнік. Выкладае беларускую мову. Гена Маруды вучыць дзетак гісторыі. Цяпер, наколькі я ведаю, ён — дырэктар школы.

— А ты, мамулечка, стала журналістам. Дрэнны з цябе рэпарцёр, калі да сённяшняга часу не знайшла школьных сяброў і не распавяла народу, якім стаў ваш клас, як пражылі дзесяцігоддзі, «перабудову». Гэта ж цікава.

— Усё так. Пэўна ж, я напісала б і пра аднакласнікаў, каб была побач з імі. Неяк наважылася іх шукаць, але, сама ведаеш, жыла ад роднага куточка вельмі далёка. Калі перамянілі месца жыхарства і пераехалі бліжэй да радзімы, можна было б заняцца гэтай справай, але пасада галоўнага рэдактара спачатку адной газеты, затым другой, а потым і асабістай, а цяпер праца выкладчыка ва ўніверсітэце ніяк не давалі ажыццявіць маю мару. Вось калі пакіну пасаду, абавязкова займуся пошукамі, і мы сустрэнемся. Гэта я табе абяцаю. Будзе нам што ўспомніць і пра што пагутарыць. І напішу пра кожнага, толькі б яны былі жывыя і здаровыя. Ведаеш, усё ж аднакласнікі даражэйшыя за аднагрупнікаў.

— Нейкія ў цябе, мамачка, думкі чорныя. Жывыя яны, усе жывыя.

— Не ведаю. Жыццё можа такія каленцы выкідваць, за хвіліну памяняць усё. А мы ўжо немаладыя.

— Божухна, вы ж пры сустрэчы адно аднаго не пазнаеце. Будзеце глядзець і прыкідваць, хто ж гэта завітаў на агеньчык. Нават пытаць пачняце: а ты хто, а ты?

— Думаю, так і будзе, — уздыхнула Ніна Іванаўна і змоўкла. Утаропіла погляд на здымкі, а танклявыя пальцы падчапілі ражок нейкай карткі і паднялі ўверх.

— Зірні. Гэта наша пявуння. Не голас, а галасішча. Тварык кругленькі, быццам журавінка. А прозвішча ў яе — Жураўская. Здаецца, і зараз Люська выскачыць з фотакарткі, як аднойчы выскачыла праз акно, што было з боку ад сцэны, на вуліцу, калі зблытала словы песні, якую выконвала на нямецкай мове падчас канцэрта. Мы тады ўсе прыліплі да шыбін. Думалі, што ногі паламала. Два метры да зямлі, гэта табе не жартачкі. Дзякуй богу, абышлося. А, ведаеш, якая яна была шчырая сяброўка і выратавальніца. Памятаю, як у нашу школу накіравалі на працу фізручку. Гімнастку. Кандыдата ў майстры спорту. Маленькую, вяртлявую дзяўчыну, амаль аднагодку нашу. Косцік Сяньчук закахаўся ў яе так моцна, што месца сабе не знаходзіў. І яна па ім гарэла шызым агнём. Справа была ў панядзелак. Прыйшлі мы ў школу і пачалі па звычцы дзяліцца ўражаннямі выхаднога дня. Хто прыдумваў небыліцы, хто праўду расказваў, толькі Люська маўчала і свідравала вачамі аднакласніка, які сустракаўся з фізручкай. Потым падышла да яго і штосьці шапнула на вуха, і яны адразу пакінулі нашу шумную кампанію. Калі вярнуліся назад, то на Косціку быў швэдар Люсі з высокім каўняром, а прывабную постаць дзяўчыны лагодна абхоплівала Косціна кашуля. Мы адразу ўсе здагадаліся: Ніна, так звалі нашу настаўніцу па фізічным выхаванні, на шыі хлопца пакінула сляды гарачых пацалункаў.

— А навошта і ад каго было хаваць сінячкі, падумаеш, які вялікі грэх?

— Ад каго? Ад фізічкі. Каб яна заўважыла такое, не было б жыцця нашаму Косціку столькі часу, колькі б ён вучыўся, а Ніначцы, пэўна ж, уляпілі б вымову,

нягледзячы на тое, што ў гэтай пары былі шчырыя адносіны і сапраўднае каханне, якое потым, дарэчы, дапамагло стварыць ім моцную сям'ю.

— Малайчына ваша Люська. Вось гэта сапраўдны ўзор сяброўства.

— А мы ўсе былі малайцамі, — адказала маці і асеклася. Неяк раптоўна падняла галаву, позіркам шмыгнула па акне, а на вуснах з'явілася ледзь прыкметная ўсмешка.

— Мам, а з чаго ты смяешся? Мо Волька на вішні сядзіць і не можа злезці?

— Не, дачушка. Гэта я зірнула на фортку і прыгадала, як мы праз такую ж, толькі шырэйшую, уцякалі ад начной нянькі на танцы, — і змоўкла.

— Што я чую? А цяпер з гэтага месца падрабязней. Ці сорамна ўспамінаць?

— Які там сорам. Раскажу, чаму ж не распавесці. Кавалера Алімкі ў войска забіралі. Позва, што хлопца чакаюць у ваенкамаце, ляжала ў яго запісной кніжцы, дзяўчына ўжо слёзы ліла. Раней хлопцы ганарыліся, калі ішлі ў армію. Не тое, што цяпер. Усе «косяць» ад службы. Дзяўчаты нават не хацелі сябраваць з тымі, хто не прайшоў вайсковую вытрымку. А які ж навабранец без вясёлых выправін, без баля, які ладзілі для сваякоў, суседзяў, знаёмых і блізкіх, дзе ўсе разам наказвалі будучаму салдату сумленна выконваць абавязак — абараняць Радзіму. А калі ў хлопца была яшчэ і каханая, то яна падчас урачыстага мерапрыемства клялася яму чакаць доўгія два гады. А тут запрасілі на выправіны Алімку, значыць, запрасілі і шматлікіх яе сяброўак. Вечар меўся адбыцца ў аўторак. Позненька. А як тайна пакінуць часовае жытло, ці, як мы яго называлі, інтэрнат, дзе жылі з позняй восені да ранняй вясны, каб не заўважыў выхавацель, які быў прыстаўлены да нас? Ён жа ні ў якім разе не дазволіць пасля дзевяці гадзін выйсці з памяшкання. Прыдумалі ўрэшце: праз фортку вылузнуць на двор. Пяць дзяўчат паспяхова пакінулі пакой, а шостая, як на бяду, не змагла. Сукенкай зачапілася за кручок і павісла на сярэдзіне рамы. Вісіць. І ў гэты момант наша вусатая нянька, былы настаўнік пачатковых класаў, шырока адчыніў дзверы дзявочага пакоя. А там — карціна пад назвай «Прыплылі». Галава Тоські — на вуліцы, а ногі — у пакоі, быццам нажніцы, стрыгуць паветра. Дапамог наш выхавацель дзяўчыне без траўмы пакінуць акно і прымусіў пасля такога стрэсу легчы ў ложак. Так яна і засталася ў інтэрнаце. А мы ж схаваліся за кут будыніны і без лішніх прыгод праз хвілін дзесяць падаліся ў суседнюю вёску да навабранца. Сярод пяцярых адважных была і я. Натанцаваліся ўдосталь і вярнуліся назад. А як зайсці ў памяшканне? Акно высока, не падскочыць да лаза-форткі. Спрабавалі на плечы адна адной залезці, ды дзе там. Ад смеху не змаглі. І вельмі баяліся, што наш выхавацель зноў з'явіцца перад намі. А спаць хацелася, вочы на хаду заплюшчваліся. Некалькі разоў грукалі ў раму: чакалі, мо дзяўчаты, якія спалі, прачнуцца і ўпусцяць у пакой. Ніхто нават вухам не варухнуў. Давялося мне падысці да акна, пад якім спаў наш Аляксандр Альфрэдавіч, і паскрэбсці, быццам котцы, па шкле і папрасіць, каб ён пусціў мяне ў пакой. І гэта каля шасці гадзін раніцы. Божухна, які сполах быў у ягоных вачах! Выхавацель хуценька ўсхапіўся, а спаў заўсёды ў вопратцы, і пайшоў мяне ратаваць, балбочучы пад нос: «Як? Чаму? У такі час?» Прыйшлося выкручвацца, што, маўляў, выйшла ў прыбіральню, а дзяўчаты пажартавалі і дзверы зачынілі. Не ведаю, паверыў ён у маю байку ці не, але я ўжо была ў пакоі, праз некаторы час і дзяўчаты прабраліся ды ціхенька ў ложак леглі. Толькі сну ўжо не было. Ляжым і ад смеху душымся. Усіх на ногі паднялі.

— Нічога сабе? А табе сорамна не было? Старога чалавека падманула.

— А хто пра той сорам думаў? Каб пра наш начны паход даведаўся дырэктар, нас адлічылі б са школы, а выхавацеля выгналі б з працы. Вось тады б патанчылі ўсе на вуголлі.

— А чаму ваш выхавацель-мужчына працаваў з дзяўчатамі?

— А якая розніца. Ён прыглядаў і за хлопцамі. Разам з імі нас было каля пяцідзесяці чалавек. Дзеці ад пятага класа да дзясятага. Вось шаноўны Аляксандр Альфрэдавіч і гуляў з намі, а бывала, што і мы з ім. Разыгрывалі, падтрунbackвалі, асабліва юнакі. Ён не злаваўся, а хітра пазіраў на хлопцаў і пакручваў вусы. Ведаў пяць моў. Адукацыю атрымаў у Кракаве яшчэ да прыходу першых саветаў. Перажыў вайну. А сям'ю так і не стварыў. Толькі сяброў было, што ў макаўцы зярнятак. Некаторыя з іх жылі за мяжой, у Польшчы. Да яго прыязджалі. Пасылкі перадавалі. Асабліва цыгарэты. Мятныя.

— Адкуль ты ведаеш іх смак? Ён вам даваў курыць? Гэта ж не педагагічна, — здзівілася Тамара.

— Гм… Адтуль… Калі ён пачынаў курыць, то ў нашых пакоях усё было ў дыме. Ён казытаў нам нос і, шчыра прызнаюся, дурманіў. Аднойчы хтосьці з дзесяцікласнікаў сказаў: «Цікава, а які ён, той замежны тытунь? Вось бы паспрабаваць». І прыдумалі, што ў Соні зуб разбалеўся. Мы да выхавацеля. Маўляў, гора, а позна ўжо, і да стаматолага нельга трапіць. Тым больш, што на нашым ФАПе не было такога спецыяліста. А як спыніць пакуты? А так, як наш пан Ігнатоўскі да паступлення ў настаўніцкі інстытут скончыў тры курсы медыцынскага, то ён параіў зрабіць зацяжку і працягнуў прыкураную цыгарэту. Пасля гэтага ў дзяўчатак чамусьці часта «пабольвалі» зубы. Прадаўжалася гэта камедыя доўга, пакуль хуткая дапамога не завезла нашага Альфрэдавіча ў бальніцу з сардэчным прыступам, а ўрачы забаранілі яму курыць.

— Ну і хітрыя ж вы былі!

— Не хітрыя, а практычныя. У жыцця самастойнасці вучыліся. Праз некаторы час такімі і сталі. Канцэрт падрыхтаваць — не праблема, у футбол пагуляць — няма пытанняў, дапамагчы калгасу — лёгка. Вось так і жылі. Усё ў нас атрымлівалася, усюды мы паспявалі. Не прыкмецілі, як і выпускны падбег, быццам маладзенькі алень, хутка, з высока ўзнятай галавой. Ганарліва.

— Мама, а гэта ты з дзяўчатамі на выпускным? — разглядаючы наступны здымак, спытала Тамара. — Напэўна, той дзень запомнілі на ўсё жыццё?

— Запомнілі, яшчэ як запомнілі… Асабліва падрыхтоўку да банкету, ці, як гаварылі па-вясковаму, да п'янкі, на якую запрасілі бацькоў і настаўнікаў.

— А дзе ж вы бралі прадукты? І хто вам усё гатаваў?

— Ну і дзівачка ты, Тамара. Што купілі ў крамах, што ў калгасе. Памятаю, пайшла я да старшыні гаспадаркі і папрасіла, каб ён выпісаў цялятка, кілаграмаў на трыццаць. Не адмовіў Іван Рыгоравіч. Толькі тую жывёліну патрэбна было забраць з фермы, якая ад школы знаходзілася за пяць кіламетраў. Мы ўнеслі ў касу грошы за прыкладную вагу і паехалі за будучымі адбіўнымі. Ведаеш, дачушка, нават не падазравалі, што нас чакала ў загарадцы. Там не цялятка стаяла, а шкілет, які дрыжэў у перадсмяротных сутаргах і мутнымі вачамі глядзеў у адну кропку: хворымі ў яго былі і косці, і нутро. Жывёліна, пэўна ж, праз дзень-другі капыты б адкінула. Зірнулі мы на таго небараку і войкнулі. Да яго нельга было падысці, такое бруднае. Але ж грошы аддалі, значыць, трэба забіраць. А Толік, Ваня і Валодзя не хочуць набліжацца да таго бедалагі. Папрасілі даглядчыкаў і ахвяравалі ім літр віна, каб яны ўскінулі жывёліну на вазок. І каб ніхто тое страхоцце не бачыў, мы яго сенам прыцярушылі. Толькі страшэнныя гукі, якія раздаваліся з-пад сухой травы, насцярожвалі калгаснікаў, якія сустракаліся на шляху дахаты, дзе мы меліся адзначаць свята. Я да той ялавічыны не дакранулася, як і астатнія пастаўшчыкі мясного далікатэса.

— А чым яшчэ табе запомніўся выпускны? Вы хадзілі сустракаць раніцу?

— Сустракалі мы ранак на ферме. Праўда, не ўсе дзяўчаты. Дапамагалі маці адной з нашых аднакласніц даіць кароў. Бо матуля яе вельмі стамілася за святочным сталом. Ты не ўяўляеш, як прыемна назіраць, калі цыркае малако. І тыя два струменьчыкі цякуць у вядро, якое напаўняецца на тваіх вачах. А які смачны пах сырадою! Мы па пяць кароў выдаілі. А потым, калі вярнуліся ў хату, спалі як пшаніцу прадаўшы. Я тады падумала, што, калі атрымаю дыплом журналіста, абавязкова буду пісаць пра людзей працы.

— А гэты здымак таксама з выпускнога? Ты тут непадобная да сябе. Не ўсміхаешся, знік агеньчык. І, як мне здалося, вочы напоўнены слязьмі.

— Дай зірнуць, які гэта эпізод з майго жыцця трымаеш.

І Ніна Іванаўна ўзяла ў рукі фотакартку.

— Так, мне было вельмі сумна і не да весялосці. Я развітвалася са школай, з аднакласнікамі, са сваім першым каханнем. Хлопец, які стаіць збоку, — Віктар. Ён на некалькі гадоў быў старэйшы за мяне. Адслужыў у войску, скончыў ваеннае вучылішча і ўжо працаваў у часці, якая дыслацыравалася ў лесе, непадалёк ад вёскі, дзе ён нарадзіўся. Быў сувязістам. Як мне хацелася, каб ён падышоў да мяне на выпускным і пакляўся, што, нягледзячы на расставанне і адлегласць, якая будзе нас раздзяляць, мы пранясём каханне праз гады і выпрабаванні. І што мы, калі настане час, звяжам адным моцным вузлом свае лёсы. Але ён не толькі не кляўся ў той вечар, гледзячы ў вочы, а нават не падышоў да мяне. Маё сэрца амаль што разарвалася ад болю. Я не магла зразумець такія перапады ў настроі свайго любага.

— А ён прыгожы. Статны. І, відаць, весялун.

— Не тое слова. Што прыгожы, то прыгожы і да дзяўчат захожы. Ніводнай спаднічкі не прапусціў. Адным словам — Казанова. Я ў яго закахалася яшчэ ў восьмым класе. Пазнаёмілася ў клубе на танцах. Віктар прыехаў з войска на пабыўку дадому. Як яму пасавала ваенная форма! Танцавалі ўвесь вечар, пасля Віктар пайшоў мяне праводзіць да інтэрната, да яго кійком дакінуць можна было, але мы ішлі, пэўна, гадзіны тры. Ён распавядаў цікавыя выпадкі з вайсковага жыцця. У той вечар падарыў зорку, самую яркую, і я была, бадай, на сёмым небе ад шчасця, што такі прыгажун звярнуў увагу на мяне і больш ні на кога. А які салодкі быў яго пацалунак… Першы мой пацалунак у жыцці. Месца сабе не знаходзіла пасля таго вечара. Мроіла Віктарам…

Аднойчы да мяне падышла Ганна, практыкантка-стаматолаг, з якой я сябравала, і спытала:

— Ніна, скажы, у цябе сур'ёзныя адносіны з Віктарам Сібіраком?

— А што здарылася? — таксама спытала я і, каб доўга не стамляць дзяўчыну, прызналася:

— Так, ён мне вельмі падабаецца.

— Не вер яму.

І Ганна працягнула мне канверт са штэмпелем, які быў адрасаваны ёй. Я зірнула на яго, і мне здалося, быццам почырк Віктара прабег па маім твары, а не па той паперы, ды размаляваў чырвонымі ўедлівымі пісягамі шчокі, шыю. А потым здалося, што тыя літары выскачылі з роўных радкоў, збіліся ў кучу і сваім цяжарам націснулі на маё сэрца. Я стаяла і маўчала, а Ганна трэсла мяне за руку. А што гаварыць? Фактычна, яна — саперніца. Я маўчала. У маёй галаве насілася Віктарава прызнанне ў каханні, якое перакрэслівалася крыўдай і падманам. Не ведаю, колькі б я так стаяла, каб не прапанова Ганны: узяць канверт, пакласці маё і яе пісьмы і

адаслаць у часць. Так і зрабілі. Праз нейкі тыдзень я атрымліваю вялікае пасланне — адно на дваіх. А пачыналася яно са слоў: «Шаноўныя мае сіньярыты, я вам хачу сказаць, што вы абедзве мне падабаецеся. І вы так дапаўняеце адна адну, што толькі ўдзвюх здольны стварыць вобраз дзяўчыны, які я сабе прыдумаў. Я кахаю вас…» Як аказалася потым, з такім шчымлівым пачуццём ён адносіўся і да трэцяй мясцовай прыгажуні — начальніцы пошты, якой таксама дасылаў лісты і сустракаўся падчас адпачынку. У яго дзень быў распланаваны так: з раніцы Віктар загаворваў зубы стаматалагічцы, з начальніцай круціў шуры-муры днём, а вечарам глуміў галаву прыгожымі словамі мне.

Пасля калектыўнага ліста, які даслаў ён, я больш не атрымлівала ад Віктара вестак. Трошкі пасталеўшы, вельмі пашкадавала, што паслухала Ганну. Хаця хто яго ведае, што было б потым… Але тое першае каханне, такое незабыўнае шчымлівае, бывае і сёння ўзрушыць памяць, асабліва калі Віктара пабачу ў сне. Калі ён вярнуўся з войска, мы яшчэ сустракаліся, але тыя сустрэчы былі падобны да нацягнутай струны — кранеш, а яна адгукнецца ціхім стогнам. Гэта было, калі я вучылася ў дзясятым класе. А на выпускным ён не падышоў. Я табе ўжо казала.

— А што было далей?

— Далей. Ён працаваў. Я спасцігала таямніцы журналістыкі. Кожны з нас выбраў сваю дарогу і пакрочыў па ёй. І колькі б я ні ішла па сваёй, я ўсё ж марыла пра тое, што калі-небудзь сустрэну Віктара, і зноў між намі адновяцца цёплыя пачуцці, рамантычныя спатканні, шчабятлівая гамонка і чысціня сустрэч. Не так, як у вас сёння. На першай гадзіне знаёмства — кампліменты, на другой — пацалункі, а пад канец вечара — моцныя абдымкі ў ложку.

— Мама, а што, ты так і не сустрэла больш яго? Нават здаля ніколі-ніколі не бачыла?

— Бачыла. Напярэдадні яго вяселля. Я тады ўжо працавала ў газеце свайго раёна. Прыехала з камандзіроўкі, хоць і вельмі стамілася, але ж мы з дзяўчатамі пайшлі на танцы. Як вы сёння кажаце — на дыскатэку. А ладзілася яна на адкрытай пляцоўцы ў парку адпачынку. Толькі падышлі да касы за білетам, як мяне схапіла за руку Вольга Наверач, аднакласніца, і выдала:

— А ведаеш, Віктар жэніцца з тваёй сяброўкай — Зінай, праз тыдзень вяселле.

Тыя словы, быццам сякера, падсеклі мае ногі. Ад нечаканасці я ледзь не паваліліся. Толькі выгляду не падала і выціснула з сябе:

— Як, якім чынам? Ён жа з ёй ніколі не сустракаўся. Ці я памыляюся?

Вольга толькі галавой пакруціла і ні слова не сказала. З гэтай навіной мы і пайшлі на пляцоўку. Быў шэры надвячорак. Густыя хмары наплылі над месцам танцаў, і дробненькія кропелькі пачалі падскокваць на дашчатай падлозе. Трошкі грымела ды пабліскавала маланка. А вось у маёй душы пачынаўся буран… А яшчэ — жаль. Так сябе шкада зрабілася, што слёзы ракой паліліся. Я плакала, нават не выцірала тыя салёныя кроплі і шаптала: «Канец. Цяпер канец. Я так доўга яго чакала. Яшчэ на нешта спадзявалася. Нават набыла заручальны пярсцёнак і надзела на палец, каб адпудзіць ад сябе кавалераў, якія не давалі праходу. Хоць бы на яго зірнуць у апошні разок».

І ты не паверыш: Віктар раптоўна вырас перада мною. Якім чынам мяне тут знайшоў сярод сотні людзей, я і сёння не магу ўцяміць. Павітаўся са шчырай, абаяльнай усмешкай і запрасіў на вальс. Мы пайшлі ў круг. Не ведаю, куды дзеліся слёзы, адкуль з’явіўся смех, уедлівы, у перасыпку са злымі, калючымі кпінамі. Ён толькі здзіўлена пазіраў ды слухаў і ўсё бліжэй і бліжэй туліў маё цела да сябе,

быццам хацеў гэтым штосьці сказаць, але баяўся. А я ж была нібы вожык. Але як мне хацелася абхапіць яго шыю рукамі, закрычаць на ўсё наваколле: «Не аддам, не аддам!» Ды замест гэтага я прагаварыла:

— Віншую. Чула, што ты ўжо старлей, як і пра тое, што хутка вяселле. Чаму ж ты мяне на яго не запрашаеш?

— На якое? — быццам бы здзіўлена спытаў Віктар, нахіліў сваю галаву над маім вухам і прашаптаў: — Я яшчэ не жанюся. Ты ж не хочаш за мяне выходзіць?

Што я магла адказаць? Нават не знайшла слоў, каб яго ўкалоць балюча-балюча. У маёй галаве толькі прабегла: «А хіба ты калі-небудзь пра гэта гаварыў? Ты нават не развітаўся, не сказаў, што паміж намі лягла прорва. Не прызнаўся, баязлівец, што пакахаў іншую. Тым самым вызваліў мяне б ад перажыванняў, пакут. Не ведаю, чым бы ўсё скончылася, каб не сціхла музыка, і пад густы рокат грому ды шалёны танец дажджу Віктар праводзіў мяне да сяброўак. Прывёў, пацалаваў у шчаку. Вусны яго былі гарачыя-гарачыя... Я той дотык, як кроплю кіпеню, і сёння адчуваю. Праз гады. Вось такое было развітанне. Віктар развярнуўся і пайшоў у натоўп. А я глядзела яму ўслед да болю ў вачах, да слёз, якія зноў каціліся па шчоках, быццам ягады каліны, буйныя ды горкія. Выціраю іх, скідваю на падлогу і кажу дзяўчатам:

— Не ведаю, як вы, а я пайду дадому… Мне млосна. Ды і дождж, відаць, не перастане …

І мы выйшлі з танцпляцоўкі. Дайшлі да кватэры, якую здымалі, і я, не распранаючыся, легла на ложак. Усю ноч праплакала. Я кожнае, бадай, спатканне прыгадала, кожнае слова. Як і пыталася ў сябе: чаму ж усё так атрымалася? Было шмат пытанняў, ды замест адказаў стаяла адно шматкроп'е, быццам бетонныя шары, якія я не магла зварухнуць. Вось якім было маё першае расчараванне, як і першая навука — не верыць прыгожым узнёслым словам. Я і цяпер, хоць прайшлі дзесяцігоддзі, да кампліментаў адношуся з асцярогай. Бо думаю, што за імі хаваецца падман. Пасля таго «вясельнага танца» ў мяне доўга не было хлопца. Я ўжо нікому не верыла.

— Мама, цікава, як склаўся ў Віктара лёс.

— Дакладна не магу сказаць. Але чула, што з жонкай ён разышоўся і з'ехаў з Беларусі ў Сібір.

— Ты адна, мабыць, і ён...

— І што ты гэтым хочаш сказаць? Няўжо ж думаеш, што я, самадастатковая жанчына, згублю галаву і пабягу яго шукаць? Не, дзіцятка, я здраднікаў не выношу на дух. Хаця, думаю, гэта была і не здрада з боку Віктара, а хлусня. Не, нават не хлусня, а гульня прыгожых слоў, гульня ў каханне, на якое я, як дурніца, паддалася. Я, калі сустрэла твайго бацьку, не чула ад яго ўзнёслых слоў, ён не ўмеў іх гаварыць, але ж убачыла ля сябе сапраўднага мужчыну — выхаванага, тактоўнага, які гатовы быў аддаць мне ўсё на свеце. І я яму была ўдзячна за гэта. Я яго паважала, вельмі паважала. Вось толькі праклятая хвароба, якую ён падчапіў падчас ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, скараціла нашыя светлыя і шчаслівыя дні, — на адным дыханні прамовіла Ніна Іванаўна і сціхла. Зірнула на альбомы, нахілілася і пачала збіраць фотаздымкі, прыгаворваючы:

— Расселіся мы з табою, Томачка. Разглядаем усё без патрэбы, а на дварэ пагрымвае. Дождж, відаць, прабяжыць па зямельцы. Вось і пайшоў. А кропелькі затопалі, быццам наша Волечка, ледзь чутна. Добра, што бялізну да вашага прыезду зняла. А то б пасушыла. Бяжы за дзіцём, а то вымакне, — сказала і працягнула руку, каб абаперціся на плячо дачкі ды ўстаць з падлогі, як раптам пачула:

— Ніна Іванаўна, да цябе можна?

— Заходзь, заходзь, Клава Сяргееўна. Даўно цябе не бачыла. У горадзе не можам сустрэцца, хоць на адной пляцоўцы жывём, дык хоць тут пабачымся. Па патрэбе якой завітала? А ў мяне госці.

— Ды бачу я. Павіталася ўжо з унучкай. І аддала ёй канверт, які табе перадала наша суседка, Святлана Станіславаўна. На яе адрас прыйшло пісьмо, а прозвішча тваё. Заказное. Вось Святлана Станіславаўна мяне папрасіла, калі я паеду на лецішча (бо яна кладзецца ў бальніцу), перадаць табе ліст.

— Волечка, унучачка, ты дзе? Пісьмо нясі хутчэй. Што ж там у ім?

— Я тут, — адпіхаючы Клаву Сяргееўну з дарогі, прамовіла дзяўчынка і патрэсла канвертам.

Ніна Іванаўна падхапілася з падлогі, падбегла да малой, узяла пасланне. Хуценька прабегла вачамі па незнаёмым почырку, падышла да стала, узяла нажніцы і адрэзала краёчак склееных лістоў. Дастала складзены ўдвая аркуш паперы, разгарнула і пачала ўголас чытаць.

«Паважаная Ніна Іванаўна! Чакаем цябе ў нашай школе 19 чэрвеня а 12 гадзіне. Твае аднакласнікі».

— Ну гэта ж трэба так. А я думаю, чаму мяне на ўспаміны пацягнула? Фотаальбомы расклала. Старэю, відаць... А тут вось як павярнулася справа. Цікава, як мяне знайшлі? — не звяртаючы ўвагі на прысутных, гаварыла сама сабе Ніна Іванаўна. Потым нахілілася над альбомамі і падняла адзін, той, дзе былі фотаздымкі аднакласнікаў. Прытуліла да грудзей, і радасна-ўзрушаны позірк пабег праз акно на двор, на вытаптаную сцежку, над якой вісела чорная хмара, якая выкручвала з сябе кроплі вады. Яны падалі на зямлю і ўздымалі ўверх пыл-пацяруху, які, быццам жывы, падскокваў, нагадваючы маленькіх чалавечкаў, танцаваў пад раскаты грому ды феерверк бліскавіц, як тады, на танцпляцоўцы. Ён вяртаў Ніну Іванаўну ў мінулае, у яе маладосць, ды быццам запрашаў на той развітальны вясельны вальс…



*Мар'ян ДУКСА*

# ГАРТАЮЧЫ КНІГУ БЫЦЦЯ



***Мар'ян Дукса нарадзіўся 5 сакавіка 1943 года на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Аўтар паэтычных зборнікаў «Спатканне», «Крокі», «Станцыя», «Забытыя словы» і іншых. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Куляшова.***

* * *

Буяністы вецер і лівень абвальны,
вялікі трыумф адзічэлай вады,
бяды нечаканае гул карнавальны
вітае паваленыя гарады.
Дрымучы вулкан, што спаў сабе ціха,
агністую лаву на стрэхі трасе.
Такая ў прыродзе неразбярыха,
як быццам парушаны правілы ўсе.
Дзе дзелася вытрымка, нейкая згода?
Ураўнаважаны дух яе згас…
Ды ці вінаватая ў нечым прырода?
Яна, відавочна, капіруе нас.
Чым ганіць яе, дарагую сваячку,
хай розум уласны расце пакрысе:
Мы ўласную ці ўсведамляем гарачку,
якая бязвольныя душы трасе?

* * *

За фіранкай нябачнага свету
як дапасці да цьмянага сэнсу?
Нешта ж бачыць за шырмаю гэтай
вока ўнутранае экстрасэнса.
За фіранкай нябачнага свету,
па-за намі — ад нас непадзельна —
лёг, свае прыхаваўшы прыкметы,
неспасціжаны свет паралельны.
Гэты свет… ён спакусліва-звабны,
Бо туды нам закрыта дарога.
Гэта што — тэрыторыя д'ябла
ці прастора бясконцая Бога?
Ты збянтэжыў нас, свет невядомы,
супакой наш нязвана парушыў.
Нас турбуюць твае ўсе фантомы,
але ж гэта, напэўна, не душы.
Палтэргейставы цуды-прыколы

хто падкідвае, дзе хто рыхтуе?
Так ніколі не робяць анёлы.
Гэта хітрая цемра жартуе?
О, любімчык Нобеля, дзе ты?
Ах, як быццам ты нешта і значыш…
За фіранкай нябачнага свету
ты дагэтуль нічога не бачыш.

* * *

Табе цікава распачаць гульню…
Наш супакой на дробны мак расцерці.
Вось ты ідзеш — раздатчыца агню
для юных і не вельмі юных сэрцаў.
Для сэрцаў, дзе стаяў халодны змрок,
куды святла працэджвалася мала.
З-пад веек ты зірнула незнарок —
і цемра сэрцаў светам запалала.
Адкуль прыйшоў твой незвычайны дар,
каб так рабіць адразу след глыбокі,
вокаімгненна спарадзіць пажар,
прынесці сэрцу моцныя апёкі?
Падпальшчыца! Ты шлеш агню прыліў,
спрыяеш нам, каб полымя люцела.
Вугольчыкі, што тухлі, запаліў
твой гожы, прамяністы факел цела.

## АЙЦУ ЛЕАНАРДУ

Як вецер вольны, рвуцца душы нашы,
для іх няма ні плоту, ні мяжы.
Мы ўсе авечкі на вялікай пашы.
Кудысь бяжым — спрабуй усцеражы.
Здаецца, і трава тут неблагая,
ды скачам праз адведзены загон.
Уласны розум мала памагае,
не чуем ушчуванняў наўздагон.
Вось толькі дай нам вельмі многа волі,
калі пануе ў галаве труха —
то сапсуем усю траву на полі,
і ўсё здратуем мы без пастуха.
Куды нам дзецца без яго паслугі,
адчуўшы шал, куды мы забрыдзём?
Нам проста нельга без ягонай пугі,
без пастуха — урэшце прападзём.
Што ні кажы, патрэбная апека!
Нам без аховы гойсаць не з рукі,
было такое: болей за паўвека
нас пасвілі калісь бальшавікі.
Былі наўкруг яны зімой і летам
і нас не адпускалі ні на крок.
Размахвалі не пугай — пісталетам,
без дай прычыны ўзводзячы курок.
Памкненні нашы гасячы варожа,
не даўшы ні вады, ні мурагоў…
О, пашкадуй нас, міласэрны Божа —
не пасылай нам гэткіх пастухоў.
Каб не зблудзілі, што бывае часта,
каб не прапалі мы ў кустах нідзе,
няхай заўжды, штодзённа Божы пастар
нас па зялёным выгане вядзе.
І хай ён будзе з пугай адмысловай,
якой махаць не трэба і круціць.
Бог гэта пуга — Божай праўды слова,
што, ззяючы, па сэрцы слізгаціць.

* * *

Усё, што выраблялі, калі скласці —
гарою стане, будзе вельмі многа.
А хто падлічваў, колькі мела шчасця
якая-небудзь зніклая эпоха?
А хто вылічваў поспех чалавечы,
эпохі даўняй радасць хто вылічваў?
Трыумфы ўсе душы ў сярэднявеччы
хто падбіваў? Няма ніякіх лічбаў.
Не спачувайце вы быламу свету,
яму прыпісваць не спрабуйце морак
за тое, што не ведаў інтэрнэту,
аўто шалёных і эстрадных зорак.
Жыццё цяпер — не мякенькі арэшак.
А даўніна — не цёмная, як сажа.
Статыстыка маўчыць адносна ўсмешак.
Калі было іх больш — ну хто нам скажа?

* * *

Мой успамін не затухаў —
успыхвае ён пры нагодзе…
Дзе ж вы, каго я так кахаў,
калі ў душы было разводдзе?

Вам лёс не ў мой — у іншы бок
дарожныя ўручыў білеты…
А ці ўзгадалі незнарок
мяне вы, мілыя Джульеты?
У сэрцах вашых з цемры дна
ці выйшла памяці праменне,
і ў іх ну хоць адна струна
ці заспявала на імгненне?
Ёсць праўда лёсу. І яна
няхай нікога з нас не мучыць.
Ды хай жа хоць адна струна
вам радасць збеглую агучыць.

* * *

Што ўтойваецца ў зрэнках
задумённых —
на самым-самым недасяжным дне?
Сум невыразны альбо боль замглёны
на нейкі момант злёгку мільгане.
Як разгадаць таемны сэнс ягоны?
Чаму так радасць гасне неўпрыкмет?
Егіпецкага доўгага палону,
няволі рымскай непазбежны след?
Туга з вачэй не цэдзіцца з нічога —
Яна магла з якой прычыны стаць?
Працяглая непаслухмянасць Богу,
віна за ўкрыжаванага Хрыста?
Чаму туга, калі навокал лета,
чаму жыве і ў зроку маладым?
Няўжо душу не пакідае гета,
Асвенцыма яе даймае дым?

**САМАПАРОДЫЯ**

Веру: паперу псуеш недарэмна,
што засвяціўся, як метэарыт.
Я разумею, наколькі прыемны
лірыкі ўласнай начны паўскавыт.
Як мяне вабіць цемра густая,
дзе нашы душы здаўна мільгацяць.
Кнігу быццям я штодзённа гартаю,
ажно старонкі яе шамацяць.
З гэтай нагоды — ах, колькі ж уцехі
можна з прыемнасцю ў сэрцы насіць,
вечнасці знакі, як тыя арэхі,
хочацца, хочацца мне раскусіць.



Серж МІНСКЕВІЧ

# УСМЕШКА ЖАЛОБНАЙ КАРАЛЕВЫ, АЛЬБО ТАЙНА МАГНІТНАГА ЗАМКА*

*Аповесць легендарных часоў*

* * *

Тым часам маг Ніціч, Ром Ончар і яшчэ некалькі віцязяў спусціліся з паходнямі ў лабірынт.

— Будзем шукаць усюды! Знайсці гэтую яснапанну нам проста неабходна — інакш яна столькі дроў гэтай сякерай накрышыць, — сурова сказаў Ром Ончар.

Аднак доўга шукаць Алеоллу ім не давялося. Карціна, якая адкрылася вачам мага, ваяводы і віцязяў, была мірная — Алеолла і Бедалдай па чарзе кідалі кубікі і падскоквалі з тапчана глядзець, што каму выпала, азартна абмяркоўвалі шанцы… І наогул, не звярталі аніякай увагі на віцязяў, якія зайшлі да іх у пакой.

— Вось і выдатна, — пасміхнуўся маг Ніціч, — цяперака яны вязні «пірамiды». І не будуць нам дакучаць.

— Вось малайцы якія, — узрадаваным голасам сказаў Ром Ончар. — Перадайце па змене, каб самую смачную ежу і ўсё такое прыносілі да іх, — загадаў ён сваім віцязям.

— Ясна! — адказалі тыя хорам.

— Алеоллу пазней, калі падрасце, мы, вядома, выпусцім, — пачаў разважаць услых маг Ніціч. — А то калі цяпер адпусціць, пойдзе да Паляндры. Толькі дарма галаву складзе.

— Вядома, нават на нашых шчытах да гэтай Паляндры падляцець немагчыма, — сказаў адзін з віцязяў.

— Так, Чорнае Балота — месца прапашчае, — пагадзіўся другі.

— Плюхнешся брухам у багну... «Магнітычныя» струмені гэтае балота агінаюць, — сказаў трэці.

— А яна, такая танюткая, яшчэ туды валачэцца, — прабасіў чацвёрты.

— Вядома, хай пакуль падрасце, — нізкім голасам прамовіў пяты.

— Вось і я пра тое, — пагадзіўся з імі маг Ніціч.

— А праз пару гадоў яна такой прыгажуняй стане, — летуценна прамовіў Ром Ончар. — Можа, і не захоча нікуды сыходзіць. Абярэ каго-небудзь з нашых малайцоў сабе ў мужы. Застанецца жыць у нашым замку. А што, замак выдатны, з усімі выгодамі…

Пасля гэтых слоў віцязі падцягнуліся і выпрасталі плечы. Выпрастаў плечы ды падцягнуўся і сам маг Ніціч. Віцязі паглядзелі на ягоныя плечы, параўналі са сваімі і ледзь не пырснулі са смеху.

— Ну-ну, — прамовіў Ром Ончар, сам выпрастаў плечы, узняў рукі і паказаў біцэпсы.

Віцязі, збянтэжыўшыся, апусцілі вочы.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2, 3 за 2013 г.

— Добра, потым паглядзім, хто ёй спадабаецца. А гэтага Бедалдая выпускаць нельга! — шумна ўздыхнуў Ром Essenceчар. — Нават калі ён і нармальны хлопец, то хто-небудзь у яго сякеру падманам альбо яшчэ як-небудзь выкрадзе. І што тады? Чорны джын заўсёды будзе паляваць за гэтай сякеркай.

— Так, трэба агледзець увесь лабірынт і знайсці сякеру! — сказаў маг Ніціч.

— Выконваць! — пацвердзіў ягоны загад Ром Essenceчар.

— Ясна! — хорам адказалі віцязі.

Яны разбрыліся па лабірынце, і маг Ніціч, і Ром Essenceчар таксама пачалі пошукі...

Увечары віцязі паведамілі — ніхто з іх сякеры Бедалдая так і не знайшоў.

## XXI

## МАЗГАВЫ ШТУРМ

— Ну што? — спытаў кот Міамурмарор. — Калі няма ўваходу, то паўзём далей.

— Як гэта паўзём? — задраў угору галаву Арцін. — Муры стромыя.

— А як мы на скалу паўзлі? — пытаннем на пытанне адказаў кот.

— Правільна думаеш, — зразумеў задумку Міамурмарора мастак Дроздзіч, — што б мы без цябе рабілі!

— Я заўсёды казаў, што мы, кат*ы*, без вас, людзей, абысціся зможам. А вось вы, людзі, без нас — ніколі.

Кот Міамурмарор абматаўся вяроўкай, акінуў уважлівым поглядам «прымагнічаныя» да сцяны замка шчыты, мячы і шаломы.

На адным з такіх шаломаў, над даспехамі, усярэдзіне якіх бялеў чалавечы шкілет, сядзеў вялізны крумкач і чорным бліскучым вокам зіркаў то на Міамурмарора, то на Арціна, то на мастака Дроздзіча.

Кот прымерыўся да муру і спрытна палез па «прылепленых» латах. Крумкач хрыпла каркнуў, саскочыў з шалома, залапатаў крыламі і падняўся на зубец замка.

Кот Міамурмарор не стаў звяртаць на яго ўвагі — «птушка кат*у* не перашкода» — падахвоціў ён самога сябе і працягнуў «штурмаваць» замак.

— Вось які чэпкі, — пахваліў кат*а* мастак Дроздзіч.

— А што яму, кат*у*, — трошкі зайздросцячы, сказаў Арцін, — калі абарвецца — усё роўна прызямліцца на лапы.

— Так-так, — адказаў кот, — я заўсёды казаў, што мець лапы зручней за рукі…

Кот Міамурмарор ні разу не сарваўся — ён яшчэ знізу дакладным позіркам выверыў найлепшы шлях, каб «развешаныя» па сцяне ўзоры зброі аказваліся як мага бліжэй адзін да аднаго. Яму досыць было правільна і выверана пераступаць лапы і чапляцца кіпцюрамі. Дый хвост дапамагаў трымаць раўнавагу. На вышыні прыкладна ў палову муру мячы, шчыты, булавы і баявыя сякеры скончыліся, і кот перайшоў на наканечнікі дзід і стрэл — тронкі даўно спарахнелі, а жалезныя наканечнікі засталіся. Яны лягчэй, іх выстрэльвалі ўверх на сцяну, таму і былі «прылеплены» да гэтай самай сцяны нашмат вышэй, чым цяжкае ўзбраенне.

Нарэшце, кот строс з сябе вяроўку і, трымаючыся кіпцюрамі левай лапы за прымагнічаны вышэй за ўсіх наканечнік арбалетнай стралы, правай лапай раскруціў над галавой ласо і спрытна закінуў яго на зубец сцяны.

Крумкач, які сядзеў над Міамурмарорам, незадаволена каркнуў і паляцеў за мур, пэўна, ён чакаў сабе спажывы, спадзяваўся, што кот зваліцца і разаб'ецца. А кот усё не падаў і не падаў.

Па вяроўцы Міамурмарор хутка ўскараскаўся на сцяну і агледзеўся. Затым з ганарлівым выглядам размяўся, выгнуў спіну, выцягнуў наперад пярэднія лапы, пры гэтым растапырыўшы на іх кіпцюры, і салодка пазяхнуў.

Яго сябры зразумелі, што вартавых няма. Хутчэй за ўсё, на замак ніхто даўно не нападаў, таму на сцяне перасталі выстаўляць дазор.

Кот Міамурмарор скінуў вяроўку ўніз. Па ёй узлез спачатку мастак Дроздзіч, а затым — Арцін.

Сябры прагуляліся па сцяне і здзейснілі «кругасветнае» падарожжа вакол вузкай скалы, што, здавалася, калола неба. Зубчастая сцяна, збудаваная з адпаліраваных пліт шэрага жалезняку, стаяла цалкам асобна ад скалы — проста перакрывала праход да яе. А паміж скалой і сцяной быў выкапаны і запоўнены вадой шырокі роў. Ніякага спуску да яго відаць не было.

— Пэўна, для выхаду на гэтую сцяну выкарыстоўвалі вяровачныя лесвіцы і падвясныя масты, — выказаў здагадку мастак Дроздзіч.

Насамрэч, насупраць сцяны, на скале бачыліся прыкметы гаспадарання — можна было заўважыць высечаныя прыступкі, спіральныя сцежкі, рукатворныя пячоркі, якія служылі назіральнымі пунктамі. Цяпер там было бязлюдна.

— Калі ў гэтай скале хтосьці і жыве, то іх павінна быць не вельмі і шмат, — прамовіў кот.

— Часам якасць замяняе колькасць, — задумаўся мастак Дроздзіч. — Можа, жыхарам гэтай скалы не вельмі трэба турбавацца пра ўласную ахову.

— Вось гэта і насцярожвае, — папераджальным тонам прамовіў кот Міамурмарор.

— Добра. Па паветры мы лётаць не ўмеем. Трэба спускацца да рова, — зрабіў выснову Арцін.

Першым, як звычайна, па вяроўцы, зачэпленай адным канцом за зубец на сцяне, спусціўся кот Міамурмарор, потым — Арцін, а пасля і мастак Дроздзіч.

Трое сяброў апынуліся на вузкай пясчанай водмелі, пад самым мурам. На водмелі густа рос чарот, асака, нейкія кусты, тырчалі тонкія дрэўцы, большасць з іх была чэзлай ці наогул сухой.

— Першым я пайду, — разахвоціўся Арцін, — не ўсё ж кат*а*м перад людзьмі выхваляцца. Гэты руды хвост неўзабаве мне сніцца будзе.

— А можа, не будзем спяшацца? — прапанаваў мастак Дроздзіч. — Давайце прыгледзімся.

— І прынюхаемся, і прыслухаемся, — дадаў кот Міамурмарор.

— Дый што там… Вада спакойная. Надвор’е добрае, — Арцін хутка начапіў вадаступы, аддаў мастаку Дроздзічу сваю каменную сякеру, каб не перашкаджаў лішні груз, і адважна пакрочыў па вадзе.

Ён дайшоў да сярэдзіны рова, пастаяў трохі, азірнуўся. Паверхня вады падавалася цалкам гладкай і ціхамірнай. Арцін азірнуўся на мастака Дроздзіча і кат*а* Міамурмарора.

— Гэй, давайце за мной! — крыкнуў ім юнак.

І тут жа блакітная вада пад ім пацямнела. Вялізная рыбіна падплыла да Арціна і, стукнуўшы шырокім ілбом, падкінула яго ўгору, пры гэтым сама ж выскачыла з вады. Рыбіна была цёмна-шэрая з тоўстай луской, магутным хвастом і вялізнай пашчай, з якой, як у маржа, тырчалі доўгія зубы.

У паветры Арцін кульнуўся, паспеў падняць над галавой рукі і даволі ўдала ўвайшоў у ваду. Юнак хутка вынырнуў і што ёсць сілы паплыў да водмелі. Але вада пад ім зноў пацямнела, і ўжо другая рыбіна — такая ж вялізная, як і першая, толькі

з адным абламаным зубам — падкінула яго ў паветра. У тое ж імгненне насустрач гэтай рыбіне з вады выскачыла яшчэ адна. Абедзве рыбы са страшным гукам сшыбануліся сваімі жахлівымі ікламі і разам плюхнуліся ў ваду. Па ўсім рове пайшла вялізная хваля. І менавіта ў яе Арцін і патрапіў. У вадзе яго некалькі разоў перакуліла, ён ледзь не захлынуўся. І зноўку юнака падкінула, гэтым разам вельмі высока, наўпрост на мур замка. Арцін ледзь было не пераляцеў праз яго, але, учапіўшыся кашуляй за зубец, павіс.

Кот Міамурмарор і мастак Дроздзіч былі ашаломлены відовішчам. Усё адбылося неймаверна хутка. І яны нічым не змаглі дапамагчы свайму сябру.

Кашуля Арціна была выткана з трывалай тканіны, таму вытрымала яго вагу, і будучы віцязь па вяроўцы, якую яму перадаў кот, спакойна спусціўся на водмель.

— Рыбкі хацелі павучыць мяне лётаць, — паспрабаваў аджартавацца Арцін.

— А калі б яны мяне так павучылі лётаць, — нарэшце змог вымавіць кот, — я дакладна застаўся б без хваста.

— Вось бачыш, не трэба было за мяне баяцца. У мяне хваста няма, і страціць яго я не мог, — Арцін вінавата ўсміхнуўся. — Ды годзе вам, забылі.

Мастак агледзеў Арціна, упэўніўся, што ўсё ў яго ў парадку, і дакорліва пахітаў галавой.

Роў, перад якім стаялі сябры, цяпер падаваўся ім непераадольнай перашкодай.

— Задача складаная, — працягнуў кот Міамурмарор, пачасаўшы патыліцу, — значыць, цікавая.

— Што тут думаць? — сказаў Арцін кат*у*. — Ты падыходзіш да берага, гучна муркаеш пра мур мармуровы, рыбы слухаюць і засынаюць. А мы перабягаем роў.

— А ты ўпэўнены, што ўсе рыбы падплывуць і стануць мяне слухаць? Я ж буду на беразе, а яны пад вадой.

— Спакойна. Мы цябе за заднія лапы патрымаем. Набярэш паветра напоўніцу і пачнеш муркатаць бурбалкамі пад вадой. Рыбы нават падплыць да цябе не паспеюць — адразу ж паснуць…

— Я — кот, а не марскі коцік, — надзьмуўся Міамурмарор. — І муркатаць пад вадой не ўмею.

— Значыць так, жарты прэч, — сказаў мастак Дроздзіч, — калі рыбы хочуць навучыць нас лётаць, то нам трэба навучыць кагосьці з нас лётаць. І цяпер нам трэба высветліць, каго з нас мы будзем вучыць лётаць і як.

Кот Міамурмарор адразу ж уздыхнуў:

— Цяжка быць героем.

— А цяжкім героем быць яшчэ цяжэй, — зазначыў Арцін.

— Значыць, з кандыдатурай мы вызначыліся, — падагульніў мастак Дроздзіч.

— Гэта лёгка, — сказаў Арцін, — паляціць самы лёгкі. Складаней разабрацца, якім чынам мы будзем вучыць кат*а* лётаць.

— Вось пра гэта варта падумаць, — разважаў мастак Дроздзіч. — Кот у нас адзін, і рызыкаваць ім мы не маем права.

— Вядома, не маем, — пагадзіўся кот Міамурмарор. — Ведаеце што, мы гэты замак штурмавалі нагамі, рукамі, лапамі і ў нейкай ступені хвастом… А цяпер я прапаноўваю штурмаваць яго мазгамі… Нам неабходны мазгавы штурм. Кожны бярэ і прыдумляе свой спосаб лётаць.

— Правільна, — падтрымаў кат*а* Арцін, — лічу да трох, і ідзём на штурм! Раз, два, тры!

Мастак Дроздзіч наморшчыў лоб, кот пачаў хадзіць уздоўж водмелі, а Арцін прысеў на камень у позе мысляра, паставіў локці на каленкі, а рукамі абхапіў галаву.

— Я ведаю! — праз хвіліну паведаміў ён усім. — Мы вяртаемся ў лес, робім вялікі самастрэл з вялікай стралой, вяроўкамі перацягваем яго на сцяну, прывязваем Міамурмарора да стралы і выстрэльваем ім у скалу. Міамурмарор умацоўвае на скале вяроўку, і па ёй мы перабіраемся на процілеглы бераг.

— Нядрэнна прыдумана, — адзначыў мастак Дроздзіч, а затым крытычна пачаў асэнсоўваць пачутае. — Але колькі часу зойме выраб гэтага самастрэла? Ды і потым, неабходна добра прыстрэліць, каб страла дакладна далятала да скалы, а не плюхалася ў ваду на сярэдзіне рова. Хаця тваё вынаходніцтва мы для сябе адзначым…

— А я яго вынаходніцва сабе адзначаць не буду, — катэгарычна заявіў кот Міамурмарор. — Ты хоць падумаў, з якой хуткасцю гэтая страла, да якой я, між іншым, буду прывязаны, ударыцца аб скалу?

— Нічога страшнага, — паспрабаваў супакоіць свайго прыяцеля Арцін. — Калі хуткасць будзе вялікая, ты заўсёды зможаш распушыць хвост і затармазіць.

— І плюхнуцца да рыб, так?

— Добра, а якія ў вас прапановы? — пакрыўдзіўся Арцін.

— У мяне прапанова прасцей, — сказаў мастак Дроздзіч. — Ты, Міамурмарор, бярэш мой парасон, вяроўку і скачаш са сцяны. Вецер цябе адносіць на процілеглы бераг. Там ты чапляеш вяроўку за выступ на скале, і мы перабіраемся. Ты лёгкі, парасон цябе вытрымае. А для таго, каб паветра праходзіла скрозь парасон і парасон не перакульваўся у час палёту, мы яго распорам у цэнтры купала. І галоўнае — нічога не трэба перацягваць, пілаваць і круціць. Проста разагнаўся, скокнуў, праляцеў трохі — і ты ўжо на тым беразе.

— Та-ак, — працягнуў кот Міамурмарор, — а калі я разганюся, скокну і не далячу да таго берага? Роў вунь які шырокі. А калі вецер падзьме?

— Ды які вецер? — здзівіўся мастак Дроздзіч. — Тут жа муры з усіх бакоў.

— Ідэя! — усклікнуў Арцін. — Мы зробім з лапак елак вялікія веверы-мяцёлкі, будзем імі махаць ды падгонім Міамурмарора да берага.

— Не, веерамі-мяцёлкамі тут справе не дапаможаш. Хоць… — кот Міамурмарор звярнуў увагу на тое, як над роўняддзю рова паднімаецца ўверх пара. — А што калі зварыць суп… ну, добра, не суп, калі дым пусціць слупам?

— Ты нам дым у вочы не пускай, — забурчаў Арцін, — калі баішся ляцець, так і кажы. Самастрэл не падабаецца, парасон з веерамі-мяцелкамі таксама не падыходзіць…

— Самастрэл і парасон — гэта ненадзейна. А вось веверы-мяцёлкі цалкам падыдуць.

— Што ты прыдумаў? — скептычна спытаў Арцін. — Начэпіш на лапы веверы-мяцёлкі і будзеш імі, як крыламі, махаць?

— Добра, — сур'ёзна сказаў мастак Дроздзіч, — якая твая прапанова?

— Я заўсёды кажу: назіранне — шлях да спазнання, — узгадаў кот Міамурмарор сваю ўпадабаную прымаўку. — Бачыце, пара над вадою паднімаецца? Дым ад вогнішча таксама паднімаецца. А вунь у кустах ляжыць бурдзюк Алеоллы...

— Ну, ты і зіркасты! — захапіўся мастак Дроздзіч. — А я думаю, што гэта там такое — кажух не кажух?

— А калі гэты дым сабраць разам, — працягнуў Міамурмарор, — напрыклад, у мяшок, то ён зможа падняць у паветра яшчэ каго-небудзь. Гэты бурдзюк, думаю, для маёй вагі якраз падыходзіць. А веерамі-мяцёлкамі вы будзеце рабіць вецер і тым самым падганяць бурдзюк разам са мной да таго берага.

— Не ведаю, калі б можна было лётаць на пары альбо дыме, — Арцін з сумненнем прыўзняў адзін куток вуснаў, — людзі ўжо даўным-даўно сталі б паднімацца да аблокаў і будаваць на іх гарады. Але калі ты ўсё-такі вырашыш ляцець на бурдзюку,

то мы дамо табе адзін канец вяроўкі, а іншы зачэпім тут, высока, за зубец замкавай сцяны. На той бераг мы спакойна зможам з’ехаць па вяроўцы.

— Правільна, — пагадзіўся мастак Дроздзіч, — а цяпер за справу.

Сябры хутка расклалі вогнішча з сухіх галінак і чароту. Чарот моцна дыміў, і было добра відаць, як дым запаўняе скураны бурдзюк. Нарэшце, калі шчыльны гарачы дым напоўніцу расправіў, як выявілася, даволі аб’ёмісты бурдзюк і прымусіў падняцца ўверх, яго перавязалі моцнай аборкай. Кот Міамурмарор лапамі і зубамі ўчапіўся ў яго бакі і, да здзіўлення Арціна, пачаў павольна ўзлятаць.

— Вядома, такога лёгкага кат*а* дым падніме, — вымавіў будучы віцязь. — А вось, цікава, мядзведзя дым змог бы падняць?

— Мядзведзям на бурдзюках лётаць нельга, — сур’ёзна сказаў кот Міамурмарор, — яны тады змогуць прыкінуцца хмарай і беспакарана красці ў лясных пчол мёд.

Ветру не было, паколькі ўсю прастору вакол акружалі муры. Кот вісеў над водмеллю і нікуды не ляцеў.

— Ану, пачалі! — скамандаваў мастак Дроздзіч.

Разам з Арцінам яны прыняліся з усіх сіл дзьмуць ротам у бок процілеглага берага, махаць веерамі-мяцёлкамі, зробленымі з чарота, а кот распушыў свой агніста-руды хвост.

Павольна, але надзейна Міамурмарор паплыў па паветры да іншага берага.

Рыбы пару разкоў высоўваліся з вады, але скакаць за катом не наважваліся. Магчыма, шэры бурдзюк падаваўся ім воблакам, а кот са сваім аранжавым хвастом — сонечным промнем…

Міамурмарор дасягнуў процілеглага берага рова, а сябры без здарэнняў спусціліся да яго на вяроўцы.

## XXII

## О, ШЧАСЛІЎЧЫК!

З пячоры ля падножжа скалы цякла падземная рачулка, цурчала па камянях і спускалася ў роў. З глыбіні пячоры чуўся шум вадаспаду. Сябры пайшлі пад зводы пячоры, пакрочылі ўздоўж вузкага пясчанага бережка, вельмі вільготнага, наскрозь прасякнутага вадой. Так што кот Міамурмарор папрасіўся на плячо да мастака Дроздзіча. Праз дзясятак крокаў сцены скалы звузіліся, не пакінуўшы месца для бережка. Арціну і мастаку Дроздзічу давялося абуваць вадаступы. На гэтым участку рачулкі плынь паскаралася, так што сябрам даводзілася чапляцца за слізкія выступы пячоры, сям-там парослыя лішайнікам.

Вада была проста ледзяная — ісці па ёй прыкра і цяжка. Добра, што хоць вялізных рыб тут не вадзілася.

Неўзабаве паказаўся вадаспад. Вада прарэзала сабе дарогу скрозь шэры камень і падала ўніз у раку. На вадаспадзе стаяў млын. Вада цяжкім ручаём лілася на вялікае кола. Падавалася, што млын працуе ўхаластую, бо ніякага перадатачнага механізма не заўважалася. Толькі ў сярэдзіне гэтага кола круцілася перавязаная аборкамі вялікая шэрая глыба. Навошта гэта было трэба — ні Арцін, ні мастак Дроздзіч, ні кот Міамормарор не ведалі.

— Глядзіце, — паказаў Арцін угару на млын, — бачыце, там пад’ёмнік?

Над самім вадаспадам на аброцы-тросе вісеў вялікі драўляны кошык — у ім маглі змясціцца, як мінімум, чатыры чалавекі.

— Ну, што ж. Я пайшоў, — сказаў кот Міамурмарор.

Ён спрытна ўскараскаўся па стромкай скале, скокнуў з каменнага выступу на пад'ёмнік. Схапіўшыся дзвюма лапамі, пацягнуў драўляны вагір, які стрымліваў шпулю з накручанай на яе лінай, і кошык апусціўся ўніз.

Арцін і мастак Дроздзіч улезлі ў яго, а кот, які застаўся наверсе, іншым вагіром падвёў шпулю да драўлянай зорачкі-шасцярні, якая круцілася разам з колам млына. Шпуля ўчапілася сваімі зубцамі за зубцы шасцярні-зорачкі, закруцілася і пачала накручваць ліну. Кошык падняў Арціна і мастака Дроздзіча наверх.

За млыном пачыналася пячорная галерэя. Сябры разумелі, што шлях прывядзе іх у падзямеллі ўнутры гары, таму яшчэ на водмелі, перад ровам, зрабілі з сухога дрэва і смалы паходні. Цяпер яны падпалілі іх і адправіліся ў цямрэчу.

Галерэя была даволі незвычайная — яе праціналі жалезныя трубы.

— Я чуў, — паведаміў мастак Дроздзіч, — што ў Мераміры з такіх труб зроблены водаправоды для гарадскіх фантанаў.

— Так, і ў горадзе Палац Садоў таксама. Па іх цячэ вада ў фантаны — падтрымаў кот Міамурмарор. Ён прыклаў вуха, прыслухаўся — а ў гэтых нешта шыпіць.

— Загадкавае падзямелле, — прамовіў Арцін. — І нідзе ні душы.

— Я вось неяк больш спадзяюся сустрэць тут не душу, а жывога чалавека, — прагаварыў мастак Дроздзіч. — Будзьце ўважлівыя, хутка могуць з'явіцца і вартаўнікі.

— А можа, іх тутака няма, — з сумненнем у голасе пачаў разважаць кот Міамурмарор. — Калі цябе атачае дрымучы лес, непрыступная сцяна, роў з шаблязубымі рыбамі, а потым яшчэ і стромыя скалы — якія ўжо тут вартаўнікі. Няма чаго дарма людзей мурыжыць. Можа, у іх ёсць справы больш важныя.

Галерэя паднімалася ўверх квадратнай спіраллю, а потым і зусім ператварылася ў заблытаны лабірынт.

— Ідзём ціха. Трымаемся разам. Не губляем адно аднаго з віду, — перайшоў на шэпт мастак Дроздзіч.

Лабірынт складаўся з разгалінаваных калідораў і тупікоў. Чырвонымі стрэлкамі мастак Дроздзіч адзначаў на сценах пройдзены маршрут.

— Тут сёе-тое цікавае, — паведаміў ён сябрам, калі ў чарговы раз маляваў пэндзлікам чырвоную стрэлку, — падаецца, хтосьці пакідаў знакі сажай ад паходні.

— Ну-ну, — падышоў кот і моцна пацягнуў носам паветра. — Сажа свежая… І я адчуваю, што тут была Алеолла.

— Ура! — шэптам выкрыкнулі Арцін і мастак Дроздзіч.

— Ідзіце за мной, — Міамурмарор выцягнуўшы наперад нос, пачаў красціся ўздоўж сценкі.

Арцін і мастак Дроздзіч асцярожна пайшлі ўслед за катом.

— Так, так, — гаварыў сабе пад нос Міамурмарор, — сюды, сюды.

Раптам ён шмыгнуў пад тоўсты дыван, які вісеў на сцяне. Арцін і мастак Дроздзіч зазірнулі ў пакой-пячору.

Кот Міамурмарор на падушачках лап падкраўся да чалавека, які сядзеў за сталом, абнюхаў ягоную спіну.

— Маё царства… маё царства... я вялікі цар Ранэон... мне падпарадкоўваецца ўсё… усё… — мармытаў чалавек. — Раз, два, тры... — ён кінуў на стол косць для гульні.

— Назад, — прашаптаў кот сваім прыяцелям і, адступіўшы да выхаду, пакінуў пячорны пакой.

Міамурмарор упэўнена пайшоў далей па калідоры, Арцін і мастак Дроздзіч пакіравалі за ім.

— Хто гэта? — прашаптаў кату на вуха Арцін.
— Не замінай… потым… Алеолла дзесьці побач… і Бедалдай таксама… Стоп!
Кот Міамурмарор развярнуўся, падышоў да нішы ў сцяне.
— Капаем! Тут!
— Што там? — моцна расхваляваўшыся, спытаў мастак Дроздзіч.
— Алеолла і Бедалдай… — адказаў кот і пачаў капаць пярэднімі лапамі.
— Няўжо яны закапаны?
Арцін з мастаком у трывозе кінуліся дапамагаць кату.
— Вось, — сказаў кот і пацягнуў з пяску шлейку футарала Бедалдая, — Арцін вазьмі. Ідзём далей…
Міамурмарор зноў выставіў наперад свой чуйны нос і трушком пабег па сцюдзёнай падлозе падземнай галерэі. Мастак Дроздзіч імкнуўся паспяваць за ім, а вось Арцін адразу ж адстаў — ён цягнуў на сабе свае рэчы, каменную сякеру і яшчэ футарал з сякерай Бедалдая.
— Мяне пачакайце! — крыкнуў юнак.
— Паспяшайся, я іду па следзе, — кот літаральна бег за сваім носам.
— Вось яны! — нарэшце абвесціў Міамурмарор.
Ён спыніўся побач з уваходам у пячорны пакой, адхінуў дыван, з-пад якога біла святло.
Нягледзячы на сваю ношу, Арцін так ірвануў наперад, што абагнаў мастака Дроздзіча, нырнуў пад дыван і першым апынуўся ў пячорным пакоі.
— Алеолла! — крыкнуў ён.
— Так, — не адрываючы погляд ад стала з касцямі для гульні, адказала будучая яснапанна.
— Не марудзь, — прабурчэў Бедалдай на Алеоллу. — Кідай хутчэй.
— Алеолла, гэта ж я! Арцін! — нічога не разумеючы, выклікнуў будучы віцязь.
— Я ведаю, — Алеолла сабрала косці ў руку.
У пячорны пакой увайшоў кот Міамурмарор, а за ім — мастак Дроздзіч.
— «Шэсць», давай «шэсць», — напружана прашаптала Алеолла і кінула кубік.
Хутка паглядзела на тое, што ёй выпала, і злаславым голасам сказала:
— Вось… «чацвёрка»!
— Усё зразумела, — уздыхнуў кот.
— Што гэта з імі? — устрывожыўся мастак Дроздзіч.
— Алеолла! Ты што? — Арцін падбег да стала і накрыў далонню кубік.
— Гэй, Арцін! — нахмурыўшы бровы, грозна прагаварыў Бедалдай. — Мая чарга кідаць.
Арцін з раздражненнем адкінуў у бок косць. Кубік закруціўся, прыскокнуў, пакаціўся да Бедалдая і спыніўся.
— Што там? — нечакана спытаў Арцін.
— Нічога, — буркнуў у адказ Бедалдай. — «Двойка».
— А што павінна быць? — у азарце спытаў Арцін.
— Спачатку — «шасцёрка», — адначасова пачалі тлумачыць Бедалдай і Алеолла, — потым «пяцёрка», потым «чацвёрка»…
— Зразумела, — загарэліся вочы ў Арціна, — я кідаю пасля Алеоллы.
Юнак зняў з плеч футарал, паклаў яго ля сцяны і, забыўшыся пра ўсё, сеў на тапчан, які стаяў каля стала.
— Арцін, ты што? — абурыўся мастак Дроздзіч.
Але ніхто, акрамя ката Міамурмарора, не жадаў яго чуць.
Бедалдай кінуў косць, Арцін і Алеолла ў запале падхапіліся з тапчана за кубікам.

— Што адбываецца?! — мастак Дроздзіч сам хацеў забраць кубік, але раптам, ні з таго, ні з сяго кот Міамурмарор страшна прашыпеў. Дроздзіч хутка прыбраў руку.

— Паслухайце мяне, — папрасіў кот. — Ні Алеола, ні Бедалдай, ні Арцін нас ужо не будуць слухаць, а нам трэба разабрацца, што гэта за кубікі. Забярыце ў іх косць і кідайце мне.

— Кінуць косць табе?

— Так, а што? Хіба косць можна кідаць толькі сабакам?

— Не… Ну…

— Толькі будзьце ўважлівыя, кідайце сваю косць для гульні так, каб яна зачапіла мой вус… Я хачу прамацаць яе, адчуць, што ў яе ўсярэдзіне, і зразумець, які ў ёй сакрэт.

— А калі і мяне «зацягне»? Мне ж нельга, бо я павінен вандраваць па белым свеце.

— Не зацягне. А калі зацягне, дык я выцягну, — упэўнена прамовіў кот Міамурмарор.

— Добра, — пагадзіўся мастак Дроздзіч. — Паспрабуем.

— Эх… «чацвёрка», — ледзь не застагнаў ад прыкрасці Бедалдай.

Алеолла ўжо хацела сабраць кубікі, як раптам мастак Дроздзіч заявіў:

— Стоп! Стоп! Цяпер мая чарга!

Разам з Міамурмарорам яны падышлі да стала. Мастак Дроздзіч узяў кубік, а кот паклаў галаву на стол, заплюшчыў вочы, заткнуў лапамі вушы, затаіў дыханне, каб засяродзіцца толькі на дотыку.

Як і дамаўляліся, мастак кінуў кубік так, што той кутком зачапіў вус кат*а*. Міамурмарор тузануў губой, чхнуў і адкрыў вочы:

— Усё ясна.

— Што ж мне выпала? — шумна занепакоіўся мастак Дроздзіч і стаў вачамі шукаць кубік.

— Ды якая розніца…

— Не, я хачу ведаць, — заўпарціўся мастак Дроздзіч.

— Мастака таксама «засмактала», — адзначыў для сябе кот Міамурмарор.

— Пасуньцеся, — рэзкім, змененым голасам загадаў Дроздзіч, груба праціснуўшыся паміж Алеоллай і Арцінам, ён сеў на тапчане. — Гуляем далей!

— Нічога, нічога, — прамуркатаў кот Міамурмарор.

Ён узяў футарал з сякерай Бедалдая і засунуў яго далей пад стол. Ніхто з гульцоў, якія сядзелі на тапчане, нават гэтага не заўважылі — настолькі ўсе яны былі захоплены гульнёй.

— Стоп! — раптам люта прарыкаў кот, ён зласліва бліснуў зялёнымі вачамі, цюкнуў кіпцюрамі па стале і нахабным тонам прахрыпеў:

— Цяпер кідаць буду я!

— Добра, добра, — паддаўся такому напору Бедалдай. — Не кіпяціся, браце.

Кот двума лапамі ўзяў адзін кубік і пачаў трэсці. Міамурмарор не заўважыў, як хтосьці ўвайшоў у пакой, але ён гэта пачуў, праўда і вухам не павёў — і працягнуў трэсці кубік.

— Ну-ну, давай кідай, а мы паглядзім, — падахвоціў яго маг Ніціч.

Кот, не абарочваючыся, адказаў:

— Калі ласка, глядзеце, — і кінуў косць.

Кубік каціўся нядоўга — адразу ж спыніўся. Выпала «шэсць». Кот кінуў наступны кубік. Выпала «пяць», затым «чатыры», «тры», «два», «адзін».

— Дзе гэта я? — усклікнула яна, перастаўшы круціцца.

Яна зірнула вакол сябе.

— Я не жадаю заставацца ў такім агідным і змрочным месцы! Хачу да людзей! Я хачу ў Новае Мястэчка! Я хачу замуж!

А чорныя чаплі Чыпша, Чэпша, Чопша і Чыіпша пачалі паступова ператварацца ў белых чапляў. Яны выпрасталі крылы, замахалі імі і з задавальненнем пачалі разглядаць сваё адлюстраванне ў вадзе.

— Якія прыгожыя крылы! — захапілася птушкамі белавалосая дзяўчына.

— Якія выдатныя валасы! — залюбаваліся чаплі прыгожай дзяўчынай. — Давай, наша любая Барбарушка, мы аднясём цябе да людзей, а самі паселімся на чыстых азёрах.

Не разважаючы, Барбарушка ўхапілася за шыю Чопшы і Чыпшы. Яны паднялі яе ў неба, а ўслед за імі паляцелі Чэпша і Чыіпша.

— Калі вы стоміціся, — прапанавалі Чэпша і Чыіпша Чопшы і Чыпшы, — мы можам вас падмяніць.

Велічна ўзмахваючы белымі крыламі, чатыры чаплі паляцелі за лес, несучы з сабою Барбарушку.

## XXVIII

## І АПОШНЯЕ…

— Гэй, Барбаруха! Старэча абурэлая! — крыкнула Паляндра з церама. — Зусім ад рук адбілася! Нясі мне паліўку, жыва! Ужо даўно абедаць пара!

— Алеолла, — прашаптаў мастак Дроздзіч, — надзень балахон прыслужніцы і аднясі талерку паліўкі Паляндры.

Алеолла хутка накінула балахон Бурай Старой.

— Фу, як ад яго цвіллю смярдзіць, — паскардзілася будучая яснапанначка.

Алеолла ўзяла драўляную лыжку, што ляжала каля вогнішча, і, імкнучыся набраць больш гушчы з ягадамі шаўкоўніцы, хуценька начэрпала паліўкі ў глыбокую драўляную місу. Дзяўчына, нязграбна кульгаючы, пайшла да церама з місай у руцэ.

— Ну, што? Ты ідзеш альбо не, старая ведзьма? — Паляндра расчыніла акенца і зірнула ў двор.

Алеоллу жудасна напалохаў маршчыністы жоўта-карычневы твар Жалобнай Каралевы. Але, набраўшыся адвагі, яна паглядзела ёй у вочы, працягнула місу… і… у апошні момант Алеолла адкінула місу — уся паліўка вылілася на брудназялёны мох.

— Ты што сабе дазваляеш, старая разявака? — сурова крыкнула Паляндра.

— Алеолла, ты гэта знарок? — усклікнуў Арцін. — Што ты зрабіла?!

— Я не Бурая Старая! Я Алеолла! — будучая яснапанна скінула з сябе балахон Барбарушкі і адкінула ядвабную накідку.

Паляндра ўбачыла перад сабою дзяўчыну, паглядзела на яе жудасным халодным позіркам.

— Мы прыйшлі вас атруціць! Мы падсыпалі вам у паліўку атрутных ягад, каб вы цяжка захварэлі і больш ужо ніколі не змаглі забіраць людзей! — смела сказала ёй Алеолла.

— Якая мярзотніца! — злавесна прарыпела Паляндра.

— Але я ўжо не хачу гэтага! Я не магу зрабіць так, каб вы цяжка мучыліся і бясконца хварэлі!

— Алеолла, спыніся! — закрычаў Арцін.

— Алеолла, што з табой? — усклікнуў мастак Дроздзіч.

— Гэта падобна да здрады! — глуха прамовіў Бедалдай і рукамі намацаў за спінай футарал з сякерай.

— Алеолла, ты здзіўляеш нават мяне, вучонага кат*а*, — незадаволена прабурчаў Міамурмарор.

Але Алеолла нікога не слухала.

— Я адмаўляюся даваць вам атруту, але за гэта вы павінны добраахвотна выпусціць са сваёй цямніцы ўсіх людзей і жывёл. Пасля гэтага я стану вашай прыёмнай дачкой, буду вас наведваць, дапамагаць вам... І вам будзе не так самотна.

— А я, — Арцін скінуў з сябе накідку, каб Паляндра яго таксама ўбачыла, — буду вам прыёмным сынам. Мы разам з Алеоллай будзем пра вас клапаціцца.

Будучы віцязь не мог пакінуць будучую яснапанну адну.

— Ха-ха-ха! — віскатлівым голасам засмяялася Паляндра. — Я не хачу такога нікчэмнага людскога шчасця! Не трэба мне такіх дачок і сыноў! — яна расставіла рукі, растапырыла пальцы і пачала зазыўна галасіць:

Чаплі чачаплі чапялочкі
Чорнай скрухі чорныя дочкі
Прылятайце
Чап-чапляйце
Хутчэй
Усіх людзей!

— А я не чалавек, я кот, — сказаў Міамурмарор, — ён скінуў сваю ядвабную накідку і падышоў да Алеоллы і Арціна.

Тады Паляндра яшчэ гучней і па-новаму разгаласілася:

Чаплі, чачаплі, чапялочкі!
Чорнай скрухі чорныя дочкі!
Прылятайце,
Чап-чапляйце
На векі вякоў
Людзей і звяроў!

— Усё роўна яны не прыляцяць, — усміхнуўся кот вусата-паласатай пысаю, — вашыя чаплі-чачаплі, ужо не вашыя, і ўжо не чорныя, а самыя што ні на ёсць белыя. Яны паляцелі жыць на чыстыя азёры.

— Ах, вось яно што! — яшчэ гучней заскуголіла Паляндра, твар яе зрабіўся зялёным ад гневу і лютасці, а пасля — цёмна-карычневым, і вочы наліліся крывёй. Яна пачала паўтараць новую замову:

Нетапыры і кажаны
Жаху чорныя сыны
Прачынайцеся
Абуджайцеся
Прылятайце
Забірайце
На векі вякоў
Людзей і звяроў

Паляндра ўстала на карабаты падаконнік, закрыла свой твар рукавамі чорнай сукенкі і ператварылася ў вялікага кажана. І ў вобліку кажана-кажаніцы зляцела

з акна церама ўніз, падхапіла вострымі кіпцюрамі Алеоллу за сукенку і панесла яе над балотам.

З усіх бакоў з цёмнага лесу вылецелі зграі кажаноў і нетапыроў. І не маленькіх, не такіх, якія жывуць у дуплах дрэў альбо пячорах ці падзямеллях, а вялікіх, падобных да крылатых шакалаў, гіен, вялікіх пацукоў. Чорнай хмараю яны накінуліся на Арціна, на мастака Дроздзіча, Бедалдая і кат*а* Міамурмарора. Хітры кот паспеў ізноў накінуць сваю ядвабную накідку — думаў, што схаваецца. На жаль, ні ядвабныя накідкі, ні парасон мастака Дроздзіча не дапамаглі схавацца ад гэтых крылатых стварэнняў. Кажаны і нетапыры нейкім сваім адчуваннем ведалі альбо высочвалі, дзе знаходзяцца кот і людзі.

Адзін кажан наважыўся падхапіць ката Міамурмарора. Другі нацэліўся і паспрабаваў падняць мастака Дроздзіча, але той паспяхова адбіўся, тыцнуў парасонам кажану ў жывот. Са спіны да мастака Дроздзічу падляцеў вялізны нетапыр і падхапіў таго за каўнер. На Арціна напалі адразу трое агромністых кажаноў. Ён, як мог, адбіваўся сваім вострым мячом, але і яго здолелі падхапіць. Даўжэй за ўсіх абараняўся Бедалдай. Сякерай ён разагнаў над сабою некалькі зграй голакрылых пацукоў, але і яго, урэшце, схапіў вострымі кіпцюрамі гіганцкі нетапыр. Крылатыя стварэнні, пераўтварыўшыся ў адну суцэльную чорную хмару-лавіну, панесліся ўздоўж берагоў Імховай Выспы.

Паляндра ў вобліку кажаніцы зрабіла некалькі колаў над Чорным Балотам. Яна моцна трымала ў кіпцюрах Алеоллу, і, пачакаўшы, пакуль да яе падляцяць іншыя нетапыры, якія неслі кат*а* Міамурмарора, мастака Дроздзіча, Арціна і Бедалдая, паімчалася над лесам, паказваючы ўсім шлях.

Жалобная Каралева скіравала туды, дзе ў самым непралазным гушчары стаяў расколаты ўцёс. У яго расколіне, якая ішла глыбока ў зямлю, жылі гэтыя крылатыя стварэнні. Там, сярод іх стотысячнай калоніі, нават самым адважным людзям было б вельмі і вельмі страшна.

Хаця кот Міамурмарор, здавалася, ужо цалкам перастаў супраціўляцца. Яго, учапіўшы кіпцюром за карак, нёс над зямлёй малады нетапыр. Пэўна, кот самлеў ад сораму — як жа так, кат*а* злавіў лятучы пацук. Вочы Міамурмарора былі змружаныя, лапы недарэчна абвіслі, хвост матляўся на ветры, як рудая вяроўка, галава бязвольна боўталася сюды-туды. Арцін здалёк заўважыў кат*а* і са шкадаваннем падумаў, што слаўны Міамурмарор зусім страціў надзею альбо — што яшчэ горш — здаўся.

Але калі б Арцін мог чытаць думкі, то яму не прыйшлося б так моцна турбавацца за кат*а*. Слаўны Міамурмарор адмыслова перастаў тузацца і борсацца, каб самому сабе не перашкаджаць — ён прыслухоўваўся. А каб лепей прыслухацца, вядома, трэба шчыльна заплюшчыць вочы. Чуйныя вушы ката ўлавілі тонкае цыканне, якое выдавалі крылатыя стварэнні. Людзі не могуць пачуць такое цыканне, яно нашмат танчэйшае, чым тыя гукі, якія чалавечае вуха можа ўлавіць, а вось вушы кат*а* — могуць.

Цыкалі ўсе кажаны, нетапыры, лятучыя пацукі, шакалы і гіены. Цыканне ляцела наперад, як тонкае рэха, адлюстроўвалася ад камянёў, дрэў, зямлі, паверхні балота і, адбіўшыся, трапляла назад у вушы крылатых стварэнняў. Менавіта так яны вызначалі сабе шлях і выяўлялі перашкоды на ім.

«Дык вось, як яны мяне пад ядвабнай накідкай заўважылі», — падумаў Міамурмарор. Хітры кот, прыкінуўшыся абамлелым, пачаў ціхутка і тоненька мяўкаць і нарэшце падабраў патрэбны тон. Калісьці ў дзяцінстве, калі Міамурмарор быў зусім маленечкім кацянём, ён менавіта так і пішчаў-мяўкаў. Бывае ж, што каця-

ня рот раскрывае — мяўкае, але яго зусім не чуваць. Толькі маці-котка вухам у яго напрамак вядзе.

Кот Міамурмарор набраў поўныя лёгкія паветра і з ўсёй моцы замяўкаў пісклявым галаском, падобным да цыкання, якое выдавалі кажаны і нетапыры.

Уся карціна балота і лесу ў галовах кажаноў і нетапыроў тут жа застракацела, затрымцела і ператварылся ў суцэльную рабізну, як быццам была намалявана на марской роўнядзі, па якой раптам дзьмухнуў вецер. Кажанам і нетапырам стала немагчыма што-небудзь разабраць. Крылатыя стварэнні, як сляпыя, пачалі кружляць над лесам, над балотам, баючыся дзе-небудзь прызямліцца. Паляндра ў вобліку кажаніцы таксама збілася са шляху. Яна адчайна спрабавала вызначыць дарогу з дапамогай вачэй, але вочы кажана, якія прызвычаіны да цемры, дрэнна бачылі днём.

— Вось слепандзёвыя! — зласліва прабурчэла сабе пад нос Жалобная Каралева.

Яна ледзьве вызначыла, дзе знаходзіцца яе Чорнае Балота, развярнулася і паляцела назад. Арыентуючыся па лопаце яе крылаў, астатнія крылатыя стварэнні рушылі ўслед.

Над Чорным Балотам Паляндра-кажаніца зноў ператварылася ў Жалобную Каралеву, але яна была збіта з тропу і цалкам страціла сілы, так што не змагла даляцець да Імховай Выспы, і разам з Алеоллай звалілася ў балота. Кажаны і нетапыры таксама ад знямогі ўпусцілі сваіх ахвяр. Кот галавой уніз упаў у балотную жыжу і, вядома ж, перастаў тонка мяўкаць. У гэты момант кожны кажан, кожны лятучы шакал, пацук і гіена, нарэшце, убачылі, дзе знаходзяцца, і дзе знаходзіцца той уцёс з расколінай, і стрымгалоў, пакуль у галаве не знік малюнак мясцовасці, панесліся ў свае котлішча.

Услед за катом, у балота пападалі Арцін, мастак Дроздзіч, Бедалдай. Ні іх, ні Алеоллу балота не страшыла. Яны ўсё яшчэ былі ў вадаступах. Дзяўчына схапіла за рукі Жалобную Каралеву, каб тая не патанула. Але ўсё роўна, разам яны сталі паступова апускацца на дно — дваіх вадаступы Алеоллы вытрымаць не маглі.

— Трымайцеся! — крыкнуў мастак Дроздзіч.

Разам з Бедалдаем яны паспелі прыйсці ім на дапамогу і падаць рукі.

Кот Міамурмарор, які так неабдумана зняў свае вадаступы яшчэ перад церамам Паляндры, ужо амаль цалкам схаваўся пад чорнай вадой. Толькі над роўняддзю балота вецер распушваў яго руды хвост. Хвост і выратаваў кат*а* — дакладней, выратаваў яго Арцін, які стаў цягнуць ката за хвост.

— Першы раз у жыцці цягну кат*а* за хвост, — пажартаваў будучы віцязь.

Усе паспяхова выйшлі на Імховую Выспу. Арцін і Бедалдай распалілі агонь — раздзьмулі вуглі і падклалі дроў у вогнішча, дзе нядаўна варылася ў казанку поліўка. Сталі грэцца. Паляндра ўся дрыжала ад злосці і холаду, глядзела на ўсіх лютым позіркам.

— Вызваляй, Паляндра, нашых людзей, — загадала Алеолла.

— І ўсіх палонных звяроў, — дадаў кот Міамурмарор.

Яму было лепш за ўсіх. Пасля перажытага ён атросся, прысеў на беразе і, як гэта робяць усе кат*ы* без выключэння, стаў вылізвацца.

— Я не магу іх вызваліць, — зласліва сказала Паляндра.

— Гэта чаму ж?

— Таму што цямніцы-скляпенні забіты яловымі калодамі. Калоды пусцілі тоўстыя карані. А карані перапляліся і глыбока ў зямлю ўраслі. У мяне не хопіць сілы вырваць гэтыя калоды.

— А як жа вы цені людзей і жывёл у гэтыя цямніцы затачалі? — спытала Алеолла.

— Хе-хе-хе, — зларадна засмяялася Паляндра, — калі чорныя чаплі кружыліся магутным віхраслупам, гэтыя калоды, вядома ж, з зямлі на дастатковую адлегласць выцягваліся. Адной шчылінкі было дастаткова, каб у яе запусціць сотню журботных ценяў… Хе-хе-хе… А цяпер чапляў няма, яны зляцелі!

— Лухта! Я рассяку чорныя карані і раскалю чорныя калоды! — усклікнуў Арцін.

Ён ударыў мячом па тоўстым корані, але меч адляцеў убок — цалкам затупіўся.

— Хе-хе-хе… Гэтыя карані можа рассячы толькі самая смяротная зброя на свеце! У людзей такой яшчэ няма! — пасмейвалася Паляндра.

— Няпраўда! Ёсць! — непагадзіўся Бедалдай. — Хаця мая зброя нікому яшчэ не прынесла смерці, але яна самая смяротная на свеце!

Ён замахнуўся сваёй сякерай, стукнуў па адным корані, па другім — карані лёгка рассякаліся. Раскалоліся і каравыя калоды. Танюткія людскія душы-цені адна за адной пачалі вылятаць і кружыцца ў паветры.

Бедалдай раскалоў другую калоду — разам з людскімі ценямі-душамі закружлялі ў паветры і душы-цені жывёл.

— Хе-хе-хе, — зноў засмяялася Паляндра. — Яны ўсё роўна не ведаюць дарогі дадому, — рыпучым голасам праз смех цешылася Жалобная Каралева. — А толькі родная зямелька зможа зноў ператварыць іх у людзей і звяроў. Хе-хе-хе! Цяпер ім вечна давядзецца кружыць над балотам. Хе-хе-хе.

— Не радуйся раней часу, Паляндра, — сказаў мастак Дроздзіч. — Алеолла, дай мне чароўнага алею.

Алеолла працягнула мастаку свой збаночак. І ў кожны збанок з фарбай Дроздзіч дадаў трохі «шчаслівага» алею, абмакнуў у гэтую сумесь пэндзлі і ўзмахнуў імі:

Фарбам шчасця шлях вядомы —
Дый ляціце ўсе дадому!

Дарожкі яркіх кропель разляцеліся ва ўсе бакі. Душы-цені выбіралі тую, што ўказвала ім кірунак да родных мясцін, і самі пачыналі, як тыя кроплі, зіхцець рознымі колерамі.

Бо якое шчасце — вяртацца на сваю зямлю!

Над балотам нібы распусцілася вялізная кветка, пялёсткамі якой сталі тысячы вясёлак. Ды і само Чорнае Балота пачало пераліваццa яркімі фарбамі. Зрабіўшы апошні круг, кожная душа-цень паляцела па сваёй небеснай сцежцы.

— Глядзіце, глядзіце! — усклікнуў Бедалдай. — Вунь там Джайміна, яна спяшаецца ў Палац Садоў, — ён пазнаў напаўпразрыстае аблічча каханай хана Ісмірая.

— А вунь мае маці і тата! — радасна сказала Алеолла.

— А там мае паляцелі, — прамовіў Арцін.

— Мы хутка вернемся ў наш Скемень! — Алеолла і Арцін памахалі ім услед.

Дзіўна, але чорная сукенка Паляндры таксама зрабілася рознакаляровай. Жалобная Каралева, убачыўшы такую прыгажосць і такі феерычны танец вольных зіхатлівых душ, упершыню ўсміхнулася…

На яе галаве, там, дзе раней была дыядэма з шасці чорных руж, цяпер заззяла залатая карона.

І церам Паляндры, сплецены з крывых чорных каранёў, раптам выраўняўся, распрастаўся і на вачах стаў светлым, утульным, выкладзеным з акуратнага белага бярвення.

— Як хораша! — здзівілася Паляндра, а затым плаўна паказала маляўнічым рукавом на высокія прыгожыя дзверы. — Прашу ўсіх да мяне ў госці.

— З задавальненнем, — прысела ў рэверансе Алеолла. — Мы з Арцінам у вас трошкі пагасцюем, калі вы не супраць, а потым пойдзем да бацькоў, затым жа па свеце падарожнічаць станем. Мы ж яшчэ шмат чаго не ведаем, чаму можна навучыцца ў іншых людзей.

— І жывёл... — дадаў Міамурмарор. — Асабліва ў катоў, — ён пакланіўся Жалобнай Каралеве.

— Але мы будзем вас наведваць, — паабяцаў Арцін і апусціў галаву.

— Так, вядома, вядома, — адказала Паляндра, — Толькі надоўга сярод людзей не затрымлівайцеся — да мяне вяртайцеся, а то мая сукенка зноў зробіцца чорнаю. Ды і церам таксама — я ж цяпер па вас тужыць буду.

— Жалобная Каралева сама будзе тужыць... Гэта нешта новенькае, — здзівіўся мастак Дроздзіч. — Я прыйду да вас і намалюю ваш партрэт з усмуткаю. Але, наогул, мне пара, — уздыхнуў ён, — я і так надоўга адышоў ад сваёй вандроўкі. Столькі людзей у свеце цяпер журыцца, сумуе, журбоціцца, маркоціцца, тужыць, нудзіцца і смуткуе...

— А што ж ты цяпер будзеш рабіць з вусенямі-ўсмуткамі? — спытала Алеолла.

— Як што? Буду шаўкапрадам аддаваць.

— І я пайду з мастаком Дроздзічам, — сказаў маўклівы Бедалдай. — Адпраўлюся з ім у Новае Мястэчка.

— А чаму не дадому? — разам спыталі Алеолла і Арцін.

— Хай у маім ханстве заўсёды будзе мараторый і на кары, і на дрэнныя ўчынкі.

— Так што, табе давядзецца стаць выгнаннікам? — спытала Жалобная Каралева.

— Чаму ж выгнаннікам? Я хачу знайсці Барбарушку — папрашу яе выйсці за мяне замуж. А ў нашым ханстве кат не можа быць жанатым. Вось і знойдзецца падстава наведаць родныя старонкі і самога хана Ісмірая. Хан убачыць, што я жанаты, і дасць мне адстаўку.

— Адстаўку? — спалохалася Алеолла. — Але ж тады ты перастанеш лічыцца катам, і чорны джын Штайнат прыйдзе забраць тваю сякеру.

— Ды мне мая сякера ўжо не патрэбна, — Бедалдай падняў яе, размахнуўся і хацеў выкінуць у балота.

— Пачакай, — усклікнуў кот Міамурмарор, — навошта ж знікаць такой добрай рэчы? А з іншага боку, калі мы сюды прайшлі, то і Штайнат таксама сюды за сякерай прыйсці зможа. Лепш зробім па-іншаму. Ты не будзеш прасіць у хана адстаўку, а проста выйдзеш у адпачынак па сямейных абставінах — на час шлюбнага жыцця.

— Вось вучоная галава! — пахваліў ката мастак Дроздзіч.

— Усім дзякуй за кампанію… Я пайду з Бедалдаем, — сказаў кот Міамурмарор, — дапамагу арганізаваць яму адпачынак і вяселле. А яшчэ мне трэба знайсці Варгіна і аддаць яму залаты кубік — хай наведае няшчаснага Ранэона ў Магнітным Замку.

— Ну, бывайце, сябры! — сказаў Бедалдай, паціснуў руку Арціну, абняў яго, затым, пачырванеўшы, моцна абняў Алеоллу.

— Да пабачэння! — абняўся з імі і мастак Дроздзіч.

— Усяго ўсягошняга! — прамуркаў кот Міамурмарор — Арцін і Алеолла ледзь не задушылі яго ў сваіх абдымках.

— Запрашаем вас да нас у Скемень — наступным летам! — запрасіў Арцін.

— Абавязкова, — адказаў за сябе, а заадно і за кат*а* з Бедалдаем мастак Дроздзіч.

— Шчаслівага шляху! — пажадала ім Паляндра.

Мастак Дроздзіч у вадаступах першым ступіў у балота, за ім пацялёпкалі кат і кот. Бедалдай пасадзіў Міамурмарора на свой футарал з сякерай — хітры кот зноў зрабіў выгляд, што забыў апрануць свае вадаступы.

— Глядзіце! — крыкнуў кот Міамурмарор. — Бераг! Вада сышла!

У Чорнага Балота, якое ўсё яшчэ ззяла рознымі колерамі, з’явіўся добра бачны край.

Дабраўшыся да процілеглага берага, мастак Дроздзіч і кат Бедалдай памахалі сваім сябрам рукамі, а кот Міамурмарор — лапай, а каб здалёк было лепш відаць, яшчэ і агніста-рудым распушаным хвастом. Пастаялі, пастаялі і накіраваліся ў гушчыню лесу.

* * *

Арцін і Алеолла некалькі дзён пагасцілі ў Паляндры, дапамаглі наладзіць ёй новы побыт, а затым адправіліся дадому, да родных.

Алеолле яшчэ трэба было стаць яснапаннай, а Арціну — мужным віцязем.

* * *

І ўсё-такі час ад часу Паляндры робіцца невыносна ад тужлівасці па сваіх прыёмных дзецях. Тады яна ператвараецца ў кажаніцу і лётае над зямлёй. Можна яе спалохацца. Але вы не бойцеся. Проста скажыце ёй:

Паляндра! Прэч ад нас ляці
За горы, пушчы, рэкі, долы,
Між нас не зможаш ты знайсці
Ні Арціна, ні Алеоллы!



*Соф'я ШАХ*

# АД ПАКАЯННЯ ДА ЗАЧАРАВАННЯ

*З вянка санетаў «Прызнанне»*



***Соф'я Шах нарадзілася 29 лістапада 1947 года ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна. Працавала настаўніцай пачатковых класаў, лагапедам у школе-інтэрнаце. Аўтар паэтычных кніг, сярод якіх — вянкі вянкоў санетаў «Адухаўленне», «Прысвячэнне», зборнікі вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ», «Кругаспеў».***

* * *

Вас чуць, быць побач з Вамі сто гадоў
Мой дух, мой лёс, мой кожны крок гатоў,
Я ўся — у стане дзейснага памкнення,
А не пустых пра гэтае размоў.

Каб толькі Боская да нас любоў,
Нягледзячы на ўсе праявы ўмоў,
Не ведала й малога паслаблення
Ані з якіх, ані з якіх бакоў.

Каб толькі даў здароўя вам Гасподзь,
Ці тое захаваў хаця, што ёсць,
Каб немачы не мелі акрыяння.

Каб век ужо ўзаемашанавання
Мы пражылі праз Боскую мілосць,
І каб пасля нам не было расстання.

* * *

Ўсе словы патаемнага прызнання,
Ўсе ўзнёслыя праявы хвалявання, —
О, каб магла я ўрэшце іх сказаць
На самай сутнасці замілавання!

Каб дзеля найсапраўднага адхлання
На вышыні спрыяння-спагадання
Я іх умела ўсё-ткі перадаць
З яскравасцю старання-шчыравання!..

На жаль, і не магу ўсё ж, і не ўмею,
Хоць імі і паўнею, і святлею,
Скрозь чуючы ў сабе іх перазоў.

Але на тое й ёсць маўчанне-схоў, —
Яны, пакуль прад Вамі я нямею,
У ім сябе ўзнаўляюць зноў і зноў.

* * *

У ім сябе ўзнаўляюць зноў і зноў
Ад нейкіх боска зладжаных асноў,
Ад нейкіх адухоўленых глыбіняў
Да гэтых вось няўрымслівых радкоў.

Ужо ім — ні паспешлівых высноў,
Ані грахоў, ні поцемкаў, ні змоў, —
Сабе ўжо самі светлыня й святыня,
Правераныя тысячу разоў.

Такія словы мрояцца ў душы,
Ды паспрабуй выразна іх скажы, —
Не хопіць ні дыхання, ні прызвання.

Яны нароўні зоркавага ззяння
Жывуць, ужо не маючы мяжы,
Ужо не патрабуючы гучання.

* * *

Ужо не патрабуючы гучання,
Ані маўлення, ўрэшце, ні казання, —
Усё-такі з-за Вас яны, для Вас
Даўно не ведаюць утаймавання.

Ад нараджэння і да выспявання,
Ад пакаяння да зачаравання
Між намі адбываецца ўвесь час
Іх трапятанне, мроенне, лунанне.

І воля вольная таемным ім.
Іх выспелы і невычэрпны ўздым
Прастору вокал нас усю займае.

І горнецца да Вас, і атуляе...
Дык што агучванне ўжо словам тым?!
Яно, у рэшце рэшт, ім замінае.

* * *

Яно, у рэшце рэшт, ім замінае,
Яно іх нібы звужвае, сціскае,
І значыць (ну, здаецца, ўсё-ткі так!)
Бы ў змушаныя рамкі заключае.

І значыць, сэнсу іх перашкаджае,
І значыць, нібы нават дакарае,
Што гаварэнне гэтае няўзнак
Самую сутнасць бы перамагае.

Гучанне-вымаўленне — вось бяда! —
У ім тых слоў знікае паўната,
Іх нутраная святасць замірае.

Як бы ў яго зусім і не трапляе
Іх яснасці сапраўднай пекната.
Яно ім нават не адпавядае.

* * *

Але на твары адаб'ецца блік
І следам непазбежна ў той жа міг
Яго патроіць ззянне нутраное,
Яго падхопіць ледзь прыкметны ўздых.

І сарамлівасці імгненны ўспых,
І неймавернай лучнасці ўскалых,
І зноў абагаўленне патайное
У рысах адлюструецца маіх.

Хай не скажу, які мне з Вамі плён,
Затое полымна і звонка ён
Сам за сябе і высі разгукае.

Хай не шапну, як з Вашай размаўляе
Мая душа і ў спеўны лад, і ў тон,
Але пагляд удзячна праспявае.

* * *

Але пагляд удзячна праспявае,
Якую ўсцешнасць рэдкасную мае,

Калі між мітусні і цішыні
У поле зроку Вашага трапляе.

Ні жвавінкі-шчырышкі не схавае, —
Як бы ён Вас нанова адкрывае
І пад уплывам Вашай дабрыні
Мелодыю выпешчвае-ствараe.

А ў ёй і летуцення ўсе адценні,
А ў ёй і пакланення ўсе ўзрушэнні,
А ў ёй ні разу дух мой не панік.

А ў ёй даўно санетны свет узнік,
А ў ёй заўжды здзіўленне-захапленне,
Які Вы майго лёсу чараўнік!

* * *

Не аддзялю кахання ад дыхання,
Чакання не адрозню ад жадання
Вас чуць, быць побач з Вамі сто гадоў,
І каб пасля нам не было расстання.

Прыслухайцеся нават да маўчання:
Усе словы патаемнага прызнання
У ім сябе ўзнаўляюць зноў і зноў,
Ужо не патрабуючы гучання.

Яно, у рэшце рэшт, ім замінае,
Яно ім нават не адпавядае, —
Што кажа дух — не перадасць язык.

Але на твары адаб'ецца блік,
Але пагляд удзячна праспявае,
Які Вы майго лёсу чараўнік!

* * *

Не аддзялю кахання ад дыхання —
Адно ўжо аднаму яны дазвання —
Умова для натхнёнага жыцця,
Для спеўнага зямнога існавання.

Для вышняга яго асэнсавання,
Для невычэрпнага яго ўспрымання
А хоць гадоў дзясяткі спагадзя,
Што шчэ снуюцца ў часавым тумане.

Кахаць і дыхаць, дыхаць і кахаць —
Іх сутнасці ўжо не размежаваць,
Бо сіла непадзельная ў зліянні.

І гэтак жа не трэба намаганняў,
Дарэмна іх шукаць і прыкладаць:
Чакання не адрозню ад жадання.



Уладзімір СКАМЕЙКА

# КРАІНА ДЗЯЦІНСТВА

*Захад чырванню хмар ружавеў,*
*Салавей пераліўна насвістваў…*
*Свежы вецер прынёс мне напеў*
*З той далёкай краіны Дзяцінства.*

*Страпянулася сэрца, і ўраз*
*Успаміны мяне агарнулі:*
*Родны дом і знаёмы мой клас,*
*Вобраз мілай, пяшчотнай матулі…*

*Помніш мары дзіцячых гадоў,*
*Падарожжы па казачных мроях?*
*Вецер з дрэвамі гутарку вёў…*
*Свет вялікі змяшчаўся ў далонях.*

*Помніш подых далёкай вясны,*
*Адгалосак былога кахання?*
*І дзяўчыну, што поўніла сны,*
*Для якой прызначаў ты спатканне…*

*Прамінула — заві не заві,*
*Далягляд ахінаецца дымкай.*
*Памяць той бесклапотнай пары*
*Пазірае на нас з фотаздымкаў.*

*І куды ні закідвае лёс,*
*Як жыццёвая стужка не ўецца —*
*Успамін пра куточак, дзе рос,*
*Салаўём адгукаецца ў сэрцы.*

Кацярына ІВАНІНА

# МОЙ ЛЮБІМЫ ПСІХОЛАГ



***Кацярына Іваніна нарадзілася 10 лістапада 1991 года ў г. п. Варапаева Пастаўскага раёна. Вучыцца на факультэце беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. За выдатную вучобу і актыўную навуковую, грамадскую і культурную дзейнасць атрымала стыпендыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Друкавалася ў рэспубліканскіх часопісах і газетах.***

*Прысвячаю З. В. К.*

## I частка

### ДЗЁННІКАВЫЯ ЗАПІСЫ КРЫСЦІНЫ Т. І ВЫКЛАДЧЫКА ЮЛІІ М.

**6.09.2011 г. (Дзённік Крысціны Т. — К. Т.)**

...Сёння быў звычайны дзень. Ва ўніверы — самыя звычайныя пары: рыторыка, гісторыя мовы. З новых прадметаў была толькі псіхалогія. Выкладчыца, канешне, здзівіла. Я чамусьці чакала ўбачыць жанчыну ва ўзросце, такую старамодную, апантаную псіхалогіяй. Ці наадварот, не апантаную, а пафігістычную да прадмета. Але я памылілася.

Калі *яна* ўвайшла ў аўдыторыю, я ледзь не абамлела. Такая цыпа! Модна апранутая, дагледжаная, маладая. На знешнасць таксама нічога, не страшненькая. У мяне ў галаве адразу думка пранеслася: «Ого, якая!..» Натуральна, усур’ёз я яе не ўспрыняла.

А наогул яна нейкая напышлівая. Адразу відаць, што паміж намі, студэнтамі, і ёй, выкладчыцай, стаіць непрабіўная сцяна. І гэту сцяну яна «будуе» сама.

Псіхалогія — сумны прадмет. Я сярод пары нават заснула, хоць і сяджу за другой партай. Спадзяюся, што псіхалагіца не пакрыўдзілася.

Не ведаю, як усё гэта можна вывучыць, а вывучыць прыйдзецца, бо ўзімку экзамен!

**6.09.2011 г. (Дзённік Юлі М. — Ю. М.)**

...Як жа я стамілася за сённяшні дзень. Відаць, за лета адвыкла ад працы. Гэты вар’яцкі рытм жыцця яшчэ доўга будзе стамляць мяне. Імкнуся неяк абстрагавацца ад рэальнасці і не думаць пра стомленасць.

...Сёння правяла першы занятак па агульнай псіхалогіі ў беларускіх філолагаў. Публіка вельмі разнастайная, слухала няўважліва (па большай частцы мяне разглядвалі, асабліва хлопцы, якіх там усяго пяцёра). Мабыць, пакуль яшчэ ім прадмет не вельмі цікавы. Як заўсёды,

увайшла з каменным выразам твару, старалася паводзіць сябе так, каб не даваць падстаў для фамільярнасці ў адносінах да сябе. На апошніх партах усе займаліся сваімі справамі, а адна студэнтка, за другой партай сярэдняга рада, наогул спала. Я, вядома, ёй заўвагу рабіць не стала, усялякае ў жыцці бывае. Але няўжо я так сумна выкладаю прадмет? Ну, нічога, мы яшчэ пазмагаемся.

**9.09.2011 г. (К. Т.)**

...Аказваецца, псіхалогія не такая ўжо і сумная навука. Я сёння слухала і нават зацікавілася тым, што выкладчыца казала. Яна распавядала пра псіхааналіз Фрэйда, прычым рабіла гэта з такім захапленнем і натхненнем, быццам асабіста ведала гэтага псіхолага. Хоць, калі шчыра, я заўсёды лічыла Фрэйда заклапочаным псіхам. Юлія Валер’еўна ўсё ж такі змяніла маё ўяўленне пра яго. Гэтыя Эрас і Танатас раней былі незразумелымі слоўцамі для мяне, цяпер жа, калі яна патлумачыла, што гэта такое, іх сэнс не здаецца мне больш размытым.

А наогул яна, псіхалагіца, нейкая загадкавая. Спачатку здалася мне чалавекам з завышанай самаацэнкай. Ды і ў іншых склалася такое ж меркаванне. Але цяпер разумею, што, магчыма, першае ўражанне было зманлівым. Напрыклад, яна з такой любоўю і радасцю казала пра дзяцей, хоць, наколькі я зразумела, ні дзяцей, ні мужа ў яе няма. Яе непранікальны твар ўсяго на некалькі імгненняў стаў мілым і лагодным. Не, наогул выраз яе твару звычайна зусім не злосны. Але я адчула, што Снежная каралева злёгку падтаяла. Гэта можа сведчыць пра тое, што непрабіўнасць і непранікальнасць псіхалагіцы — усяго толькі браня, якая абараняе яе ад знешняга свету. А ўнутры яна, можа быць, зусім іншая. Хоць не варта рабіць паспешлівых высноў.

**9.09.2011 г. (Ю. М.)**

...Я сёння, калі дадому ехала, задумалася над адным пытаннем: калі б я па-страшнаму закахалася ў якога-небудзь выкладчыка, будзь я, скажам, цяпер дваццацігадовай студэнткай, то што б стала рабіць? Як бы сябе паводзіла? Асабліва ў тым выпадку, калі б выкладчык таксама быў маладзенькім, дваццаціпяцігадовым і яшчэ да таго ж нежанатым. Спрабавала змадэляваць свае паводзіны, але неяк не вельмі добра атрымалася. Дзякуй богу, што ніколі не трапляла ў такую сітуацыю. Бо з кімсьці ж такое здараецца.

...Гэты курс беларускага факультэта, як аказалася, не такі ўжо і дрэнны. Я закранула сёння псіхааналіз Фрэйда на занятку, і ім, як мне падалося, было цікава слухаць. Відаць, некаторыя з іх (а можа, нават усе) да гэтага моманту лічылі Фрэйда заклапочаным псіхам і мелі невыразнае ўяўленне пра яго тэорыю. І, калі я ім распавяла пра яе ў агульных рысах, на тварах многіх адбілася здзіўленне. Такая рэакцыя ў маёй практыцы назіраецца не ўпершыню. Дарэчы, дзяўчынка за другой партай, якая ў мінулы раз заснула, слухала мяне вельмі ўважліва, нібы ловячы кожнае слова. Мне здаецца, яна больш за астатніх глядзіць на мяне, прычым з нейкай крытычнай усмешкай, быццам з дапамогай погляду імкнецца зразумець маю сутнасць, пракрасціся ў душу і быццам ужо нешта ведае пра мяне. Ды і погляд яе, мякка кажучы, цяжкаваты, таму стараюся не глядзець на яе.

**20.09.2011 г. (К. Т.)**

...Я ўважліва разглядвала нашу псіхалагіцу ўсю пару, часам нават не чула, пра што яна гаворыць. І, па праўдзе кажучы, нічога асаблівага ў яе знешнасці не знайшла. Звычайная жанчына. Толькі вочы незвычайныя. Ці то блакітныя, ці то шэрыя. Усё ж такі хутчэй шэрыя. І глядзіць яна заўсёды пранізліва, як рэнтген. Страшны

погляд! Хтосьці ззаду загаманіў, дык яна, нічога не кажучы пры гэтым, проста паглядзела ў той бок — і ў аўдыторыі запанавала поўная цішыня.

А наогул яна бялявенькая. Валасы кучаравяцца, як у мяне. І яна іх часцей за ўсё распускае. Твар яе пастаянна мае каменны выраз. Вусны тонкія, а калі яна ўсміхаецца, то проста падціскае ніжнюю губу. Толькі тады можна ўбачыць у яе рысах лагоднасць. На шчоках звычайна румянец. Жэстыкулюе яна так, як, напэўна, рабіла гэта якая-небудзь дваранка стагоддзя XVIII або XIX. Так, у кіно яна добра б глядзелася ў ролі арыстакраткі. Відаць, што даглядае за сабой: заўсёды нафарбаваная, апранутая з іголачкі, акуратная і ахайная. Напэўна, пастаянна сядзіць на дыеце, таму што фігура ў яе стройная.

Мне чамусьці здаецца, што яна добрая, вось толькі не вельмі імкнецца паказаць гэта.

**23.09.2011 г. (К. Т.)**

...Я пачынаю заўважаць, што Юлія Валер’еўна мне падабаецца ўсё больш і больш. Яна распавядае вельмі цікавыя гісторыі. І хоць некаторыя рэчы па самой псіхалогіі я не разумею, слухаць гэтую выкладчыцу займальна.

Па-мойму, я хутка ёй захварэю.

**27.09.2011 г. (К. Т.)**

...Я шмат чую, як абмяркоўваюць нашу псіхалагіцу аднакурснікі. Адным яна катэгарычна не падабаецца (кажуць, быццам мы з ёй гора яшчэ куснём, бо экзамен жа), іншыя наогул на яе асаблівай увагі не звяртаюць, а трэція абмяркоўваюць яе знешнасць, манеру апранацца, гаварыць. Увогуле, яна выклікала агульную цікавасць.

Ці адзінокая яна?

**30.09.2011 г. (К. Т.)**

...Шкада, што я раней не цікавілася псіхалогіяй. Хоць гэта і складаная навука, але менавіта з яе дапамогай можна дэталёва пазнаваць іншых і сябе. Сёння Юлія Валер’еўна была ў такім добрым настроі. Распавядала нам пра памяць, яе функцыі. Як заўсёды, цікава. Я слухала не адрываючыся. Мне часам здаецца, што я занадта прама і адкрыта на яе гляджу. Але не магу адвесці позірк ад гэтага чалавека.

Хутка практычныя. Баюся. Як яна будзе праводзіць іх? Некаторым здаецца, што будзе здзекавацца з нас, а я думаю, што яна добрая. А строгай здаецца толькі для таго, каб мы на шыю ёй не садзіліся. Потым стане добранькай, і такім чынам захопіць прыхільнасць абедзвюх груп. Гульня на кантрасце. Выдатная тактыка.

**30.09.2011 г. (Ю. М.)**

...Гэтая дзяўчына за другой партай нейкая дзіўная. Мала таго, што ўвесь час свідруе мяне позіркам, дык яшчэ спрабуе ўсялякім чынам прыцягнуць да сябе ўвагу. Я стараюся наогул на яе не глядзець.

А яшчэ на гэтым курсе ёсць хлопец, які таксама пастаянна спрабуе вылучыцца перада мной. Знешне ён вельмі мілы. Але адразу відаць, што чалавек гэты несур’ёзны і ненадзейны.

**4.10.2011 г. (К. Т.)**

...Сёння на псіхалогіі гаварылі пра стрэсы, дэпрэсіі, дэпрывацыі і таму падобнае. Юлія Валер’еўна праінфармавала нас, як змагацца са стрэсам. Праўда, палова патрэбнай інфармацыі прайшла міма мяне. Як ні старалася слухаць, але думкі сыхо-

дзілі кудысьці ўбок. Я думала пра тое, ці змагу ў перспектыве быць сяброўкай такой жанчыны, як наша псіхалагіца. Уявіла сабе, як залятаю да яе на кафедру:

— Юлька, прывітанне! Я так сумавала па табе! Як у цябе справы?

І гэтак далей. Цікава было памарыць. Шкада, што гэтым марам не наканавана спраўдзіцца.

Мне здаецца, што я ўжо... Не, баюся напісаць гэтае слова.

Вельмі балюча, калі хтосьці побач кажа пра яе нешта непрыемнае.

Увесь час чакаю пар па псіхалогіі і не магу не думаць пра яе. Ва ўсіх прадметах мне бачыцца напамін пра Юлію. Можа, я ўжо вар'яцею?

**7.10.2011 г. (К. Т.)**

...Толькі што прачытала п'есу Ібсена «Лялечны дом». Запомнілася адтуль адна фраза, я нават выпісала яе: «Некаторых людзей любіш больш за ўсё на свеце, а з іншымі неяк больш за ўсё хочацца быць». Яна вельмі дакладная.

...Аказваецца, Юліі Валер'еўне 32 гады. Выглядае яна значна маладзейшай. Я б дала ёй не больш 28. Напэўна, усе сілы аддае на тое, каб так выглядаць. Затое на яе сапраўды прыемна глядзець. Вось бывае ж, што чалавек і разумны, і прыгожы. Толькі вельмі рэдка так здараецца.

**11.10.2011 г. (К. Т.)**

...Цяпер я ведаю крыху больш пра зносіны і міжасобасныя адносіны. Сёння была вельмі цікавая лекцыя. Я нават усю пару яе слухала. Аказваецца, калі начальнік імкнецца мець з падначаленым нефармальныя адносіны, гэта не ёсць добра. У будучыні бос можа згуляць злы жарт з падначаленым. Запомню, што не варта заводзіць блізкіх адносін з тым, хто вышэй па статусе. Цікава, а выкладчыкаў можна лічыць сваім начальствам?

Можа, псіхалагіца намякала на тое, што да яе не варта падыходзіць з асабістымі пытаннямі? Можа, яна на мяне намякала, бо я так аддана на яе гляджу (хоць яна гэтага і не заўважае), што, здаецца, мой погляд бачыць увесь курс. Мне падаецца, што кожны мой рух расцэньваецца ўсімі як сведчанне пакланення ёй. Усімі, акрамя яе.

**11.10.2011 г. (Ю. М.)**

...Часам здаецца, што мяне ніхто не чуе, што я кажу на парах усё выключна самой сабе. Але раптам выпадкова мой позірк чапляецца за вельмі адданы і цвёрды погляд дзяўчыны з другой парты. Я нават імя яе не ведаю, а яна глядзіць на мяне так, быццам мы знаёмыя з ёй усё жыццё, глядзіць не адрываючыся і злуецца на аднагрупнікаў, калі тыя яе адцягваюць ад маіх слоў.

Так добра, што хоць хтосьці чуе мяне, убірае ў сябе прамоўленае.

**14.10.2011 г. (К. Т.)**

...Божа, калі гэта адбылося? Чаму я не памятаю таго моманту, калі ўсе мае думкі пачала займаць гэтая бяздушная, нячулая істота? Часам мне пачынае здавацца, што я яе ненавіджу. Ненавіджу толькі за тое, што яе могуць жэрці прагнымі вачыма ўсе навакольныя, усе, каму пажадаецца. Як гэта страшна! Напэўна, Пан Бог даў людзям гэтую пакуту, пакуту неўзаемных пачуццяў, як адплату за грахі мінулага. Бо і каханне, і нянавісць раз'ядаюць нас знутры. І ўсё роўна становіцца, якое пачуццё валодае чалавекам, таму што ў любым выпадку гэта — боль. Не, я не захварэла нашай псіхалагіцай, бо я не дванаццацігадовая дзяўчынка. Я не люблю яе і не ненавіджу, проста мяне да яе цягне, быццам ведала яе раней. Быццам у мяне ўжо было іншае жыццё,

і мы з ёй тады сябравалі або былі сёстрамі. Спадзяюся, яна хутка вылеціць з маёй галавы, таму што гэты чалавек прыносіць мне боль.

**14.10.2011 г. (Ю. М.)**

...Як дзіўна! Са мной нешта адбываецца, але я не магу зразумець, што ж гэта. Я заходжу на курс беларусаў, і нібы нешта пачынае біцца ў грудзях. Самае галоўнае, што я не магу зразумець, адкуль гэта бярэцца і што гэта за пачуццё.

**18.10.2011 г. (К. Т.)**

...Не хачу думаць, не хачу пісаць пра яе. Хачу забыць яе.

**21.10.2011 г. (К. Т.)**

...Як бы я ні старалася, яна не выходзіць з маёй галавы. Як магу, хаваю ўсё, што адчуваю. Часам жартую з яе ў сваёй кампаніі, а ў сярэдзіне ўсё так і кіпіць!

Навошта быў гэты дзень, шостага верасня, калі я ўпершыню яе ўбачыла?..

І ўсё ж лекцый па псіхалогіі яшчэ шмат, я буду проста любавацца гэтай дасканаласцю, гэтым шэдэўрам прыроды.

**25.10.2011 г. (К. Т.)**

Кашмар! Лекцыі па псіхалогіі скончыліся. Я не думала, што ўсё пройдзе так хутка. Але, на шчасце, яшчэ будуць семінары. Тады ёсць шанец пазнаць яе бліжэй.

Трымайся, Юлія Валер’еўна. Я ў гэтай вайне здолею перамагчы. І калі ты паранейшаму не звернеш на мяне ўвагу, калі не зробіш ласку спусціцца з нябёсаў на зямлю, я прыму жорсткія меры!

**25.10.2011 г. (Ю. М.)**

...Сёння ў беларусаў скончыліся лекцыі. У чацвер у адной з груп пачнуцца практычныя заняткі. Цікава будзе на іх паглядзець, пацвердзіць сваё меркаванне пра іх у цэлым або пра кагосьці ў прыватнасці.

Асабліва хачу зразумець, што за чалавек тая дзіўная дзяўчына за другой партай.

**26.10.2011 г. (К. Т.)**

...Я хаджу, як шалёная. Увесь час думаю пра яе, нібы яна мяне прываражыла. Што яна цяпер робіць? Чым займаецца? Можа, ляжыць у цёпленькім ложку свайго хахаля? А можа, сядзіць адна дома і ў адзіноце п’е віно? Можа, няма ў яе ніякага хахаля?

У адным я ўпэўнена дакладна: яна не думае пра мяне. Бо нават прозвішча майго не ведае. Напэўна. Для яе я безаблічная дзяўчына з другой парты. Магчыма, гэтая мая ўпэўненасць — усяго толькі тупая перакананасць чалавека з нізкай самаацэнкай у тым, што ты не можаш спадабацца ці запомніцца іншаму. І ўсё ж я імкнуся рэальна глядзець на рэчы.

**26.10.2011 г. (Ю. М.)**

...Цікава, пра што цяпер можа думаць тая дзяўчына з другой парты? Ці думае яна пра мяне? І чаму яна заўсёды так на мяне глядзіць? Можа, яна за ўсімі выкладчыкамі так назірае? Ці жыве яна ў інтэрнаце? Ці ў кватэры з бацькамі? Ці ёсць у яе хлопец?

Я задаю сабе гэтыя пытанні і разумею, што амаль заўсёды занадта мала ведаю пра сваіх студэнтаў. Але чаму я павінна пра іх нешта ведаць? Нашы шляхі разыходзяцца.

Напэўна, усё ж гэтая дзяўчына пра мяне не думае.

**27.10.2011 г. (К. Т.)**

...Божа, як гэта страшна! Я нават не магла выказаць здагадку, што Юлія Валер'еўна такі звер на практычных занятках. Я сёння адказвала пытанне пра псіхіку і яе структуру. Добра, што цвёрда яго вывучыла, таму што падгледзець нешта з канспекта нерэальна. Яна пазірае прама ў вочы, як на допыце. Погляду не адводзіць, і, пакуль адказваеш ёй, такі страх у душы, быццам рэальна сядзіш перад следчым: чырванееш, бялееш, сэрца шалёна калоціцца. Жах, а не пара!

Але, у прынцыпе, у астатнім яна такая ж, як і на лекцыях.

**27.10.2011 г. (Ю. М.)**

...У цэлым, беларусы малайцы. Пытанні размеркавалі, адказалі. Праўда, пакуль яшчэ мяне злёгку пабойваюцца, але гэта нават да лепшага.

Гэтую дзіўную дзяўчыну за другой партай клічуць Крысціна. Яна сёння адказвала. Было бачна хваляванне, але трымалася лепш за тых, хто адказваў пасля яе. Мой пільны погляд вытрымала стойка. Можа, таму што яна сама не менш пільна глядзіць.

Па знешнасці яна — простая дзяўчына, хоць і на трэцім курсе ўжо. У яе задуменна-трывожныя зялёныя вочы, бледная скура з няяркім румянцам. Русыя валасы заўсёды сабраны ў нізкі хвост. А кідкія ўпрыгожанні і вопратку яна, напэўна, ігнаруе, таму што апранута заўсёды вельмі проста. Фарбуецца ў рэдкіх выпадках, але макіяж яе поўнасцю змяняе. Магчыма, гэтую дзяўчыну значна больш цікавіць уласны ўнутраны свет, чым сумная штодзённасць. Але ўсё ж мне здаецца, што за гэтай летуценнасцю хаваецца рашучасць і моцная воля, а таксама настойлівасць у дасягненні мэт. Крысціна нагадвае мне котку, за вонкавым спакоем якой хаваецца гатоўнасць у кожную секунду схапіць здабычу. Я думаю, ёй усё роўна, якое ўражанне яна робіць на навакольных.

Хачу за ёй яшчэ паназіраць.

**30.10.2011 г. (Неадпраўлены ліст Крысціны Т., адрасаваны Юліі М.)**

Дарагая майму сэрцу Ю. В.!

Добра разумею, што адымаю Ваш каштоўны час, але нічога не магу з сабой зрабіць. Часам мне здаецца, што яшчэ трохі — і мяне зваліць з ног сардэчны прыступ. Ці мае ногі самі ступяць з акна шостага паверха. Я не магу стрымліваць больш сваіх пачуццяў, таму прыйдзецца мне Вам іх выказаць, інакш здарыцца непапраўная бяда.

Пасля нядаўняга расчаравання ў адным чалавеку мне здалося, што сэрца маё стала каменным, і я ніколі не змагу ні кахаць, ні зведаць шчырых палымяных пачуццяў да каго-небудзь. Аднак я памылілася, бо амаль два месяцы таму ў маім жыцці з'явіўся, нібы нечаканы аазіс у пустыні, чалавек, які ўскалыхнуў маю сутнасць і патрывожыў мой адносны спакой. Я ўзрадавалася спачатку, але потым мне стала ясна: боль неўзаемных пачуццяў — гэта пякельныя пакуты на зямлі. Так, лепш ужо быць бяздушным цынікам, чым палкім і гарачым чалавекам.

Напэўна, Вы здагадаліся, што чалавек, які абудзіў мяне ад спячкі — гэта Вы. І будзь я праклятая за тое, што асмелілася сказаць гэтыя словы. Але цяпер усё ж мне стала так лёгка.

Вы можаце сказаць, што гэта ўсяго толькі часовае захапленне. Але як можна наогул адрозніць сапраўднае каханне ад жарсці? Кажуць, што ад кахання да нянавісці — адзін крок. Калі пасля расстання з чалавекам у тваім сэрцы застаецца нянавісць да яго, значыць, гэтага чалавека ты любіў. Ну, а калі застаешся да яго абыякавым, то былое пачуццё да яго — усяго толькі жарсць. Дык няўжо ж, каб зразумець гэта, мне трэба навекі пакінуць Вас? Ці не лепш не думаць пра гэтыя дробязі і проста жыць?

Давайце сябраваць, адкінем усе ўмоўнасці і ўпадзём у бездань займальнага і цікавага жыцця!

Чакаю Вашага адказу з нецярпеннем!

**3.11.2011 г. (К. Т.)**

...Ніколі не думала, што я буду так пакутаваць з-за дзяўчыны. Мне балюча, калі я яе бачу, і балюча, калі не маю магчымасці на яе глядзець. Што ж гэта такое?

Вось часам іду па калідоры міма яе лабаранцкай і думаю: «Хоць бы яна ўсяго на імгненне вызірнула адтуль!.. Толькі б імгненне паглядзець на яе — і ўсё. Больш мне нічога не трэба». А потым псіхалагіца сапраўды выходзіць з лабаранцкай, і я хачу праваліцца скрозь зямлю, каб яна мяне не заўважыла, нават бачыць яе ўжо не хочацца. Яе прысутнасць прымушае гарэць агнём кожную клетку майго арганізма, кожны нерв, кожную цягліцу. Можа, я на самай справе вар'яцею? Чаму я так хачу сябраваць з гэтым чалавекам? Бо яна такая ж, як і ўсе. І ўсе ж з навакольных менавіта яна падабаецца мне больш за ўсіх.

Праўда, у гэтай жанчыны ёсць адзін вялікі недахоп: яна існуе ўсяго ў адным экзэмпляры, таму на ўсіх яе ў любым выпадку не хопіць. А на маю долю, баюся, не застанецца анічога.

А яшчэ мяне чапляе, што Сяргей О. пастаянна на парах па псіхалогіі спрабуе звярнуць на сябе ўвагу Юліі. І яна нібыта таксама да яго адчувае сімпатыю. Я яго за гэта цяпер не выношу, амаль з ім не размаўляю. І калі яго бачу — унутры нібы хваля злосці паўстае. Так і хочацца яму нешта нядобрае сказаць. Але я маўчу і глушу ў сабе гэтую злосць.

Божа, дай мне сілы ўсё гэта перажыць! Зрабі так, каб яна сама да мяне падышла з якім-небудзь пытаннем, і ў мяне была б нагода даведацца яе лепш.

Хутка кантрольная. Можа, заваліць яе і пайсці да Юліі асабіста перапісаць?.. І потым...

Мне часам сапраўды хочацца заваліцца да яе ў лабаранцкую і заявіць, што са мной праз яе робіцца нешта неймавернае. Але я так ніколі не зраблю.

**3.11.2011 г. (Ю. М.)**

...Беларусы мне падабаюцца ўсё больш і больш. Яны ўмеюць разважаць і не баяцца выказваць сваё меркаванне. Цікавая група, працаваць з імі прыемна.

...Крысціна (я за ёй амаль усю пару назірала) нейкая каламутная сёння была. Ці то ў яе нешта здарылася, ці то проста была ў дрэнным настроі, але на пары яна быццам не прысутнічала. Не, сама яна на занятках знаходзілася, але дзе яе думкі ў гэты момант — невядома. Раней дзяўчына не здавалася настолькі заглыбленай у сябе.

Што ж хаваецца ў гэтай звычайнай на першы погляд студэнтцы?

**4.11.2011 г. (К. Т.)**

...Сёння Юлія не прыйшла на пару. Нібыта забылася на нас. Я ніколі не разумела, як выкладчык можа забыцца пра тое, што яму трэба ісці праводзіць заняткі. Аднагрупнікі нават тэорыі будавалі, куды яна магла знікнуць. Стараста ў канцы

пары ўсё ж такі схадзіла ў лабаранцкую да яе, і высветлілася — яна ўсяго толькі забылася, што ў яе пара. Абуральна!

Калі б яна толькі ведала, як я чакала яе сёння. Нават пафарбавалася дзеля псіхалогіі, а гэтая эгаістка не прыйшла.

Я вырашыла — не буду больш думаць пра яе, звяртаць увагу. Мне цяпер усё роўна. Я нармальны чалавек і не збіраюся даймаць сябе з-за нейкай бяздушнай шэльмы. Я сябе таксама не на сметніку знайшла!

**4.11.2011 г. (Ю. М.)**

...Мне так сорамна. З маёй галавы прэч вылецела, што ў 32-й групы беларусаў заняткі. Амаль у канцы прыйшла іх стараста, толькі што я ўжо магла зрабіць? У выніку прапала цэлых дзве гадзіны. Жах! Звычайна я на такую безуважлівасць не хварэю.

**11.11.2011 г. (К. Т.)**

Сяргей О. мяне забіў. Ён сёння выдаў пасля псіхалогіі ўсяго дзве фразы, а я выпадкова пачула і да гэтага часу адысці ад іх не магу. Галоўнае — якім тонам ён гэта сказаў!

— А яна замужам? Як бы да яе падкаціць?

Гэта ён пра Юлію. Пра выкладчыка!

Самец! Гэты тупы алкаголік толькі і можа, што «падкаціць»! Для яго Юлія — усяго толькі жаданая здабыча. Не чалавек.

Вось бываюць жа людзі, якія, да чаго ні датыкнуцца, усё псуюць. Усё, што Сяргей ні скажа пра кагосьці або пра штосьці, становіцца для мяне агідным.

Уяўляю, як бы ён выхваляўся перад намі, калі б пераспаў з ёй... Не, не хачу нават думаць пра гэта.

А Юлія... Яна ж таксама з ім на парах заігрывае. Што, калі... Не дай божа!

Мне кепска, вельмі-вельмі. Я хаджу па інтэрнаце і па ўніверы нейкая атупелая ад усяго гэтага.

Няўжо Юлія можа так паступіць? У такім выпадку яна для мяне памрэ.

Усё, клянуся, больш ні радка пра яе!

## II частка

Вось жа бываюць людзі, якія маюць звычай рабіць выдатным усё, з чым судакранаюцца. Старшы выкладчык кафедры псіхалогіі Юлія Валер’еўна М. была менавіта такім чалавекам. Яе прастата і натуральнасць здзіўлялі і захаплялі людзей. Гэта была жанчына, якая ўмела па-майстэрску схаваць свае і без таго нешматлікія недахопы за спрытна падкрэсленымі вартасцямі. Яна валодала рэдкай у наш час якасцю — чалавечнасцю ва ўсіх сэнсах гэтага слова, а выключны розум і камунікабельнасць з’яўляліся выдатнымі дапаўненнямі. Усё гэта і вабіла да яе іншых людзей. У тым ліку нягоднікаў і геніяў.

Студэнтка трэцяга курса філалагічнага факультэта Крысціна Т., на шчасце, не адносілася ні да катэгорыі геніяў, ні, тым больш, да катэгорыі нягоднікаў. На думку многіх яе знаёмых і сяброў, гэта была звычайная дзяўчына. Не такая, вядома, як усе, але вельмі арыгінальная і «на аматара». А калі б вам прыйшло ў галаву спытаць каго-небудзь з яе кола пра тое, ці ёсць на рахунку гэтай дзяўчыны які-небудзь звышнатуральны ўчынак, то, упэўнена, — ніхто не ўспомніў бы нічога падобнага.

Крысціна адрознівалася ад многіх аднагодкаў тым, што быццам бы жыла ў мінулым. Так, нарадзіцца яна павінна была ў XIX стагоддзі, максімум — у пачатку XX. Аднак лёс распарадзіўся так, што дзяўчына з'явілася на свет у год развалу СССР. І яе саму тое не задавальняла, бо гэта быў не яе час. Яна лічыла, што цяпер яе ніхто не разумее. А ўсе думалі, што яна старамодная.

Хто ведае, чаму было наканавана сустрэцца гэтым дзвюм абсалютна розным дзяўчынам. Вы скажаце, што гэта лёс, ці воля божая, альбо выпадковасць? Не магу ведаць.

Мы ўсё жыццё чакаем чалавека, які зменіць нас і нашыя погляды. Штодня дапускаем такую думку: «Вось заўтра гэты чалавек з'явіцца — і ўсё пойдзе іначай!» І, калі гэты дзень усё ж настае, доўгачаканая асоба смела перасякае нашае жыццё, мы часта не заўважаем жаданай падзеі. Потым ужо спрабуем успомніць абставіны той лёсавызначальнай сустрэчы — і не можам выбавіць з глыбінь нашай памяці ні адной важнай дэталі.

Так уварвалася ў жыццё Крысціны разумная і ціхая Юлія Валер'еўна. Так уварвалася ў жыццё Юлі неардынарная і незразумелая сучасным людзям Крысціна. І зусім няважна, па якой прычыне гэта адбылося.

Яны былі знаёмыя крыху больш за два месяцы. За гэты час ім не ўдалося даведацца адной пра адну нічога асаблівa. І, магчыма, што, ледзь судакрануўшыся, іх лёсы маглі пайсці па розных кірунках. Магчыма, Юля неўзабаве забылася б на гэтую «дзіўную дзяўчыну з другой парты» назаўсёды. Можа быць, Крысціна «астыла» б да сваёй выкладчыцы па псіхалогіі, цалкам расчараваўшыся ў ёй. Але ўсё склалася інакш.

* * *

Агульнавядома, што сямнаццатага лістапада студэнты адзначаюць сваё прафесійнае, так бы мовіць, свята. Але для Крысціны Т. гэта быў самы звычайны дзень. Святкаваць яна нічога не збіралася і яшчэ з раніцы думала, што сёння не здарыцца анічога незвычайнага.

Першая палова дня, часткова праведзеная ва ўніверсітэце, сапраўды была самай што ні на ёсць пасрэднай. Аднак трэцяй парай у Крысціны стаяла псіхалогія — і гэтым усё сказана.

Усю пару дзяўчына сядзела нібы на іголках. Але не па той прычыне, што Юлія Валер'еўна, як заўсёды, не звяртала на яе ўвагі, а таму, што выкладчыца занадта пільна пазірала на Сяргея О. А ён, як на злосць, прама са скуры вылузваўся, каб прыцягнуць да сваёй асобы ўвагу выкладчыцы. І кожны раз, калі Сяргей з месца выкрыкваў нейкі жарт (часта плоскі, як здавалася «дзяўчыне з другой парты»), вочы Юліі весела загараліся, яна збянтэжана ўсміхалася і некаторы час нясмела пазірала на хлопца. У такія моманты Крысціне не сядзелася на месцы, і яе суседка па парце (а трэба сказаць, што сядзела Крысціна цяпер не за другой партай, а за апошняй і не адна, а з аднагрупніцай Вольгай) не вытрымала і гучна абурылася:

— Блін, ды што ж ты ўсё варушышся?!

На гэтую рэпліку ўся аўдыторыя аглушальна засмяялася, а Юлія Валер'еўна, збянтэжана ўсміхнуўшыся, паглядзела на Волю (але не на Крысціну) і прамовіла:

— Спадзяюся, вы не да мяне звяртаецеся.

Група весялілася. Крысціна ж нават не расцягнула вусны ва ўсмешцы. І толькі калі смех у аўдыторыі сціх, яна, апусціўшы вочы, гучна і выразна, нібы выбіваючы кожнае слова на барабане, сказала:

— Калі Сярожачка наш свае гармоны супакоіць, можа, я і перастану варушыцца.

— А што я зрабіў? — адразу ж абурыўся хлопец.

— Надакучыў са сваімі каментарыямі, — адкрыта і абуральна вымавіла Крысціна.

Сяргей нічога не адказаў, а толькі, злёгку пачырванеўшы, падпёр рукой галаву. У аўдыторыі стаяла цяжкая цішыня.

— Усё? Высветлілі адносіны? Я магу працягнуць? — лагодна спытала Юлія Валер’еўна.

— Прабачце, — прымірэнча прамовіла «дзяўчына з другой парты».

Далей пара прайшла спакойна. Сяргей больш не вымавіў ані слова, Крысціна ні разу не варухнулася, а выкладчыца задавала пытанні па тэме эмацыйна-валявых працэсаў.

Рашэнне прыйшло ў галаву Крысціны, а дакладней у яе сэрца, імгненна. Гэта здарылася за тры хвіліны да канца пары.

«Усё вельмі проста, — падумалася ёй. — Трэба падысці да яе і акуратна спытаць, што яна думае пра мяне... Ці не, не так. Папрасіць у яе парады. Маўляў, мне падабаецца адзін чалавек, ён на дванаццаць гадоў за мяне старэйшы, і я вельмі хачу з ім мець зносіны, але гэты чалавек мае больш высокі статус. І... Дык як мне да яго падкаціць? А потым... А што потым? Што гэта дасць? Можа, яна здагадаецца? Хаця наўрад ці. А ўсё ж варта паспрабаваць. Божа мой, што ж я раблю?!»

Апошняя думка мільганула ў галаве дзяўчыны тады, калі яна стаяла каля стала, за якім пакуль яшчэ сядзела Юлія Валер’еўна. Аднагрупнікі «дзяўчыны з другой парты» ўжо разбегліся хто куды.

— Юлія Валер’еўна, можна з вамі пагаварыць? — як мага больш ураўнаважана, імкнучыся схаваць моцнае хваляванне і дрыжачыя рукі, папрасіла яе Крысціна.

— Так, пойдзем, — проста адказала псіхолаг.

Крысціна здзівілася: Юлія не стала нічога пытацца і наогул не праявіла на твары ні ценю эмоцыі, быццам дзяўчына падышла і папрасіла пра нешта само сабой зразумелае.

Яны выйшлі з аўдыторыі. Выкладчыца, левай рукой прыціскаючы да сябе журнал і папку, спынілася перад студэнткай і, як заўсёды, пранізваючы поглядам наскрозь, паглядзела на дзяўчыну. Крысціна здрыганулася пад гэтым позіркам, але, адчуўшы, што псіхолаг зусім не варожа, а добразычліва настроена ў адносінах да яе, адчула палёгку і супакаенне.

— Юлія Валер’еўна, толькі... ведаеце, што... — збянтэжана прамармытала Крысціна. — Калі вы нешта зразумееце ці будзеце чымсьці абураны, калі ласка... Няхай нашыя адносіны застануцца ранейшымі, добра?

«Якія адносіны?! Што я нясу?!» — падумала пра сябе студэнтка.

Юлія моўчкі кіўнула.

— Скажыце, калі ласка, што мне рабіць, — больш роўна загаварыла Крысціна. — Увогуле, сітуацыя такая. Мне падабаецца адзін чалавек, але з ім у нас няма магчымасці мець больш блізкія зносіны. Так бы мовіць, мы з ім знаёмыя, аднак практычна ніякіх адносін паміж намі не існуе. Я вельмі хачу з ёй мець зносіны, а не магу. Па-першае, яна старэйшая за мяне на 12 гадоў. А па-другое, я не ведаю, як да яе падысці. І ведаеце...

— Чакайце, Крысціна, давайце разбяромся, — уважліва выслухаўшы студэнтку, вымавіла выкладчыца, калі ў прамове дзяўчыны ўтварылася паўза. — Значыць, я так разумею, гэты чалавек — жанчына?

— Так.

— Чаму вы не можаце проста падысці да яе і сказаць гэта прама?

— Разумееце, гэта выкладчыца, прычым з чужой кафедры. Ну, як я да яе падыду? Мне ж яшчэ экзамен ёй здаваць.

— У тым, каб сказаць праўду, няма нічога страшнага. І я не думаю, што гэта істотна паўплывае на вашу паспяховасць. Наогул, Крысціна, мне не зусім ясна, што вы разумееце пад словамі «мець зносіны». Мець зносіны можна па-рознаму: разам праводзіць выхадныя, хадзіць у кафэ, размаўляць на інтымныя тэмы або раіцца па прафесійных пытаннях — усё гэта зносіны. Вы спачатку вызначыце для сябе, чаго хочаце.

Ледзь Юлія Валер’еўна паспела вымавіць апошнія словы, як у дыялог убілася яшчэ адна персона — выкладчыца кафедры літаратуры.

— Крысціна, вы ведаеце пра конкурс, які праводзіцца ў гонар 120-годдзя са дня нараджэння Максіма Багдановіча? — з ходу пачала гаворку няпрошаная госця.

— Так, ведаю, — асцярожна адказала дзяўчына.

— Не жадаеце паўдзельнічаць? Там трэба здаць працу да першага снежня, вы, па-мойму, паспееце.

— Так, я... добра, я паспрабую, — нецярпліва прамовіла Крысціна, думаючы пра сябе: «Калі ласка, не перашкаджайце мне, Наталля Пятроўна, я ўсё зраблю, толькі цяпер больш нічога не кажыце. Ідзіце сабе, і ўсё!» Але ўсё ж дзяўчына задала пытанне: — А што трэба напісаць? Артыкул ці апавяданне?

— Можна і першае, і другое. Вы зайдзіце да мяне, я вам усё растлумачу, добра? — ужо адыходзячы, казала Наталля Пятроўна.

— Добра, — пагадзілася студэнтка.

— Увогуле, Крысціна, — працягвала Юлія, — я не магу параіць вам нічога пэўнага. Я не ведаю, чаго вы хочаце і што там між вамі адбываецца на дадзены момант. Разумею, што вам страшна выказаць усё прама. На самай справе, вы маеце рацыю: невядома, як усё можа абярнуцца.

— Ды нічога між намі не адбываецца, яна мяне нават не заўважае, — паскардзілася Крысціна. — Быццам я — пустое месца.

Выкладчыца ўздыхнула і толькі сабралася прамовіць нешта яшчэ, як да яе звярнулася нейкая жанчына, якая вырасла нібы з-пад зямлі:

— Юлія Валер’еўна, вы методыку дарабілі?

— Так, канешне, у мяне ў папцы ў лабаранцкай ляжыць. Возьмеце паглядзець? — чамусьці таямніча ўсміхнулася псіхолаг.

— Я пазней зайду да вас, а то тэрмінова да прарэктара трэба, — сказала калега Юліі Валер’еўны, ідучы да лесвічнага пралёта.

Пакуль жанчыны размаўлялі, Крысціна прыняла яшчэ адно рашэнне. Як толькі незнаёмка пайшла, яна, павольна выдыхнуўшы, загаварыла:

— Юлія Валер’еўна. Можа, я зраблю няправільна, не ведаю, але больш я цярпець і маўчаць не магу. Я хачу сказаць вам, што гэты чалавек — вы.

Раней Крысціне здавалася, што калі раптам ёй давядзецца вымавіць падобныя словы ў адносінах да гэтага чалавека, то нябёсы абрынуцца на зямлю, а ўвесь свет рэзка зменіцца ці здарыцца нешта непапраўнае. Але не, яна памылялася. Нябёсы паранейшаму знаходзіліся над зямлёй, а свет вакол Крысціны не зведаў адмысловых змен. Ды і нічога страшнага не адбылося. Дакладней сказаць, што наогул нічога не здарылася.

Аднак самае цікава, што на твары Юліі студэнтка не змагла ўбачыць ні здзіўлення, ні страху, ні пагарды — ні-чо-га. Быццам псіхолаг загадзя ведала, што менавіта

скажа дзяўчына. Ці быццам ёй было ўсё роўна, што тая гаворыць. Ці, можа, яна настолькі прафесійна ўмела хаваць эмоцыі, што ні адзін мускул не выдаў яе сапраўдных пачуццяў.

— Ну, Крысціна, я не супраць, — спакойна адказала выкладчыца. — Мне і самой было б цікава даведацца нешта новае пра вас. Але... Вы ж разумееце, што да экзамену гэта немагчыма.

— Так, я разумею, — кіўнула Крысціна, хоць яна не зусім усведамляла, пры чым тут экзамен. — Гэта можа пацягнуць за сабой незразумелыя чуткі, — працягвала Юлія, нібы падслухаўшы думкі студэнткі. — І да таго ж, некаторыя могуць усумніцца ў аб'ектыўнасці пастаўленай мной за экзамен адзнакі.

— Я вельмі баюся вас страціць, — нечакана з пакутай у голасе вымавіла дзяўчына. — Пройдзе экзамен — і вы на мяне забудзецеся.

Псіхолаг па-добраму засмяялася.

— Не хвалюйцеся, не забудуся, — запэўніла яна Крысціну, мякка крануўшы тую за плячо. — А яшчэ вам не варта мяне ідэалізаваць. Я — самы звычайны чалавек са сваімі праблемамі і недахопамі, таму будзе не вельмі добра, калі вы ўва мне расчаруецеся.

— Я разумею, — сказала студэнтка і ў той жа момант ўсвядоміла, што схлусіла. Ніколі яна аб'ектыўна не ацэньвала чужыя і свае ўчынкі.

— Гэта добра, — проста кіўнула выкладчыца. І ў іх размове ўзнікла тая няёмкая хвіліна, калі казаць больш няма пра што.

— Ну, тады я пайду, — выбачальным тонам прамовіла «дзяўчына з другой парты».

— Так, — дазволіла ёй псіхолаг, нібы ад яе дазволу залежала: пойдзе Крысціна ці не. — Ідзіце. Калі што — заходзьце. Я тут недалёка, у лабаранцкай, засядаю ўвесь час. Усяго добрага!

І яе вусны на развітанне яшчэ раз расцягнуліся ў мілай усмешцы.

Крысціна засталася незадаволенай гэтай размовай. З аднаго боку, быццам бы ўсё высветлілася: яна сказала, што хацела, і Юлія Валер'еўна ў цэлым адэкватна адрэагавала на яе словы, нават больш за тое — выкладчыца зразумела студэнтку. Але, з іншага боку, дзяўчына не адчувала той аддачы ад псіхолага, якая магла б быць; яна ўсведамляла, што ўсё ж такі да канца засталася незразуметай. Хоць, на самай справе, якую аддачу яна хацела атрымаць? Што на той момант магла адказаць і тым больш зрабіць Юлія?

Пасля гэтага Крысціна зразумела, што гатовая пайсці на ўсё, толькі б стаць сяброўкай выкладчыцы.

* * *

— Юля, не хацела я цябе пакрыўдзіць. Але чамусьці ты менавіта гэта мне сказала, так? Ты сама вучыла мяне, што ніводнае слова ў чалавека не можа вылецець проста так. Любая думка мае значэнне.

— Слушна кажаш. Але, Крысціна, калі я гаварыла табе... Ну... Ты зразумей, для мяне гэта было вельмі нечакана — пачуць падобнае прызнанне ад сваёй студэнткі. Не ад студэнта, а ад студэнткі! Зразумела, калі б падышоў хлопец, ну, закахаўся. Тут усё зразумела. Але дзяўчына?.. Што я павінна была ў той момант падумаць?.. Я нават не ведала, як трэба рэагаваць. Вось і ляпнула, не падумаўшы. І потым... Я цябе тады зусім не ведала. Таму трэба было трымаць дыстанцыю. Цяпер жа усё не так.

— Чамусьці ў той момант ты не здавалася асабліва разгубленай. Я ніводнай эмоцыі на тваім твары прачытаць не змагла. Як успомню!.. «Вы ж разумееце, што да экзамену гэта немагчыма». У мяне аж мурашы па скуры прабеглі.

— Ды перастань. Ну, прабач. Я не хацела цябе крыўдзіць.

Юля і Крысціна ўжо амаль месяц пасля Дня студэнта былі на «ты». Яны вельмі цесна кантактавалі, нямала вольнага часу праводзілі разам. Юля прывязалася да Крысціны амаль у той жа ступені, у якой студэнтка была раней прывязана да псіхолага. Іх узаемаадносіны набліжаліся да ўстойлівага сяброўства, заснаванага на поўным даверы і ўзаемнай павазе. Менавіта набліжаліся, але...

Як Крысціне ўдалося дамагчыся гэтага за кароткі тэрмін? Проста яна выкарыстоўвала любую магчымасць, каб быць побач з Юляй. Шукала агульныя тэмы, інтарэсы.

Цяпер размова адбывалася ў лабаранцкай. Акрамя Юлі і Крысціны, тут нікога не было.

Ужо надыходзіў вечар. Цемра няўмольна паглынала горад, і здавалася, што змрок вось-вось гатовы ўліцца, разбіўшы шыбу, у памяшканне, пралезці скрозь шчыліны, захапіць увесь будынак. Але, на шчасце, гэтага адбыцца не магло.

Студэнтка і выкладчыца мірна балбаталі, седзячы адна насупраць адной, папіваючы каву.

— Ведаеш, а яшчэ да мяне гэты ваш Сяргей О. пастаянна пад'язджае, — зноў загаварыла псіхолаг.

— Ён табе падабаецца? — чамусьці адразу засумавала Крысціна.

— Так сабе. Я не стала б звязваць сваё жыццё з такім чалавекам. Ён вельмі мілы, але не больш за тое. Прыгажосць — з'ява надзвычай нетрывалая. Трэба, каб побач быў мужчына, як гэта гаворыцца, для душы.

— Ну-ну, прыгожа сказала, — холадна адказала «дзяўчына з другой парты». — Малайчына.

— Я даўно заўважыла, што ў цябе нейкае суб'ектыўнае стаўленне да гэтага хлопца.

— Ён мне проста не падабаецца. І ніколі не падабаўся.

— Ты хлусіш, — пераканана прамовіла Юля.

— Няўжо ты заўсёды бачыш, калі табе хлусяць?

— Не, не заўсёды, але цяпер гэта ўбачыла.

— Добра. Ты сапраўды хочаш пачуць, што я пра яго думаю і што паміж намі адбылося?

— Можаш нічога не распавядаць.

— Ды не, я хачу табе ўсё растлумачыць.

— Тады расказвай.

— Я пазнаёмілася з Сяргеем, калі толькі паступіла ва ўнівер. Гэта быў першы чалавек, з якім я тут загаварыла. І з самага першага дня ў нас завязаліся вельмі добрыя адносіны. Калі ў мяне былі нейкія праблемы, я бегла да яго, і ён дапамагаў, калі мог. Я давярала гэтаму чалавеку, распавяла яму столькі сваіх таямніц, што ні адна з маіх сяброўак так шмат пра мяне не ведала і не ведае. І самае цікавае, што я адчувала: ён давярае мне ў той жа ступені. Мне было зразумела, што доўга не змагу супрацьстаяць яго чарам, што рана ці позна ў сваім сэрцы я адчую гарачае каханне да яго. І гэта адбылося.

Ішоў час. І ўвесь гэты перыяд я кахала Сяргея і чакала ў адказ ягоных пачуццяў. Не магу сказаць, каб ён быў да мяне халодны. Але гэта зусім не тое, чаго мне б хацелася. На яго пастаянна вешаліся нейкія дзеўкі. І ўсё ж я чакала.

Потым, ужо на пачатку другога курса, мы аддаліліся адно ад аднаго. Сяргея быццам падмянілі. Пасля таго, як яго засялілі ў інтэрнат, ён пачаў выпіваць. Пастаяннай дзяўчыны не меў, кожную ноч новая. Пра мяне ж ён стаў, мабыць, забываць.

Да гэтага часу думаецца: няўжо ён так і не змог зразумець, што я яго кахаю?

І вось аднойчы вырашыла прызнацца яму ў сваіх пачуццях. Сербанула паўшклянкі гарэлкі, залпам, не запіўшы нічым і не прыкусіўшы. Пайшла да яго ў пакой і сказала, што даўно яго кахаю. Як ні дзіўна, у той момант ён быў цвярозы, што здаралася рэдка. І Сяргей адказаў: «Крысцін, ты класная дзяўчына, але давай застанемся сябрамі». Гэтай фразай ён усадзіў мне нож у сэрца. Я пайшла. Як цяпер памятаю: па маіх шчоках каціліся гарачыя слёзы.

Што я ў той момант адчула?!. Каб жа ты толькі ведала. Я пачувалася непатрэбнай, растаптанай. Ды ўрэшце зразумела, што нічога для яго не значу, што тыя дзяўчаты, якія раяцца вакол яго, патрэбныя хлопцу больш, чым я.

Натуральна, сябрамі мы не засталіся. Ды і як можна пасля такога застацца ў цёплых адносінах? Я ўбачыла тую прорву між намі, якую немагчыма пераадолець. Яна расла, павялічвалася, паглыблялася.

Урэшце наступіў момант, калі мы практычна перасталі размаўляць. Гэта здарылася само па сабе. І калі раней мяне хваляваў ягоны лёс, то цяпер мне не тое, каб усё роўна, але... як бы гэта сказаць... Не хачу лезці ў яго жыццё.

Я думаю так, што калі яму падабаецца губіць сваё жыццё — калі ласка.

Вось і ўсё.

— Сумная гісторыя, — прамовіла Юля. — Самае страшнае, што можна адчуць у адносінах да чалавека, — гэта расчараванне.

— Ведаеш, я табе расказала — і мне так лёгка стала, — прызналася Крысціна. — Няхай ужо шмат часу мінула, няхай я гэта перажыла і пакінула далёка за спінай, але ўсё роўна глыбока ў душы, пастаянна быў нейкі асадак. А цяпер усё стала на свае месцы. Дзякуй, мой любімы псіхолаг.

— Заўсёды гатова дапамагчы, — усміхнулася выкладчыца.

Крысціна адчула сапраўдную палёгку. Усё складвалася добра, псіхолаг яе разумела, выслухоўвала любыя яе гісторыі. Здавалася, што так павінна доўжыцца вечна. Але не доўжылася.

Калі Юля зноў загаварыла, Крысціна адчула, што калоны, на якіх трымалася яе шчасце, пачынаюць трэскацца. Не, не падаць, а ўсяго толькі пакрывацца маленькімі, непрыкметнымі здалёк трэшчынкамі. Але, як вядома, менавіта з маленькіх трэшчынак узнікаюць гіганцкія разломы. Нешта пайшло не так.

— Я хачу пагаварыць з табой сур'ёзна, толькі не крыўдуй, добра? — тонам, які не абяцаў нічога добранадзейнага, загаварыла выкладчыца.

— Ну, паспрабую, — знарок неахвотна заявіла Крысціна і заўсміхалася.

— Пра нас з табой ходзяць не вельмі добрыя чуткі. Мае калегі задаюць непатрэбныя пытанні тыпу: «Чаму я так цесна кантактую з адной са сваіх студэнтак? Пагаворваюць, што ў нас з табой адносіны... ну... разумееш?

— Што?! Так... як... можна... я не... ніколі... мы ж проста... — невыразна замармытала студэнтка. — Як яны могуць?! Мы ж проста сябруем... Яны нічога не ведаюць... У мяне ніколі і думак такіх не было...

— Я ведаю, — спыніла Юля. — Але іншыя не ведаюць. А яшчэ ўчора выпадкова пачула гутарку тваіх аднагрупніц. Яны будавалі здагадкі наконт таго, чаму ты так часта заглядваеш да мяне. Увогуле, гэтыя здагадкі-намёкі таксама былі вельмі непрыгожымі.

Крысціна была настолькі абурана і адначасова ашаломлена гэтымі словамі, што ўжо нічога не казала, а, сціснуўшы кулакі і нізка апусціўшы галаву, тупа глядзела на прынтар, які стаяў на суседнім стале.

— І што ты прапануеш? — ціха прамовіла дзяўчына.

— Нам трэба перастаць кантактаваць да экзамену, — вымавіла псіхолаг страшныя для Крысціны словы. І ў душы дзяўчыны нібы штосьці абарвалася, глуха грукнула па дне гэтай душы. — Хаця б у сценах універсітэта. Я наогул чутак не вельмі баюся, але ўсё ж такі гэта непрыемна. Ты зразумей...

— Я ўсё разумею, — абарвала яе Крысціна. — Адкажы мне толькі на адно пытанне. Калі б падобныя чуткі хадзілі пра цябе і Сяргея О., ты б яму тое ж самае прапанавала? Не кантактаваць? Альбо наадварот, табе падабалася б, калі твае калегі і мае аднагрупнікі абмяркоўвалі б усе падрабязнасці гэтага ілжэрамана? Ну? Вядома, што ж я магу табе даць? Я ўсяго толькі нейкая дзяўчынка. А ён! Ён жа мужык, ён... Можа, ты за яго замуж выскачыш? Хоць не раю. Напакутуешся...

Крысціна гаварыла спачатку спакойна, але да канца маналогу знешняя ўраўнаважанасць перайшла ў раздражняльнасць і гнеў.

— Цішэй, цішэй, супакойся, — спрабавала спыніць яе выкладчыца. — Што ты такое кажаш? У мяне ніколі падобнага ў галаве не было.

— Відаць, я памылілася, — ужо больш спакойна прамовіла Крысціна. — Ты такая ж, як яны.

— Хто — яны? — не зразумела Юля.

— Яны. Людзі, якія вакол нас. Большая частка з іх не можа саўладаць са сваімі жывёльнымі інстынктамі. Яны не могуць стрымліваць у сабе прыроду. Яны і ёсць жывёлы. Спяць, ядуць, п’юць, спяць, ядуць... І ў гэтым усё іх жыццё. У іх не хапае сілы, каб змагацца з унутранымі жаданнямі. І ў табе гэтай сілы няма. Хоць ты і добрая, але недахоп сілы закрывае для мяне ўсе твае вартасці.

— Значыць, я — жывёла?! Я не магу стрымаць прыроду?! — таксама ўскіпела псіхолаг, хоць амаль заўсёды імкнулася да апошняга захоўваць раўнавагу.

— Магчыма. Я чамусьці ўпэўнена, што калі б табе надарылася магчымасць патрапіць у ложак да Сяргея, то ты б гэтую магчымасць не ўпусціла.

— Так, не ўпусціла б. Ты кажаш праўду. Ды я і не ўпусціла на самай справе. Калі хочаш ведаць, я з ім пераспала. Прама тут, у лабаранцкай. На гэтым стале.

У гэты момант Крысціна адчула, што калоны яе шчасця ляснуліся аб дол, рассыпаліся на дробныя аскепкі, якія ўжо немагчыма сабраць у адно. Але дзяўчына не адчула душэўнага і фізічнага болю. Наадварот, ёй зрабілася лёгка, як быццам да гэтага моманту яна не магла дыхаць з-за нейкага нябачнага гарсэта, а цяпер гэты гарсэт сам па сабе развязаўся — і яна ўдыхнула найчысцейшы кісларод сваімі лёгкімі. Крысціна вызвалілася.

— Гэта праўда? — толькі і спытала студэнтка. І адразу ж зразумела па твары Юлі, што гэта — праўда. Дзяўчына не ўбачыла ў вачах суразмоўніцы нават намёку на раскаянне. — Напэўна, ты вельмі задаволена сваім учынкам. І можа, нават адчуваеш за яго гонар. Значыць, Сярожанкі ты не саромеешся, а са мной табе няёмка. Так? Ты прыкрываешся экзаменам дзеля таго, каб не бачыць мяне, так? Мне цябе шкада. Але я не буду больш дзяўбціся ў твае дзверы. Ні ў адкрытыя, ні ў закрытыя.

Крысціна ў апошні раз зірнула ў шэрыя вочы выкладчыцы, але ў гэты раз яна не ўбачыла там анічога.

Студэнтка моўчкі выйшла з лабаранцкай. Назаўсёды.

* * *

## ВЫТРЫМКІ З НЕКРАЛОГА

«Учора, 14 снежня 2011 года, трагічна абарвалася жыццё студэнткі трэцяга курса філалагічнага факультэта Крысціны Т.

...Дзяўчына загінула ў выніку аўтамабільнай аварыі, справакаванай п’яным вадзіцелем.

...Крысціна магла стаць выдатным журналістам, а ў перспектыве і выкладчыкам нашага ўніверсітэта.

...Крысціна, такой ты застанешся ў нашай памяці назаўжды».

* * *

Псіхіятрычная лякарня. Гутарка двух дактароў-псіхіятраў, якія ідуць па калідоры:

— Прафесар, запэўніваю вас, гэта вельмі цікавы выпадак. Я таксама спачатку не звярнуў на яго ўвагу, але... Паверце, вам варта зірнуць на гэтую пацыентку.

— Што ж. Хадземце, толькі хутка. Што там у яе?

— Большую частку часу жанчына паводзіць сябе адэкватна. Ніякіх адхіленняў не назіраецца. Але як толькі яна чуе слова «экзамен», у яе пачынаецца нервовы прыпадак. У гэты момант пацыентка агрэсіўная, практычна некіруемая.

— Колькі доўжыцца прыпадак?

— Не ведаю, мы амаль адразу колем заспакаяльнае, бо паводзіць сябе занадта буйна.

— А як яна рэагуе на словы, скажам, блізкія па значэнні да слова «экзамен». Напрыклад, на «залік». Або на «пераздачу».

— Ніяк. Я ж кажу, у астатнім яна цалкам адэкватная.

— Хто яна па прафесіі?

— Юлія Валер’еўна М. — выкладчык псіхалогіі ва ўніверсітэце. Стаж працы — 4 гады.

— Маладая... Значыць, у пэўным сэнсе звязана з нашай працай. Можа, яна Фрэйда абчыталася? — усміхнуўся доктар.

— Не ведаю. Але выдатна разбіраецца ў працэсах і механізмах псіхікі. З ёй, дарэчы, вельмі цікава размаўляць на псіхалагічныя тэмы.

— З чым звязана рэакцыя на гэтае слова?

— Пакуль высветліць не ўдалося. Мы толькі даведаліся, што ў апошні час яна мела шчыльныя сяброўскія адносіны з адной са сваіх студэнтак. Чатырнаццатага снежня гэтая студэнтка загінула. Патрапіла пад машыну. А пятнаццатага Юлію Валер’еўну прывезлі да нас.

— Цёмная нейкая гісторыя.

Яны нарэшце падышлі да патрэбнай палаты. Малады доктар павярнуў дзвярную ручку і, прапусціўшы прафесара паперадзе сябе, увайшоў следам. Там каля дзвярэй стаяла двое санітараў і медсястра, а на крэсле сядзела, міла і абыякава ўсміхаючыся, далікатная дзяўчына трыццаці двух гадоў, вядомая нам пад імем Юлі М. Дактары прыселі непадалёк ад яе.

— Добры дзень, — ветліва павітаўся прафесар.

— Добры дзень, — адгукнулася выкладчыца.

— Як вашае здароўе? — адразу ж пацікавіўся ён.

— Добра, я адчуваю сябе выдатна, — адказала жанчына. — Толькі па начах часам дрэнна спіцца. Скажыце, калі мяне выпішуць?

— Вас трэба трохі падлячыць. Вы ж кажаце, што вам дрэнна спіцца, — мякка вымавіў малады псіхіятр.

— Вы лічыце, што я вар'ятка? — сумна ўсміхнулася Юля.

— Не, што вы. Гэта не так.

— Вы хочаце вярнуцца на працу ва ўніверсітэт? — задаў пытанне прафесар.

— Так, мне вельмі падабаецца выкладаць псіхалогію, падабаецца працаваць са студэнтамі.

— Раскажыце нам, вы любіце свой прадмет?

— Так, я люблю пранікаць у сутнасць некаторых псіхічных з'яў, а потым даносіць гэта да розуму іншага чалавека.

— А экзамен вы любіце прымаць? — як бы незнарок прамовіў прафесар.

Усмешка імгненна спаўзла з твару пацыенткі. Яна збялела, падбародак яе задрыжэў, на вачах з'явіліся слёзы. У жанчыны пачаўся прыпадак: спачатку ціха, а паступова ўсё гучней, аж да істэрычнага крыку, Юля паўтарала словы: «Не, толькі не экзамен, не хачу экзамен, больш не будзе экзаменаў, абяцаю!.. Прабач, прабач!..» Яна ўпала на калені, а затым, сутаргава зьіваючыся, як капрызнае дзіця, перавярнулася на спіну.

Падбеглі санітары, лёгка паднялі жанчыну, паклалі на ложак і, пакуль медсястра ўводзіла заспакаяльнае ў вену, моцна трымалі рукі і ногі пацыенткі. Прайшло крыху часу — і прыступ выкладчыцы змяніўся моцным сном.

— Так, — прамармытаў прафесар, калі ўсе выйшлі з палаты, — вы, мабыць, маеце рацыю. Вельмі цікавы выпадак. Засталося толькі высветліць, пры чым жа тут экзамен.



Максім СОХАР

# ПРА ТОЕ, ШТО З'ЯЎЛЯЕЦЦА ВАЖНЫМ

***У працяг тэмы пра драматургію і тэатр, узнятай ў студзеньскім нумары «Маладосці», прапануем разважанні Максіма СОХАРА, магістра мастацтвазнаўства, галоўнага рэжысёра Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі (Бабруйск).***

У апошні год майго навучання ў майстэрні Р. С. Таліпава загадчык кафедры рэжысуры Р. І. Баравік накіраваў мяне ў тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебск на пераддыпломную практыку. Даўшы ўстаноўку па заданні, ён дадаў: «...Цяпер у тэатры ідуць рэпетыцыі спектакля пра Эйнштэйна. Чыя п'еса, ты ведаеш?» «Так... — адказаў я, П'еса "Прывітанне, Альберт!" напісана маім бацькам, драматургам Юрыем Сохарам». «Ну вось і цудоўненька... — усміхнуўся Рыгор Іванавіч і працягваў: — П'еса арыгінальная, але вельмі цяжкая, яе ставіць рэжысёр-авангардыст Віталь Баркоўскі. Прысутнічай на рэпетыцыях і рабі нататкі: пра рэжысёрскія ўстаноўкі, мізансцэны, пра акцёраў, сцэнаграфію, пра ўсё. Не стрымлівай свае эмацыянальныя ўражанні — гэта будзе праверкай тваёй кваліфікацыі. Потым абмяркуем на кафедры...»

Грунтоўна ўзброіўшыся ведамі пра аўтарскую задуму п'есы «Прывітанне, Альберт!», я падрабязна стаў апісваць свае ўражанні ад рэпетыцыі. Напрыклад: «Сцэна Альберт і Эльза занадта зацягнута, у ёй размыты характары персанажаў...»; «А ў гэтай сцэне трэба паказаць уплыў на Альберта яго сябра Нільса Бора...»; «У гэтым месцы Энрыка Фермі павінен быць больш напорыстым, нават нахабным...»; «Трэба замяніць акцёра, які рэпеціруе ролю рабіна Грынблата, іншым, больш здольным...»

Аднак пасля некалькіх рэпетыцый мне надакучыла запісваць і я стаў толькі пазначаць: «Элен быць больш сексуальнай»; «Смерць Кюры — трагедыя для Альберта. Усе выразныя сродкі павінны працаваць на гэта»; «Бор — "яго", а не рускае "его" — шмат трасянкі». «Светлавы кантраст у сцэне Фермі-Эйнштэйн»; «Маці павінна быць больш далікатнай, цёплай»; «Кантраст і яшчэ раз кантраст»; «Падэшвы туфляў Шварца брудныя — не падыходзіць...»; «Сцэну з Фрэйдам пашырыць, "узбуйніць"...» І таму падобнае. Вярнуўшыся ў Акадэмію, я аддаў запісы прафесару Баравіку. Было абмеркаванне, дыскусія. Выкладчыкі казалі, што першая частка маіх запісаў да рэжысуры не мае ніякага дачынення — гэта бліжэй да іншай прафесіі, да тэатразнаўства. А вось другая — «гэта нашы, рэжысёрскія адчуванні і погляды. Заўвагі маладога рэжысёра прафесіянальныя». Так гаварылі настаўнікі.

Ужо тады, у гады свайго навучання, я пачаў разумець, а пазней, падчас практычнай работы, і ўжываць пісаныя і няпісаныя рэжысёрскія законы. Справа рэжысёра-практыка заўсёды пэўная, а яго паўсядзённая работа накладвае мноства абавязкаў, якія трэба добрасумленна выконваць. Так, рэжысёр — усяго толькі пасярэднік паміж аўтарам п'есы, акцёрамі і гледачамі. Але які пасярэднік? Дзейсны летуценнік, пэўны стваральнік выдуманага жыцця, ператваральнік гэтага жыцця ў тэатральную рэальнасць. Таму законы светабудовы і чалавечага быцця павінны быць глыбока ім вывучаны.

Колішнія рэвалюцыйныя пераўтварэнні тэатра сёння бачацца натуральнымі і заканамернымі. Але тады, ужо ў далёкім мінулым, рэфармаванне старых, усталяваных традыцый і нараджэнне новых кірункаў выклікала або радасць і захапленне, або гнеў і абурэнне. Цяжка прыжывалася рэжысура ў Расіі, асабліва ў Александрынскім тэатры. «Што такое рэжысёр? — з'едліва пісаў кры-

**Вырашальным з'яўляецца дзень, калі рэжысёр з выглядам закаханага выкладае творчаму калектыву сваю канцэпцыю**

тык і драматург Аляксандр Кугель. — Ён мне нагадвае Санча Панса, прызначанага губернатарам. Гэта стаўленік капрызу, і яго ўяўная ўлада працягваецца датуль, пакуль жарт падабаецца... Дух нашай сцэны трымаецца на акцёры і нават больш — на акцёрах першага рангу, вакол якіх групуецца ганаровая варта ансамбля». Падобныя думкі мы знаходзім і ў меркаваннях кіраўніка трупай «александрынкі»: «Рэжысёрская мізансцэна — знайшлі дзіва! — казаў П. Гнедзіч. (Стаў пасля прыхільнікам псіхалагізму, прыняўшы цалкам рэформы Маскоўскага мастацкага тэатра. — **М. С.**) — Канапа са сталом направа, два крэслы налева — вось і ўся рэжысура. Гэтак мы ставім Гогаля, Грыбаедава, Сухаво-Кабыліна, Астроўскага...» Паводле выразу рэжысёра М. В. Пятрова, які доўгі час працаваў у Александрынскім тэатры, «рэжысёр — гэта "разводящий", які ўвесь час атрымоўвае аплявухі». Сучасны тэатр, у тым ліку і беларускі, ва ўсіх сваіх пошуках і праявах прама, ускосна і непасрэдна злучаны з гэтай таямнічай асобай. Без рэжысёра тэатр мёртвы — гэта разумеюць усе, ад манціроўшчыка сцэны да міністра культуры. Бяру на сябе адвагу сцвярджаць (нам, «перыферыйным», таксама хочацца іншым разам сцвярджаць і быць адважнымі), што ў сучасным доме-тэатры гаспадаром павінен быць рэжысёр. Не дырэктар, не ўнутрытэатральныя службы, не шматлікія кіраўнікі культуры вобласці ці горада з пасадамі «спецыялістаў», а менавіта рэжысёр. Дырэктары, менеджары, начальнікі ўпраўлення, нават вельмі таленавітыя міністры культуры не здольны стварыць тэатр. Пра крытыкаў гутарка наогул не ідзе. Іх не заўсёды шчырыя «крытычныя разважанні» нічога не ствараюць, яны могуць толькі прынесці шкоду і разбурыць тое, чаго яны асабіста не будавалі. Мае словы не датычаць крытыкаў-аналітыкаў, сапраўдных вучоных-тэатразнаўцаў.

Першая, на мой погляд, найбольш важная рэжысёрская функцыя — быць актыўным, гарачым, эмацыйным, уедлівым чытачом літаратуры (класічнай і сучаснай), прызначанай для перакладу на мову сцэны. Бо п'еса можа гадамі, а то і стагоддзямі ляжаць на паліцы, а рэжысёр павінен яе ўбачыць і прачуць, заразіцца, захварэць, а затым — паставіць. Адгэтуль і ўстойлівы ў тэатральным асяроддзі выраз — «стаўлю п'есу». Навошта стаўлю? Ды каб яна пайшла да гледачоў. А «пайсці» яна зможа толькі тады, калі стане, вобразна кажучы, на «акцёрскія ногі». Успамінаецца выраз Меерхольда. Калі яго спыталі, як ідуць справы з «Маскарадам», таленавіты рэжысёр адказаў: «Лермантаў ужо становіцца на ножкі». Але спачатку рэжысёр павінен прайсці праз горан уласнай фантазіі, стаць самастойным творцам, стваральнікам контураў пастаноўкі, пластычна, па-кінетычнаму бачыць яго суцэльны мастацкі вобраз. Толькі грунтоўна вынянчыўшы пастановачны план, рэжысёр бярэ на сябе адвагу сустрэцца з акцёрамі і прыступіць да размеркавання роляў. Адзначу, што на гэтым этапе пастаноўшчык павінен выявіць мудрасць, дыпламатычнасць, нават хітрасць, а часам і дыктат. Ён, які ўжо «бачыць» перспектыву «станаўлення на ножкі» яшчэ не народжанай ролі, павінен умець выбіраць выканаўцу «афектыўнай памяццю і тонкім чуццём», як сцвярджаў Станіслаўскі. А калі ўлічваць сучасную дынаміку жыцця і існаванне тэатра ў рыначных умовах (асабліва перыферыйнага), то, на мой погляд, рэжысёр павінен размяркоўваць ролі з празорствам навукоўца і адвагай авантурыста. І пры гэтым абавязаны адчуваць і разумець прыроду акцёра-творцы.

Аднак усё гэта — падрыхтоўчы момант. Вырашальным з'яўляецца дзень, калі рэжысёр з выглядам закаханага выкладае творчаму калектыву сваю канцэпцыю. Сёння, на шчасце, тэатральнае мастацтва пазбаўляецца ціскоў дагматычных стыляў, жанраў і кірункаў (у тэатрах сталіцы з гэтым прасцей, на перыферыі — складаней). Праўда, застаецца яшчэ ціск з боку некампетэнтных начальнікаў, але, калі выкарыстаць дыпламатычныя здольнасці, можна «перахітрыць» дагматаў-упраўленцаў і стварыць арыгінальнае сцэнічнае палатно. Мне ўспамінаецца

аповед аднаго з маіх педагогаў па рэжысуры, В. М. Раеўскага. У час кіравання камуністычнай партыяй сакратаром па ідэалогіі ЦК Беларусі быў А. Т. Кузьмін. Аднойчы ён паглядзеў у МХАТе спектакль «Сталявары» Г. Бокарава, дзе на сцэне ў прамым сэнсе варылі сталь. Дым, смурод, бегаюць з рыдлёўкамі замурзаныя акцёры, носяцца электракары. Тыповае для таго часу гледзішча на вытворчую тэму ўзрушыла галоўнага ідэолага рэспублікі. Вярнуўшыся ў Мінск, ён выклікаў Раеўскага, які быў мастацкім кіраўніком тэатра імя Янкі Купалы, і загадаў (тады гэта гучала менавіта так): «Неадкладна паставіць у Купалаўскім "Сталявараў"». Рэжысёр заўпарціўся: «Маўляў, не буду я ставіць такое...» Кузьмін аж зароў: «Як? Гэта распараджэнне ЦК, разумееш? Ты ігнаруеш загад партыі?» І давай яго «чысціць». Разумеючы, што «пахне» цяжкімі наступствамі, Валерый Мікалаевіч падумаў і спакойна адказаў: «Паважаны Аляксандр Трыфанавіч, я не адмаўляюся, я берагу вашу рэпутацыю. Будынак нашага тэатра стары, там дрэнная выцяжка... Пачнём варыць сталь — патруцім гледачоў... Хто будзе адказваць?» Пры слове «адказваць» Кузьмін сеў у крэсла, запаліў «Мальбара». Паглыбіўшыся думкамі ў паняцце «адказваць», а яны, партрабы, гэтага вельмі баяліся, ціха прамовіў: «Ну, калі дрэнная выцяжка, то канешне… Тады не трэба…» — і пацiснуў потнай рукой рэжысёрскую далонь. Сутнасць гэтага прыкладу ў тым, што рэжысёр, асабліва малады, павінен набірацца мудрасці, каб у патрэбны момант умець маніпуляваць недасведчаным, а часам і фанабэрыстым начальнікам. Але гэта, на шчасце, не заўсёды патрабуецца…

Важна, калі пасля калектыўнага аналізу задумы пастаноўшчык прыступае да працы з акцёрамі ў рэпетыцыйнай зале. Цяпер пачнуцца «разведкі»: розумам, усякімі асацыяцыямі, выдумкамі, здагадкамі і, нарэшце, дзеяннем. Працуючы над сваімі спектаклямі, я кожны раз кажу акцёрам: «Не крыўдуйце на маё раздражненне, часам выкрыкі, эмацыянальныя зрывы. Навучыцеся на рэпетыцыях спакойна ўспрымаць маю строгасць, настойлівасць, капрызы, а часам і грубіянства... Бо ўсё гэта для вас і мастацтва. Навучыцеся "раствараць" мае выдумкі, прыдумкі, фантазію ў сабе, рабіць іх сваімі. У выніку ўсе мае знаходкі стануць вашымі і вы іх перададасцё гледачу, які ўзнагародзіць вас апладысментамі, а, можа, і авацыямі, кветкамі... Я ж, рэжысёр, буду сціпла стаяць за кулісамі... ні з чым. Хоць... Са мною будзе радасць за ўсіх вас, таленавітых...» Яны разумеюць мяне, і гэта асабліва важна...

Выразным сродкам рэжысёра з'яўляецца мізансцэна. Па традыцыі пад гэтым маецца на ўвазе «сукупнасць рухаў акцёра на сцэне». Але гэта прымітыўнае разуменне. Да канца XIX стагоддзя (да Станіслаўскага) у тэатры існавала «сістэма разводак» з непарушнымі правіламі — «выхадаў», «заходаў», «уцяканняў», «перасоўванняў» і г. д. Галоўным патрабаваннем, нават своеасаблівым мастацтвам, з'ўлялася ўменне развесці акцёраў такім чынам, каб яны адно аднаго не перакрывалі, былі бачныя адначасова, паварочваліся тварам да гледача, уваходзілі і выходзілі дзе і калі трэба, не сутыкаючыся ілбамі. Па сутнасці, ніякага рэжысёрскага мастацтва ў гэтых разводах не было. Ды ў шматлікіх калектывах і рэжысёраў не было. Гэтай працай займаліся так званыя антрэпрэнёры, па-сучаснаму — тэатральныя прадпрымальнікі.

Станіслаўскі не скасаваў «сістэму разводак», як гэта часам тлумачаць некаторыя крытыкі. Выкарыстоўваючы досвед мінулага, ён устанавіў цэлы шэраг новых функцый мізансцэны, ператварыўшы яе ў сапраўднае рэжысёрскае мастацтва. Мізансцэна здабыла новае паняцце — мова рэжысёра. Бо яна аб'ядноўвае ўсю сістэму сцэнічных выразных сродкаў, якія выкарыстоўвае пастаноўшчык спектакля.

Абапіраючыся на ўласную рэжысёрскую практыку, дазволю сабе прывесці некалькі прыкладаў. Працуючы над спектаклем «Нерон», мы з першай чыткі, у перыяд «застольнай размінкі», зразумелі — у нас будзе складаная мізансцэніроўка. Таму паслядоўна, з моманту фізічнага руху акцёраў сталі асцярожна выбудоўваць мізансцэны. Напачатку гэта адбывалася павольна, гіпатэтычна, але паступова мізансцэны сталі вызначаць паводзіны акцёраў і «ўрастаць» у рэжысёрскую задуму. Адначасова з намі працаваў і мастак, які не імкнуўся ствараць

эфектнае відовішча, а ўсю выразнасць дэкарацый падпарадкоўваў рэжысёрскай задуме, яго мізансцэніраванню. Бо менавіта мізансцэнічныя планы рэжысёра прадыктавалі мастаку шматлікія элементы сцэнаграфічнага рашэння. З рэжысёрскімі мізансцэнамі ўзаемадзейнічаў і кампазітар, вызначаючы музычнае гучанне спектакля. Вынікам гэтай працы стаў яркі, маляўнічы спектакль.

Такім чынам, мізансцэна — гэта перш за ўсё спосаб перадачы гледачу складанай гамы эмацыянальных пачуццяў, якія нараджаюцца на сцэне. У п'есах, асабліва рускай класіцы, аўтары ў рэмарках ужо прапануюць вобразныя мізансцэны (А. Астроўскі, М. Горкі, А. Чэхаў, М. Гогаль). Асабліва ярка, на наш погляд, выпісана фінальная мізансцэна ў «Рэвізоры». З'яўляецца жандар і дакладвае: «Чыноўнік, які прыехаў па імянным наказе з Пецярбурга, патрабуе вас (звяртаецца да губернатара. — **М. С.**) зараз жа да сябе. Ён спыніўся ў гасцініцы». Далей Мікалай Васільевіч апісвае нямую сцэну, знаходзячы для кожнага персанажа становішча цела і выраз твару. Шокавы эфект паведамлення фельд'егера драматург прапануе паказаць мізансцэніраваннем — хто расставіў ногі і адкрыў рот; хто сагнуўся, ператварыўшыся ў пытальнік; хто, ускінуўшы рукі, нібы прамаўляючы: «Вось табе, бабуля, і Юр'еў дзень!» Фінальная сцэна, па задуме Гогаля, павінна быць нерухомай і «нямой» паўтары хвіліны. Гэта «нейкая закамянеласць», па меркаванні пісьменніка, павінна зрабіць на гледача катарсісны эфект — суцягі і хабарнікі будуць пакараны. На працягу стагоддзя ў розных тэатрах свету геніяльная гогалеўская мізансцэна застаецца нязменнай. Прыдумаць штосьці больш эфектнае нават у знакамітых рэжысёраў пакуль не атрымоўваецца…

Мой хаця і невялікі, але практычны рэжысёрскі досвед пацвярджае думку, што якім бы ні быў вялікім і змястоўным лёс рэжысёрска-пастановачнай работы, у канчатковым выніку характар-вобраз «лепіць» акцёр, ролю іграе ён сам. З вялікай колькасці людзей, якія супрацоўнічаюць з рэжысёрам, удзельнічаюць у стварэнні і «абслугоўванні» спектакля, толькі акцёры прадстаўляюць яго на суд гледача, вядуць з ім дыялог. Але рэжысёр павінен заставацца рэжысёрам. Тып яго творчага натхнення адмысловы, нават падчас дзясятага, а то і дваццатага паказу ён будзе напружана ўслухоўвацца ў дыханне залы, каб потым унесці нейкія папраўкі, дапрацоўкі, удакладненні. Бо толькі рэжысёр, з'яўляючыся аўтарам пастаноўкі, верыць, што тэатральны спектакль — гэта адзінства акцёра і гледача. Колькі было выпадкаў, калі за дрэнныя паводзіны заўзятараў не пускалі на стадыён — і тады майстры футбола адмаўляліся ад гульні, бо няма больш суровага пакарання і выпрабавання, чым гуляць пры пустых трыбунах ці без дыхання залы. Рэжысёры гэта ведаюць.

Ці пакутуюць дырэктары і іх намеснікі, адміністратары і розных узроўняў кіраўнцы культуры ад пустых залаў? Мае назіранні паказваюць, што не ўсе. Мяркую, што ў перыферыйных тэатрах (у сталічных такой праблемы няма), калі зала запоўнена менш як на 50 %, то ці спектакль дрэнны, і яго неабходна здымаць з пракату, ці гэта вынік нікчэмнай працы адміністрацыі, ці адсутнасць рэкламы, ці іншая якая праблема, але толькі не тое, што датычыцца творцаў. Здзекавацца з такіх людзей мы не маем права.

Мікалай Рэрых раіў маладым мастакам: «Глядзіце толькі на справу сваю і працу сваю, а не на плады яе. Плады ўбачаць і ацэняць іншыя...» Сёння ўжо немагчыма прыцягнуць увагу публікі толькі экстравагантнай тэмай, пэўнасцю малюнка фрагментаў рэальнага жыцця. Неахвотна ідзе глядач на ўсялякія эратычныя прынады ці крывавыя разборкі. У чым тут парадокс? Змяніліся людзі? Памяняліся сацыяльна-эканамічныя, духоўныя прыярытэты? Ці наш тэатр не «даганяе» час? Але чытаем у вялікага паэта, драматурга, глыбокага знаўцы сцэнічнага мастацтва Лопе дэ Вега:

> «Публика, конец предвидя пьесы,
> Бежит к дверям и обращает спины,
> К тому, чего так долго ожидала…»

Гэтыя крыўдныя для служыцеля сцэны «ўцёкі» мне даводзілася назіраць у тэатрах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Кіева. А вось у тэатрах Чэхіі, Вільнюса і Бабруйска падобныя ўцёкі не адбываюцца. Чаму? Я адмыслова праблему ўзаемаадносін тэатра і гледача не вывучаў, але… «Мы ўчора былі ў тэатры, а вы чаму не былі там?..»

Невялікі кантынгент праўдзівых аматараў тэатра, якіх ледзь хапае на пяць-сем паказаў прэм'ернага спектакля, з'яўляецца нашым упаўнаважаным у сістэме творчага працэсу. А яшчэ ў школах і гімназіях Бабруйска дзейнічаюць тэатральныя студыі, драматычныя гурткі і класы культуры маўлення і выразнага чытання. Кіруюць імі нашы акцёры і рэжысёры. Дык хіба бягуць ад тых, хто жадае вам дабра, хто ўводзіць вас у свет духоўнага адзінства і гармоніі?

Хачу падзяліцца з чытачом адным асабістым адкрыццём. Неяк у Эрмітажы мне пашчасціла спыніцца каля карціны «Таемная вячэра» Мікалая Ге (1863 г.). Шырокавядомы і ладна зацёрты сюжэт. А тут раптам адкрыццё. Адкрыццё Юды. Бо якім мы ўяўляем гэтага чалавека — прагны, падступны, подлы здраднік. У Ге Юда выпісаны на першым плане яркімі фарбамі. Ён спыняе ўвагу, зачароўвае. Яго постаць — высакародная, але ў твары — разгубленасць… Чаму? Паступова пранікаючы ў задуму мастака, пачынаеш разумець, што перад табой знявераны чалавек. Яго збянтэжанасць апраўдана, бо ён страціў пачуцці да таго, каму верыў...

Мой бацька належыць да цікавага кола навукоўцаў-тэатразнаўцаў, у якое ўваходзяць і тэатральныя крытыкі. Я спазнаваў тэатр праз яго кнігі і артыкулы, прысутнічаў на сустрэчах-гутарках з яго настаўнікамі і калегамі. І вось цяпер, грунтуючыся на сваім невялікім тэатральным досведзе (ды і не толькі на сваім), вымушаны з горыччу канстатаваць: з сыходам карыфеяў жанру — У. І. Няфёда, А. В. Сабалеўскага, С. А. Пятровіча, Т. Ц. Мудрогінай, А. К. Саннікава, Б. І. Бур'яна ды іншых — планка прафесіяналізму значна знізілася (як па форме, так і па змесце). У крытыку павалілі журналісты — напорыстыя і ўсёедныя. Некаторым усё адно, пра што пісаць: пра тэатральны спектакль (драматычны, лялечны, оперны, балет), пра літаратурныя, музычныя адкрыцці ці пра жывёлагадоўчы комплекс у калгасе імя Урыцкага. Калі з-за немагчымасці фінансавання распалася секцыя тэатральнай крытыкі Саюза тэатральных дзеячаў РБ, аналітычныя разважанні, артыкулы, рэцэнзіі з друку сышлі зусім. Пасля з'яўлення ў рэспубліцы фестывальнага руху, калі амаль у кожным аблдрамтэатры дзейнічае так званы «міжнародны» праект («Славянскія тэатральныя сустрэчы» (Гомель), «Маладзечанская сакавіца», «Март-Кантакт» (Магілёў), «Пінскія зоры», «Нацыянальная драматургія» (Бабруйск), «Белая вежа» (Брэст), «ТЕАРТ» (Панарама), «Лялечны фестываль», «Нацыянальная прэмія» (Мінск)), крытыкі-журналісты, падзяліўшыся па інтарэсах і сімпатыях, пачалі абслугоўваць гэтыя мерапрыемствы. Іх паставілі на «забеспячэнне» таго ці іншага тэатра — і яны зрабіліся ангажаванымі. Безумоўна, мае думкі не распаўсюджваюцца на ўсіх служыцеляў тэатразнаўчай навукі. Сусветная гісторыя мастацтвазнаўства пакінула нам унікальныя ўзоры прафесійных адносін крытыкі з тэатрам. Вісарыён Бялінскі, калі ўжо быў вядомым літаратурным крытыкам, перш чым напісаць артыкул пра Мачалава, наведаў спектакль «Гамлет» у Малым тэатры *адзінаццаць разоў*. І кожны раз, на новым праглядзе, ён адкрываў штосьці новае і ў сцэнічным малюнку, і ў ігры акцёра. Гэта адкрыццё працягвалася, пакуль крытык не ўбачыў жаданага *зліцця* акцёра з роляй. І тады ён усклікнуў: «Якая невычэрпнасць у выразных сродках! Якое чароўнае натхненне!» А потым у рэцэнзіі, паслядоўна аналізуючы творчасць вялікага трагіка, крытык дзякуе тэатру і акцёру «за некалькі глыбокіх узрушэнняў, за некалькі салодкіх хвілін захаплення».

**«Стаўлю п'есу». Навошта стаўлю? Ды каб яна пайшла да гледачоў. А «пайсці» яна зможа толькі тады, калі стане**

Прафесійнае стаўленне Бялінскага да тэатральнага мастацтва і яго служыцеля мы назіраем і пры аналізе ігры карыфея александрынскай сцэны Васіля Каратыгіна ў ролі Карла Мора («Разбойнікі» Ф. Шылера). «...Глядзіце на яго ігру, вы няспынна здзіўлены, але ніколі не крануты, не ўсхваляваны... Я бачыў сп. Каратыгіна некалькі разоў і не вынес з тэатраніводнага моцнага руху душы...» А далей вялікі аналітык-Бялінскі саступае месца эмацыйнаму, усхваляванаму гледачу-Бялінскаму: «... Як жа так — ніводнага слова, ніводнага маналога, ад якога б затахкала сэрца, падняліся дубка валасы,

**Ці пакутуюць дырэктары і іх намеснікі, адміністратары і розных узроўняў кіраванцы культуры ад пустых залаў? Назіранні паказваюць, што не ўсе**

вырваўся цяжкі ўздых, навярнулася б на вачах сляза захаплення, ад якога б затрымцеў сутаргава глядач, кінула б яго ў дрыжыкі і жар!..» І далей зноў разважанні геніяльнага крытыка: «Не, не так прамаўляе гэты маналог акцёр Мачалаў: у яго вуснах гэта лава ўсёпаглынальная, гэта чорная хмара, якая раптам разрадзіцца громам і маланкаю, а не прыдуманыя загадзя тэатральныя штучкі».

Гэтыя крытычныя меркаванні праз восемдзесят гадоў спатрэбіліся Станіслаўскаму — каб тое, што было назапашана ў мінулым, звесці ў адзіную сістэму. Ігру Мачалава, Каратыгіна, іх сучаснікаў і паслядоўнікаў ён назваў «уяўленнем». *«Такая творчасць прыгожая, але не глыбокая, яна больш эфектная, чым моцная; у ёй форма цікавей за змест; яна больш дзейнічае на слых і зрок, чым на душу, і таму яна хутчэй захапляе, чым узрушае»* (курсіў наш. — **М. С.**).

Шмат фактаў добрасумленнага стаўлення крытыкі да сцэнічнага мастацтва мы знаходзім і ў гісторыі беларускага тэатразнаўства. Артыкулы У. І. Няфёда, А. В. Сабалеўскага, А. А. Лабовіча, С. А. Пятровіча, Ю. М. Сохара, В. М. Ярмалінскай, Р. Б. Смольскага, Т. Я. Гаробчанкі, Р. І. Баравіка, В. А. Салеева прыцягваюць прафесіяналізмам і любоўю да майстроў сцэны, глыбокай зацікаўленасцю ў развіцці тэатральнага мастацтва Беларусі. Праца крытыкаў, увогуле, вельмі другасная. Яны нічога не ствараюць, а толькі ў залежнасці ад асабістай адукаванасці і грамадзянскай пазіцыі канстатуюць тое, што адбылося. Дык як жа тонка і сапраўды аб'ектыўна павінна выкладацца гэта крытычная думка, каб не разбурыць узаемнага імкнення, дапамагчы гледачу дакладна адчуць і зразумець мастацтва тэатра ў розных аспектах яго дзейнасці.

Не экзаменуючы чытача, а проста дзеля цікавасці, жадаю назваць некалькі прозвішчаў: Аллер, Цілічан, Валчэцкі, Стэльмах, Гусеў, Вавула, Манохін, Асвецінскі — хто гэта? Ці Барадзін, Клёсава, Кавальчук, Васільеў, Дубровін, Каландзёнак?.. У першым пераліку — дырэктары рэспубліканскіх і абласных тэатраў 1960—1970 гадоў. У другім — начальнікі абласных, гарадскіх і рэспубліканскіх упраўленняў Міністэрства культуры таго ж перыяду. А вось яшчэ імёны: Ларыса Александроўская — мастацкі кіраўнік тэатра оперы і балета БССР; Еўсцігней Міровіч — рэжысёр, мастацкі кіраўнік БДТ-1, заснавальнік тэатральнага вучылішча і інстытута; Канстанцін Саннікаў — галоўны рэжысёр і мастацкі кіраўнік тэатра імя Янкі Купалы; Любоў Мазалеўская — галоўны рэжысёр ТЮГа; Саламон Казіміроўскі — галоўны рэжысёр тэатра імя Якуба Коласа (Віцебск); Віктар Каралько — галоўны рэжысёр Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі (Бабруйск); Іосіф Папоў — галоўны рэжысёр Гомельскага і Гродзенскага аблдрамтэатраў; Георгій Волкаў — галоўны рэжысёр Брэсцкага аблдрамтэатра.

Як заўважыў у свой час тэатразнаўца А. В. Сабалеўскі, «у 1950 годзе тэатральнае мастацтва развівалася ў арэале вучэння Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі, але часам наследваўся не творчы дух неўміручай спадчыны, а яе літары, і тым самым адбылася дэвальвацыя іх запаветаў, вучэння. У канцы 1960-х гадоў была рэабілітавана творчая спадчына Меерхольда, і 1960—1970-я гады прайшлі ў нашым тэатры пад знакам яго імя. Наследвалі, аднак, не толькі метады і прынцыпы майстра, але і прыёмы, формы, выпрацаваныя ім для канкрэтнага часу і канкрэтных твораў. Змяніліся кірункі, плыні, перыяды "ціхага" тэатра акцёрскага, перыядамі "гучнага" тэатра рэжысёрскага, а ў канцы 1970-х гадоў і асабліва ў 1980-я гады пошукі зноў скіраваліся ў рэчышча псіхалагічнага рэалізму — тэатр стаў адраджацца…»

А што далей?

У перабудовачы перыяд тэатр неяк неўпрыкмет ператварыўся ў «дырэктарскі», з усімі наступствамі. Але калі раней дырэктары неяк «сціпла сябе паводзілі», разумеючы, што галоўнай постаццю ў тэатры павінны быць людзі, якія ствараюць, то ў апошнія гады іх тактыка рэзка змянілася. Сёння ў асяроддзі дырэктарскага корпуса і ў сферы кіраўнікоў культуры гарадскога і абласнога

звянаназіраецца нічым не апраўданая фанабэрыя. Менавіта творчыя асобы прыгнятаюцца, мімаволі становячыся паслугачамі гэтых заганных з'яў.

На мой погляд, у пераліку найбольш важных праблем сучаснага тэатра — статус гэтага відовішчнага прадпрыемства. Чый ён, хто яго фінансуе, кіруе, ажыццяўляе метадалагічную падтрымку? Думаць над пастаўленым пытаннем доўга не будзем. Практычна ўсю гэту работу ажыццяўляе дзяржава і яе службоўцы, чыноўнікі. Мяркую, што надышоў час без мітусні, напору і кампанейшчыны выводзіць некаторыя тэатры, асабліва ў малых гарадах (Пінск, Слонім, Мазыр, Бабруйск), а таксама планаваныя (Полацк, Баранавічы, Нясвіж) са статусу «дзяржаўных». Хоць справа гэта тонкая, далікатная і паступовая — яе трэба ўвасабляць. Спачатку гэта павінна быць арэнда гарадскога ці абласнога тэатра адным ці групай заснавальнікаў, з фінансавай падтрымкай дзяржавы і фундатараў (мецэнатаў) — банкаў ці буйных прадпрыемстваў. А затым, з гадамі, плаўна пераходзіць на «самаабслугоўванне», на свой хлеб. І не трэба палітыкам і featureрознага ўзроўню чыноўнікам адразу адмахвацца, баючыся ідэалагічнай і антымастацкай вольніцы — яе не будзе. Чаму ў суседзяў — Расіі, Украіне, дзяржавах Балтыі, Польшчы — побач з дзяржаўнымі цікава развіваюцца і прыватныя тэатры-студыі, тэатры-школы, тэатры-лабараторыі?

Чаму наш тэатр у апошнія гады страціў сваю «храмавасць», калі можна так сказаць? Сапернікі псіхалагічнага тэатра (на жаль, такіх нямала) настойліва ўкаранялі ідэю пра тое, што сучаснае тэатральнае мастацтва павінна адказваць умовам навукова-тэхнічнага прагрэсу. Гэта значыць, быць камунікабельным, каб з ім можна было лёгка і проста мець зносіны. А даступна — значыць, будзённа, без святочнасці і святасці. Мэта была дасягнута: скараціўся час спектакляў, зніклі антракты, а з імі — сустрэчы, знаёмствы, таямнічасць, саборнасць. Сышла святочнасць. Да тэатра перасталі рыхтавацца — апранаць уборы, рабіць прычоскі. У тэатр сталі забягаць, каб трошкі адцягнуцца ад паўсядзённага, адпачыць. Гэта нарадзіла дрэнны лозунг: «Які попыт, такая і прапанова». Кошт на мастацтва тэатра ўпаў, і яно страціла сваю вышыню, асабліва на перыферыі. Што рабіць?..

Перакананы, талент тэатральнага рэжысёра можа развівацца толькі там, дзе існуе творчая культура. Але ў асяроддзі адваротным ён змарнее...

Падобнае ў беларускай тэатральнай гаспадарцы адбываецца ўжо гадоў дзесяць, але ў апошнія гады рэжысёр стаў самай неабароненай постаццю. За рэдкім выключэннем (тэатр оперы і балета, тэатр імя Янкі Купалы, імя М. Горкага, «Новы тэатр», тэатр музычнай камедыі і некалькі перыферыйных, дзе дырэктарамі працуюць прафесіяналы) творчыя калектывы ўзначальваюць людзі, не здольныя думаць у інтарэсах ні мастацтва, ні гледачоў, ні дзяржавы. Асабістыя інтарэсы — іх звышзадача. А каб ніхто не перашкаджаў, яны літаральна выціскаюць з творчага асяроддзя галоўных рэжысёраў, цалкам падпарадкоўваючы сваім карыслівым мэтам трупу, робяць акцёраў бязвольнымі прыгоннымі.

Такім чынам, абапіраючыся на свой рэжысёрскі вопыт і асабістыя назіранні, жадаю зрабіць некаторыя рэкамендацыі тым, хто ўжо стаў на шлях рэжысёрскай творчасці ці марыць па ім ісці. Майце на ўвазе, сябры, шлях гэты надзвычай цярністы, патрабуе неймаверных фізічных, маральных і нервова-псіхалагічных затрат. Кволы здароўем хай у гэты цэх нават не спрабуе ісці — надарвецца і загіне. Я нават не буду пералічваць, ад чаго тут гінуць — фактараў велізарная колькасць.

* * *

Пры вырабе дэкарацый да спектакля «Нерон» захварэў зваршчык. Тэрміны выпуску пастаноўкі зрываюцца. Што рабіць? Я «зняў касцюм галоўнага рэжысёра», апрануў робу — і за двое сутак зварыў сцэнаграфічныя канструкцыі. Увесь калектыў тэатра прыходзіў глядзець на такое дзіва. Зварачную справу я асвоіў падчас службы ў войску. Гэта да таго, што рэжысёр павінен умець рабіць штосьці яшчэ, акрамя пастаноўкі спектакля. Іншымі словамі — ён павінен умець зарабляць сабе на хлеб не толькі як рэжысёр.

Можа спатрэбіцца. 

Ганна МОЎЧАН

# КАЛЫХАНКІ ДЛЯ КАХАНКІ

## *Сучасныя трансфармацыі старога жанру*

Музыкі і паэты апошнім часам выдаюць усё больш твораў з паметай «калыханка», а таксама кружэлак з аднайменнымі песнямі. Калі ж прааналізаваць творы-калыханкі канца XX — пачатку XXI стагоддзя, то можна выявіць шэраг асаблівасцей у параўнанні з класічным вызначэннем жанру і выказаць меркаванне пра мадыфікацыю гэтага фальклорнага жанру ў сучаснай беларускай паэзіі.

Паводле «Тэорыі літаратуры ў тэрмінах» В. Рагойшы калыханка — гэта «адзін з жанраў дзіцячай літаратуры, простая паводле зместу і выяўленчых сродкаў пяшчотная песенька, пад якую маці закалыхвае дзяцей». Калыханкі характарызуюцца «ўтылітарна-практычнай функцыяй» — супакоіць дзіця, угаварыць яго спаць, таму даследчык Барташэвіч адносіць жанр да «матчынай школы», «паэзіі пеставання». Нягледзячы на тэматычную разнастайнасць, калыханкі амаль заўсёды адрасаваны дзіцяці, пра што сведчыць выкарыстанне яго імя. Разам з тым у песнях сустракаюцца звароты да такіх персанажаў, як галубы, куры, зайкі і, вядома, кот. Апошні з’яўляецца галоўным персанажам беларускіх калыханак. У выданні «Беларуская народная паэтычная творчасць» гэта тлумачыцца тым, што «ні адна сялянская хата не абыходзілася без ката, ён быў першай жывой істотай, праз якую дзіця пачынала знаёмства з жывёльным светам». Таму і назіралася паэтызацыя ката, казачная абмалёўка вобраза.

Сучасныя калыханкі маюць новага адрасата, нясуць новае напаўненне і адрозніваюцца кампазіцыйнай будовай. Умоўна іх можна падзяліць на некалькі груп, пры гэтым галоўнымі крытэрыямі размеркавання варта лічыць змест і адрасата.

**Створаныя для дзяцей літаратурныя калыханкі.** Да гэтага віду адносяцца творы Р. Барадуліна «Будзільнік», «Ціха ноч ступае», Л. Дранько-Майсюка «Калыханка-лічылка», «Давыд-Гарадоцкая», А. Кавалеўскага «Калыханка для вулкана», А. Камоцкага «Кожны вечар», «Спі, мая кветачка», У. Шведа «Спі, Наталька». Гэта група амаль цалкам адпавядае традыцыйнаму вызначэнню жанру, таму, напрыклад, мы часта сустракаем выкарыстанне зваротаў да дзіцяці:

Маці спявала:
«***Сынку, Іванку,***
Ты па моры плаваў
Залаценькім ранкам.
*(Л. Дранько-Майсюк)*

У вершы А. Камоцкага дастаткова незвычайным з’яўляецца зварот *самога дзіцяці* да бацькоў, лялек і традыцыйнага персанажа калыханак — ката:

Спіце, спіце, ***лялькі-цацкі***,
Спі, ***мой кот Максім***.
Спі, ***матуля***, разам з таткам,
Добрай ночы ўсім.

Яшчэ адной асаблівасцю гэтай калыханкі з’яўляецца тое, што яна насычана рэаліямі сучаснага гарадскога жыцця:

Спяць званкі ў тэлефоне,
У кране спіць вада (...)

Хоць мы і заўважаем традыцыйнага для калыханак персанажа — ката, але ён не надзяляецца казачнымі рысамі, не з’яўляецца ўдзельнікам прыгод. Гэта яшчэ больш выразна праяўляецца ў вершы У. Шведа «Спі, Наталька», дзе ўвогуле ідзе гаворка пра плюшавага ката. У калыханку ж А. Камоцкага ўведзены і папулярныя ў апошнія часы персанажы японскіх мультфільмаў:

Са здзіўленнем пакемоны
Сны свае глядзяць.

Адпавядаюць калыханкі і патрабаванням жанру па гучанні, таму ў некаторых з іх выкарыстоўваюцца ці прыпевы, ці традыцыйныя прыпеўкі. Асобныя творы маюць своеасаблівае гукавое афармленне, што выражаецца праз выкарыстанне алітэрацыі:

*Свой пакінуў сонны трон*
*Сонаў сын, самотны сон.*
*Не спыняецца нідзе,*
*Добрых дзетак спаць кладзе.*
*(Р. Барадулін)*

**Гумарыстычна-іранічныя калыханкі.** Гаворку пра гэты тып калыханак можна распачаць вершам Адама Глобуса «19.30 — Калыханка». Назва тут не з'яўляецца вызначэннем формы твора, а вылучае аб'ект, выносіць праблему ў назву:

Над мікрараёнам лунаў
Напеў электронна-дрогкі;
Лавілі антэнныя рогі
Другі, беларускі канал;
Экранная калыханка
Плыла ў папяровым лесе;
Мігцеў пластылінавы месяц,
Працяты тэлемаланкай.

Аўтар выкрывае адмоўную рысу калыханкі нашага часу, называючы яе «экраннай», пазбаўленай жывога слова, характарызуючы напеў як «электронна-дрогкі». Можна сказаць, што тут прысутнічае сатырычны элемент, які дазваляе А. Глобусу выкрыць сучасныя асаблівасці калыханкі, бо ў свядомасці чытача падчас знаёмства з назвай складваецца ўражанне, быццам яго будуць закалыхваць, супакойваць, а ў выніку атрымліваецца адваротнае.

Элементы гумару заўважаюцца ў творы «Тры танкісты выйшлі з танку...» В. Бурлак. У межах верша пэўны фрагмент падаецца пад вызначэннем калыханкі:

Тры танкісты выйшлі з танку
І спяваюць калыханку:
Ціха-ціхенька ляжы,
Як памежнік на мяжы.
Не палохайся чужынцаў —
Гэта толькі муляжы.

Гумарыстычным элементам тут з'яўляецца сумяшчэнне такіх супрацьлеглых паняццяў, як «танкісты», «танк» — і «калыханка». У гэтым творы заўважаецца выкарыстанне алітэрацыі, што характэрна для традыцыйнай калыханкі.

Таксама надае напеўнасць выкарыстанне слова «ціха», якое другі раз паўтараецца з памяншальна-ласкальным суфіксам: «ціхаціхенька ляжы» (што з'яўляецца цытатайадсылкай да вядомай песні з тэлеперадачы).

Гумарыстычна-іранічным зместам насычаны верш «Блякнуць знакі Задыяку» А. Хадановіча, які таксама перагукаецца са знакамітай калыханкай, пад якую доўгі час засынала вялікая колькасць маленькіх беларусаў. Аўтар рыфмуе ў творы рэаліі беларускага жыцця, прозвішчы знакамітых людзей і вядомых беларускіх брэндаў:

На ляту заснула гусь,
дрэмле трактар «Беларусь»,
спіць на фабрыцы станок,
спяць Ханок і Лучанок.

Большая іронія назіраецца ў страфе, калі А. Хадановіч выкарыстоўвае цытаты з калыханкі Г. Бураўкіна — «спяць машыны ў гаражы» і «збеглі зайкі ўсе ў лясы» — побач з вобразамі зусім іншай «узроставай катэгорыі»:

Спяць машыны ў гаражы,
спіць бамжыха на бамжы,
збеглі зайкі ўсе ў лясы —
засынай і ты, касы!

Аднак верш Хадановіча падаваўся б залішне простым, калі б быў толькі іранічным, бо апошняя страфа, лірычная і тужлівая, надае твору своеасаблівы настрой. Радкі «Хутка й любая засне. / Як заўсёды, без мяне» скіроўваюць увагу да ўнутранага стану лірычнага героя, які з горкай іроніяй глядзіць і на сваё палажэнне «бездапаможна закаханага», што і тлумачыць яго погляд на свет. Хаця вобраз «любай» і сустракаецца толькі напрыканцы твора, але з'яўляецца настолькі моцным, што дазваляе размясціць твор на памежжы з групай калыханак інтымных, калыханак пра каханне.

**Калыханкі для каханых.** Інтымная лірыка па сваёй настраёвасці вельмі набліжана да калыханак, бо каханне паміж мужчынам і жанчынай, як і адносіны дзіця з маці, характарызуюцца найбольшай блізкасцю, што і спрыяе выяўленню пяшчоты. Таму, верагодна, А. Хадановіч у вершы «Пішу вам з yahoo на tut.by» ператварае простую фразу «лісты Вам шлю» ў прыпеўку калыханкі, дасягаючы звышмэты — набліжаецца да каханай у духоўным, пачуццёвым разуменні:

Ды зноўку не засну ўначы,
Вам калыханку пеючы:
Лісты Вам шлю, ***лісты-Вам-шлю-лісты-Вам-шлю-лі... люлі... люлі...***

Ужо назва твора «Пішу вам з yahoo на tut.by» падкрэслівае, што адрасат і адрасант ліста не проста не побач па жыцці: нават у сеціве яны карыстаюцца рознымі пляцоў-

камі для пошты. На працягу ўсяго верша лірычны герой спрабуе ўсталяваць кантакт («Вам адначасна шлю лісты / й званю па хатнім — не выходзіць»), але напрыканцы твора адбываецца кантакт з каханай, і гэта нават не сустрэча — гэта калыханка.

У вершы «Калыханка» са зборніка «Тамсама» В. Кустава ўжо праз назву настройвае чытача на асаблівае ўспрыняцце твора, што, безумоўна, падтрымліваецца вобразнымі сродкамі ў самім тэксце. Аднак у гэтым прыкладзе калыханка выкарыстоўваецца як фон, каб задаць агульны настрой, таямнічасонны, які складваецца ў нашай свядомасці, дзякуючы вопыту пакаленняў, бо сон — гэта стан чалавека паміж жыццём і нежыццём, паміж рэальным і нерэальным.

Такі пераход ад няспання да сну яшчэ больш удала, на змястоўным узроўні, праяўляецца ў «Калыханцы для дарослых» М. Анемпадыстава, радкі якога нагадваюць плынь свядомасці, калі спрабуеш ні пра што не думаць, але ў гэты ж час думаеш пра галоўнае. Увесь твор, акрамя апошняга радка, складаецца з пытальных сказаў, але гэта хутчэй рытарычныя пытанні, якія не патрабуюць адказу, гэта пытанні-ўспаміны, якія набываюць асаблівую напружанасць праз паўтарэнне канструкцыі «Ці помніш ты», але гэты рэфрэн адначасова дапамагае дасягнуць большай меладычнасці, манатоннасці (можна нават сказаць, што ён выконвае функцыю прыпеваў у калыханках):

Ці помніш ты, як потым дадому
Вярталіся ранкам а пятай гадзіне?
Ці помніш ты, як мала мы спалі?
Ці помніш ты, як шмат мы прыснілі?

Ці памятаеш? Ці памятаю?
Цішэй, калі ласка, я засынаю...

**Філасафічна-медытатыўныя калыханкі.** Да гэтага тыпу калыханак можна аднесці вершы В. Трэнас, В. Куставай і Л. Дранько-Майсюка. Найбольш узорным з гэтых прыкладаў з’яўляецца «Калыханка для Бога» В. Куставай. Верш напісаны лёгка, напеўна, меладычна, тут сустракаецца класічны прыпеў «баю-бай», паэтка выкарыстоўвае дастатковую колькасць зваротаў, хаця адрасатам з’яўляецца сам Бог:

Баю-баю, мой Гасподзь…
Сон да Божанькі прыходзь…
Спі, Нябёсны Вартаўнік…

Асаблівасцю твора з’яўляецца выкарыстанне элементаў дыялогу, які раскрывае нам два вобразы (дзяўчо і Бог) праз рэплікі шчырай, адкрытай размовы. Асабліва моцным, месцам верша з’яўляецца, як падаецца, апошні радок, які вызначае ролю Бога, веры не проста для прыватнага жыцця, але і для ўсяго свету:

Бог заснуў. І свет наш знік.

Наватарствам адрасата вылучаецца і «Калыханка для душы» Л. Дранько-Майсюка. Тут можна казаць пра імітацыю імправізацыйнасці: калыханка — гэта той жанр, які амаль кожны раз можа ствараецца наноў, бо звычайна на пэўны песенны матыў накладваліся словы-думкі. Аўтар малюе пейзаж словамі, чым і закалыхвае душу:

За вакном не гамоняць таполі,
Не крычаць за вакном жураўлі…
Для душы калыханку ніколі
Не спявалі яшчэ на зямлі.

Калыханка патрэбна душы, бо аўтар характарызуе яе як «самотную», якой патрэбен спакой. Такім чынам, можна казаць пра прыхаваную за простымі словамі вялікую праблему чалавечай душы, якая заўсёды знаходзіцца ў пошуку, таму і патрабуе вялікай увагі і, безумоўна, адпачынку.

«Калыханка» Вікі Трэнас адрозніваецца па форме ад папярэдніх прыкладаў, бо для Трэнас назва вызначае ў першую чаргу настрой твора, стварае атмасферу паўсну. Пры гэтым паэтка таксама звяртаецца да вобраза Бога, які сочыць за чалавекам:

Сціплы бог паглядаў адрачона, як спіць чалавек.

Такім чынам, відавочна, што сёння назіраецца тэндэнцыя да пашырэння жанравых межаў «літаратурнай» калыханкі. Калыханкі, адрасаваныя дзецям і дзіцячыя па змесце, працягваюць выконваць асноўную функцыю — закалыхаць, прымусіць спаць, а таксама праграмуюць на людскае жыццё, у чым працягваюць фальклорную традыцыю. Разам з тым, па-першае, з’яўляюцца новыя адрасаты (мама, Бог, душа), па-другое, пашыраецца колькасць вобразаў праз увядзенне папулярных сёння персанажаў. А галоўнае, што ў наш час калыханка ўсё больш успрымаецца не толькі як від дзіцячай паэзіі, так званай «паэзіі пеставання», але выкарыстоўваецца ў філасофскай, інтымнай лірыцы. 

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# ЗАМОВЫ І ЗАБАВЫ

*ZАмовы: паэзія, проза, драматургія, пераклады: зб. студэнцкай творчасці / уклад. В. У. Барысенка. — Мінск : Ковчег, 2012. — 142 с.*

***Анталогіі студэнцкай творчасці сёння не рэдкасць: кожны ўніверсітэт мае ўласнае літаратурнае аб'яднанне, якое так ці іначай спрабуе ўдзельнічаць у так званым «літаратурным працэсе», а папросту — прыносіць вершы і не толькі вершы, слухае чужыя творы, імкнецца надрукаваць свае. Пры шчаслівым збегу абставін гэтыя творы могуць быць выдадзены ў кнізе. Параўнальна нядаўна выйшаў першы выпуск «Альтанкі», альманаха літаратурнага гуртка пры філфаку БДУ (укл. І. Багдановіч) і вось новае выданне — «ZАмовы».***

Назва абрана вельмі ўдала: апрача таго, што выдавец — Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт — даўно асацыіруецца ў тубыльцаў з замежнымі мовамі, тут ёсць яшчэ і адсылка да найбольш таямнічага і паэтычнага фальклорнага жанру, магічнай сутнасці і функцыі паэзіі.

Пра яе, паэзію, і пагаворым.

У зборніку апублікаваны 52 вершы 19 аўтараў. Творы, зразумела, вельмі розныя па сваёй якасці. Падборкі таксама неаднолькавыя — лепшым паэткам (хлопец-паэт знайшоўся толькі адзін), відавочна, адведзена больш месца. Аднак гэта не азначае, што аўтары, прадстаўленыя толькі адным вершам, заўсёды прайграюць. Часам адзін верш больш важкі за падборку. У выпадку з гэтай кнігай лепш было б гаварыць, канешне, пра добрыя радкі, чымся ўласна вершы. Але і выключэнні здараюцца.

Хаця — пра ўсё па парадку і з пачатку.

Верлібры Наталлі Бінкевіч, якія адкрываюць зборнік, імітуюць умоўную асацыятыўнасць Танка, аднак канцоўкі абодвух прадстаўленых вершаў выглядаюць дужа экспрэсіўна: «Чалавек старэе, / Калі наступае восень… // Для таго, каб увесну нарадзіцца / Зноў!!!»; «Мне трэба знайсці сваё месца / Пад Сонцам!» Трэба адзначыць, што гэтага месца пад сонцам можна і не знайсці, калі сумяшчаць танкаўскі медытатыўны канон з трыма клічнікамі. Тут трэба выбіраць нешта адно — альбо медытацыю, альбо лозунгавыя экспрэсіяніскія штудыі а la Ален Гінзберг.

Яўгенія Гетманчук у сваім традыцыйным сілаба-танічным чатырохстопным ямбе ўзнімае такую ж традыцыйную тэму вайны. Пісаць пра яе добра сёння вельмі цяжка. Па-першае, мадэлі верша на ваенную тэматыку ўсе ўжо, відаць, выкарыстаны, і таму вельмі лёгка будзе ссунуцца ў штампы. Па-другое, уласна класічнае сілаба-танічнае вершаванне сёння перажывае глыбокі крызіс, які магчыма пераадолець толькі дакладным выкарыстаннем моўных сродкаў альбо, наадварот, — «філіграннным мадэрнізмам». Калі глядзець на верш «Вайна», то ні той, ні другі варыянт тут не прыжыўся. Разгорнутая метафара вайны, якая «ідзе па горадзе скалечаным» (вядомы ў сусветнай паэзіі прыём), занадта перагружана: «І ёй адно: зялёны парастак / Ці позірк выцвілых вачэй, / І чутна — стогн жывых пад шнарамі, / Маўчанне мёртвых — ім лягчэй».

А вось пра Еву Гілевіч можна сказаць у гэтым плане адваротнае. Тут разгорнутыя метафары і параўнанні пачуваюцца ў вершах вельмі добра. Напрыклад, снягі — «коўдра травам, галінкам — пальчаткі, / Усім дрэвам, кустоўю — валёнкі й шапкі, / Усім дахам — сукенкі, жывёлінам — хаткі, / Азёрам і рэкам — сурдуты й тапкі». Адхіснуўшыся ад шчырай замілаванасці гэтымі «тапкамі», варта зазначыць, што аўтарка неахайная ў сваіх рыфмах і вершаваных памерах. Тое самае і ў лексіцы: «Ты — пра *то*, што высокія гмахі / Укроў падрапалі крылы твае»; «Маё сэрца назаўсёды / *Аддано* гэтай зямлі!»; «Болей ты не

**Класічнае сілаба-танічнае вершаванне сёння перажывае глыбокі крызіс, які магчыма пераадолець толькі дакладным выкарыстаннем моўных сродкаў альбо, наадварот, — «філігранным мадэрнізмам»**

чакай — / Не вярнуся на *Зямлю*». Такіх відавочных русізмаў трэба пазбягаць. Магчыма, яны ўзніклі праз тое, што Ева Гілевіч карыстаецца толькі традыцыйнымі вершаванымі памерамі і ад таго пачувае сябе ў іх крыху замкнёна. У такім узросце даволі складана вытрымліваць усе правілы памеру — душа мкнецца далей ад слоў, «на волю ў пампасы», таму аўтарцы трэба моцна задумацца ці то пра ўласнае разняволенне і разнастайнасць у плане памераў (скажам, менш імкнуцца да дакладнага націску, выкарыстоўваць актыўней трохскладовыя стопы, даўжэйшыя словы, загортваць складаназалежны сказ у чатырохрадкоўе etc.), ці то, наадварот, пра дысцыпліну ў вершы. Зрэшты, і тое, і другое не зашкодзіць.

Цікавым узорам празаізаванай паэзіі выглядае падборка Вольгі Куставай. Некаторыя вершы, праўда, датаваны 2006—2008 гадамі, і таму цяжка зразумець, чым аўтарка жыве цяпер. Празаізаванасць у традыцыйнай сілаба-тоніцы сёння — частая з'ява, аднак яна патрабуе трапнасці ў выбары слоў і пабудове вершаваных «канструкцый». Найлепшым вершам, хаця і з задоўжанай канцоўкай, у падборцы трэба назваць твор «Самыя сур'ёзныя адносіны...» У гэтым верлібры добра адчуты рытм, унутраная логіка выказвання, таму верш, бясспрэчна, атрымаўся.

Маргарыта Прыка ў сваіх вершах адлюстроўвае паэтыку пачаткоўцаў — верш трымаецца на абстракцыях, неканкрэтных вобразах. Тут няма ні партрэта чалавека, ні малюнка, ні дэталі, ні дакладнага апісання аўтарскага настрою — усяго таго, што стварае эмоцыю. Пры тым, што эмоцыі ў часе напісання твора ў аўтаркі, безумоўна, былі. Магчыма, любоў да аперыравання абстракцыямі дапаможа паэтцы перайсці ў разрад літаратурных крытыкаў.

Таксама «абстрактнаватымі», аднак значна цікавейшымі, выглядаюць падборкі Алены Хахель і Алены Рамашкінай (Сырамятнікавай). Шмат у якіх месцах вершаў вытрымліваюцца патрабаванні да музычнасці (адпаведна — радзей сустракаецца непатрэбная блытаніна ў вершаваных памерах) і дакладнай вобразнасці. Праўда, у Алены Хахель заўважаюцца істотныя праблемы з беларускай мовай (рускамоўны верш значна лепшы), з гэтым трэба будзе сур'ёзна працаваць, калі захочацца пісаць далей. А задаткі ёсць у абаіх паэтак.

З прозы вылучаюцца сюжэтныя рэчы Алены Запарожац і Веранікі Ляўчук. Праўда, і ў першай, і ў другой аўтаркі маюцца істотныя недахопы, праз якія творы моцна зніжаюць свае мастацкія вартасці. Галоўны недахоп (зрэшты, характэрны для шмат каго з маладых празаікаў) — пастаяннае акцэнтаванне на асобе, навязлівая, амаль хваравітая спалучанасць дзеяння з персанажам. Ад гэтага і бясконцае паўтарэнне імя і займеннікаў «ён», «яна», якія ўжо з першай старонкі пачынаюць замінаць прыемнаму чытанню.

Яшчэ адна важная рэч — мова. Калі ў Алены Запарожац ніякіх праблем не ўзнікае, мова — бліскучая (найбольшы недахоп у яе — прывязанасць да персанажа, прыклеенасць да фабулы, храналогіі развіцця падзей), то ў Веранікі Ляўчук аповед і рэплікі герояў вельмі часта збудаваны з трафарэтаў. Рэдка-рэдка праскочыць добрае, яркае слоўца ці фраза. У апавяданні «Эдынбургская гісторыя» толькі адзін неблагі сказ: «Яны адграваліся ад нудотнага дажджу («нудотнага» тут таксама супярэчыць «адграваліся» — **Ц.Ч.**), і размова губляла сваю нітку, раствараючыся ў блюзавых кампазіцыях на клавішных». Але наяўнасць гэтай добрай фразы сведчыць пра многае. Якое, спадзяемся, таксама некалі праявіцца.

Завяршае кнігу досыць цікавая драматычная замалёўка «Котка» з вычарпальным падзагалоўкам «Фантазія аб маленькай Мастачцы і яе вялікай любові да Коткі і жывапісу», а таксама падборка перакладаў з Г. ван Дайка, Г. Лангфэла, Р. Макі, Г. Ахматавай, Э. А. По.

Наогул кніга выйшла вельмі разнапланавая. Прынамсі, не звычайная «брацкая магіла» з вершамі сумнеўнай якасці. Тут ёсць за каго парадавацца, а сяго-таго варта і запомніць, каб пасля адсочваць імя у перыядычных літаратурных выданнях.

Алена ДЗЕНІСЕНКА

# ПРЫЖЫЦЦЁВЫЯ ВЫДАННІ ВІНЦЭНТА ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА Ў ФОНДАХ ЦЭНТРАЛЬНАЙ НАВУКОВАЙ БІБЛІЯТЭКІ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА НАН БЕЛАРУСІ




*Першыя прыжыццёвыя творы В. Дуніна-Марцінкевіча.*

У гэтым годзе споўнілася 205 гадоў са дня нараджэння беларускага пісьменніка XIX стагоддзя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1808—1884), аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры новага часу. Яго творчасць з'яўляецца значным крокам наперад у агульным працэсе развіцця і станаўлення беларускай рэалістычнай літаратуры і асабліва драматургіі канца першай — пачатку другой паловы XIX стагоддзя.

Продкі пісьменніка ў XVII стагоддзі валодалі маёнткам Марцінкевічы ў Смаленскім ваяводстве. Род Марцінкевічаў карыстаўся ўсімі шляхецкімі правамі, меў свой герб — «Лебедзь». Але бацькі Вінцэнта ўласнай зямлі на той момант не мелі і арандавалі фальварак Панюшкавічы Бабруйскага павета Мінскай губерні (цяпер Бабруйскі раён Магілёўскай вобласці). Там і нарадзіўся Вінцэнт — у шляхецкай сям'і Яна і Марцыяны з роду Нядзведзкіх. Дзіцячыя і юнацкія гады будучага пісьменніка прайшлі ў маляўнічых ваколіцах ракі Бярозы, на ўлонні беларускай прыроды.

Пасля сканчэння ў 1824 годзе павятовай гімназіі ў Бабруйску, Дунін-Марцінкевіч паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт на медыцынскі факультэт, але пакінуў вучобу, бо не мог знаходзіцца ў анатамічным пакоі. Кар'ера чыноўніка, мабыць, больш адпавядала жыццёвым мэтам збяднелага шляхціца, і ён пачаў служыць у розных дэпартаментах,





POWINSZOWANIE
WOJTA NAUMA.
W DZIEN IMIENIN PANNY W.... S....

Niech będzie Jezus Chrystus pachwalony!
A cety dom hety,
Mužy, da kabiety,
I dzietki maleńki,
Słužki wiasialeńki,
Na wieki wiekau Im błahasławiony!

Jaszcze nia zbudziu piawun,
A uže sa dwara ciwun
Prinios mnie taki urad,
Sztob ludziam czynić zahad.

10

*Самаробная кніга з вершам В. Дуніна-Марцінкевіча.*

у тым ліку ў Мінскай кансісторыі, у якасці перакладчыка розных дакументаў з польскай на рускую мову.

Ажаніўся ў 1831-м з дачкой адваката Юзэфай Бараноўскай, у іх было сямёра дзяцей. Працаваў чыноўнікам у Мінскай кансісторыі. Праз год перайшоў на службу ў Мінскі крымінальны суд, але па стане здароўя звольніўся і ў 1834-м зноў вярнуўся ў кансісторыю, на гэты раз перакладчыкам касцельных актаў, а з 1839-га пачаў працаваць архіварыусам той жа ўстановы. У 1840 годзе Дунін-Марцінкевіч меў намер выехаць у Карлсбад і Эмс дзеля папраўкі здароўя, але, не атрымаўшы ад улад замежнага пашпарта, вырашае набыць невялікі маёнтак Люцынка, каля Мінска, дзе застаецца на сталае жыхарства, назаўсёды кінуўшы казённую службу.

Пачаў пісаць свае творы на саракавым годзе жыцця. Тым не менш ён паспеў стварыць і выдаць даволі значную колькасць мастацкіх твораў, — факт надзвычай знамянальны, калі мець на ўвазе катэгарычную забарону ў тыя часы на выданне кніг і часопісаў на беларускай мове (лацінкаю). Пасля ён перайшоў і на кірыліцу. Але гэта адбылося пазней. А першыя яго кнігі выходзілі толькі лацінкаю. Над беларускай мовай вісеў меч забароны, яна афіцыйна была непрызнана. Калі Марцінкевічу не ўдавалася выдаць кнігу толькі на беларускай мове, ён кампанаваў яе са сваімі польскімі творамі і выдаваў змешаныя зборнікі — беларуска-польскія ці польска-беларускія.

Сярод рарытэтаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі захоўваецца кніга пад назвай «Wiersze różne». Раней яна належала Беларускаму музею імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Кніга змяшчае адзін верш — «Powinszowanie Wojta Nauma. W dzien imienin panny W…S…» (1854). Як лічыў даследчык творчасці Дуніна-Марцінкевіча Г. В. Кісялёў, гэта кніга сама-

робная — сшытая кімсьці з трох лістоў (старонкі 73—76) вядомай кнігі Дуніна-Марцінкевіча «Гапон», і таму не можа ўлічвацца ў бібліяграфіях як асобнае выданне.

Устаноўлена, што пры жыцці пісьменніка выйшлі наступныя кнігі: «Сялянка», «Гапон», «Wieczernice i Obłąkany. Poezye», «Цікавішся? — Прачытай!», «Дудар беларускі, або Усяго патроху», «Люцынка, або Шведы на Літве». У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі захоўваецца пяць прыжыццёвых выданняў Дуніна-Марцінкевіча, якія выйшлі на працягу 1846—1861 гадоў.

Самы ранні твор — лібрэта музычна-драматычнай оперы «Сялянка» (у двух актах) — пабачыў свет у 1846 годзе, надрукаваны ў віленскай друкарні Адама Завадскага. Дазвол віленскага цэнзара А. Мухіна на друкаванне кнігі датаваны 5 мая 1844 года. Як сведчыць другая памета на кнізе, 27 студзеня 1845 года опера «ўхвалена да сцэнічнага паказу чыноўнікам III аддзялення царскай канцылярыі А. Урэлем». Яна выйшла невялікім тыражом — прыблізна 600 экзэмпляраў. Гэта, па сутнасці, першая беларуская опера: паны ў ёй гавораць па-польску, сяляне — па-беларуску. Пазней з’явілася іншая назва твора — «Ідылія». Музыку да яе напісалі С. Манюшка і К. Кжыжаноўскі пры ўдзеле В. Дуніна-Марцінкевіча. У гэтым творы побач з драматычнымі дыялогамі і маналогамі шырока прадстаўлены арыі і дуэты, харавыя нумары, а таксама танцы.

Опера была пастаўлена ў пачатку 1852 года ў Мінску тэатрам Дуніна-Марцінкевіча, ролю Навума Прыгаворкі ў спектаклі выканаў сам аўтар. Створаны В. Дуніным-Марцінкевічам аматарскі тэатральны калектыў існаваў у 1840—50-я гады. Захапленне тэатрам прыйшло да Марцінкевіча вельмі рана, яшчэ ў тую пару, калі ён жыў у Пецярбургу і Вільні. Не прапускаў ён ніводнага спектакля і ў Мінску. Пад уплывам рускіх і польскіх труп у яго нарадзілася думка стварыць свой беларускі тэатр (цяпер ён лічыцца першым беларускім нацыянальным тэатрам сучаснага тыпу).

У трупу В. Дуніна-Марцінкевіча ўваходзіла больш як 20 чалавек, у тым ліку сам пісьменнік, яго жонка, дзве дачкі і сын, а таксама прадстаўнікі мінскай інтэлігенцыі. Сябры пісьменніка з энтузіязмам дапамагалі яму: А. Шэмеш намаляваў дэкарацыі; надрукаваныя ў губернскай друкарні афішы разносіў А. Ляўдanскі (расклейваць іх у горадзе забаранілі) па кватэрах у якасці запрашальнага білета. Для ўдзелу ў оперы быў залучаны сялянскі хор з маёнтка Люцынка. Пастаноўка адбылася ў доме пана Паляка на Саборнай плошчы ў Мінску, дзе сёння размешчана кансерваторыя. У тыя часы двухпавярховы дом служыў гораду тэатрам. Тут, апрача «Сялянкі», ставілася п’еса Дуніна-Марцінкевіча «Рэкруцкі яўрэйскі набор», у якой аўтар з вялікім поспехам выступіў у якасці артыста.

Опера не спадабалася ўладам, бо ў ёй гучалі палітычныя матывы. Пасля першай жа пастаноўкі «Сялянкі» дзейнасць калектыву была забаронена, але спектаклі праходзілі нелегальна, на прыватных кватэрах. Пастаноўкі адбыліся ў розных гарадах Беларусі — Бабруйску, Віцебску, Нясвіжы, Слуцку, Глуску.

Пасля прэм’еры ў «Дзённіку варшаўскім» (№ 71) друкавалася карэспандэнцыя нейкага Ц. Л. з Мінска, які высока ацэньваў драматургічны талент і акцёрскія здоль-




*Уладальніцкі запіс П. Ф. Глебкі на кнізе з яго бібліятэкі.*




*Экзэмпляр з кнігазбору П. Ф. Глебкі.*

насці Дуніна-Марцінкевіча. У карэспандэнцыі гаварылася, што «Сялянка» — гэта малюнкі беларускага і літоўскага народа з іх песнямі і прымаўкамі. Вельмі добрыя словы гучалі ў адрас аўтара, які выконваў ролю Навума. Польскі літаратар Юльян Гарайн пад уплывам гэтых прэм'ер прыгадаў «Сялянку» ў артыкуле «Фізіялогія прыказак», змешчаным у тым жа «Дзённіку варшаўскім» (№ 99—100). Яго цікавілі ў творы прыказкі, прымаўкі, іх структура, паходжанне і іх выкарыстанне. Творчасць Дуніна-Марцінкевіча давала надзвычай багаты матэрыял у гэтых адносінах.

На сённяшні дзень гэтая рэдкая кніга, акрамя Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі, ёсць у Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх, некалькі асобнікаў — у бібліятэках Санкт-Пецярбурга. Экзэмпляр, што захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы, уяўляе пераплеценыя разам у канвалют зборнікі В. Дуніна-Марцінкевіча «Цікавішся? — Прачытай!», «Сялянка» і творы польскіх пісьменнікаў. Кніга некалі належала Яну Жахоўскаму, пра што сведчыць штамп яго бібліятэкі на тытульным аркушы.

Зборнік «Цікавішся? — Прачытай!» выйшаў у 1856 годзе друкам Ёкеля Дворца. Тут змешчаны тры аповесці і крылаты вершык, а таксама прысвячэнне аўтара Аляксандру Лапе. Аляксандр Дамінікаў Лапа (1802—1869) быў братам дзекабрыста, маршалкам Бабруйскага павета, пазней мінскім губернскім маршалкам. Ён апошні, каго выбірала самастойна тутэйшая шляхта. Пазней на гэтую пасаду маршалкі ўжо толькі прызначаліся царскім урадам. У разуменні паэта А. Лапа з'яўляўся ідэалам памешчыка. У прадмове да зборніка аўтар піша: «Калі я праязджаў праз маёнткі пана, не раз вока маё з раскошай спачывала на добра ўпарадкаваных гаспадарчых будынках пачцівага люду, радасцю грудзі мае напаўняліся, калі бачыў там дастатак кожнага, заможнасць жыхароў. Падчас усклікаў радасна: "Бог з тым людам жыве — не панскае то, а сапраўды айцоўскае кіраванне"».

Першы твор гэтага зборніка — аповесць «Купала» (1856). У ёй аўтар абмалёўвае беларускае народнае свята Купалле ў Лошыцы (цяперашні Мінск) з усімі яго абрадавымі ўрачыстасцямі, бытавымі праявамі, танцамі-карагодамі і песнямі. Таксама ў зборнік увайшла паэма «Славяне ў XIX стагоддзі». Гэта гістарычнае апавяданне ў 2-х песнях, адзін з самых яркіх рамантычных польскамоўных твораў беларускага паэта. Узвышанасць паводзін герояў, лёс якіх падпарадкоўваўся ідэі народна-вызваленчай барацьбы супраць іншаземнага прыгнёту, была блізкай і зразумелай аўтару, чый родны край таксама ўжо больш як паўстагоддзя знаходзіўся ў няволі.

У 1850-я гады В. Дунін-Марцінкевіч жыў пераважна ў Мінску. У 1854-м памерла жонка пісьменніка. Неўзабаве ён ажаніўся другі раз — з удавой Алесяй (Марыяй) Грушэўскай. У гэты перыяд упершыню ў Мінску выйшлі з друкарні яго паэтычныя зборнікі, у тым ліку «Гапон» (1855), дазвол на яго выданне даў 18 лютага 1855 года віленскі цэнзар Павел Кукальнік. Трэба сказаць, што Кукальнік — цэнзар Марцінкевічавых кніг — спрыяў пісьменніку. Гэта з яго ласкі пабачылі свет усе Марцінкевічавы кніжкі. Зборнік, як і многія другія кніжкі пісьменніка, выйшаў з кнігарні братоў Бэйлінаў (друк Ё. Дворца).

Паэма «Гапон» — першы паэтычны зборнік у чатырох песнях. Ён змяшчаў творы на беларускай і польскай мовах. Кожная з чатырох песень-раздзелаў аповесці мае свой эпіграф: тры з іх узяты аўтарам з твора «Ідылія», чацвёрты — з беларускай вясельнай песні. Аповесць увабрала ў сябе раннія творы пісьменніка, пачынаючы з 1848-га. Апрача аднайменнай вершаванай аповесці, у зборніку змешчаны: прадмова «Да чытача», польскамоўная драматычная сцэнка ў адной дзеі «Неспадзяванка для майстрыні» (1854), вершы на польскай і беларускай мовах, у тым ліку беларускі верш «Павіншаванне войта Навума. У дзень імянін панны В…С…». У кнізе — дзве гравюры з подпісамі выканальніка — мастака К. Бржэскага. Літаграфаваліся малюнкі мінскім літографам Ф. Фалькам. Фірменныя знакі літаграфіі Фалька ёсць на ілюстрацыях зборніка, там жа прачытваюцца і ініцыялы нейкага мясцовага майстра-гравёра («grav. E. S.»), які непасрэдна выконваў заказ.

Экзэмпляр, што захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі, быў набыты ў сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя ў букіністычным магазіне Ленінграда па цане сто восемдзесят сем рублёў пяцьдзясят капеек. Некалі кніга належала вядомаму бібліяфілу П. В. Губару, пра гэта сведчыць яго экслібрыс на форзацы. Асобнікі кнігі, апрача Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі, ёсць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. Па звестках літаратуразнаўца А. В. Мальдзіса, «Гапон» ёсць нават у Брытанскай нацыянальнай бібліятэцы ў Лондане.

Наступнае прыжыццёвае выданне В. Дуніна-Марцінкевіча ў фондах Цэнтральнай



LUCYИKA

CZYLI

SZWEDZI NA LITWIE.

OPOWIADANIA HISTORYCZNE,

w 4-ch obrazkach

PRZEZ

WINCENTEGO DUNIN MARCINKIEWICZA.

WILNO.

NAKŁADEM I DRUKIEM A. SYRKINA.

1861.

*Апошняе прыжыццёвае выданне В. Дуніна-Марцінкевіча.*

**Першыя яго кнігі выходзілі толькі лацінкаю. Над беларускай мовай вісеў меч забароны. Калі Марцінкевічу не ўдавалася выдаць кнігу толькі на беларускай мове, ён кампанаваў яе са сваімі польскімі творамі і выдаваў змешаныя зборнікі**

навуковай бібліятэкі НАН Беларусі — зборнік «Дудар беларускі, або Усяго патроху» (1857, Выданне і друк Ё. Дворца). Кніжка мае прысвячэнне: «Высакародным беларусам у доказ глыбокай пашаны гэты нязначны твор ахвяруе аўтар». У ёй змешчаны: вершаваная прадмова-зварот «Да пачцівых беларусаў», зварот «Да Уладзіслава Сыракомлі», вершаванае апавяданне на польскай мове «Літаратурныя клопаты», беларускія творы «Шчароўскія дажынкі» (з тлумачэннямі) і «Верш Навума Прыгаворкі», у якіх пісьменнік выразна акрэсліў сваю пазіцыю да беларускай мовы і культуры. Ён сцвярджае, што разумее цяжкасці, якія даводзіцца перадольваць, але спадзяецца, што прыклад пісання па-беларуску знойдзе не толькі адабрэнне, але і паслядоўнікаў. Зборнік «Дудар беларускі» завяршаў мінскі перыяд творчага ўзлёту. Пасля выхаду гэтага зборніка яму не ўдалося выдаць у Мінску ніводнай кніжкі.

Экзэмпляр «Дудара беларускага» захоўваецца ў кнігазборы вядомага беларускага паэта, перакладчыка, вучонага, грамадскага дзеяча, акадэміка Пятра Глебкі. Гэта адна з самых значных і каштоўных асабістых кніжных калекцый аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Пётр Фёдаравіч збіраў сваю бібліятэку на працягу ўсяго жыцця, пачынаючы з 1920-х гадоў. Яшчэ ў 1967-м, падчас пераезду Фундаментальнай бібліятэкі Акадэміі навук БССР у новы будынак, Пётр Фёдаравіч паведаміў пра намер перадаць свой кнігазбор і рукапісны архіў на захаванне ў бібліятэку. Частка кніг была перададзена ім самім. Пасля яго смерці ўдава пісьменніка выканала волю мужа і перадала ў жніўні 1979-га асноўны масіў кніг і частку рукапіснага архіва. Астатнія кнігі і рукапісы, а таксама абсталяванне кабінета П. Глебкі паступілі ў ЦНБ НАН Беларусі ў лістападзе 1986-га. Кніжная калекцыя П. Глебкі налічвае больш як 3 тысячы экзэмпляраў выданняў на беларускай, рускай, украінскай і іншых мовах у храналагічных межах 1804—1960-х гадах. У складзе кнігазбору — рэдкія і каштоўныя кнігі, у тым ліку выданні рэпрэсаваных пісьменнікаў.

На экзэмпляры з калекцыі П. Глебкі ёсць уладальніцкі запіс, зроблены 27 лістапада 1947-га. На авантытуле запіс алоўкам, які сведчыць, што кніга некалі была набыта ў віленскага букініста 15 красавіка 1928 года. Перад тым, як трапіць у акадэмічную бібліятэку, выданне належала Беларускаму музею імя Івана Луцкевіча ў Вільні.

І апошняе прыжыццёвае выданне В. Дуніна-Марцінкевіча — паэма на польскай мове «Люцынка, або Шведы на Літве» (1861). Выдадзена Віленскай друкарняй А. Сыркіна. Цэнзурны дазвол П. Кукальніка датаваны 26 ліпеня 1860 года. Рамантычная паэма працягвае тэму мужнасці, высакароднасці, самаахвярнасці старой шляхты, яе еднасці з народам. Пісьменнік захапляецца норавамі, побытам, ідэаламі старашляхецкіх часоў, якія служаць дакорам шляхце сучаснай. Марцінкевіч прысвяціў свой твор магілёўскаму губернскаму маршалку Стэфану Любамірскаму. З ім пісьменнік быў у прыязных адносінах: паважаў маршалка за яго клопат пра людзей, а яшчэ за цікавасць да мінулага роднай зямлі, да яе гісторыі.

Апрача гэтага экзэмпляра, ёсць яшчэ канвалют, пераплецены разам з перакладам «Пана Тадэвуша», які знаходзіцца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве.

Аўтографы ўсіх пералічаных твораў не захаваліся, таму першадрукі з’яўляюцца адзінымі крыніцамі тэкстаў. Вядомыя беларускія даследчыкі творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча Г. Кісялёў, А. Мальдзіс, І. Навуменка, С. Майхровіч, У. Содаль, Ф. Ястраб, Я. Янушкевіч і інш. унеслі значны ўклад у раскрыццё творчасці пісьменніка. Разам з тым, задача пошукаў новых матэрыялаў, звязаных з В. Дуніным-Марцінкевічам, застаецца па-ранейшаму актуальнай.

# ВАЛЯНЦІН ЖДАНОВІЧ ВА ЎСПАМІНАХ ДАЧКІ ВАЛЕРЫІ

***У татавай працоўнай кніжцы запісаў небагата.***

***01.05.1965 г. ён, малады 28-гадовы фатограф, заняў пасаду фотакарэспандэнта часопіса «Маладосць». 02.01.1991 г. быў пераведзены на пасаду рэдактара аддзела публіцыстыкі. А 20.07.1992 г. быў выкраслены са штату часопіса ў сувязі са смерцю. Сказаць, што ён аддаў «Маладосці» ўсё сваё жыццё, не будзе вялікім перабольшаннем...***

Азіраючыся на пражытыя гады, мы можам вылучыць падзеі, якія аднойчы скіравалі нашае жыццё на пэўны шлях, падштурхнулі, нібы більярдны кій. Так здарылася і з маім татам.

## НАРАДЖЭННЕ

Ён быў сынам беларускай дзяўчыны з Койданава, Валянціны Ждановіч, і яўрэйскага журналіста Ісака Цывеса. Яны сустрэліся ў Доме адпачынку ў Ждановічах, пазнаёміліся на танцах выпадкова:

— Ваша прозвішча Ждановіч? Не можа быць! А Ждановічы — ваш родавы маёнтак? Пакажыце пашпарт? Вам сапраўды сямнаццаць?

Праз два гады настойлівых дзедавых заляцанняў, паездак праўдамі і няпраўдамі ў закрыты прыгранічны Койданаўскі раён яны пабраліся і зажылі ў Менску. Гэта быў 1936 год. А праз два гады нарадзіўся хлопчык — Валік Цывес, як было запісана ў першым яго пасведчанні аб нараджэнні.

Як многія сем'і ў тыя часы, наша адчула на сабе молат рэпрэсій. Дзве старэйшыя бабуліны сястры, Марыя і Браніслава, засталіся без мужоў, у адной на руках было двое хлопцаў, другая мела чацвёра дзяцей і была



*Валянцін Ждановіч. 1970-я.*

цяжарная пятым. Над дзедавай галавой таксама згусціліся хмары — з камсамола яго выключылі за сувязь з «ворагамі народу», звольнілі з рэдакцыі «Звязды», нідзе не бралі на працу.

Бабуля, з уласцівай ёй сялянскай упартасцю, не зламалася, з малым на руках пачала карміць сям'ю — прадавала грудное малако, вышывала кашулі для арцелі. На Новы год свёкар падараваў маладым вязанку дроў.

## ЗЯЛЁНАЕ ПАЛІТО

Але лёс нечакана перамяніўся: выйшаў артыкул Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў», схлынула хваля рэпрэсій, дзеда аднавілі на пасадзе, ён намацаў галоўную тэму свайго жыцця і стаў пазаштатным карэспандэнтам маскоўскай газеты «Савецкі спорт» — фактычна першым прафесійным спартыўным журналістам у Беларусі. У 1939 годзе разам са спартыўнай дэлегацыяй ён у першы ж тыдзень пасля 17 верасня трапіў на тэрыторыю Заходняй Беларусі.



*1960-я.*

Гэта была незабыўная камандзіроўка. Каб дэлегацыя «ўсходнікаў» на перамовах са спартыўнымі дзеячамі выглядала прыстойна, усіх за адну ноч пераапранулі ў новыя гарнітуры. Шылася ўсё па мерцы. Віленскія краўцы пастараліся на славу. Пазней, у Маскве, на вакзале элегантнага дзеда прынялі за замежнага шпіёна і ледзь не арыштавалі. Жонцы і сыну дзед прывёз з той паездкі цэлы мех прыгожай вопраткі. На парозе аграмадны пакунак разваліўся, і на збянтэжаную бабулю пасыпаўся пярэсты ворах абноў. Яна спалохалася: «Ты што, абрабаваў кагосьці?» Але ўжо праз пару дзён курс рубля і злотага ўсталяваўся на ўзроўні тры да аднаго, так што дзеду проста пашчасціла. Маленькі дзіцячы татаў палітончык, прывезены з той вераснёўскай камандзіроўкі 1939 года, бабуля сентыментальна берагла ўсё жыццё на памяць пра шчаслівую, даваенную маладосць. Нягледзячы ні на што, яны з дзедам згадвалі яе як светлыя, радасныя гады. Бо тое, што здарылася пасля, не мог прадбачыць ніхто.

## ПЕРШЫЯ ЎСПАМІНЫ

Татавы першыя свядомыя ўспаміны абудзіла вайна. На трэці дзень вайны дзядуля пайшоў на фронт. Мінск бамбілі няшчадна. Спакаваўшы харчы ды сякія-такія цёплыя рэчы, бабуля са старэйшай сястрой Марыяй уцякалі з горада па Лагойскім тракце. Бабуля несла на руках маленькага сына, а сястра валакла цяжэзныя чамаданы з крупамі і вопраткай. Праўда, дом на Сляпянскай вуліцы, дзе жыла сям’я, ацалеў, але заставацца там было небяспечна. Шмат хто радаваўся перамене ўлады. «Хай плачуць цяпер жонкі жыдоў і камуністаў!», — казала з нядобрай усмешкаю суседка. Чакаць, пакуль яна пакажа пальцам на гэтых жонак у сваім доме, не мела сэнсу. Бабуля вырашыла вярнуцца ў бацькоўскую хату, у Койданава. Яна пабачылася з мужавай раднёй. Свёкар, стары шавец, абняў яе са слязьмі: «Дачушка, ты прыйшла развітацца». Гэта была іх апошняя сустрэча. Уся дзедава радня загінула ў Мінскім гета. Дзевяць душ: маці, бацька, брат-падлетак, дзве сястры і іх малыя дзеці. На фронце пад Смаленскам забілі яшчэ аднаго малодшага брата. Сам дзед цудам выйшаў з акружэння пад Магілёвам. Але пра гэта стане вядома толькі праз тры гады.

## ПРАДЗЕДАВА МАГІЛА

Дома ў Койданаве таксама не было спакою. Немцы-штурмавікі, едучы на матацыкле, проста так, дзеля забавы, стралялі па баках з аўтаматаў і гэтымі стрэламі падпалілі хату беднай удавы з пяццю дзецьмі — сярэдняй бабулінай сястры Браніславы. Так што ў будцы чыгуначнага абыходчыка Пятра Ждановіча народу цяпер было, што не ўбіцца. Пракляты немец, што некалі ў 1914 годзе выгнаў сям’ю ў бежанства з роднай Віленшчыны, зноў гаспадарыў на двары: паскручваў галовы курам, патаптаў агарод, паразвешваў порткі замест гаспадарскай бялізны. Ад усяго гэтага гора, што навалілася адусюль, стары захварэў, і 18 жніўня 1941 года ў хаце пастала дамавіна. Хавалі яго пры дарозе, на ўскрайку могілак.

Праз сорак шэсць гадоў акажацца, што ў сувязі з пашырэннем вуліцы гэтую частку могілак Дзяржынскі выканкам загадае пера-

несці на новае месца. Ніколі не забуду тыя чорныя пераховіны, бабуліны галашэнні над роднымі косткамі і татаў збялелы, знясілены твар. Самае крыўднае, што будаўніцтва так і не закранула тыя могілкі — плот, пры якім была магіла, застаўся на месцы.

### БЕЛАРУСКІ РЫСІК

Пачатак вайны пакінуў у таты на твары сваю пячатку — уцякаючы ад немца, ён спатыкнуўся на ганку і пракусіў ніжнюю губу. Тыя маленькія шнары пад губой бялелі пасля нават пад густым чорна-шызым мужчынскім заростам.

Маці з сёстрамі і бабуляй як маглі выкручваліся ў бядзе. Выменьвалі на рынку прывезеныя з заходнебеларускай камандзіроўкі рэчы, ішлі ў найміткі да людзей. У бабулі на руках засталіся сляды ад сярпа — нават самая спрытная жняя час ад часу зажынае сабе палец. А Валік рос пераборлівым: здабытую з вялікімі цяжкасцямі пярлоўку есці адмаўляўся:

— Хачу рысік!

— Еш, еш, Валічак, гэта наш, беларускі рысік!

### УЛЁТКІ

Яшчэ адзін татаў успамін: ён хворы, ляжыць у гарачцы. У хату ўваходзіць немец. Пад коўдраю халодзіць бок друкарская машынка. Гэта маці ў апошні момант перад ператрусам цісканула яе туды, каб не знайшлі. На машынцы яна друкуе зводкі Інфармбюро, гэтыя ўлёткі пасля расклейваюць па горадзе падпольшчкі. «Што з тваім сынам, жанчына?» — «Тыфус». Немец гідліва адварочваецца і адыходзіць. Халодная друкарская машынка ізноў траскоча. «Валя, што ты робіш, дурніца!» — уздыхае, бяссільна гледзячы на дачку, бабуля Юзэфа. — «Прападзем мы ўсе, ну ладна, я, старая, а то ж...»

### ЭНЦЫКЛОПІЯ

Я не ведаю, адкуль тады ў маёй дваццацічатырохгадовай бабулі хапала на гэта сілы: хадзіць з Койданава ў Менск пехатою, за адзін дзень, ды яшчэ з ношаю, каб прынесці ў горад і перадаць у гета гаршчэчак алею, сустрэцца з сувязным, памяняцца навінамі, а назад валачы са старой кватэры на Сляпянцы яшчэ горшае бярэмя — дванаццаць тамоў «Малой савецкай энцыклапедыі». «Дурная Валька!» — пасмейвалася яна сама з сябе. Але гэта былі тыя каштоўнасці, якія выбрала яе пакаленне першых інтэлігентаў з-пад сялянскай страхі. Гэтыя кніжкі, старанна спакаваныя, бабуля закапала ў гародзе, бо трымаць іх у хаце было небяспечна.

Часам даходзіла да вельмі рызыкоўных сюжэтаў: чарнявую бабулю і яе сяброўку Ларысу Самчынскую, прыгожую бландынку, аднойчы падвёз на машыне галантны немец. Каб той немец ведаў, што ў сумачцы прыгожай паненкі ляжаў наган, ён быў бы не такі ветлівы.

Гэты наган пасля бабуля аддала немцу-антыфашысту Вальтару, які вырашыў далучыцца да партызан. Ён доўга пераконваў яе, што не здраднік, не правакатар: «Валя, крыг капут! Вайна капут! Гітлер капут!» — пакуль нарэшце бабуля не пераправіла яго ў атрад. Але ў сорак трэцім гэта былі ўжо іншыя немцы — тылавыя рабочыя, рамеснікі, простыя людзі, якія глядзелі на мясцовых жыхароў з вялікай спагадай і чалавечнасцю.

### ХРЭСЬБІНЫ

Час ад часу здараліся аблавы. Сябры-падпольшчыкі папярэджвалі. Тады сярод ночы бабуля хапала сына, чамадан і ўцякала ў лес, пакуль не скончыцца навала. І колькі за вайну было ў іх гэткіх начэй? Скажу адно: мой тата быў адзіным дзіцём з мяшанага шлюбу, які дажыў у Дзяржынску да вызвалення. Каб мець на ўсялякі выпадак адпаведныя паперы, тату ахрысцілі ў мясцовым касцёле. Ксяндза, што выпісваў метрыку, папрасілі збавіць хлопчыку гадок. А раптам захочуць пагнаць яго ў Германію? Так мой тата на год памаладзеў і стаў па дакументах Валянцінам Ждановічам, 1939 года нараджэння. Нешта мяняць пасля вайны ўжо не мела сэнсу: пасеяны за гады вайны антысемітызм ужо ніколі не сыходзіў у нябыт.

Аднойчы сябры не паспелі яе папярэдзіць, і немцы схапілі Валянціну і пагналі на станцыю разам з іншымі людзьмі.

Яна, насуперак логіцы, вырвала сына з рук анямелай бабулі Юзэфы і панесла разам з сабой: «Дзе маё дзіця — там і я!» Шчыльным шэрагам стаялі ахоўнікі з нямецкімі аўчаркамі, крык, енк, брэх. Перад самым вагонам маці з маленькім Валікам на руках выхапіў з натоўпу паліцай: «Гэтая жанчына пройдзе са мной. Яна тут апынулася памылкова». Гэта быў падпольшчык, засланы служыць у ворага па заданні. Так яны ў апошні момант цудам ацалелі. Той цягнік ехаў у Асвенцым. З натоўпу, што заганялі тады ў вагоны, вярнулася ў Дзяржынск толькі адна жанчына. Яна пражыла на радзіме два гады, паралізаваная, і неўзабаве памерла.

## РЭЙКАВАЯ ВАЙНА

Старэйшы сын цёткі Марыі, Жорж, быў хлопец-зух. У свае 14 гадоў хадзіў з партызанамі на чыгунку падрыўніком. Дзёрзкі і ўсмешлівы падлетак нікога не баяўся. Пачаліся даносы. «Добразычлівыя» суседзі, што ў 37-м пісалі іх на бацьку ў НКУС, цяпер даносілі немцам на сына. Давялося сысці ў партызаны. Аднойчы ў хату ўваліўся п’яны ўшчэнт немец: «Ву іст кляйнэ Жорж?» — пытаўся ён у сям’і, высадзіўшы ўсіх у радок каля печы і наставіўшы аўтамат. Ніхто не прараніў ані слова. Тата згадваў, што бабулю Юзэфу калаціла, а маці стаяла спакойная, нібыта гэта не з імі вядзецца допыт. Немец стаміўся, плюнуў і адышоў, паабяцаўшы вярнуцца.

Ён час ад часу вяртаўся да маёй бабулі ў снах — да канца жыцця ёй сніўся здаравенны драб, што ломіцца ў хату, каб забіць, і яна адчайна з ім ваявала, кідаючыся на яго з кулакамі. Дзядулю, што мірна спаў пад бокам, не раз даставалася добрага кухталя праз таго немца.

Бабулін дом стаяў каля станцыі. Можна было сачыць за рухам цягнікоў, вызначаць расклад. Калі пад Сталінградам пачаліся баі, цэлыя эшалоны ваеннай тэхнікі праплывалі на Усход, назад ехалі вагоны марожаных трупаў. З адкрытых платформаў вытыркаліся рукі, ногі. Гэтае відовішча нікога не палохала: «Так вам і трэба!»

З Гамбурга на станцыю прыганялі эшалоны тамтэйшых яўрэяў. Ім казалі, што вязуць на перасяленне, і людзі ехалі з клумкамі, швейнымі машынкамі, нейкімі прыладамі. Іх усіх расстралялі ў гаі за тры кіламетры ад станцыі.

Пасля вайны, нягледзячы на тое, што месца пахавання гэтых няшчасных было ўсім вядома, ніхто не паклапаціўся адзначыць гэтае ўрочышча хаця б самым сціплым знакам.

Рэйкавая вайна прымусіла немцаў патурбавацца пра бяспеку. Яны загадалі перанесці чыгуначную будку далей ад палатна ў глыб вуліцы. Разабраць і сабраць хату, перабрацца на новае месца было не абы-якой задачай. І тут талакой дапамаглі сябры.

## ВЫЗВАЛЕННЕ

Заставацца ў мястэчку перад вызваленнем было вельмі небяспечна. Бабуля чакала даносу ў любы момант. Каб быць далей ад бяды, яна вырашыла пажыць у сяброў у Кукшавічах. Немец з паходнай кухні прапаноўваў бабулі пайсці да іх працаваць. Яе гэта страшэнна абурыла: за ўсю вайну яна ані разу не працавала на ворага, а тут ледзь не ў апошнія дні — такая прапанова! Але і адмаўляцца небяспечна — чорт ведае, што падумае гэты немец. Праз некалькі дзён на дарозе паказаўся натоўп. Наперадзе ехаў бранявік. На яе паказвалі пальцамі і крычалі: «Вось яна! Вось яна!» — «Гэта канец», — падумала бабуля і самлела. Але гэта быў не канец. Гэта яе муж выпрасіў у вайсковага начальства бранявік і навыперадкі, не дачакаўшыся агульнага наступлення, рушыў у Койданава, каб пабачыць сям’ю. Ён быў першы, хто ўвайшоў у Дзяржынск, яго сустрэлі накрытымі сталамі і чулымі абдымкамі, але сваіх найдаражэйшых Валі і Валіка ён сярод землякоў не знайшоў. І тады яму падказалі, што сын з жонкай у Кукшавічах. Так яны і сустрэліся 3 ліпеня, нібы ў кіно. «Ты ведаеш, хто я такі?» — «Ты мой тата. Я пазнаў цябе па фатаграфіі».

Потым была паездка на браневіку ў Мінск, на Таварнай станцыі была бамбёжка, бранявік заехаў у варонку, бабуля прапарола шчаку кулямётным прыцэлам. Яны вылезлі з браневіка. Схаваліся ў варонку. Дзядуля затуліў іх сваім целам ад асколкаў. Трэба было зашыць рану. Час імкліва мінаў.

Затрымацца, пабыць сам-насам не ўдалося. Войска рушыла далей, а з ім і старшы лейтэнант Цывес. Доўгачаканая сустрэча прайшла не так, як марылася доўгія гады.

Потым Валя і Валік пешкі вярталіся ў вызвалены Дзяржынск. Каля рэчкі Уса малога ўкусіла пчала, так што з пераможнага паходу абодва яны вярнуліся — кожны са сваёй ранай. Невялічкі шнар на шчацэ ў бабулі застаўся як напамін пра ўсё перажытае ў гэты дзень.

Якія гэта былі вясёлыя, радасныя святы — Дзень Вызвалення Беларусі! Цяпер, калі няма герояў гэтай векапомнай сустрэчы, на душы маркотна і хочацца не парадаў і канцэртаў, а проста ціхай бяседы на родным котлішчы. Дый сама назва «Дзень Незалежнасці» толькі заблытвае маладых людзей, якія не памятаюць, дзе і калі пачалася сапраўдная Незалежнасць Беларусі і што агульнага яна мае з Днём Вызвалення.

## ТРАФЕІ

Бацька вярнуўся з вайны толькі ў 1946 годзе — яшчэ цэлы год яго пратрымалі ў гарнізоне Брэсцкай крэпасці. Ён прывёз малому Валіку трафеі: цацачны паравозік, які чухаў па рэйках на сапраўдным паравым рухавічку, ды фотаапарат «Кодак». Паравозік быў цудоўны, і тата спачатку хацеў быць машыністам. Але той паравозік давялося прынесці ў ахвяру — яго падаравалі сыну раённага начальніка за тое, што дэмабілізаванага бацьку-франтавіка прыстроіў на працу. Затое «Кодак» застаўся. Тата папрасіў свайго сябра, Васіля Гундорына, які працаваў на «Беларусьфільме» апаратарам, паказаць малому Валіку, што рабіць з гэтай нямецкай штуковінай, і гэта стала тым самым штуршком лёсу, які ён сам пасля назаве прызваннем.

Ён здымаў маму, тату, бабулю, сяброў, сад у квецені, вяргіні каля плота і коціка на ганку, стрыечных братоў і цётак. Гэтых вясёлых сямейных партрэтаў на фоне вышываных сурвэтак, вішнёвага саду і кустоў бэзу засталося цэлае бярэмя. Твары ў сямейнікаў свецяцца шчасцем, хоць жыццё было напружанае, нялёгкае.

Маці і бацька кожны дзень ездзілі на працу ў Менск на цягніку і кожны вечар цягнікам вярталіся дадому. Электрычак тады не было, дарога займала дзве гадзіны. Дысцыпліна была суровая. Аднойчы па Чыгуначнай вуліцы паўз іх хату прабег па снезе босы дзядзька, трымаючы боты пад пахай — абуваць не было калі, а спазніцца тады на працу азначала падпісаць сабе прысуд. Заробкі адымалі — прымушалі выкупляць аблігацыі, якіх у сям'і назбіраўся цэлы пачак. Дзяржава пагасіла іх толькі пры Брэжневе, праз трыццаць гадоў.

Маці працавала бухгалтаркай. Аднойчы яна ледзь не трапіла ў бяду. Атрымала харчовыя карткі на ўсю кантору, а пакуль везла, у трамваі ў яе іх выцягнулі з сумкі. Але злодзей хутка зарыентаваўся, што выкарыстаць карткі не здолее, і са злосці ціскануў іх усе разам у сметнік. Маці вярнулася на прыпынак і знайшла сваю прапажу.

## ШКОЛА

Валік пайшоў у школу. Гэта была 2-я Дзяржынская дзесяцігодка. У першыя пасляваенныя класы назбіралася дзяцей featured рознага ўзросту. Малым хацелася вучыцца, а некаторым здаравенным бугаям-падшыванцам пара была жаніцца. Яны заляцаліся да маладых настаўніц, спявалі непрыстойныя частушкі і пускалі лётаць па класе надзіманыя прэзерватывы. Горш за ўсіх даставалася настаўнікам нямецкай мовы. Ім аб'явілі байкот, так што давялося перавесці школу на вывучэнне англійскай. Татавы бацькі ў 20-х гадах вучылі нямецкую мову ад настаўнікаўнемцаў. Гэтыя веды прыдаліся ім у вайну. Але пераканаць сына, што мова за Гітлера не вінаватая, было немагчыма.

Былі і сутычкі, і бойкі. Аднойчы дзеці падбеглі да хаты з крыкам: «Ждановічыха, там вашага сына забілі!» Маці выскачыла на парог. Аказалася, што не забілі, а проста шпурляліся каменнем і трапілі ў скронь, так што малы страціў прытомнасць. Маці спачатку плакала, а пасля, як сын апрытомнеў, дала яму добрага прачуханца. Гэта быў, бадай, адзіны выпадак «цялеснага пакарання» ў татавым дзяцінстве, хоць хлопец ён быў шустры.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, школа давала вельмі добрую, грунтоўную адукацыю. Настаўнікі фізікі, біялогіі, хіміі рабілі ўпор на практычны бок навукі: усе тэарэтычныя



*У фоталабараторыі «Маладосці».*

высновы вучні рабілі на падставе лабараторных заняткаў, да ўсяго даходзілі ўласнымі рукамі і розумам. Таму для таты ніколі не было праблемай разабрацца з электрычнасцю, падвесіць люстру ў хаце, пачыніць аўтамабіль ці змайстраваць мэблю. У шостым класе ён сам збудаваў для ўлюбёнай бабулі Юзэфы пуню. Скрыню дзедавых старых сталярскіх і слясарных прылад бярог праз усё жыццё. Прадзедавы нажніцы з чорнай варанёнай сталі дагэтуль рэжуць паперу без заточкі.

Валік рос бабуліным унукам. Яму, малодшаму сярод стрыечных братоў і сясцёр, як нікому дасталася яе шчодрая пяшчота і клопат. Пакуль бацькі працавалі ў горадзе, яны з бабуляй хадзілі па грыбы, корпаліся ў гародзе, гатавалі. Бабуля Юзэфа ведала сакрэты заўтрашняга надвор'я, па сваіх прыкметах вызначала належную пару для сельскагаспадарчых прац, ведала, што рабіць, каб цеста добра ўзышло і хлеб не быў ацеслівы, а капуста хрумсцела на зубах. Яна голымі рукамі, без чапялы, магла выцягнуць з печы гарачы чыгунок і выканаць любую мужчынскую працу. Бабуля, народжаная ў курнай хаце, радавалася з таго, што тэхнічны прагрэс пазбавіў яе неабходнасці штотыдзень замешваць дзяжу і ткаць кросны. Бо некалі і гэты абавязак яна ўмела выконвала. Сатканыя яе рукою посцілкі пражылі 80 год.

Старая сялянская закваска і прыродазнаўчы ўхіл навучання адбіліся на ўсіх татавых пазнейшых занятках і захапленнях: яго працы ў Батанічным садзе, кніжках пра Бярэзінскі і Прыпяцкі запаведнікі, артыкулах па экалогіі, інтэрв'ю з людзьмі самых разнастайных прафесій: ад ганчара да акадэміка. Гэта ён вучыў мяне смажыць мяса і квасіць капусту, пазнаваць ядомыя і атрутныя грыбы ў лесе і ведаць, чым ячмень адрозніваецца ад жыта. Ён упарта тлумачыў мне назвы самых розных зёлак, збіраў лекавыя расліны і лячыў, калі нехта з нас хварэў. Сам ён марыў заняцца хіміяй. Але лёс павярнуўся іншым бокам...

## ІМЯ ПА БАЦЬКУ

На хімфак Валянціна Ждановіча не прынялі. Не спадабалася прычоска і імя па бацьку — Ісакавіч. На папярэдняй гутарцы ў залатога медаліста, якому не трэба было здаваць экзаменаў, даведаўшыся пра любоў да фатаграфіі, запыталіся хімічную формулу замацавальніка. Гэта не ўваходзіла ў курс школьнай хіміі, тым не менш, няведанне кандыдата паслужыла прычынай для адмовы ў паступленні. Сям'я перажывала, але бацька параіў яму падаць дакументы на журфак. Тут ён мог, прынамсі, гарантаваць сыну прафесійную падтрымку. Валянціна прынялі на завочнае аддзяленне БДУ. Фатаграфію на журфаку выкладалі як адну з прыкладных дысцыплін. Тата ўхапіўся за яе, бо не дужа любіў пісаць, асабліва на такія тэмы, як ідэалагічная праца, палітыка КПСС і г. д. Паралельна поруч з бацькам працаваў пазаштатным карэспандэнтам газеты «Фізкультурнік Беларусі», пакуль у 1958 годзе яго не прызвалі ў войска.

## КАМАРЫНЫ ПАЛІГОН

Салдацкая служба доўжылася тады тры гады, а на флоце — пяць. Тату пашанцавала — далёка не паслалі. Служыць давялося на Палессі, у Жыткавіцкім раёне, сувязістам пры артылерыйскім палку. Камандзірамі былі ветэраны вайны, да якіх ставіліся з вялікай павагай. Армейская загартоўка была суровая. У кірзавых ботах, з катанкай плашч-палаткі, зброяй і амуніцыяй яны

давалі дзесяцікіламетровы крос. Аказалася, што беларускі клімат не ўсім пасуе. Улетку гарачыня сягала за 40 градусаў. Цяжэй за ўсё, як ні дзіўна, было хлопцам з паўднёвых рэспублік — вільготная задуха на пляцы даводзіла іх да непрытомнасці. Самымі непадатнымі на выпрабаванні былі ўраджэнцы паўночных краёў: чукчы, эвенкі, якуты. Здараліся праблемы і іншага кшталту. Салдат, дзяўчына якога выйшла замуж, пакуль ён служыў, забіў вартавога, выкраў аўтамат і ўцёк з часці. Яго затрымалі толькі на заставе Кіжаватава — усвядоміўшы памылку, ён спадзяваўся праравацца за мяжу.

Пачалася вайсковая рэформа. Артылерыйскі полк, дзе служыў бацька, ператварылі ў ракетны. Каб умацаваць ракетчыкаў кадрамі, з флота прыслалі маракоў. Для рамантыкаў у клёшах і цельніках гэта было страшэнным прыніжэннем. Яны баставалі, лічылі за лепшае сядзець «на губе», чым змяніць сваю марскую форму на сухапутнае галіфэ.

Агромністыя 20-метровыя балістычныя ракеты выпрабоўваліся на лясным палескім палігоне, прызямліцца яны павінны былі ў Казахстане. Тата казаў, што ніколі не чуў такой прыгожай, велічнай музыкі, як той гук, што пануе пры запуску ракеты — нават арганы не ў стане перадаць касмічную моц гэтага старту. Адна ракета, праўда, выйшла на заходнюю траекторыю і моцна напалохала селяніна ў Чэхіі, трапіўшы ў стог сена, але абышлося без ахвяр. Загінуць можна было і ў мірны час. Аднаго разу па дарозе на палігон машыну добра трасянула на калдобіне. Балюча выцяўшыся галавой, тата памацаў столь — з яе вытыркаўся цвік. Каб не каска, далейшай гісторыі можна было б і не апісваць.

Тая служба на Палессі пакінула незабыўныя ўспаміны. Тата палюбіў стромыя ўзлобкі Мазыра, спагадлівых палескіх цётак, сухі белы пясок на прыбярэжных плёсах і нескажоныя цывілізацыяй краявіды беларускай Амазоніі. Гэтым пачуццём дзяліўся з сябрамі, сям'ёй, вёз і паказваў Палессе, як самую дзівосную, найпрыгажэйшую перліну Беларусі. У гэтай рабінзанадзе было шмат невыгод, сярод якіх галоўнай былі ненажэрны гнюс і камары, але пасля ўсё бачанае згадвалася як самая цікавая ў жыцці прыгода.

Нават у самы апошні свой дзень тата таксама планаваў вярнуцца туды — збіраўся ў адпачынак...

## КВЕТКІ

Пасля службы ў войску быў час пошукаў свайго месца ў жыцці — праца выкладчыка фота- і кінасправы ў Інстытуце фізкультуры, потым — фатографам у Батанічным садзе. Праца была не дужа грашовая, затое рамантычная. Татаў папярэднік на гэтай пасадзе яго перасцярог: «Толькі ніякіх службовых раманаў! На гэтым я і пагарэў». Але атмасфера Батанічнага саду была такая, што не закахацца было немагчыма.

Напярэдадні майскіх свят у Белпрампраекце ладзілася вечарына. Мае мама і тата пазнаёміліся праз школьнага сябра Гену з добрым беларускім прозвішчам Абібок. Тата коратка апісваў свае ўражанні: «Ішла дзяўчыначка, і ўсё было пры ёй». Гэта была чарада прыгожых сустрэч. Усё багацце кветак па чарзе перабывала ў маміных руках. Ад сціплых ландышаў да пышных гладыёлусаў, і кожны букет не падобны да іншага.

Хутка маладыя пабраліся і зажылі разам з бацькамі на спартыўнай базе каля абсерваторыі. Улюбёная татава бабуля Юзэфа нарадзілася 9 сакавіка 1883 года. Увосень 1963 года яе не стала. А 10 сакавіка 1965 года на свет прыйшла я. Жыццё апісала поўны цыкл, пачыналіся новыя кругі...

## НОВАЯ ПАСАДА

Сябар сям'і Аляксандар Дзітлаў сыходзіў з пасады фотакарэспандэнта часопіса «Маладосць». Ён распавёў пра гэты свой намер, дадаў, што пакідае там неблагую двухпакаёвую лабараторыю і паспрыяе, каб Валянціна Ждановіча ўзялі на гэтае месца.

Я з маленства вельмі любіла іх абодвух. Аляксандар Сяргеевіч — увасабленне энергіі і натхнення, франтавы фотакарэспандэнт, да глыбокай старасці поўны задум і юнацкага імпэту — меў талент гуртаваць людзей, знаходзіць цікавыя сюжэты і паплечнікаў. Ён здымаў дакументальнае кіно, праводзіў конкурсы фатографаў, вёў перадачы на тэлебачанні, прысвечаныя фатаграфіі, зводзіў паэтаў з кампазітарамі і выканаўцамі. Ён любіў розыгрышы, сыпаў дасціпамі і ведаў, здаецца, увесь свет. Яго жонка, Раіса Паўлаўна, таксама фатограф, працавала ў Батанічным садзе. Заўсёды ўсмешлівая, дасціпная і спагадлівая,

яна распавядала вясёлыя гісторыі пра жыццё «батанічных» дам і прыносіла нейкія экзатычныя плады і расліны. Разам Дзітлавы неслі такі пазітыўны настрой, настолькі пасавалі адно да аднаго, што хадзіць да іх у госці было сапраўдным задавальненнем.

У тыя часы прафесію псіхолага лічылі заходнім вычварэнствам. Для гэтых мэт проста існавалі сябры. У самую цяжкую хвіліну, калі хавалі тату, менавіта Дзітлаў вывеў маю бабулю з амаль непрытомнага стану простымі банальнымі фразамі пра тое, што час лечыць, і ўсе там будзем і г. д. Важныя тут былі не словы, а той, хто іх казаў і як...

## ЛІТАРАТУРНЫЯ ВІРЫ

Малады інтэлігентны беларускамоўны фатограф нечакана апынуўся ў эпіцэнтры літаратурнага жыцця. Жывыя класікі: Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Міхась Лынькоў, пасляваеннае пакаленне пісьменнікаў у росквіце таленту: Янка Брыль, Васіль Быкаў, Мікола Аўрамчык, Іван Навуменка, добразычлівы і ўдумлівы адказны сакратар Уладзімір Юрэвіч, усмешлівы Васіль Зуёнак, паважны галоўны рэдактар Алесь Асіпенка.

Мэтаю часопіса было адкрыццё новых імёнаў, кожны малады аўтар павінен быў не толькі прадставіць уласны твор, але і атрымаць свой партрэт, таму татавага аб'ектыва не мінаў ніводзін твар.

Людзі своеасабліва паводзяць сябе перад камерай. Некаторыя любяць пазіраваць. Большасць — саромеецца. Трэба было мець талент псіхолага, душэўны такт, каб дапамагчы чалавеку раскрыцца перад аб'ектывам, скінуць сарамлівасць, проста быць сабой. Так неўпрыкмет завязваліся знаёмствы, якія пасля перарасталі ў цёплыя, паважлівыя і сяброўскія адносіны. Дома пастала палічка кніг з аўтарскімі прысвячэннямі, тэлефонная кніга абрастала славутымі імёнамі, людзі на вуліцах спынялі тату, віталіся і ўсміхаліся, загаворвалі па-беларуску.

## GENIUS LOCI

З гэтага месца я магу спасылацца на ўласныя ўспаміны. Мой першы візіт у рэдакцыю «Маладосці» я памятаю вельмі добра. Мне было тады чатыры гады. Тата прывёў мяне ў сквер з фантанам. Тады славутага хлопчыка з лебедзем па баках атачалі жабы, у якіх з рота вылівалася вада. Для дзяцей гэта была выдатная нагода асвяжыцца і папырскацца.

— А гэта — тэатр імя Янкі Купалы.

— Янкі Купалы? А каго ён купае? Янка-Купала-Ваду-Выхлябала!

Мы дайшлі да танка на пастаменце перад Домам афіцэраў, перайшлі дарогу і апынуліся ў прахалодным холе будынка ЦК Камсамола. За столікам сядзеў вартаўнік, якому тата даў дабрыдзень, і мы спусціліся ўніз па масіўных прыступках. Гэта быў уваход у бамбасховішча, дзе месціліся рэдакцыі падведамасных камсамолу часопісаў — «Маладосці» і «Бярозкі». У лабараторыі панаваў кіславаты пах хімічных рэактываў і тытуню. На вяроўцы сушыліся праяўленыя фотастужкі. На антрэсолях красаваліся карычневыя бутлі з нейкімі надпісамі. На некаторых былі чарапы і косці. Гэтыя выклікалі ў мяне найбольшую павагу. Уздоўж сцяны цягнуліся ванны з рэактывамі. Запалілася чырвоная лямпа на сцяне. У такім святле памяшканне выглядала чароўна. «Бачыш, фатаграфія — гэта вельмі цёмная справа, — тлумачыў тата. — Зараз стане зусім цёмна, ты толькі не палохайся, а пасля я табе нешта пакажу». Ён засунуў дзверы чорнай суконнай заслонай, каб выпадковы наведвальнік не запусціў у пакой святло з калідора. На стале стаяў цыбаты прыбор з доўгім каўпаком на бліскучай назе і столікам з рухомымі рэйкамі па баках. «Гэта фотапавелічальнік. Зараз мы з табой крыху пабудзем алхімікамі». Тата заправіў у касету негатыў, уставіў у павелічальнік, пстрыкнуў кнопкай выключальніка. На стале высвецілася выява: «Бачыш — гэта негатыў. На ім усе, што ў жыцці белае — чорнае, а ўсё, што чорнае — белае. Пазнаеш гэтага дзядзьку? А зараз падкладзем паперу і будзем лічыць да дзесяці». Тата яшчэ пачараваў над ценем, затуліўшы рукамі святло так, каб фон на фотаздымку аказаўся размыты, а твар дакладны. Потым выключыў павелічальнік, вынуў паперу і сунуў аркуш у ванну для праяўкі.

Сённяшнее пакаленне дзяцей фоташопу такога ўжо не ўбачыць: на белым аркушы пачалі праступаць імглістыя рысы, якія

станавіліся ўсё больш падобнымі да твару. Яшчэ імгненне — і чалавека на партрэце ўжо можна было пазнаць. Тата спрытна падхапіў пінцэтам мокрую паперу, перакінуў яе ў ванначку з вадой, потым у іншую, каб замацаваць выяву. Так на маіх вачах нараджалася фатаграфія. І гэта было падобна да цуду.

Потым здымак сушыўся на люстраным пукатым электрасушыльніку. Нарэшце, тата паказаў мне, як гільятынай абцінаюць лішкі паперы, каб засталася фотакартка з прыгожымі роўнымі беражкамі.

У другім сумежным пакойчыку стаяў стол, крэсла, электраплітка, радыёпрыёмнік. Тата прыдбаў яшчэ старую канапу, на якой часам заставаўся начаваць, калі лабараторныя эксперыменты «засмоктвалі» яго на ўсю ноч. Яна была такая гарбатая, што для мяне праблемай было на ёй уседзець, не тое што паспаць. Але тата, апроч талентаў алхіміка, валодаў яшчэ нейкай звышнатуральнай здольнасцю спаць на самым ускрайку любога ложка, звесіўшыся з яго насуперак усялякім законам гравітацыі.

На дзвярах віселі малюнкі: сяброўскі шарж на гаспадара лабараторыі, лінарыт сябра-мастака з суседняй «Бярозкі» Пятра Драчова, дзе быў прадстаўлены дом у разрэзе: у каморках, нібы ў пчаліных сотах, жылі маленькія чалавечкі. Яны займаліся кожны сваёй справай: пралі, гатавалі, мыліся ў ванне, спалі, калыхалі дзяцей, цалаваліся, пісалі дысертацыі. Мне гэты лінарыт вельмі падабаўся. Побач вісеў і мой твор: Козлік-Андрапалозлік з ружовым чалавечым тварам, зялёнымі рожкамі і бадзёрым хвастом. Гэтыя малюнкі як талісман павандравалі разам з іншымі татавымі рэчамі на новую сялібу «Маладосці» ў Доме друку.

### АПАНТАНАСЦЬ

Памятаю, як часта тата хадзіў здымаць горад. Аднойчы ён узяў мяне з сабой. Гэта было майскае свята, я сяджу ў таты на плячах, а на галаву нам сыплюцца зоркі салюту. Яны пухнатыя і блізкія, я цягнуся, каб іх ухапіць, але палахлівыя зоркі не далятаюць і, выпусціўшы дымны хвост, растаюць у аксамітным, цёмна-сінім небе.

Кнігу «Агні Мінска» адкрывала вокладка з выявай праспекта, дзе каляровыя адбіткі фар крэслілі на асфальце доўгія, блытаныя ніці — кадр з запаволенай экспазіцыяй. Знаёмыя гарадскія краявіды, паркі, Цэнтральны сквер, Ленінская бібліятэка, Планетарый. Менск канца шасцідзясятых: гарацць вокны лабараторый, у чытальных залах чэргі наведвальнікаў, героі дня — вучоны-вынаходнік, творца, паэт.

Тата займаўся эксперыментамі з колерам, па локаць залазіў у рэактывы, дамагаўся новых спецэфектаў з каляровымі фільтрамі, мантажом, кампазіцыяй, удзельнічаў у выстаўках. У Маскве яго працу нават адзначылі бронзавым медалём на міжнароднай выстаўцы, але гэтай узнагароды ён так і не пабачыў. Маскоўскія дзеячы часта абмяжоўваліся «маральным заахвочваннем» у адносінах да прадстаўнікоў іншых рэспублік, пакідаючы сабе матэрыяльную частку іх дасягненняў.

Аднойчы ад усёй гэтай фотахіміі ён нават атруціўся. Давялося перагледзець некаторыя прыярытэты. Адмовіцца ад самастойнай праяўкі каляровых негатываў. Цяпер ён аддаваў іх у праявачны цэх. Стан тагачаснай паліграфіі не дазваляў поўнасцю перадаць прыгажосць каляровых кадраў. Чорна-белыя здымкі пакідалі лепшае ўражанне ўжо хаця б таму, што ў друкарні было менш шанцаў іх спляжыць. Эвалюцыя ад формы да зместу адбывалася паступова. Пад канец жыцця ён прызнаўся, што самыя складаныя рэчы — проста добра зняць прыроду.

Рэвалюцыя ў творчым працэсе адбылася, калі новы рэдактар «Маладосці» Генадзь Бураўкін дамогся на размеркаваўчай нарадзе, каб фотакарэспандэнту часопіса вылучылі новую японскую тэхніку: дзве прафесійныя камеры «Nikon» і «Asahi Pentax» з наборам аб'ектываў — ад звычайных вузкіх да панарамнага «рыбінага вока» і доўгага «тэлевіка», разлічанага на вялікія адлегласці. Такіх камер на ўвесь Савецкі Саюз было куплена 20 штук. Па адной на кожную рэспубліку, астатнія — сталічным карыфеям. Тата на радасцях пабег у чамаданную майстэрню, дзе на заказ яму зрабілі спецыяльныя лёгкія і цвёрдыя куфэркі, сам абклейваў іх у сярэдзіне зялёным вельветам, каб, барані божа, не патрушчыць свой скарб падчас нейкіх

пераездаў-пераносаў. Валянціну Ждановічу пашанцавала — яму дасталіся механічныя камеры. Калегі, якім дасталася электронная апаратура, скардзіліся, што яна хутка зламалася. У спрытных татавых руках «японцы» праслужылі да канца яго жыцця і адышлі пераемніку.

Некалі ён жартаваў, што ў сваім «вушастым» «Запарожцы» возіць «Волгу» — столькі каштавалі тады два ягоныя куфэркі. Аднойчы на мокрай трасе машына перакулілася і, двойчы пераляцеўшы цераз дах, стала на колы над стромым адхонам. Лабавую і заднюю шыбу выбіла, усё, што было ў машыне, павымётвала. На памятым пярэднім капоце варушыў клюшнямі вялікі рак — пачастунак ад сяброў-рыбакоў, а самае каштоўнае — куфэрак з апаратурай — цэнтрабежная сіла выкінула з машыны аж на 20 метраў. Тата ішоў і збіраў па «бетонцы» свой скарб. На вялікае здзіўленне, оптыка не пабілася, толькі пагнуліся металічныя часткі. Добры геній, майстра на ўсе рукі, Валодзя Маеўскі здолеў вярнуць апаратуры другое жыццё.

## ПАЛЕСКАЯ РАПСОДЫЯ

У 1969 годзе рэдакцыя паслала фотакара Ждановіча ў творчую камандзіроўку па Прыпяці на агітцеплаходзе «Маякоўскі». Малады пісьменнік Уладзімір Караткевіч і мастацтвазнаўца Зянон Пазняк сталі яго спадарожнікамі ў гэтай вандроўцы. Не буду марнаваць паперу — лепш, чым гэта было апісана ў караткевічаўскім эсэ «Званы ў прадоннях азёр» і «Краіне Цыганіі», гэта ўсё роўна не зробіш. У тым падарожжы ўсё было незвычайнае. І спатканне з каталіцкім ксяндзом Свёнтакам (як бы здзівіліся ўсе ўдзельнікі той сустрэчы, калі б ведалі, што некалі ён стане кардыналам, а мастацтвазнаўца З. Пазняк узначаліць Беларускі Народны Фронт), і пахаванне «цыганскага суддзі», і шчырасць і талент палешукоў, якія шчодра сыпалі жартамі, свяцілі ўсмешкамі, спявалі, паказвалі старадаўнія строі. Ужо тады было зразумела, што ўсё бачанае паступова і незваротна зменіцца, але сярод суразмоўцаў былі тады маладыя, поўныя планаў і надзей спевакі, ткачыхі, вышывальшчыцы, рыбакі і матросы. З таго часу твар беларускай вёскі пастарэў і асунуўся.

## ШТО ЧЫРВАНА, ТО ХОРАША

У 1974 годзе выходзіць кніжка «Неглюбка» (укладальнік М. Жабінская, фота В. Ждановіча). Калі пазнейшыя даследчыкі наведваліся туды, прыгожыя, поўныя чару маладосці твары палескіх майстрых ўжо прарэзалі бязлітасныя маршчыны. «Валянцін, — казалі яны, — як ты паспеў застаць іх маладымі?»

Захапленне беларускімі тканінамі прыводзіць тату ў 1972 годзе ў Маскоўскі гістарычны музей. Мэта — слуцкія паясы. За права здымаць беларускія рарытэты музей заламіў тады немалыя грошы — 350 рублёў (для параўнання, пакой у гаспадароў мы здымалі тады за 45). Але зробленыя слайды знайшлі свайго ўдзячнага гледача. Пасля здымкі з таго падарожжа не раз друкаваліся ў прэсе, увайшлі ілюстрацыямі ў «Зямлю пад белымі крыламі» У. Караткевіча і нават у кнігу «Слуцкія паясы», выдадзеную пасля смерці Валянціна Ждановіча, у 2005 годзе, сябрамі Маяй Яніцкай і мастаком Валерыем Валяуліным.

## СЯБРОЎ ПІРЫ

Канец 60-х стаў для таты эпохай сяброўства з беларускімі мастакамі і мастацтвазнаўцамі. Ён робіць рэпараж пра маладых выпускнікоў Мастацка-Тэатральнага інстытута і знаёміцца з цэлым пакаленнем запаленцаў беларускага Нацыянальнага Адраджэння. Для мяне сустрэчы з легендамі гэтага руху выглядалі па-хатняму проста: да нас у госці прыходзілі цікавыя людзі, мама з татам хадзілі ў пярэзвы да іх.

## БУРЫ МЯДЗВЕДЗЬ

Дзядзька Яўген Кулік — высачэзны асілак — вылучаўся сярод гэтай кампаніі мажнай паставай і разважлівасцю. Дагэтуль захоўваю я падараванага ім бурага цацачнага мядзведзя — некалі падарунак быў ростам з мяне і вельмі нагадваў татавага сябра-мастака. На местачковым рынку ён пабіўся аб заклад, што здолее выпіць трохлітровік мёду. На вачах у здзіўленых сяброў і гандляроў ён спакойна выкуліў у




*Пасведчанне фотакара часопіса «Маладосць».*

сябе цягучае бурштынавае змесціва слоіка і толькі смачна крэкнуў. Аўтарытэт дзядзькі Яўгена яшчэ больш умацаваўся пасля таго, як ён са спакойнай усмешкай раз зброіў у Крэве мясцовых патрыётаў: пачуўшы гаворку пра Вялікае Княства Літоўскае, яны падумалі, што гэта з Літвы прыехалі нацыяналісты і падступаліся ўжо з кулакамі да членаў гістарычнай экспедыцыі: «Вам тут не Літва! Мы — беларусы!» «Хлопцы, а давайце вып'ем!» — прапанаваў без найменшага ўзрушэння дзядзька Яўген. І праз пятнаццаць хвілін яны ўжо былі сябрамі.

Пазней хвароба бязлітасна сагнула яго стан, сагнала з твару румянец, але не зламала дух летуценніка, кніжніка, рамантыка, патрыёта Беларусі. Ён жыў без сталага заробку, нібы птушка, жывіўся тым, што Бог пашле, перажываў творчы крызіс, але да скону быў верны сябрам, ідэі Адраджэння Бацькаўшчыны, вяртання з нябыту імёнаў Айцоў Беларушчыны, праўды пра іх лёс і спадчыну.

### ПЯТРАС

Тата пяшчотна на літоўскі манер называў свайго сябра Пятрас. Графік Пятро Драчоў быў суседам па бамбасховішчы — кабінет мастака часопіса «Бярозка» выходзіў на адзін калідор з татавай фоталабараторыяй. Разам яны ездзілі ў 1967 годзе ў турыстычную паездку па Югаславіі. Пятро тлумачыў тату тонкасці і адрозненні архітэктурных стыляў, канцэпцыі сучаснага выяўленчага мастацтва, распавядаў пра прыгоды свайго нялёгкага дзяцінства, маляваў акварэлі, макаючы паперу проста ў воды Адрыятыкі. У Сараеве на кірмашы тату з нямецкім фотаапаратам на шыі прынялі за немца. Людзі, якія яшчэ не забыліся на горыч акупацыі, ледзь не разарвалі маладога фатографа. Пятро дапамог абараніцца, растлумачыў, што яны з Беларусі, людзі заўсміхаліся і пачалі прасіць прабачэння.

У тры гады ён апынуўся ў Ленінградзе, трапіў у блакаду, быў вывезены на вялікую зямлю з дзіцячым домам, бачыў, як з голаду памiралі на суседніх ложках яго маленькія сябры. Пры ўсім пры гэтым ён быў сама адкрытасць, шчырасць і дабрыня. Мне ён расказваў, як у нішчымныя студэнцкія гады ратаваўся ад голаду, малюючы талоны ў сталоўку. Мог бы і рублі маляваць, але не хацеў праблем з законам. Пасля вайны вучыўся ў Піцеры, праводзіў дні ў Эрмітажы, нетаропка вывучаючы яго каласальныя зборы. Чалавек вялікай эрудыцыі, ён усё жыццё быў у пошуку ісціны, адкрыты для новых ідэй і ведаў. Чытаў і размаўляў па-польску, займаўся філасофіяй, этнаграфіяй, біялогіяй і нават тэорыяй Эйнштэйна, ёгай, падводным паляваннем і археалогіяй, фатаграфіяй, музейнай і кніжнай графікай, меў абсалютны музычны слых і прыгожы голас. Мог зрабіць стойку на руках і выканаць любую жаночую працу. Маму вучыў новым спосабам смажыць катлеты і саліць рыбу, тату паказваў у лесе ядомыя грыбы, якія мы раней абыходзілі за кіламетр. Затое тэхніка ў руках дзядзькі Пятра заўсёды паводзіла сябе, як наравістая жывёліна. Пра яго манеру вадзіць машыну хадзілі легенды: то ён на вачах у здзіўленага інспектара праедзе на чырвонае святло, то



*Прыпяць, 1974 год.*

ўрэжацца ў знак «Прыпынак забаронены», то забудзе пераключыцца з дыферэнцыяла на дарожны бег. Аднойчы я назірала, як дзядзька Пятро заводзіў сваго наравістага «жалезнага каня». Спачатку па-дзелавому сур'ёзна, потым лагодна ўшчуваў: «Ну, давай!» — аж пакуль нарэшце не пачаў пінаць нагамі радыятар. Тады машына, разумеючы, што далейшы супраціў акажацца проста разбуральным, спалохалася і зачмыхала, а потым пакорліва забурчэла.

Пятро Драчоў аформіў татавы кніжкі «Ад вясны да лістапада» (1969), «Мастацтва сяла Неглюбка» (1974), «Вяртанне» (1987), мноства дзіцячых і дарослых твораў іншых аўтараў, падручнікі. Ён быў улюбёнцам дзяцей — жартаваў, цягаў іх на сабе, паказваў «штукі», вучыў маляваць і сам вучыўся ў іх шчырай непасрэднасці. Разам з дзевяцігадовай дачкой Наталляй ён аформіў кнігу. Пасля працы ў «Бярозцы» быў мастацкім рэдактарам часопіса «Беларуская мінуўшчына». Яго дрэварыт «Грунвальд», які ўпрыгожвае вокладку кнігі У. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі», стаў класікай і разышоўся па падручніках, музеях і энцыклапедыях. Разам з татам яны афармілі іншую дзіцячую кнігу Уладзіміра Сямёнавіча — «Белавежская пушча». Адно з найпрыгажэйшых выданняў свайго часу — «Чорны замак Альшанскі» — таксама яго твор. Колькі спрэчак было на тэму задуманых ім каляровых разваротаў да гэтай кнігі з чарапамі ахвяр! Мастаку рабіліся закіды, што гэта занадта натуралістычнае рашэнне. А ён прызнаваўся, што ў снах бачыць куды страшнейшыя апакаліптычныя праявы: цэлыя гарады ў атамным агні, мноства цел у апошнім скурчы, але выявіць усё гэта ў матэрыяле ён не меў сілы. Пятро Драчоў быў майстрам тонкай работы: ад далікатнай рэтушоўкі да дробных музейных макетаў. Дзіўна, як спалучаліся ў ім прыродная жвавасць і творчае засяроджанне. Адзін з апошніх сваіх твораў — мастацкае выданне «Слуцкага Евангелля» — ён рабіў з вялікімі намаганнямі — зрок ужо пачаў здаваць. Мноства рэчаў, якія ён рабіў рукамі, цяпер перайшло ў разрад камп'ютарызаваных. Гэтымі новымі тэхнікамі авалодалі сыны Пятра, Сяргей і Мікола.

## ШЭСЦЬ РУЖ

Добрымі сябрамі сям'і былі Пятро і Валянціна Свентахоўскія. Шмат гадоў аддалі яны выхаванню маладых талентаў, працуючы ў мастацкім ліцэі Ахрэмчыка і Акадэміі мастацтваў. Памятаю, як упершыню пачула з вуснаў Пятра Свентахоўскага «Сказ пра лысую гару» — ён ведаў на памяць увесь гэты сатырычны твор, сыпаў анекдотамі, меў акцёрскі талент — у тварах агучваў пасяджэнні Саюза мастакоў, ідэалагічныя бітвы партыйных «мэтраў» з сябрамі «Пагоні».

У дзяцінстве мяне заварожваў яго пейзаж: я думала, на ім намаляваны айсбергі дзесь у Антарктыдзе. Аказалася, што гэта былі аблокі над возерам Аталова, што на Полаччыне. Пятро, нястомны рыбак і падарожнік, падказваў тату прыгожыя мясціны для пейзажаў: Балдук, Слабодку, Страчу. Мы на сваім «вушастым» «Запарожцы» па мянушцы Кандыбобер праехаліся па шляхах, пракладзеных ім на рэдкай у тыя часы сярод мастакоў «Волзе».

Аднойчы дзядзька Пятро прыйшоў да нас усхваляваны: ён прынёс папку дзіцячых сведчанняў разгону свята «Гукання вясны» на Траецкім прадмесці, калі на вучняў з вербачкамі і птушкамі, якія прыйшлі паспяваць вяснянкі на беразе Свіслачы, абрынулася збройная моц ветэранаў-афганцаў. Тым сказалі, што гэта фашысты будуць ладзіць нацыяналістычны шабаш... Пра гэта маўчаць было ўжо немагчыма. Тата зняў з усіх паказаняў фотакопіі, далучыўся да напісання калектыўнага пратэсту.

Паміж цёзкамі Валянцінай Свентахоўскай і Валянцінам Ждановічам заўсёды было асаблівае ўзаемаразуменне. Тата захапляўся яе адчуваннем колеру, мяккай манерай працы ў пастэлі, эксперыментамі з габеленам, нястомнай творчай руплівасцю і строгай жаночай прыгажосцю. Калі таты не стала, Валянціна падаравала нам на памяць пра іх сяброўства напісаны алеем букет: шэсць жалобных руж у чорнай раме.

## РОГ ТУРА

У 1973 годзе мы атрымалі кватэру на вуліцы Філатава, насупраць бальніцы з паліклінікай, і нашымі добрымі суседзямі сталі Міхась і Святлана Чарняўскія. Святлана працавала педыятрам у маёй школе. Наведваючыся ў шпіталь, часта заходзіла да нас. Дзядзька Міхась быў тады малады і чарнявы, а вось бландынкам жонцы і дачцэ Алесі прозвішча Чарняўскія зусім не пасавала. Тата дражніў іх Бяляўскімі. Пазней у нас нарадзілася малодшае пакаленне: мая сястра Рэгіна і Максім Чарняўскі былі пагодкамі. Дзядзька Міхась, вандроўнік і працаўнік, вёў тады раскопкі ў балоце. Сярод традыцыйных прылад эпохі неаліту ён знаходзіў цудоўныя рэчы: першыя творы мастацтва, фігуркі людзей, упрыгожанні. Памятаю, як уразіў мяне знойдзены ім на Гарадзеншчыне 70-сантыметровы рог тура. Толькі патрымаўшы ў руках такія рэчы, можна ўявіць сабе, якімі магутнымі былі насельнікі беларускіх пушчаў у часы, калі людзі не ведалі агняпальнай зброі. Рэдкі кніжнік і эрудыт, лагодны і спагадлівы да людзей, ён гаварыў заўжды ціхім, спакойным голасам, але ўсе змаўкалі, прыслухоўваючыся да таго, што ён кажа: столькі логікі, гумару і нечаканых паваротаў думкі было заўжды ў яго словах. Тата намаўляў яго пісаць гістарычныя апавяданні для часопіса «Бярозка». Так паўсталі цудоўныя творы, якія я пасля чытала свайму сыну: пра жыццё першабытнага хлопчыка, які рукамі лавіў рыбу ў вадзе. Мабыць, гэта былі і ўласныя ўспаміны дзядзькі Міхася. А якія цікавыя былі яго тэлевізійныя ўрокі гісторыі — пра шалаш з біўняў мамантa, пра паляванні з камі і паходнямі на махнаногіх гігантаў, пра Ваўкавыскія крамянёвыя капальні і жыццё старажытных насельнікаў балотнага Палесся! Стаўленне да яго прац з боку афіцыйных улад заўжды выклікала горкую ўсмешку: калі ўжо Міхасю Чарняўскаму выезд на кангрэс па праблемах неаліту яны забаранялі і лічылі пагрозаю для дзяржаўнай бяспекі, дык што ж гэта за дзяржава такая?

Пазней, у часы «перабудовы», менавіта дзякуючы рэкамендацыі дзядзькі Міхася я змагла запісаць для радыё ўспаміны вязня сталінскіх лагераў Міколы Канаша. Недаверлівы, як усе падпольшчыкі і ахвяры сталінізму, стары паплечнік Ларысы Геніюш паверыў Міхасю Чарняўскаму, што да яго едзе не «падсадная качка», а нармальны даследчык. Яго светлае імя заўжды было нескажоным аўтарытэтам, сінонімам сумленнасці.

## БЕРАГ БЕЛЫХ БУСЛОЎ

Сярод татавых калег-фатографаў бліжэй за ўсіх мы сябравалі з карэспандэнтам БелТА Уладзімірам Мяжэвічам. Мы разам «рабінзонілі» на Прыпяці, цэлы месяц пражылі ў палатках у кампаніі з ім і яго маладой жонкай Галінай Паўлаўнай — выпускніцай інстытута замежных моў. Гэта быў іх мядовы месяц. Жыццё было фантастычнае: вакол — эдэм, травы ў поўны рост, клёкат буслоў на дубах-асілках, сімфоніі конікаў і жаўрукоў, лілеі і жоўтыя гарлачыкі гойдаюць на хвалях, узнятых вяслом, лупатых стракоз, часам пераплыве раку ласіха з ласянём, а то бабёр знячэўку плясне хвастом-лапатай, увечары стогне ў чароце бугай, туман ватнай коўдраю ахінае лугі, а раніцай, прыўзняты,

завісне над вадой, каб растаць у промнях новага дня.

Дзядзьку Валодзю я вельмі любіла: ён быў чалавекам незвычайнай дабрыні і гумару. Памятаю, што дарослыя патрабавалі, каб я размаўляла з ім на «Вы», але ён быў такі свойскі, такі па-дзіцячы непасрэдны, што я не адчувала з ім ніякай дарослай дыстанцыі. Ён ніколі не ўшчуваў, не прымушаў, але заўсёды па-змоўніцку мне патураў і падміргваў. 1977 год мы сустракалі разам. Той Новы год я згадваю як самы шчаслівы — малы двухгадовы залатавалосы сын Мяжэвічаў Дзянісік выпіў бутэльку перакісу вадароду, але не атруціўся, перакуліў елку, але пабіў не ўсе цацкі, хударлявая, элегантная Галіна Паўлаўна тлумачыць нам, пра што па-англійску прачулым барытонам спявае на кружэлцы Хампердынк, зіма сапраўдная, як на калядных паштоўках, снегу — гурбы, і мы качаемся па сумётах і рагочам. Выйшла татава кніжка «Бераг белых буслоў», жартаўліва прazваная сябрамі «БББ», з выявамі тых прыпяцкіх берагоў, дзе мы бавілі цэлы месяц, і мы збіраемся на Каўказ за атрыманы ганарар...

## ПАЛАВІНКІ МЕДАЛЯ

Быў яшчэ адзін татаў сябар, Вадзім Клакоцкі, арнітолаг, глыбокі знаўца беларускай прыроды, з якім тата пазнаёміўся, калі рабіў кнігу пра Бярэзінскі запаведнік «Ад вясны да лістапада». Тата тады правёў у запаведніку сапраўды цэлы год. У яго быў чэшскі матацыкл «Панонія», які тата пяшчотна зваў Карлам (у гонар героя Хэмінгуэя з «Зялёных пагоркаў Афрыкі»). Гэта былі цудоўныя паездкі: пабачыць, як закіпае вада, калі ідзе на нераст шчупак, як пяшчотна цягнецца да сваёй аленіхі закаханы алень, пабываць на балотных выспах, куды трапіць можна было толькі з праваднiком па прытопленых партызанскіх кладках, пакаштаваць сапраўдных труфеляў, знойдзеных раніцою ў арэшніку... І ўсе гэтыя адкрыцці пад акампанемент самых неверагодных апавяданняў у стылі Мюнхгаўзена, у якіх кожнае слова да драбніц — шчырая праўда: пра тое, як па возеры плаваў кацер з рулявым-мядзведзем, а як толькі каманда, якая са страху пападала за борт, хацела ўзлезці назад, мяняў курс і адрульваў ад іх; пра лесніка-забойцу і здрадніка, што ў вайну завёў у засаду атрад уцекачоў з канцлагера, каб выдраць у няшчасных залатыя зубы, і як лёс усё ж пакараў яго: забойца стаў ахвярай параненай ім самім мядзведзіхі, і як пасля ў дупле знайшлі мяшок гэтых залатых зубоў разам з нямецкімі медалямі; пра тое, як ратавацца, калі цябе ўкусіць за язык мурашка, праглынутая разам з ягадай... Аднойчы з татам у лесе яны пабачылі лася. «Валька, а давай падбірацца да яго на карачках — лось пабачыць нас, здзівіцца і не ўцячэ, а ты яго пстрыкнеш!» Так і зрабілі. Гледзячы ў ласіныя вочы на фотаздымку, я заўжды ўсміхаюся, прыгадваючы гэтае бяскроўнае паляванне на прыгожы кадр.

Потым Вадзім Пятровіч разам з жонкаю і трыма дзецьмі з’ехаў у Крым, працаваў настаўнікам біялогіі ў дзіцячым доме, але і там працягваліся дзівосы: яго вучні не горш за Гары Потэра па начах спускаліся з трэцяга паверха па скінутым з акна дваццаціметровым дывановым ходніку, уганялі з лётнага поля самалёт, кралі ў кіёску цукеркі, вярталіся пад раніцу назад, нібыта «нідзе ніколі ніякага», і пісалі настаўніку лісты з прызнаннямі ў каханні. І мне было лёгка зразумець, чаму.

Аднойчы дзядзька Вадзім прыехаў да нас у госці. Я хварэла. Па біялогіі прапусціла тэму «Сямейства курыных». «А давай я табе ўсё раскажу», — прапанаваў татаў сябар. Ніколі ў жыцці не чула я такіх захапляльных лекцый: ён ведаў на памяць усё: пароды, лацінскія назвы, апісанні нораваў і сістэматыку — ад старога Бема да самых новых доследаў, распавёў пра ўсе свойскія і дзікія віды — ад глушца і перапёлкі да райскіх птушак і паваў, з імітацыяй птушыных галасоў і дасціпнымі назіраннямі, — і гэта ўсё проста так, на запытанне, без папярэдняй падрыхтоўкі!

Потым тата і Вадзім Клакоцкі зноў сустрэліся — яму і жонцы прапанавалі працу ў Прыпяцкім запаведніку. І тут ён здзіўляў калег, знаходзячы ў жывой прыродзе віды птушак, якія, паводле звестак навукі, лічыліся для Беларусі неўласцівымі, ведаў таямнічыя віры, дзе жыў сом-людаед, знаходзіў у прыбярэжным тураўскім пяску старадаўнія манеты і бурштын і ўсё жыццё па-донкіхоц-

ку бескампрамісна змагаўся за захаванне жывой прыроды: на сходах раённых, міністэрскіх калегіях, у прыватных размовах.

У 1987 годзе разам з Вадзімам Клакоцкім тата выдаў кніжку пра Воўча — заказнік шэрых чапель. Там ён, Пятро Драчоў і дырэктар Дома-музея 1-га з'езда РСДРП Сяргей Сіманюкоў пражылі два тыдні ў птушынай калоніі. Тата залазіў на дрэва па лесвіцы і здымаў зблізку неверагодныя кадры: як маці прыносіць дзецям у дзюбе рыбку, як сварацца птушаняты ў гняздзе, як, свецячы жоўтым вокам, падобна да старажытнага птэрадактыля, ахоўвае чапля свае ўладанні. Аднойчы тату давялося пабыць у ролі Вінні-Пуха: ён залез на дрэва, дзе ў дупле сядзелі шэршні. Замест таго, каб адразу даць задні ход, ён дастаў балончык дыхлафосу і адважна чмыхнуў з яго ў дупло. У адказ на такое абыходжанне з гнязда вылецеў цэлы рой. Давялося, плюнуўшы на гонар, ратавацца ўцёкамі.

Прыезды ў Мінск татавага сябра заўсёды былі святам: мне здавалася, што гэта мы жывём у правінцыі — столькі славутых людзей перабывала ў Клакоцкага ў гасцях, столькім паказваў ён запаведнік: паэты, прафесары-біёлагі, журналісты.

У 1980 годзе тата пазнаёміў свайго сябра з Уладзімірам Краткевічам. Гэтая сустрэча апісаная ў эсэ «1000 год і 7 дзён». Уладзімір Сямёнавіч ацаніў эрудыцыю і рэдкае веданне гісторыі свайго суразмоўцы (В. Клакоцкі працаваў у Мінскім краязнаўчым музеі, прымаў актыўны ўдзел у стварэнні Тураўскага музея прыроды, быў нумізматам, таксідэрмістам). У сваё апошняе падарожжа У. Караткевіч таксама праязджаў праз гасцінны дом Клакоцкіх. Жонка Вадзіма Пятровіча, Тамара Мікалаеўна, выдатны батанік і знаўца лекавых траў, лячыла яго зёлкамі, раённы хірург слушна распазнаў хваробу — язва страўніка, хвораму крыху палепшала, але вырашана было везці У. Караткевіча ў Мінск, дзе сталічныя «карыфеі» ўпарта ставілі іншы дыягназ. Горка думаць, што каб не гэтая памылка, усё магло б атрымацца па-іншаму...

Апошні прыезд Вадзіма Клакоцкага ў наш дом адбыўся ўжо пасля смерці таты, у 1999 годзе. Хворы, з кійком, прадчуваючы, што гэта будзе апошняя сустрэча, ён



*Канец 1960-х.*

прыехаў паглядзець на ўнукаў Валянціна Ждановіча і прывёз нам апошні падарунак — палову счарнелай срэбнай манеткі XV стагоддзя. «Гэтая палавіна вам, а другая застанецца ў мяне. Быў на Беларусі некалі такі звычай — на развітанне рубілі напалам срэбную манету і насілі на знак вернага сяброўства, каб пры сустрэчы можна было злучыць іх у адно і пераканацца, што яны да сябе пасуюць і прысланы ганец — той самы чаканы пасланец»...

Праз паўгода Вадзіма Пятровіча не стала.

## ЗОРЫ ПОБАЧ

У 1974 годзе ў рэдакцыю часопіса прыязджае пасля трыумфальнага палёту першы беларускі касманаўт Пятро Клімук. Уся рэдакцыя сустракала пачэснага госця. Фатограф, як заўжды, на ўсіх групавых здымках з краю: пакуль жужжыць аўтаспуск, ён павінен паспець прыстроіцца да грамады.

Каржакаваты, усмешлівы Пятро Клімук быў вельмі фатагенічны. Разам з бялявай жонкай-прыгажуняй яны выглядалі выключнай парай. Тата ездзіў з П. Клімуком на радзіму, у вёску Камароўка, а потым у Зорны гарадок, дзе разам з Міколам Гілем збіраў матэрыял для кніжкі П. Клімука «Зоры побач». Тата ўпершыню праехаўся на замежным аўто з масажнымі сядзеннямі, пабачыў цэнтрыфугу, на якой выпрабоўваюць усіх

кандыдатаў на палёт, пазнаёміўся з напружаным жыццём касмічнага гарадка. Партрэт П. Клімука, знятага ў лётным шлеме, заваёўваў пасля медалі на выстаўках.

«За кадрам» хвалебных рэпартажаў засталіся апавяданні першага беларускага касманаўта пра пасляваеннае дзяцінства, перадзел Берасцейскага Палесся паміж Беларуссю, Польшчай і Украінаю, пра тое, як іх украінскую вёску далучылі да Беларусі і падавалі новыя пашпарты з новай нацыянальнасцю, і як маці, запісаўшы яго ў беларусы, фактычна вырашыла ўвесь пазнейшы сынаў лёс. Пра тое, што з Чарнігаўскага ваеннага вучылішча лётчыкаў-выпрабавальнікаў выйшла разам з ім 200 курсантаў, а праз дванаццаць год жывых засталося пару чалавек... Пра радыяцыю, якая з'яўляецца нязменным спадарожнікам касманаўтаў, што рызыкуюць выйсці ў адкрыты космас, пра няўдалы палёт экіпажа В. М. Камарова, які скончыўся смерцю. Гэтыя шчырыя размовы былі сведчаннем узаемнай павагі і сімпатыі, як аўтограф і падараваныя П. Клімуком значкі «Зорны гарадок» і «Саюз-Апалон».

## ВЯРТАННЕ

Праца над кнігай «Вяртанне» (1988) стала для ўсёй нашай сям'і этапам новых адкрыццяў. Задума нарадзілася падчас паездкі на святкаванне юбілею 35-годдзя вызвалення Беларусі на Ушаччыну. Пабачыўшы радзіму Рыгора Барадуліна, пазнаёміўшыся з удзельнікамі партызанскага руху і прыгажосцю гэтага азёрнага краю, тата загарэўся думкаю выдаць незвычайную кнігу, дзе было б дзве паловы: дакументальная, чорна-белая, з ваеннымі кадрамі і партрэтамі жывых удзельнікаў вайны, і каляровая, са слайдамі мясцовых краявідаў і лірычнымі вершамі, бо ў яго свядомасці трагічны лёс людзей быў неадлучна звязаны з чароўнай прыгажосцю гэтага кутка Беларусі, дзе колькасць паэтаў на адзін квадратны кіламетр самая шчыльная ва ўсёй краіне.

Рыгор Іванавіч падараваў тату магчымасць пажыць у яго роднай хаце. Пасля смерці маці яна стаяла пустая, а дом, як вядома, гіне, калі ў ім не цепліцца жыццё. Там усё было, як пры жыцці гаспадыні: партрэты на сценах, карункавыя прошвы бялізны, этажэрка кніжак, якую паэт пачаў запаўняць творамі класікаў яшчэ ў школьныя гады, а потым звозіў сюды ўжо ўласныя творы. На суседняй вуліцы жыла цётка Рыгора Барадуліна, Марыя Рыгораўна, пявуння і жартаўніца.

Для таты гэта было вяртаннем у дзяцінства: ён прынцыпова не хацеў будаваць лецішча, лічыў, што прывязвацца да зямлі і адвечнага земляробчага календара — гэта не для свабодных людзей, а тут раптам адчуў настальгію па печы, садзе, забытым смаку дзяцінства местачковага хлапчука — бабулінага ўнука. Ён з задавальненнем сек дровы, даглядаў сад, насіў ваду з калодзежа. Для Марыі Рыгораўны ён сапраўды стаў як унук — вазіў яе на машыне ў лес, куды яна ў свае 75 ужо не мела надзеі дайсці пехатою, слухаў успаміны пра вайну, якія гучалі актуальна, як учарашнія навіны, вясёлыя апавяданні пра наезды гасцей-пісьменнікаў і дасціпныя частушкі.

Мала-памалу, возера за возерам, дарожку за дарожкай, ён аб'ездзіў увесь Ушацкі раён, пабачыў усе маляўнічыя закуткі, прызвычаіўся да сакатлівай мясцовай гаворкі, перасмакаваў усе мясцовыя назвы: Вечалле, Чаравэчча, Доўжыца. Потым паказваў усёй сям'і курганы-валатоўкі, партызанскі аэрадром, баброўню, вазіў на «Прарыў». Знаёмства з ветэранамі стала яшчэ адным адкрыццём: простыя, але ўзнёсла-прыгожыя твары, незвычайныя апавяданні, безліч адвагі, гумару і суровай праўды.

Рыгора Іванавіча мы сустракалі нячаста — проста перадавалі ключы ад хаты, міналіся на літататурных вечарынах. Яго жыццё тачылася па іншых рэйках. Там, на радзіме, для нас яго паэзія напаўнялася жывым, канкрэтным зместам, мы пранікаліся блізкасцю да яе вобразаў. Тут, у Мінску, усё адбывалася імкліва, скокам-подбегам. Заўжды ласкавы да дзяцей, вясёлы і спагадлівы, ён быў заўсёды заняты, спяшаўся, ламаў графікі сустрэч і тэрміны здачы тэксту. Праца над кніжкай зацягнулася на дзесяць год: тата адчуваў, што яго драматычныя здымкі апошніх ушацкіх ветэранаў не кладуцца на лірычны лад традыцыйных барадулінскіх вобразаў: маці, неруш, прырода...

Супярэчлівая, кантрасная канцэпцыя стала прычынаю творчага крызісу. Кніжка выйшла, калі некаторыя героі яе ўжо памерлі. Тагачасная беларуская паліграфія не ў стане была перадаць прыгажосць яго слайдаў. На чорна-белай вокладцы тата змясціў партрэт Марыі Рыгораўны.

Пасля смерці таты «Маладосць» надрукавала верш Рыгора Барадуліна, прысвечаны яго памяці. Ён шмат зрабіў, каб падтрымаць нас у самыя цяжкія для сям'і часы. Цяпер новае пакаленне дзяцей расце на яго добрых, дасціпных вершах. Наслухаўшыся апавяданняў пра дзядзьку Рыгора, мой малы аднойчы запытаўся ў тралейбусе, паказваючы на барадатага дзеда: «Мама, гэта Барадулін?»

## РЭДКАЛЕГІЯ

Я заўсёды зайздросціла татавай працы: рэдакцыйныя пасяджэнні адбываліся пасля абеду, пісаць трэба было раз на месяц, у падарожжы высылалі па службе, сустракацца з цікавымі людзьмі было абавязкам.

Татавы калегі не часта наведваліся да нас у госці: збольшага мы дазнаваліся пра іх жыццё з яго апавяданняў.

Цікавую гісторыю расказала тату Вера Палтаран, загадчыца аддзела крытыкі. Неяк яе паслалі на Палессе ў камандзіроўку. Заначавалі ў сялянскай хаце. Палеглі спаць: гасцям далі месца на печы, гаспадыня на лаве. Не спалася абедзвюм. Вера Палтаран адчувала, што яе нешта пячэ, трывожыць. Нарэшце, гаспадыня не вытрымала і сказала: «Слухай, чую я па табе, што ты — ведзьма. Але мая сіла большая. Хочаш — давяду?» Неўзабаве пачуўся стук у акно: «Навошта вы клікалі мяне, мамо, што здарылася?» — на парозе з'явіўся сын гаспадыні. — «Сыночку, проста мне трэба было, каб ты прыехаў!» Гэта быў цуд, бо тады ў глухой палескай вёсцы не тое што сотавага — звычайнага тэлефона не было. Гэта гаспадыня тэлепатыяй выклікала сына з Гомеля і прымусіла прыехаць дадому.

Супольная камандзіроўка ў Маскву да маршала Бурдзейнага звяла тату бліжэй з Алесем Гаўронам, які вылучаўся сярод супрацоўнікаў рэдакцыі пышнай грывай пшанічных валасоў і грэнадзёрскай постацю. Сёння Алеся Гаўрона назвалі б секс-сімвалам «Маладосці». Да такой знешнасці ды яшчэ публіцыстычны талент, паэтычны імпэт, гумар і эрудыцыя! У падарожжы ён сыпаў дасціпамі, нават маршала Бурдзейнага зачараваў і насмяшыў, так што той дазволіў яму памераць свой пудовы кіцель, увешаны ўзнагародамі. Малады паэт аж крэкнуў, прымерыўшы яго на плечы.

Аднойчы аўтобус, у якім Алесь Гаўрон ехаў у родны Глуск, на крутым спуску нечакана затармазіў. Натуральна, жанчыны, што стаялі на праходзе, пападалі на падлогу. Алесь з задняй пляцоўкі ад штуршка таксама паваліўся на цётак зверху. Збянтэжана абтрасаючы пыл, ён сказаў замест прабачэння: «А мае ж вы курачкі, як жа я вас патаптаў!»

Тата высока цаніў паэтычны талент Міколы Аўрамчыка і яго лагодную, паважлівую манеру крытыкі, уменне тактоўна заахвоціць, не адбіць жадання да творчасці. Бацька заўсёды здзіўляўся, як чалавек з такім складаным лёсам, які прайшоў два канцлагеры: нямецкі Рур і сталінскі Данбас — мог захаваць у сабе столькі дабрыні, зычлівасці і спагады.

Разам з адказным сакратаром Алесем Камароўскім Валянцін ездзіў на яго радзіму, у Мікалаеўшчыну, на Каласавіны. Дарога пралягала праз родны Дзяржынск, з Алесем тату яднала пачуццё зямляцтва, яму імпанавала яго энергічная манера весці справы часопіса. Сярод літаратараў ён вылучаўся практычнасцю, здольнасцю любыя праблемы вырашаць на месцы. Нездарма доўгі час ён працаваў спартыўным каментатарам, дзе хуткая рэакцыя журналісту патрэбна не менш, чым гульцам.

Зусім іншым чалавекам быў загадчык аддзела прозы Уладзімір Дамашэвіч, якога рэдакцыя ахрысціла ласкавай мянушкай «Дзед». Спакойны, як ціхая вада, ён гаварыў павольна і заўсёды ўносіў нотку разважлівасці ў бурлівыя пісьменніцкія пасяджэнні. Тата часта забаўляў нас апавяданнямі пра рэдакцыйныя размовы, імітуючы высокі голас Васіля Гігевіча, басавіты тэмбр рудога волата Леаніда Дайнекі і разважлівую манеру Уладзіміра Дамашэвіча. Нягледзячы на такі спакойны тэмперамент, Дзед усіх здзіўляў адважнымі выступленнямі ў аба-

рону беларушчыны на з’ездзе пісьменнікаў. Паміж ім і татам усталяваліся вельмі цёплыя, сяброўскія адносіны.

З галоўнымі рэдактарамі Піменам Панчанкам, Алесем Асіпенкам, Генадзем Бураўкіным, Васілём Зуёнкам, Анатолем Грачанікавым, Генрыхам Далідовічам у таты таксама былі паважлівыя, роўныя адносіны. Ён шанаваў іх талент, грамадзянскую мужнасць, адданасць роднаму слову, імкненне захаваць у няпростым творчым асяроддзі баланс амбіцый і інтарэсаў. Але...

## КРЫЗІС СЯРЭДНЯГА ЎЗРОСТУ

З адыходам з пасады галоўнага рэдактара Генадзя Бураўкіна пачаўся крызіс «Маладосці». Часопіс, што некалі выходзіў накладам 22 тысячы асобнікаў, паступова траціць чытача. Спачатку 19 тысяч, потым 17, потым 7...

Агульнае пачуццё ўздыму, гонару з навуковых і творчых дасягненняў змяняецца трывожным прадчуваннем набліжэння катастрофы. Прарочы быкаўскі «Знак бяды» завісае ў паветры, падскурна адчуваецца ўсімі.

Пры ўсёй павазе да літаратурных талентаў Васіля Зуёнка, Анатоля Грачанікава, Генрыха Далідовіча, пры ўсіх спробах развярнуць арыентацыю публіцыстычнага аддзела ад рэпартажаў з ударных будоўляў да гістарычнай мінуўшчыны, праўды пра ахвяр сталінізму, вострых экалагічных праблем тата заўважаў, што часопіс не паспявае за часам, не ў стане супрацьстаяць эканамічным цяжкасцям. Перашкаджала рэдкая перыядычнасць, адсутнасць зацікаўлення з боку рэкламадаўцаў, адмова дзяржавы ад падтрымкі культурных устаноў.

Знешне ўсё ідзе сваім ходам, ладзяцца літаратурныя вечары, святкуюцца юбілеі, але аблічча пакалення мяняецца: на змену летуценным рамантыкам прыходзяць новыя твары. Тата здымае першыя партрэты «Тутэйшых»: А. Сыса, Л. Галубовіча, А. Глобуса, А. Федарэнкі. Хлопцы пратэстуюць супраць сталай каманды «Маладосці» — паміж сарака- (з добрым гакам) гадовымі членамі рэдкалегіі і гэтымі маладымі беларускімі пісьменнікамі ідзе непрыхаваная барацьба, новае пакаленне жорсткае ў ацэнках, не хварэе на залішнюю далікатнасць, не баіцца скандалаў і правакацый. Для людзей татавага пакалення гэта было балюча. Пасля выхаду на старонках часопіса п’есы А. Глобуса «Чорны смок» ён нават піша заяву пра звальненне, палічыўшы за абразу гонару створаны там вобраз У. Караткевіча.

Заяве не даюць ходу, але адбываюцца падзеі, якія ўжо ніхто не можа назваць проста непрыемнасцямі: невядомыя маладыя людзі нападаюць на загадчыка аддзела прозы У. Дамашэвіча, трагічна гінуць паэтка Яўгенія Янішчыц і галоўны рэдактар «Маладосці» Анатоль Грачанікаў...

Ён ужо не дужа разумее, што рабіць далей, як выбіцца з безграшоўя, куды сысці, не маючы іншай матэрыяльнай базы, чым лабараторыя і апаратура часопіса. Апошні год тата часта скардзіцца на боль. Баліць спіна, баліць нутро, баліць душа...

20 ліпеня 1992 году Валянцін Ждановіч збіраўся ў адпачынак. Незавершаныя задумы: кнігі пра Нясвіж і Прыпяцкі нацыянальны парк, купленае паліва, цыгарэты, цукар. Сякія-такія рэчы яму трэба было забраць з лабараторыі. Што стала апошнім штуршком, чаму менавіта ў гэты спякотны ліпеньскі дзень ён вырашыў, што мае ўсяго досыць?

Скажу шчыра, рамантычныя версіі пра руку КДБ можна скінуць з рахункаў адразу. У апошняй запісцы, у паніцы зацярушанай, затаптанай на падлозе сябрамі па рэдакцыі, якую я знайшла толькі праз 40 дзён, разбіраючы татавы архівы, ён напісаў: «Я паміраю сумленным чалавекам». Побач — акуратна складзеныя новыя акуляры...

Гэта была памылка. Ён не пабачыў, як народзяцца яго ўнукі, як зменіцца, расквітнее горад, як замест «Спартака», дзе яго матуля працавала 20 год галоўнай бухгалтаркай, адбудуецца Катэдра, як выйдуць пасля смерці 5 кніжак з яго здымкамі... У новай рэчаіснасці адкрыецца шырокае поле для назбіраных ім скарбаў. Электронныя сродкі фатаграфіі, пра якія некалі ён так марыў, увойдуць у кожны дом, і сеціва зробіць межы ўмоўнасцю.

Я адкрываю канверт, выцягваю слайд, выстаўляю на прасвет. «Хочаш, я пакажу табе кіно?» Просты цуд — святло і цень, час, запаяны ў цэлафан. Шчаслівы час, калі мы былі разам. 

# ПРАТАКОЛЫ ПАСЯДЖЭННЯЎ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ»

## АД 4 КРАСАВІКА 1963 ГОДА

Парадак дня: Аб перабудове працы часопіса ў сувязі з сустрэчай пісьменнікаў з чл.[енамі] урада і Пленумам Саюза пісьменн.[ікаў] СССР.

Прысутнічалі: усе члены рэдкалегіі (апроч Быкава і Лынькова) і члены рэдакцыі.

*Паведамл.*[яе] *т. Панчанка*: Зрабіць нашы матэрыялы больш дзейснымі, больш ідэалагічна высокімі. Асаблівых хібаў не было, матэрыял адбіраўся, бракаваўся, вяртаўся на дапрацоўку.

Былі памылкі: Сачанкі апавяданне… Яскевіча … … дзе ёсць недакладныя фармуліроўкі і блытаныя палажэнні.

Былі і некаторыя вершы і апавяд.[анні], дзе паказаны ныцікі, нейкія часткова ўшчэрбныя людзі.

«Дзік-бадзяга» — правільна асуджаны індывідуалізм, адзіноцтва, але людзі вакол яго неяк таксама туляюцца як быццам без справы. Будуць друкавацца аповесць Васілеўскай пра Рыму Шаршнёву, ёсць і другія добрыя творы.

Апошні час у рэдакцыю прыходзяць дрэнныя творы:

Аношкіна … …

Карпюка … …

Забракаваны сцэнарый Клышко, шмат там гумару, але ўсе выстаўлены дурнямі, недарэкамі нейкімі.

Забракаваны апавяд.[анні] Сачанкі і Адамчыка, у апошняга такая ж безвыходнасць, нэндза. У Сачанкі кулак, хоць і добра выпісаны, але гісторыя кулака нам не падыходзіць.

Аповесць Лось «Чыстыя вокны», але нічога чыстага ў ёй няма. Вершы Барадуліна (ідэйна нават заганныя, з ім гаварылі і ён зразумеў) і Караткевіча — з многіх вершаў адабраны толькі два. П'есы Гамолкі і Зуба — бездапаможныя і непісьменныя.

Добрае апавяданне па мастацкасці, ёмістасці, але ўсегуманізм нейкі не падыходзіць нам і ў апавяданні Быкава.

№ 4 Арочка аповесць

№ 5 Васілеўская пра Рыму Шаршнёву

№ 6 Бажко «Позняе ворыва»

Ёсць у нас раман… …

Аповесць Нядзведскага пра дзіцячыя дамы, канчае пісаць Алесь Асіпенка аповесць, піша Шыцік.

Спаўняецца 60 год Камуністычн.[ай] партыі ў гэтым годзе — трэба падрыхтавацца, к 70-годдзю Маякоўскага мабілізаваць паэтаў нашых.

Узросшыя патрабаванні да нас павінны адчуць і члены рэдкалегіі, хто раіць твор з іх, той павінны несці адказнасць за яго нароўні з рэдактарам.

Юрэвіч, Бур'ян рыхтуюць артыкулы аб партыйнасці л[ітарату]ры, аб ідэйнасці, а ад артыкулаў з дысертацый, адцягненых і нецікавых для большасці, будзем адмаўляцца.

*т. Грамовіч.* Цяпер задачы важныя пастаўлены, трэба накіроўваць і моладзь на напісанне твораў з прынцыпаў ідэйнасці, партыйнасці, народнасці. Выхад адзін — толькі строгая патрабавальнасць і ацэнка, бракаваць і адмяўляцца ад твораў, хоць гэта і цяжка пры недастачы іх. Я сам чытаў два творы: п'еса Гамолкі (наіўнае шчабятанне дзяцей на Месяцы, нічога выхаваўчага ў ёй няма, трэба моладзь вучыць любві да працы, а не палётам, ды і мова вельмі дрэнная ў ёй) і Хазанск.[?] і Гутков.[?] (эпігонскую нейкую, пабудаваную на ругані).

І надалей я буду бракаваць такую дрэнь.

*Алесь Савіцкі.* Многія рэдакцыі апынуліся з малой колькасцю твораў. Трэба знайсці 2-3 камандзіроўкі, паслаць людзей з загадзя падрыхтаванымі тэмамі ў вёску, на будоўлю і на завод, такое заданне многім будзе па

сэрцы, а ў рэдакцыі будзе поўны матэрыял на будучае. Трэба толькі знайсці актыў зацікаўленых людзей. Раман Алешкі чытаў, трэба скараціць, папрацаваць над ім, але матэрыялы цікавы. Алешка ляны нейкі, за гэты час ён мог бы ўжо ўсё выправіць, каб улічыў заўвагі нашыя.

*т. Панчанка*. Цяжка знайсці такіх людзей, мы ж усім пісалі пісьмы-прапановы, але вынік малы.

*т. Навуменка*. Я далучаюся да думкі Савіцкага — трэба кантраставa, на корані. Можна сабраць і зрабіць гутарку аб станоўчым герої. Пісьменніку трэба выпакутаваць ідэю, і ён часам збіваецца, трэба напомніць, што ў цэнтры павінен быць станоўчы герой, асабліва для «Маладосці». Толькі бракаваць і рэзаць мала, трэба глядзець уперад. Я чытаў Клышко, працуе на студыі, веданне студэнцк.[ага] жыцця паспрабаваў даць у сцэнарыі, але ён нічога не знайшоў для цэнтра гэтай рэчы, хоць нічога дрэннага там няма. «Дзікбадзяга» для Сачанкі гэта сапраўдны рост. У Пташнікава тры апошнія апавяданні былі пошукі станоўчага героя, у Адамчыка таксама і трэба на нарадзе гэта пытаннезавастрыць. Я сам пішу невялічкую аповесць.

*т. Бураўкін*. Разумная прапанова Савіцкага даць заяўкі, хай з 5 будзе адна ўдача і гэта будзе добра.

Шмат паблытана нашымі крытыкамі. Яскевіча я яшчэ не лічу крытыкам, але ён блытанік. Трэба з гэтым змагацца і ў іншых крытыкаў. І наконт інтэлектуалізма таксама. Была б карысць, каб у гэтых пытаннях зрабіла яснасць «Маладосць», добры крытычны артыкул патрэбны.

А наконт прозы — голад страшэнны і на радыё. Ён не ў такім ужо дрэнным становішчы, а надалей могуць памагчы і камандзіроўкі.

*т. Ваніцкі*. Шмат цікавага ёсць у часопісе. Мое мнение более резкое. «Хмарн.[ое] небо» Быкова возмутило меня, армия — зброд какой-то, а у немцев порядок и чистота в окопах. Второе — немцы пускают к своим и уверены, что это наказание страшное. Смакование культа страшное — Розов «После ужина» — гнетущая п’еса.

Новые формы воспит.[ания] молодежи, а произв.[едения] искусства давят, дают это неверие, отсутствие идеи. «Звездные мальчики». И хорошо, что вы режете и правите. Жаль, что сегодня нет Быкова, надо поговорить с ним. Эпизоды жизненные отрицательные во многих произвед.[ениях] обобщаются, а они единичны.

Оценка «Дзік-бадзяга» рост Сачанки, но пустота фона, сельмаг, пьянство у ім — это не совсем правильно, черный фон — это не помогает решить проблемы молодежи, а наоборот.

Одиночество у Макаля в стихах тоже не помощь воспит.[анию] молодежи. Редколлегия должна читать, одному редактору трудно, конечно, надо одно произведение давать нескольким членам и обсуждать. У нас получается разделение между редакцией и комсом.[ольским] работником — надо бить в одну точку, не задевая человека больно. Пример: безграмотный юноша выступил против произвед.[ений] в «Молодости», и нельзя тут обижаться и говорить: «это комсомол, это комсомол», надо быть едиными. Хорошо предложил Савицкий, мы 10-дневную или 20-дневную командировку поможем денежно оформить.

У Сачанки — студент бедный начинает таскать все кругом — это мне очень не понравилось, плох и натурализм в обострении вопросов пола, и «Маладосць» не должна это усугублять еще, хватит и русской л[итерату]ры.

Сухость раздела комсомольского есть — дать может быть серию очерков о романтике комсомольских будней, она есть всюду. Волнует малое количество читателей. Пошлем в командировку людей, пусть он будет и пропагандистом л[итерату]ры, просветит людей. У нас задают сейчас вопрос комсомольцам — а как ты читаешь, а не только сколько читаешь, и многие видят, что они слабо разбираются.

Чувствуется, что мы делаем перегиб в забитии между старыми и молодыми — надо в будущем персонально говорить, конкретно, а не вообще о молодых и старых. Одновременно можно решить и проблему портфеля, нельзя тоже валить все шишки на молодых, а то собрали мы молодежь, а нам говорят «Ага — собрали молодых только». Но мы ж комсомол.

Евтушенковское «Ага, нас боятся!» — надо понять, что цель у нас единая и надо не делить и собрать и дать понять это.

Надо комсом.[ольских] работников включать в чтение еще не напечатанных произведений, а не после напечатания. Наша точка зрения всегда прямая, если будут принцип.[иальными] — то будет хорошо.

*т. Юрэвіч*. Атрымалася, што пачалі нападаць на «маладую літаратуру», наогул на ўсю — гэта няправільны погляд, трэба ўлічваць індывідуальна. Адамчыку ўказалі — вайна не толькі калечыла чалавека. Я не супраць камандзіровак, але не ўсе карыстаюцца ёю, як след — большасць робіць рэпартажы сходу, і мала ўдалыя. Слаць трэба туды, дзе чалавек ужо быў некалі, за месяц новы чалавек нічога не зробіць.

З крытыкай найбольш цяжка ў нас атрымліваецца. Артыкул Яскевіча добры ў аснове, ён супраць бытаўшчыны, супраць застойнасці ў лексіцы, але недагляды рэдакцыйныя ёсць: адцягненасць разважанняў. У Каваленкі ў рэцэнзіі — няправільна зроблен акцэнт на класавасць гуманізму, партыйнасць. Нарада у Доме афіцэраў ваенныя літаратары далі няправ.[ільны] напрамак на ўсепрашчэнне — выступалі ж масквічы і многія гэтыя палажэнні ўзялі на ўзбраенне. Моладзь ужо даўно неяк штучна вылучалі — гэта вельмі дрэнна. Сабраць моладзь як кулак у «Полымі» гэта памылка. Трэба іх рассредоточить.

*т. Асіпенка*. Цяпер нам стала лягчэй — Лось ціхенька забрала і пайшла, а некалі да Жабіцкага хадзіла скардзіцца на няправільнае моў забракаванне вершаў. Нам сапраўды больш трэба быць у адным страі з камсам.[ольскімі] работн.[ікамі]. І нам трэба ісці не толькі тым шляхам: што вось, моў, «Як закалялася сталь» — гэта твор. 6-7 такіх адразу — ужо не было ўздзеяння, таму і хапаюцца за «Апельс.[іны] з Марока».

600 тыс. «Юности» и … «Молод. гвардии» — а ў нас 8 тыс. Мы выступали перед секрет.[арем] комс.[омольской] организации в дворце пионеров — хто читал «Маладосць» — нихто, «Юность» — лес рук; хто праводзіў дыспуты па бел.[арускай] літ[арату]ры — ніхто, хто па Аксёнаву — лес рук. Калі будзем рэкламаваць «Звезд.[ный] білет», а не белар.[ускую] л[ітарату]ру, і не «Маладосць» у нас — гэта ўжо палітычны факт, мы аказаліся палітычна нядольнымі. Па Мінску калі быў Яўменаў сакрат.[аром] гаркома, па Мінску было 2000 падпісч.[ыкаў], а цяпер — 600 чал.[авек] — не людзі ж зніклі. Або даюць нам 15 хвілін на выступл.[енне] у Дворце прафс.[аюзаў] (у снежні летась), а потым 50 мінут даюць Еўтуш.[энка] и Вознесенского.

У нас будзе 6 сустрэч. З іх адна арганізавана камсамолам, а астатнія бібліятэкамі — гэта дрэнна.

Мы пайшлі нейкім чынам па той хвалі, што, ну, нехта будзе нас выпісваць.

Нас пытаюць — а калі вы будзеце пісаць пра адмоўнае, што ў нас ёсць. Справа не ў паказе адмоўнага, а ў тым, як гэтае адмоўнае паказаць. Адно дадатнае надакучыць, і нас чытаць не будуць. Трэба вучыцца ў Шолахава, які ішоў з горкаўскіх пазіцый — паказу таго, што трэба народу. Трэба рэзка ставіць пытанні адмоўныя, на фоне добрага. У Сачанкі другім планам, мелкім, дано тое, што супрацьстаіць дзіку-бадзягу. Таксама патрэбна нам інтэлектуальная проза, нельга інтэлектуальнае блытаць з інтэлектуалізмам, нейкім мудрагельствам.

Нарысы нашы не толькі ў «Гарыць камс.[амольскі] аганёк» са звужанай тэматыкай.

Прыемна чуць, калі ў іншых рэспубліках моладзь, камсамольскія работнікі выказваюць свае думкі ў часопісе. Было залатое правіла некалі: — камс.[амольскі] работнік — ён жа актыўны карэспандэнт (т. Ракіцкі: мы не адышлі, але нас захліснула масса работы и им не до писания, вопрос о повышении уровня наших литературных работников поможет).

З прозай мы выйдзем нарэшце. Ёсць часовая замінaчка. Камандзіроўкі рэч добрая, але паехаў Шклярэўскі — і нічога не прывёз, а наогул з кім не гаворыш — ніхто ехаць не хоча.

*т. Панчанка.* Просьба да членаў рэдкалегіі.

1. Калі чытаеце твор маладога, вы самі з ім пагаварыце парайце: вы і мы — гэта будзе лепш.
2. Паказвайце цікавыя тэмы, вы ж усе недзе ездзіце, нешта бачыце.
3. Камандзіроўкі даць можам (сродкі нашы, ЦК, Саюза пісьм[еннікаў] — хай будуць людзі добрыя).
4. У красавіку будзе нарада маладых у Маскве, трэба паслаць і з часопіса Стральцова — просьба ЦК ЛКСМБ).
5. Дзе хто бывае, майце на ўвазе падпіску

на наш часопіс, даведвайцеся, як ідзе падпіска.

*т. Ваніцкі* — Пры падпісцы имеет значение язык журнала: русские издания (Знамя юности напри.[мер]) выписывают более охотно, хоть это и очень печально.

6. У нумар 60-годдзе Камун.[істычнай] партыі патрэбны добры публіцыст.[ычны] артыкул.

7. Т. Ваніцкаму — даць артыкул аб паездцы ў Францыю ў № 6 нам да «Дня моладзі».

II. На 63 год фотавыстаўкі арганізуюцца (паведамл.[енне] ВОКСа) і трэба выдзеліць сродкі на прэміі ад «Маладосці».

— Мы сродкі не можам аформіць ніяк, а здымкі змяшчаць можам.

*Аўтограф У. Юрэвіча.*
*БДАМЛМ, ф.37, воп.2, спр.10, л. 1—3адв.*

**АД 11 СНЕЖНЯ 1963 ГОДА**

Прысутнічаюць: П. Панчанка, А. Асіпенка, І. Навуменка, Г. Бураўкін, Старавойтаў (ЦК ЛКСМБ), В. Палтаран, А. Дзітлаў, У. Юрэвіч, М. Стральцоў, У. Нядзведскі, С. Кухараў, І. Раманоўскі.

***Парадак дня:***

I. Вынікі года мінулага і перспектывы на 1964 год.

Слухалі: П. Панчанка запрашае выказаць свае думкі.

*Г. Бураўкін*. Як справіцца Л. Гаўрылкін, бо нядаўняя яго аповесць была няўдалая. А Л. Арабей стала ўжо асноўным [з] аўтараў, якая вывозіць зможа з сучаснай тэматыкай. Мала дыскусійных матэрыялаў па надзённых праблемах.

Вузкавата бяруцца некаторыя тэмы (П. Місько пра пратэктар у калгасе імя Кірава). Чаму толькі аб пратэктары, а не пра ўвесь калгас. З А. Шлегам трэба асцярожней быць, ненадзейны ён аўтар.

Малавата гаворкі пра мастацтва ў больш шырокім плане. Больш пра нацыянальныя кадры, пра маладыя самабытныя таленты, пра паспешлівасць у прысваенні званняў.

Размову аб майстэрстве павінны весці вакол маладых пісьменнікаў. Добра, як гэта пазначана І. Ральком пра вершы П. Макаля. Трэба часцей даваць слова старэйшым пра сваю «лабараторыю».

Спорт залішне рэпартажны. Трэба і тут праблемная гаворка.

*Панчанка*. Прапануем рэдкалегіі некаторую «рэканструкцыю» ў форме падачы нашых матэрыялаў. Мы прапануем не вылучаць раздзел «Гары, камсамольскі аганёк», а ўключыць яго ў адзін — «На арбіту камунізма».

«Пошукі, адкрыцці…» — гэта вымагае большую канкрэтызацыю матэрыялаў.

«Кнігі і час» — такая назва для бібліяграфіі больш адпаведная зместу раздзела.

*Стральцоў*. Першы нумар — «Альпійская балада» В. Быкава. Аповесць — драматычна напружаная, густа напісаная.

Аповесць А. Алешкі «Над намі мільён вышыні» падкуплівае веданнем сферы сённяшніх будняў Савецкай Арміі.

Запіскі Фядотава — гэта як даніна партызанскай тэме. (рэпліка Г. Бураўкіна, што Фядотаў не ўсё правільна фактычна [падае]).

Чытаем аповесць І. Пташнікава — павінна быць нешта цікавае.

Аповесць І. Навуменкі ў асноўным напісана.

Раман А. Асіпенкі — гэта пра вайну.

Аповесць М. [нрзб] мы не ўключалі, бо рэч слабая.

Уключым аповесць А. Савіцкага пра рабочых і аповесць У. Караткевіча пра Стаха, на гістарычную тэму.

Апавяданняў шмат ляжыць. Можа, зрабіць пяты нумар з апавяданняў. Новых аўтараў пакуль няма, але тыя, каторыя мы адкрылі летась і раней, — працуюць актыўна.

*Навуменка*. План багаты, толькі б выканаць яго.

Увесці *першую* рубрыку — першае апавяданне, першыя вершы з пасланнем на дарогу.

Сённяшні студэнт жыве складаным і супярэчлівым унутраным жыццём. А ў плане студэнт не багата прадстаўлен (праблема пасылкі выпускнікоў на вёску, праблема сельскіх выпускнікоў сярэдніх школ). Варта больш павярнуцца да студэнцкай моладзі, не памяншаючы таго добрага павароту, які заўважаецца ў рэдакцыі да рабочай моладзі.

*Старавойтаў.* План выделяется богатством тем, хорошо продуман раздел «На арбіту камунізма». Много собираются давать о [нрзб] — 6 материалов. Излишне. Двухлетка культуры села будет объявлена и ей надо больше внимания. Просьба, чтобы у дадатку больше давалось пьес.

Фотоклуб «Маладосці» организовать — учёбу и показ работы фотолюбителей.

*Юрэвіч.* Нашто два паралельныя выданні — наш дадатак і той рэпертуарны зборнік, які думае выпускаць ЦК ЛКСМБ (пастанова нядаўняга пленуму).

*Кухараў.* У плане шмат паралельнага і мы яго трохі адкарацілі. А працаваць будзем лепш — карацейшыя і чытабельныя матэрыялы.

*Нядзведскі.* Праблемы ў нас штучныя атрымліваюцца, бо няма чытача шырокага.

*Панчанка.* Можа не дыскусіі, дык рабіць матэрыялы вастрэйшыя, каб часопіс хадзіў па руках.

*Нядзведскі.* Грувасткія матэрыялы не варта даваць, больш на кароткія налягаць.

*Палтаран.* Пра студэнтаў трэба даваць шырэй. У нас старыя ўяўленні пра жыццё ў інтэрнаце. Што датычыць аддзела крытыкі, дык зроблена было не так многа.

Цяпер узнікла праблема аўтара. Арыентацыя ўзята на моладзь і на старэйшых крытыкаў, літаратуразнаўцаў. Трэба пра апавяданне павесці гаворку, пра кругагляд пісьменніка. Буйным планам трэба падаваць асобныя з'явы сучаснай літаратуры.

*Асіпенка.* З выступленняў супрацоўнікаў не адчуваўся клопат аб перабудове рэдакцыі на новы лад. Мы мянялі «адзенне», а цагліны — доўгія матэрыялы засталіся. Такая «буйнапанэльная» будова часопіса не імпануе маладому чытачу. Нарысы ўсе на адзін капыл пашыты. У «навуку» перапялялі лекцыі для клуба, а не жывыя, чытабельныя матэрыялы. Нарыс даваць толькі тады, калі ён узнімаецца да ўзроўню мастацкай прозы. Мы залішне стараемся ўсё «разжоўваць». Трэба не баяцца сенсацыйнасці ў добрым сэнсе гэтага слова.

Аддзел замежнай кнігі ў «ленінцы» трэба шырэй выкарыстоўваць.

Гумар і сатыра ідуць нейкімі хвосцікамі. Ніхто сур'ёзна не працуе над ім.

Матэрыялы «КП» трэба шырэй прадстаўляць.

«Спорту» не хапае агню.

Мы праходзім міма ўстаноў і фактаў: электрычка, аэрафотаздымка, біялагічныя лабараторыі і г.д.

*Навуменка.* У нас крыху «вясковы» погляд на жыццё, а матэрыял трэба арыентаваць на чытача з большым інтэлектуальным «зарадам».

*Раманоўскі.* Лягчэй будзем афармляць; больш клішыраваных загалоўкаў. Зазіраць у майстэрні мастакоў.

*Дзітлаў.* На «Юность» нельзя ориентироваться, у них больше возможности. Мы иногда делаем журнал не для читателя, планируя темы на год. «Общага» — так называют студенты дом, в котором они живут. Мы должны обслуживать вопросы культуры, но не все сферы затрагиваем ее. Фотолюбителей масса, а трибуны они не имеют. Надо страниц 10 в журнале отводить фотолюбителям и фотолюбительству.

*Панчанка.* Планы навучыліся мы складаць. План зарыентаван верна, але галоўнае — як гэты план падаць. З падпіскай справы не ідуць, хоць і сустрэчы з чытачамі праходзяць часта.

Мы часта ставім і слабейшыя творы, але Г. Бураўкін не зусім слушна гаворыць, забываючыся пра тэматычную разнастайнасць. Пра рабочы клас ніхто не піша, трэба выхоўваць увагу пісьменнікаў да новых сфер жыцця. У нас мала сувязей з рабочым класам, з інтэлігенцыяй сённяшняга часу.

Пры рэдакцыі трэба стварыць грамадскі савет — рабочы, студэнт, навуковы супрацоўнік, артыст, мастак, настаўнік, фотааматар — чалавек 15.

Роздумы аб набалелым павінны быць. А чаму не прасачыць курс выпускны, дзе ён апынуўся праз год?

**Пастанавілі:**

План зацвердзіць з улікам заўваг, якія былі выказаны па ходу абмеркавання і прыняты большасцю слушнымі.

Адк.[азны] Сакратар Ул. Юрэвіч (подпіс).

*Аўтограф У. Юрэвіча.*
*БДАМЛМ, ф. 37, воп.2, спр.10, арк. 4—8.*

Рубрыка кафедры
літаратурна-мастацкай крытыкі
Інстытута журналістыкі БДУ

Арцём КАВАЛЕЎСКІ

# КАФЕДРА-АРКЕСТР. ВЯЛІКАЯ ІМПРАВІЗАЦЫЯ

## ІНТРАДУКЦЫЯ

Аднойчы Серж Мінскевіч — мой даўні сябра, бард-барадач і цудоўны паэт-авантурыст — у тэксце пасляслоўя да маёй першай кнігі «АдмыСЛОВЫя гульні» заўважыў: «Творы Арцёма рытмізаваныя, музыкальныя і, падаецца, што гэткім дзіўным чынам на паперы запісаны мелодыі, таму справядліва назваць паэта кампазітарам вершаў…» Тады, у 2003 годзе, гэтыя словы і вызначэнне «кампазітар вершаў» мяне здзівілі, крыху ўсхвалявалі, але разам з тым і ўсцешылі. І раптам я падумаў: а вось жа сапраўды паэзія для мяне — гэта не проста спосаб выказвання і самазнаходжання ў свеце, але, перш за ўсё, МУЗЫКА — тая адзіна мажлівая і непаўторная мелодыя, што лунае нада мною і ўва мне заўжды, дапамагае знайсціся сярод заблытаных жыццёвых шляхоў альбо сама пракладае і асвятляе мой шлях. Зрэшты, музыку я вельмі люблю і няблага ў ёй разбіраюся, маю адпаведную адукацыю і заўсёды спяваю нешта, калі застаюся сам-насам. Такі вось сам сабе кампазітар, кампазітар вершаў…

Але гаворка (мой маналог) не пра ўласнае кампазітарства… «Поэт — издалека заводит речь. / Поэта — далеко заводит речь» (М. Цвятаева, «Паэт»). Я хачу распавесці пра рэч значна больш трывіяльную, побытавую, але не менш значную — пра месца сваёй працы. Не-не! Не пра ўлюбёны пісьмовы стол альбо рамантычную лаву ў адным з мінскіх паркаў, не… Я хачу сказаць пра месца працы, з якім звязаны і маё студэнцтва, і гады прафесійнага сталення, і часіны цяперашняга няўрымслівага жыцця. Гэта — КАФЕДРА. Кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. Кафедра ўнікальная. Утульная, надзвычай творчая і непрадказальная, шматгалосая, яркая і пасіянарная… Чаму? А таму што тут выключныя людзі, яе супрацоўнікі, выкладчыкі, а ў нашым выпадку яшчэ і сапраўдныя творцы. Бадай ва ўсім універсітэце няма ніводнага падобнага «вулля», дзе кожная «пчала» так лёгка і самаадданa сумяшчала б уласную творчасць — літаратурную, журналісцкую, крытычную — з выкладчыцкай і навуковай дзейнасцю.

…Як ні парадаксальна, але пісаць пра тое, што добра ведаеш, любіш, з чым сутыкаешся штодня, досыць няпроста. Ёсць рызыка нешта не дасказаць альбо перабольшыць з уражаннямі, міжвольна захлынуўшыся ў эмоцыях. Зрэшты, аб'ектыўным быць заўсёды цяжка. Але ж «Поэта — далеко заводит речь»… А музыка заўжды дапамагае. Кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі «гучыць» своеадмыслова, непаўторна, выразна і ярка. Гэта… кафедра-аркестр! Не верыце? А вось я веру, упэўнены ў гэтым, таму і вырашыў параўнаць кожнага са сваіх калег (ну, і вядома, сябе самога) з пэўным музычным інструментам, бо, як і ў людзей, у музычных інструментаў свой адметны голас, тэмбр, якія вызначаюць іх характар і душу.

## ПАРТЫТУРА

***Скрыпка***
*Людміла Саянкова*

Яшчэ ў XVII стагоддзі музыканты казалі, што скрыпка ў музыцы з'яўляецца такім жа неабходным інструментам, як у чалавечым быцці хлеб надзённы. А яшчэ кажуць, што скрыпка спявае. Сапраўды, яе гучанне нагадвае ўсхваляваны, нават у нечым спавядальны чалавечы голас. Але яна ўмее не толькі спяваць. У аркестры скрыпкі — галоўныя інструменты: менавіта ім даручаюць самыя адказныя эпізоды. Але найбольш кранальна



і непаўторна гучыць сола скрыпкі, выконваючы галоўную тэму.

***Віяланчэль***

*Таццяна Арлова*

Гук віяланчэлі густы, аксамітны, сакавіты і вельмі спеўны. Ён нагадвае плаўны і ўпэўнены чалавечы голас, больш за ўсё — барытон. Віяланчэлі падуладныя многія эпічныя манументальныя тэмы, асабліва цудоўна ўдаюцца шырокія напеўныя мелодыі. У іх ярчэй за ўсё раскрываюцца багатыя магчымасці інструмента, яго выкшталцонасць і высакароднасць. Для віяланчэлі напісана шмат віртуозных твораў. Рэпертуар яе на дзіва разнастайны і ўключае шматлікія канцэрты, санаты, а таксама творы без суправаджэння.

***Валторна***

*Аксана Бязлепкіна*

У аркестравых творах валторнам часта даручаюць адказныя сольныя эпізоды. У нізкім рэгістры тэмбр валторны крыху змрочны, настойліва-даўкі, а ў верхнім — вельмі напружаны, дзёрзкі, часам задзірлівы. Валторна можа і гарэзліва спяваць, і нетаропка распавядаць пра набалелае і значнае. Аднак далёка не ўсе кампазітары рызыкавалі звяртацца да валторны часта, звычайна задавальняючыся кароткімі фанфарнымі матывамі, пабудаванымі на адкрытых яскравых гуках.

***Флейта***

*Таццяна Лук'янава*

Флейце даступныя самыя складаныя майстэрскія пасажы. Часам яна нават спаборнічае з каларатурным сапрана, якое, дарэчы, і нагадвае — высокім крышталёвым тэмбрам, што характарызуецца пэўнай халаднаватасцю. Найгрышы флейты ўражваюць узорыстасцю, пранізлівасцю і выразнасцю адначасова. Кампазітараў часта вабіць напеўнае гучанне гэтага інструмента, а таксама яго багатыя мажлівасці.

***Марымба***

*Дар'я Гіргель*

Вельмі цікавы клавіятурны ўдарны музычны інструмент, сваяк ксілафона. Складаецца з умацаваных на раме драўляных брускоў, па якіх ўдараюць кухталямі. Марымба валодае багатым, мяккім і глыбокім голасам, што дазваляе дасягнуць вельмі выразнага экспрэсіўнага гучання. Падбор палачак дае музыканту магчымасць атрымаць цэлы спектр разнастай-

ных тэмбраў: ад рэзкага «ксілафоннага» — да нечага мяккага, што нагадвае арган. Найчасцей марымба выкарыстоўваецца як сольны інструмент у розных музычных жанрах — ад класікі да авангарду, але некаторыя кампазітары «прапісалі» яе і ў сімфанічным аркестры.

***Труба***

*Наталля Кузьміч*

Яна заўжды гучала ўсхвалявана і ўпэўнена, папярэджвала пра небяспеку і падтрымлівала адвагу ваяроў, распачынала ўрачыстыя цырымоніі, канцэнтравала ўвагу. Труба здольна выконваць складаныя выразныя партыі. Яе гучны, чысты, крыху рэзкаваты тэмбр не раз вабіў кампазітараў, многія з якіх, уражаныя выразнымі тэхнічнымі мажлівасцямі інструмента, стваралі канцэрты для трубы з аркестрам. Голас трубы нярэдка гучыць у лірычных эпізодах, але героіка ўдаецца ёй як мага лепш.

***Арфа***

*Гражына Паўлоўская*

У пазамінулым стагоддзі лічылася, што кожная выхаваная шляхетная дзяўчына павінна ўмець граць на арфе. Згадваецца эпізод з «Вайны і міру» Льва Талстога, у якім аўтар распавядае, як грала на арфе Наташа Растова… Віртуозныя мажлівасці арфы даволі своеасаблівыя: на ёй цудоўна выконваюцца шырокія акорды, а таксама лірычныя пасажы з арпеджыа. Арфа часта акампануе розным інструментам аркестра, але нярэдка ёй даручаюць эфектныя сола.

***Габой***

*Уладзімір Капцаў*

Як і ў іншых драўляных інструментаў, тэмбр у габоя ў розных рэгістрах неаднолькавы. Ніжнія яго гукі даволі грубыя і рэзкія, сярэднія — больш насычаныя, з крыху гугнявым адценнем, высокія ж — досыць пранізлівыя. Дзякуючы некаторым асаблівасцям сваёй канструкцыі габой ніколі не губляе настройкі, таму стала традыцыяй настройваць па ім увесь аркестр. Габой валодае рухавай тэхнікай, хоць флейце ён у гэтым саступае…

***Кларнет***

*Сяргей Трунін*

Мажлівасці кларнета ўражваюць. Ён можа граць ледзь чутна, найлягчэйшым піянісіма, а можа і ашаломіць моцным поўным гукам. З драўляных «духавікоў» бадай што толькі яму падуладна такое гнуткае змяненне сілы. Ніжнія ноты кларнета цяжкія і крыху змрочныя; сярэднія — матавыя і цьмяныя; высокія — светлыя і звонкія. Цікава, што абодва кампазітары, маючы справу з адным і тым жа сюжэтам, зрабілі адно і тое ж: у абедзвюх «Снягурачках» — Рымскага-Корсакава і Чайкоўскага — пастухоўскія найгрышы Леля даручаны кларнету. Такое здараецца.

***Тэрменвокс***

*Арцём Кавалеўскі*

Гэта першы электрамузычны інструмент, ён быў створаны ў 1918 годзе рускім вынаходнікам Львом Сяргеевічам Тэрменам. Ігра на тэрменвоксе заключаецца ў змяненні музыкантам адлегласці ад сваіх рук да антэн інструмента, за кошт чаго змяняецца ёмістасць хістальнага контуру і, як вынік, частата гуку. Для ігры на тэрменвоксе трэба быць досыць «музычным», бо ў час ігры музыкант не дакранаецца да інструмента і можа фіксаваць палажэнне рук адносна яго, разлічваючы толькі на свой слых. Тэрменвокс выкарыстоўваецца для выканання якіх заўгодна музычных твораў, а таксама для стварэння некаторых спецэфектаў. Касмічны тэмбр, фантастычны характар, гіпнатычны ўплыў на публіку.

## КОДА

Мы часта збіраемся пасля заняткаў і за кубкам гарбаты ці кавы параўноўваем сябе з рознымі адухоўленымі і неадухоўленымі прадметамі. Гэта вельмі карысная і разам з тым забаўная практыка, якая спрыяе самапазнанню і самавызначэнню ў творчым асяроддзі супрацоўнікаў кафедры. Спадзяюся, што сённяшняе маё параўнанне з музычнымі інструментамі не дужа здзівіць маіх калег і выклікае шчырую ўсмешку на іх тварах.

І яшчэ. На кафедры працуе шмат цудоўных выкладчыкаў-сумяшчальнікаў, без якіх наш аркестр не можа лічыцца поўным. Кожны з іх — гэта таксама ўнікальны музычны інструмент, які забяспечвае нашаму супольнаму «музіцыраванню» адметную аранжыроўку і стыль. Усе разам мы імправізуем, аднак і кожны паасобку здольны выканаць сольную партыю.



# РАДАСЦЬ СУПОЛЬНАГА ГРАННЯ

## ТРУБЫ МЕДНЫЯ І ДРАЎЛЯНЫЯ, ДУДЫ, ДУДАЧКІ, АКАРЫНЫ...

Сямейства духавых інструментаў такое вялікае і стракатае! У ім сярод прадстаўнікоў сімфанічнага ды традыцыйнага вайсковага аркестраў, біг-бэнда і джазавага ансамбля сустрэнеш безліч каларытных суродзічаў з больш доўгай гісторыяй і таямнічым паходжаннем. А менавіта — народных духавых. Сёння гэтыя «дзеці фальклору» ўпэўнена і, можна сказаць, на роўных з элітарнымі духавымі інструментамі ўваходзяць у прафесійнае мастацтва. І атрымліваюць прызнанне. Зразумела, не самі па сабе, а праз майстэрства музыкантаў. Вось і поспехі творчых калектываў Беларускага саюза музычных дзеячаў на розных фестывалях ды конкурсах спрыяюць як рэпутацыі айчыннай выканальніцкай школы, так і папулярызацыі нашых нацыянальных інструментаў.

Старшыня Асацыяцыі духавых аркестраў і ансамбляў БСМД, прафесар Аляксандр Карацееў падкрэслівае, што апошнім часам беларускія музыканты адметна выступаюць на міжнародных форумах і атрымліваюць адпаведную адзнаку. Факты? Калі ласка.

На міжнародным конкурсе-фестывалі народнай і фальклорнай творчасці «Малахитовая шкатулка», які стаўся прыкладам сяброўскіх інтэрнацыянальных сувязей, гарманізацыі міжэтнічных стасункаў, узаемнага ўзбагачэння культур, прадстаўнікі Беларусі паказалі сябе годна. Ансамбль беларускіх народных духавых інструментаў «Дудачка» (мастацкі кіраўнік Ігар Мангушаў) стаў лаўрэатам конкурсу і атрымаў дыплом І ступені. Мала таго, двое ўдзельнікаў ансамбля на высокім узроўні прадэманстравалі магчымасці нашых нацыянальных інструментаў: дудкі, жалейкі, дуды, акарыны, выступіўшы



ў сольнай намінацыі. Бліскучы вынік: абое сталі лаўрэатамі. Прытым Марыя Драмкова заваявала дыплом І ступені, а Андрэй Сцяпанаў за сваю віртуозную ігру быў уганараваны гран-пры.

Самацветам з той жа «Малахитовой шкатулки» аказаўся і яшчэ адзін калектыў БСМД, ансамбль трубачоў «Festivo». У яго складзе — выканаўцы на беларускіх народных драўляных трубах Сяргей Каванаў, Аляксандр Карацееў (ён жа і мастацкі кіраўнік ансамбля), Андрэй Анціпенка, Дзяніс Смірноў. Гэты калектыў здзівіў і звычайных слухачоў, і калег-музыкантаў тым, што на такіх, здавалася б, архаічных традыцыйных інструментах, на якіх спрадвек гучалі толькі сігналы пастухоў, была выканана паўнавартасная кампазіцыя з твораў І. Мангушава: «Рана, рана сонейка ўзышло», «Урачыстая фанфара», полька «Скакуха». І ў пацвярджэннне свайго майстэрства беларускі ансамбль атрымаў званне лаўрэата конкурсу і дыплом І ступені.

А калі прыгадаць прэстыжны міжнародны фестываль духавой музыкі імя Васіля Саколіка «Фанфары Ялты»? Беларусы і тут — улюбёнцы публікі і ўладальнікі кон-



курсных лаўраў! Яны годна выступалі падчас марш-парада, у канцэртных праграмах і конкурсе, у шыкоўным капусніку «Музыканты ўсміхаюцца», на цырымоніях адкрыцця і закрыцця форуму і заключным гала-канцэрце. Народны духавы аркестр «Віціны» раённага Цэнтра культуры са Стоўбцаў (мастацкі кіраўнік Аляксандр Нічыпаровіч) заваяваў званне лаўрэата конкурсу ў намінацыі «Аматарскія калектывы», атрымаў дыплом гран-пры. Зноў вылучыўся і ансамбль «Festivo»: яго ўдзельнікі гралі гэтым разам на прафесійных трубах і былі адзначаны дыпломамі II ступені нават у дзвюх намінацыях: выканальніцтва класічнае ды эстрадна-джазавае.

Эстрадная конкурсная праграма музыкантаў усё таго ж «Festivo» пад кіраўніцтвам Аляксандра Карацеева ярка прагучала на сёлетнім міжнародным конкурсе выканальніцкага майстэрства «Санкт-Пецярбургскія калядныя асамблеі», дадаўшы ў скарбонку ўзнагарод ансамбля чарговае лаўрэацкае званне і дыплом III ступені. На конкурсе не абышлося без каларытнага сюрпрызу. У намінацыі «Інструментальнае выканальніцтва (ансамблі) — эстраднае» слухачы і журы адкрылі для сябе капэлу беларускіх народных духавых інструментаў «Гуды» БДУ культуры і мастацтваў (мастацкі кіраўнік Ігар Мангушаў). Калектыў адзначылі званнем лаўрэата і ўручылі дыплом III ступені. Сапраўдным жа трыумфатарам вярнуўся з Санкт-Пецярбурга канцэртны аркестр духавых і ўдарных інструментаў «Светач» БДУКіМ (мастацкі кіраўнік — Віктар Валаткові́ч, галоўны дырыжор — Аляксандр Фёдараў). У намінацыі «Інструментальнае выканальніцтва (аркестры) — эстраднае» яму дастаўся дыплом I ступені за чароўнае дэфіле, выразныя кампазіцыі, выканальніцкае майстэрства і тэмперамент.

Чарговы творчы іспыт для калектываў і салістаў БСМД — удзел у Адкрытым рэспубліканскім конкурсе музычнага мастацтва Беларусі «Спадчына», заключны тур якога пройдзе 28 красавіка. Наперадзе і шэраг іншых сёлетніх конкурсаў. І, мабыць, новыя перамогі?

## «МАЛЕНЬКАЯ ФІЛАРМОНІЯ» Ў СУХАРАВЕ

**Жыве сабе чалавек у мікрараёне Сухарава, зрэдчас выбіраецца ў цэнтр, бліжэй да культурнага асяродка сталіцы. І не здагадваецца, што зусім побач з яго «спальным» кварталам, за школьнымі сценамі віруе захапляльнае музычнае жыццё... Стоп! Наўрад ці сярод жыхароў Сухарава ёсць такія, хто не ведае пра творчую дзейнасць Дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 19 г. Мінска. Розгалас пра яе перасягнуў ужо межы мікрараёна. Гэта сапраўдны культурны цэнтр, у якім шчыруюць настаўнікі ды вучні, куды наведваюцца сур'ёзныя і цікавыя госці, дзе ладзяцца натхнёныя, «па-даросламу» змястоўныя і па-сямейнаму шчырыя імпрэзы. Калі ж вы насамрэч нічога не чулі пра сталічную ДМШМ № 19, звярніцеся да намесніка яе дырэктара, прадстаўніцы Беларускага саюза музычных дзеячаў Галіны Сцяпанавай. Галіна Яўгенаўна можа нямала расказаць пра жыццё незвычайнай навучальнай установы…**

Тут не спыняюць пошук найбольш дзейсных форм работы з навучэнцамі ды іх бацькамі.

«Апроч абавязковых акадэмічных канцэртаў ладзяцца разнастайныя творчыя залікі, шматлікія тэматычныя канцэрты, якія дазваляюць прыцягваць максімальную колькасць выступоўцаў. Ужо зрабіліся традыцыяй “Свята першакласніка”, прымеркаванае да Дня ведаў, урачыстае “Пасвячэнне ў юныя музыканты”, канцэрт да Дня маці, які

мы прысвячаем шматдзетным сем'ям, бо ў нашай школе вучыцца больш як 90 дзяцей з такіх сем'яў. Снежань радуе гледачоў праграмамі "Старадаўняя музыка пры свечках", "Музычны карнавал", "Калядныя сустрэчы", "Джаз на Каляды", дзе бяруць удзел толькі настаўнікі. Пасля зімовых вакацый мы запрашаем на канцэрт гітарнай музыкі "Ля агеньчыка", вакальную імпрэзу "Мы сустракаем Стары новый год", студзеньскія Вечеры сустрэч выпускнікоў, Дні беларускай нацыянальнай культуры "Галасы Стагоддзяў".

Ідэя супольнага музіцыравання дзяцей і дарослых натхніла на правядзенне ў лютым фестывалю сямейных ансамбляў. Не абыходзіцца наш музычны год без урачыстых праграм да Дня абаронцы Айчыны і свята 8 Сакавіка. Следам рыхтуецца канцэрт "Вясновыя ноткі". А затым — чарада красавіцкіх справаздачных канцэртаў, вянцом якой з'яўляецца агульны справаздачны канцэрт школы. Май — перыяд выпускных экзаменаў, але гэта і час творчых залікаў, фестывалю "Джазавая вясна", канцэрта "Улюбёныя мелодыі" ды Балю выпускнікоў».

Усе імпрэзы збіраюць у канцэртнай зале школы не толькі вучняў з іх родзічамі, але і зацікаўленых жыхароў мікрараёна Сухарава.

«Многія з прыемнасцю ўспамінаюць сёлетнія, ужо восьмыя па ліку, Дні беларускай нацыянальнай культуры "Галасы Стагоддзяў". Падкрэслю, што гэтае свята наша школа праводзіць пры падтрымцы Беларускага саюза музычных дзеячаў ды яго Асацыяцыі духавых аркестраў і ансамбляў. Мэта — праз канцэрты свята паказаць нашым выхаванцам жанравую шматстайнасць і багацце беларускай культуры. Ладзіліся тэматычныя музычныя імпрэзы "Вандроўка ў мінулае", "Сярэднявечча", "Музыка сядзіб", "Твой сучаснік", праграма фальклорнай музыкі "Калядкі". Удзельнічалі фальклорны ансамбль "Вясёлка" ДМШМ № 19 (мастацкі кіраўнік ЛюдмілаВаліцкая, хормайстар Вольга Кулічкова), лаўрэат міжнароднага і рэспубліканскага конкурсаў ансамбль беларускіх дудак "Чароўныя гукі" ДМШ а. г. Міханавічы (мастацкі кіраўнік Руслан Нусаў, канцэртмайстар Алена Леўдаровіч), лаўрэат міжнароднага і рэспубліканскіх конкурсаў і фестываляў ансамбль беларускіх народных духавых інструментаў "Дудачка" (мастацкі кіраўнік Ігар Мангушаў), узорны вакальны ансамбль "Цімпан" (мастацкі кіраўнік Уладзімір Казбанаў). Адбылася прэм'ера музычнага спектакля "Пераблытаныя казкі" ўзорнага тэатра-студыі "Акцэнт" ДМШМ № 19 і з гэтай нагоды ладзілася творчая сустрэча з аўтарам тэксту Генадзем Аўласенкам. Дарэчы, за гады правядзення свята "Галасы Стагоддзяў" яго гасцямі былі такія вядомыя ў мастацтве асобы, як Леанід Захлеўны, Марыя Захарэвіч, Аляксандр Пажарыцкі, Васіль Глубачэнка, Роберт Целяпнёў, ансамблі "Лялькі", "Брэвіс", "Тутэйшая шляхта", "Дзіця свету", клуб "Княжы гуф", фальклорныя гурты "Ладачкі", "Сенніца", "Лагода", "Святкі" ды іншыя выканаўцы».

«Адзін з галоўных напрамкаў працы нашай школы — развіццё калектыўных форм выканальніцтва. Гэта дазваляе кожнаму дзіцяці далучацца да выканання сапраўдных твораў мастацтва, адчуць непаўторную радасць супольнага музіцыравання. У нас 24 дзіцячыя творчыя калектывы. А менавіта — узорны музычна-драматычны тэатр-студыя "Акцэнт", узорны хор "Аніма" філіяла для дзяцей са слабым зрокам, 4 аркестры, 6 хароў, 9 інструментальных ансамбляў і 3 вакальныя. Усе яны актыўна ўдзельнічаюць у самых розных школьных канцэртах, у выканальніцкіх конкурсах. У межах новай для нас імпрэзы "Дзень нараджэння калектыву" кожны з калектываў даў сольны канцэрт, далучыўшы да ўдзелу ў сваёй праграме выпускнікоў школы, бацькоў, выявіўшы максімум творчай фантазіі. Прыемна, што наша дзейнасць выклікае грамадскую ўвагу: некаторыя ансамблі — балалаек (кіраўнік Аляксандра Талстая), гітарыстаў (кіраўнік Мікалай Дорасеў), неапалітанскі (кіраўнік Юрый Валіцкі), вакальны ансамбль "Шчаўкунчыкі" (кіраўнік Аксана Раднёнак) і хор хлопчыкаў (кіраўнік Алена Абрамовіч) запрашаліся да ўдзелу ў перадачах радыёпраекта "Пад зоркай юнацтва". Вось так мы жывём...»



***Падрыхтавала***
***Святлана БЕРАСЦЕНЬ***

Марыя КОБЕЦ

# ДРУГІ ГАТУНАК

Мяне, вясковага жыхара, заўсёды ўражвала меркаванне гарадскіх маіх суразмоўцаў. Маўляў, добра вам, вясковым: усё сваё — і «сальцэ», і «мясцэ», і заработную плату з гэтай прычыны вам можна калі і атрымліваць, то ў невялікіх памерах, або можна ўвогуле яе не атрымліваць. Ува мне пры такіх вось размовах, здаецца, ажно нешта пераварочваецца. І хочацца сказаць тады шмат чаго, прычым, далёка не лепшага кшталту. Але… далікатна прамоўчваю (хоць не заўсёды гэта атрымліваецца). Трывала ў нашым грамадстве ўсталяваўся стэрэатып, што «вясковы — нейкі не такі». У сэнсе, «другога гатунку». Калі ж запытацца ў гарадскіх «першагатунковых», адкуль іх бацькі альбо дзяды, то амаль заўсёды пачуеш, што яны — вясковыя.

Але ж я адышлася ад думкі. Наконт заработнай платы. Зыходзячы з меркавання некаторых гарадскіх жыхароў, вясковым можна выплочваць такі яе памер, каб хапала на хлеб, а на сукенкі… У вёсцы ж добра апранацца не абавязкова. Бо ж нават рэклама на тэлебачанні раіць: «Забруджаныя рэчы — у вёску!» Ды і ўвогуле, навошта яны (грошы) нам? У гіпермаркет — не трэба, у басейн ці фітнэс-клуб — таксама не трэба, у тэатр — у нас жа яго і няма. Нам жа грошы патрэбны толькі для таго, каб набываць камбікармы для хатняй жывёлы ды насенне з мінеральнымі ўгнаеннямі. Ну, яшчэ хімічныя сродкі для працы на «сотках». А, ледзь не забылася: час ад часу новыя чобаты ды ватоўкі набываць.

Калі заводзіцца з гарадскімі такая гутарка, дык я заўсёды пытаю: «Што вам перашкаджае перакваліфікавацца?» Калі ласка, прыязджайце, прыкладам, у маю родную вёску, ды атрымайце ўсё сваё — і «сальцэ», і «мясцэ». Дарэчы, вёска цудоўная, з развітай інфраструктурай, амаль чатыры гады таму набыла статус аграгарадка. Тут вам усе ўмовы: па прыездзе адразу ж — навюткі шыкоўны катэдж. І гэта незалежна ад таго, ёсць у вас жыллё ў горадзе ці няма. Калі вы крыху ў нечым спецыяліст, то вам да пасады яшчэ і службовы аўтамабіль прыкладаецца. І зямлі для агародных клопатаў, і можаце нават парсючка сабе ўзяць, каб не прапасці з голаду па першым часе. Прычым, нават у растэрміноўку. Тэатра, канешне, у вёсцы няма, але канцэртнай дзейнасці хапае. І «Бяседа», і Дарафеева з арт-групай «Беларусы» заязджаюць. Нават «Песняры» былі і хор імя Цітовіча. Што немалаважна, канцэрты ладзяцца за кошт сельгаскааператыва.

Усё дарэмна: ніхто яшчэ з горада ў вёску проста так не пераехаў. «Проста так» — гэта значыць, «без дай прычыны». Мо і ёсць нейкія прыклады рэдкаснага выключэння, але, мяркую, усё роўна былі падставы. І, нават не маючы ўласнага жылля, сем'і не паедуць у вёску ў той нават самы шыкоўны катэдж, а будуць туляцца па здымных кватэрах альбо ў інтэрнатах. Хіба толькі маладыя сем'і, якія вымушаны адбываць у вёсцы абавязковы тэрмін адпрацоўкі. Але і тыя, патрапіўшы сюды, не спяшаюцца абзавесціся хатняй гаспадаркай, а вядуць гарадскі лад жыцця. І я разумею іх, бо ж яны не выраслі «на зямлі» і не прывыклі да яе. Ды і выдаткі на вядзенне хатняй гаспадаркі не перавышаюць прыбыткаў! Што ж, кожны мае права жыць так, як лічыць патрэбным.

«Добра мець хатку ў вёсцы!..» — скажуць некаторыя. Сапраўды. Асабліва добра, калі хтосьці там яшчэ жыве і працуе…

***Часопіс «Маладосць»
запрашае чытачоў прыняць удзел
у абмеркаванні тэмы жыцця
ў сучаснай вёсцы.
У вас ёсць свае думкі?
Дасылайце на vdsd@tut.by.***



# Бярозка

№ 4/2013(1019)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**






**● Верасок**

# Супраць ветру



* * *

Я крочыў па вуліцы,
А мой цень
Пераскокваў са сцяны на сцяну.

«Я жыву недарэмна».
Тады
Я яшчэ думаў пра гэта.



Вясна раптам скончыцца,
І пыл праглыне паветра.

Маё сэрца калоціцца ў грудзях,
Быццам брудны дзіравы пакет.

Я крочыў па вуліцы
Contra el viento.

* * *

Я закаханы ў твае паліто.
Ты мяне у кішэні схаваеш ад ветру.
Ухіліцца ад куль.
Мне ўсё роўна ужо.
Мы ўцячом у прастору мінулага лета.



* * *

Ты мяне не ўбачыш ніколі.
Ведаеш, я — павуціна.
Схуднеў
І з адзення твайго
Я збіраю калючы пыл.



* * *

Пажоўклае сонца
Стыне
Ў сэрцы восені.
Іржавы будынак
(Я там жыву).
На дварэ
Недобрасумленны дворнік
Пакінуў смецце.
Быццам дзеля таго,
Каб за вокнамі бачылі:
Рэчы таксама
Здольны памерці
Аднойчы.




* * *

Неяк сарамліва
Выглядае з-пад кубка
Імбрык.
Лістапад.
Снілася Куба.
Трэба ў вырай збірацца
Хутчэй.

*Уладзіслаў КАЛЕСНІКАЎ,*
*17 гадоў, Мінск*

# Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь

***Прадстаўляем лепшыя сачыненні на тэму «Кніга — мой лепшы сябар» у дзвюх узроставых катэгорыях.***

**Узроставая група 7—9 гадоў**

## Казка-апавяданне пра хлопчыка Зміцера

Некалі ў адной вёсачцы жыў хлопчык Зміцер, які не любіў чытаць кніжкі, а толькі іх рваў і раскідваў. І вось прыйшоў адзін цудоўны дзень, калі ўсе-ўсе кніжкі ад яго збеглі: пра курку Рабу і пра Рэпку, пра гномаў і пра Бураціна, пра Нязнайку і пра Калабка. На развітанне кнігі пракрычалі: «Не хочам, каб з намі так абыходзіліся: рвалі і раскідвалі! Нас не любяць у гэтым доме, нас чакаюць добрыя дзеткі».

Не прайшло і аднаго дня, як засумаваў хлопчык Зміцер: сумна стала без кніжак. Хадзіў-хадзіў сам не свой, нешта мармытаў пад нос, а потым і пытаецца ў мамы: «Мама, зразумеў я, што без кніг нельга быць. У іх на ўсе пытанні можна знайсці адказы: як злётаць на Месяц, колькі трэба з'есці слану, дыхае рыбка ці не, колькі мне прыкладна гадоў. Скажы, а што трэба зрабіць, каб кнігі вярнуліся дахаты?» Мама сыну адказала: «Кніжкі самі ўсё вырашаюць. Калі яны паверацць, што ты не будзеш іх крыўдзіць, то яны вернуцца да цябе. Ёсць у мяне адна кніга, калі ты яе зберажэш, то, можа, кнігі і вернуцца».



Зміцер акуратна ўзяў кнігу, прагартаў да сярэдзіны, моцна яе абняў, паклаў на тумбачку каля ложка і прашаптаў: «Даруйце мне, кнігі, я больш ніколі не буду вырываць старонкі, камечыць і раскідваць вас». Прылёг на ложак і заснуў. Прачнуўся Зміцер зранку ад гоману сваіх улюбёных кніг.



Усе яны абмяркоўвалі, якая ж з іх будзе для хлопчыка самай дарагой. Зміцер узняўся, усміхнуўся і сказаў: «З сённяшняга дня ўсе кнігі будуць для мяне самымі дарагімі і любімымі. Бо ў кожнай кнізе можна знайсці штосьці важнае і цікавае».

*Расціслаў КОЛБ, Пінск*

**Узроставая група 9—12 гадоў**

## Тата, мама, я і кніга

Прывітанне! Мяне завуць Саша, мне адзінаццаць гадоў. Калі тата папрасіў мяне прыняць удзел у конкурсе сачыненняў на тэму «Кніга — мой лепшы сябар», я доўга не магла прыдумаць: што ж мне напісаць? І папрасіла дапамогі ў бацькоў.

Тата распавёў мне, што ў дзяцінстве ён вельмі любіў чытаць. Яго мама, мая бабуля, у маладосці працавала ў кнігарні, і дома заўсёды было шмат кніг. Добрыя кнігі раней былі ў дэфіцыце, за імі стаялі ў вялікіх чэргах. Разам з добрай кнігай часта прасілі набываць яшчэ якую-небудзь кнігу «ў нагрузку». Тата быў заўзятым чытачом — яго ведалі ўва ўсіх бібліятэках горада. У некаторых з іх нават пускалі выбіраць кнігі ў сховішча, бо тыя, што стаялі ў агульных залах, ён перачытаў. Мае бабуля і дзядуля назіралі, каб ён не надта захапляўся: часта, выконваючы хатнія заданні, хлопчык хаваў кнігу пад падручнік і чытаў яе патаемна ад бацькоў. І калі бабуля альбо дзядуля яго на гэтым лавілі, то ўшчувалі сына. Вядома, цяпер тата чытае не так шмат, як у дзяцінстве, і ўсё ж у вольную хвіліну яго можна пабачыць за кнігай. Праўда, ён ужо не ходзіць у бібліятэкі і не набывае духоўныя скарбы пад кардоннай вокладкай у краме, а спампоўвае электронныя кнігі, без усялякай кардоннай вокладкі, з сеціва, чытае з дапамогай мабільнага тэлефона. І ўпэўнена кажа, што папяровыя выданні — «мінулае стагоддзе», яны займаюць шмат месца. А амаль усе кнігі з бабулінай хатняй бібліятэкі мы падаравалі дому-інтэрнату для састарэлых і інвалідаў.

Яшчэ тата любіць слухаць аўдыёкнігі. Гэтак больш плённа: і кнігу слухаеш, і нешта карыснае робіш. Можна, напрыклад, абіраць бульбу, мыць посуд, шпацыраваць па вуліцы і нават лавіць рыбу альбо весці машыну. Праўда, за рулём слухаць кнігі мама яму не дазваляе. Але ж тата ўсё роўна гэта робіць, калі едзе без пасажыраў.

Мама распавядала, што ў дзяцінстве таксама любіла чытаць. Калі была маленькай, рассаджвала свае лялькі і чытала ім услых, уяўляючы сябе аўтарам новай кнігі альбо проста настаўніцай. Цяпер яна таксама шмат чытае. Як і тата аддае перавагу электронным кнігам. Вельмі любіць слухаць аўдыёкнігі, займаючыся хатнімі справамі. Бацькі часта раяць адно аднаму, якую кнігу варта прачытаць, любяць пасля прачытання аднаго і таго ж твора абмеркаваць цікавыя моманты, часам спрачаюцца.



Мама і мяне з кнігай пазнаёміла. Гэта былі розныя казкі, жартаўлівыя вершыкі, загадкі. І сёння памятаю вершы Агніі Барто «Бычок», «Конік», «Зайка» ды шматлікія іншыя. Увечары, калі я ўжо ляжала ў ложку, казку перад сном мне чытаў тата. Засынаючы, уяўляла, як разам з Элі, Львом, Жалезным Дрывасекам, Татошкам іду ў Смарагдавы горад, як краду плюшкі ў Фрэкен Бок разам з Карлсанам альбо лячу на паветраным шары з Нязнайкам.

Сёння, вядома, я чытаю сама. Так жа, як мама і тата, люблю слухаць аўдыёкнігі. Даўно адмовіўшыся ад чытання папяровых кніг, мае «прасунутыя» бацькі працягваюць набываць іх для мяне. Нядаўна мне падаравалі букрыдар для чытання электронных кніг, але сапраўдныя кнігі мне падабаюцца больш, чым электронныя. Я бяру кнігу ў рукі, перагортваю старонкі, ваджу пальцам па малюнку і нават адчуваю пах.

Чытаю розныя кнігі, люблю фантастыку, прыгоды, вельмі падабаюцца творы пра жывёл. Самай першай кнігай, якую тата запісаў мне ў букрыдар і настойліва раіў прачытаць, была «Хлопчык са шпагай» Уладзіслава Крапівіна. Гэта кніга пра савецкіх дзяцей і пра тое, што станавіцца смелым, сумленным, справядлівым і высакародным чалавек мусіць не калі вырасце і стане дарослым, а з самага дзяцінства. Але больш за Крапівіна мне спадабалася кніжка «Чараўнік Земнамор’я» Урсулы Ле Гуін. Чытаючы яе, я, разам з галоўным героем — Гедам, радавалася перамогам і перажывала з-за няўдач у фантастычным свеце, дзе ёсць чараўніцтва і невытлумачальныя загадкі. Праўда, тата, даведаўшыся, што я яшчэ не прачытала «Хлопчыка са шпагай», сказаў, што гісторыя пра Сяргея Кахоўскага нашмат цікавей і павучальней, і нават крыху раззлаваўся. Але я чула, як ён казаў маме, убачыўшы «Чараўніка Земнамор’я»: «Памятаю, “праглынуў” гэтую кніжку за адзін вечар. Гадоў чатырнаццаць мне тады было».

Я думаю, што кніга — сапраўды мой добры сябар. Яна вучыць дабрыні, выхоўвае, радуе, прымушае перажываць за герояў, дапамагае вырашаць розныя праблемы. Калі мне сумна ці весела, калі за акном халадэча, дождж альбо горача, зранку, удзень, увечары, я заўжды магу ўзяць у рукі кнігу і пачаць чытаць!

***Аляксандра УТЛІК, 11 гадоў, Магілёў***





# Калі спыніўся час...

Кропля замерла ў паветры! Маленькая, ідэальнай формы, чыстая, як сляза анёла, і нейкая незвычайная. Такое не ўбачыш у паўсядзённым жыцці. Такое нідзе не ўбачыш, толькі ў лесе.

Навальніца скончылася, пакінуўшы пасля сябе адчуванне поўнага спакою і зачараванасці. Час нібыта спыніўся на некалькі хвілін, і вока змагло разгледзець тое, што марыць пабачыць кожны мастак, калі піша свае пейзажы.

І кроплі на галінках, і вогнішча (яго, нягледзячы на ўсю сваю моц, не змагла затушыць навальніца), і кожная галінка, і лісты на дрэве, і нават вецер — усё замерла, нібы спынілася ў часе. Акідваю позіркам наваколле, і мне здаецца, што я ўпершыню за сваё жыццё чытаю кнігу прыроды.

Замёр агонь, і перад вачыма ўзнікаюць малюнкі з жыцця кожнага дрэва, кожнай яго галінкі. Я быццам бы адчуваю разам з імі холад зімой, спёку летам, боль, які наступае, калі ветру захочацца пазабаўляцца. А жыццё не скончылася, яно проста спынілася, чакаючы таго, каму можна ўсё расказаць, даверыць усе таямніцы. Таго, хто зразумее.

Гляджу на лісточкі, што застылі ў паветры, і чую іх пацешную гаворку, нібы сотні званочкаў звіняць. З якім нежаданнем адрываюцца яны ад дрэў, на якіх выраслі. Як не хочацца ім ляцець у незнаёмае.

Бачу застылы твар ветру, які зрываў гэтыя лісточкі. Ніколі не ўяўляла сабе, што вецер — гэта злы дзядуля з сівой барадой. А вось яшчэ адзін, маленькі! Гэта, мабыць, ветрык — унук (пра яго мне расказвала матуля, калі я была маленькай). Ён яшчэ нічога не ўмее, акрамя як забаўляцца з лісточкамі, якія сарваў для яго сівы стары.

Кропля падае ўніз і знікае. Толькі не гэта! Той, хто спыніў час на некалькі хвілін, зноў завёў гадзіннік жыцця. А я яшчэ столькі хацела пабачыць!

Але, узрушаная нечаканымі думкамі, я агледзелася навокал. Так і ёсць: нічога не знікла! Па-ранейшаму шапочуць лісточкі, не спыніў сваіх забаў ветрык, усё гэтак жа ўсміхаецца сонца. І так было заўсёды. Заўсёды прырода адорвала нас сваім хараством. Заўсёды спрабавала паказаць нам нешта сапраўды незвычайнае.

Людзі шукаюць чараўніцтва ў кнігах, здымаюць фантастычныя фільмы і не ведаюць, што дастаткова толькі шырэй расплюшчыць вочы і можна ўбачыць ісціну, знайсці сэнс жыцця, прачытаць пра яго ў кнізе прыроды.

***Любоў МЕЙСАК, Маладзечна***

# Родная мова — лепшая спадчына




Наша школа багатая на традыцыі. Пра адну такую традыцыю — правядзенне прадметных тыдняў — я і хачу расказаць. Здаецца, што ніводны вучань у нашай школе не ўяўляе сваё жыццё без газет, плакатаў, крыжаванак, гульняў на розныя тэматыкі. Такая традыцыя дапамагае павысіць узровень ведаў па прадмеце ды і проста праявіць сябе. Надышла чарга і тыдня беларускай мовы і літаратуры.

Часта ў сродках масавай інфармацыі асвятляецца тэма няведання не толькі школьнікамі, але і ўсімі беларусамі роднай мовы. Мы забываемся на свае традыцыі, культуру і страчваем сваю адметнасць сярод іншых народаў. На працягу тыдня беларускай мовы вучні даказвалі ўсім, а, мабыць, у першую чаргу сабе, што размаўляць на беларускай мове не так ужо і цяжка. Прыйшлі да высновы, што яна, мова, непарыўна звязана з гісторыяй нашай краіны.

Як і раней, ініцыятыву па адкрыцці тыдня беларускай мовы ў свае рукі ўзялі вучні 11 класа. Яны прадставілі беларускі народны танец «Лявоніха». Хлопчыкі і дзяўчынкі былі апрануты ў народнае адзенне. Даўно ўжо гледачы не чулі такой вясёлай музыкі, і танцы беларускія нячаста ўбачыш. Аказваецца, і непрафесійныя танцоры здольны за некалькі дзён вывучыць рухі, адрэпеціраваць іх і выйсці да публікі. У той жа дзень вывешваліся газеты і плакаты. У сваіх працах вучні закранalі розныя тэматыкі: хтосьці прысвяціў сваю газету знакамітым айчынным пісьменнікам, іншыя — асноўным правілам беларускай мовы; былі таксама плакаты, у якіх заклікалі размаўляць на роднай мове. Першая гульня пад назвай «Шчаслівы выпадак»





прайшла ў 5 класе. У шостых класах — эрудыт-лато «Амонімы». На наступны дзень вучні 7 класа прымалі ўдзел у інтэлектуальнай гульні «Калядны каляндар». Яны даведаліся, калі і якім чынам святкуюць каляды. Для сёмых класаў праводзілася мерапрыемства «Краязнаўчы каляндар».




Самым запамінальным было мерапрыемства для адзінаццатых класаў — вечар памяці Яўгеніі Янішчыц. Вучні чыталі вершы паэткі, даведаліся пра яе жыццё і трагічны лёс. Кожны верш звязвалі з падзеямі, якія адбываліся ў краіне ў час яго напісання. І ўжо незразумелы на першы погляд верш «На ўсякі выпадак» бачыцца запаветам, просьбай, прадчуваннем самой паэткі хуткай смерці. Так, у большасці вершаў, якія гучалі, можна было знайсці ноткі трагізму, горычы. Здаецца, у кожнага пісьменніка ёсць рака дзяцінства. Тая рака, з назвай якой асацыіруюцца прозвішчы знакамітых людзей. З імем Яўгеніі Янішчыц пасля мерапрыемства ў вучняў будзе асацыіравацца і рака Ясельда, нездарма шмат разоў гучалі словы: «Ясяльдзянка з палескага краю».

21 лютага ва ўсёй краіне святкаваўся Дзень роднай мовы. У гэты дзень усе настаўнікі пачыналі ўрокі са слоў на беларускай мове. Як гэта здзіўляла вучняў! Тут і размову трэба было падтрымліваць, ды не абы-як. Вось і прыйшло разуменне, што ведаць мову трэба. Свае веды паказвалі хлопчыкі і дзяўчынкі на рэспубліканскім конкурсе «Буслік». Лепшых узнагароджвалі граматамі. Яшчэ адзін тыдзень прайшоў, а карысці ад яго — не падлічыць. І можна спадзявацца на павелічэнне колькасці людзей, якія размаўляюць на роднай мове.

***Святлана СМЫК,***
***16 гадоў, Талачын***



# Дзякуй за цяпло ў кватэрах!



***Аператар цеплавых агрэгатаў. «Прафесія нецікавая», — спачатку думала я. Але ж азнаёмілася больш сур'ёзна — і маё меркаванне трохі змянілася. Гэтая праца зацікавіла мяне таму, што мая мама працуе аператарам цеплавых агрэгатаў у Гомелі.***

Качагар — рабочы, які ажыццяўляе падачу цвёрдага паліва ў топку печы, катла (часцей за ўсё — паравоза, судна або кацельні). Акрамя таго, у абавязкі качагара ўваходзіць чыстка топкі і паддувала. Часта на яго ўскладаецца яшчэ і функцыя кіравання рэжымамі працы цеплавога апарата.

Прафесія качагара была шырока распаўсюджана на флоце і чыгунцы да сярэдзіны XX стагоддзя (у эпоху паравой цягі). У цяперашні час, у сувязі з масавым пераводам кацельняў на газ і вадкае паліва, колькасць працуючых качагараў скарачаецца.

Прафесія качагара лічыцца шкоднай: павышаная тэмпература ў памяшканні, таксічныя газы, недахоп кіслароду, сажа, вугальны і зольны пыл, цяжкая фізічная праца. Працаваць качагарам дапускаюцца асобы, якім больш за 18 гадоў, якія прайшлі медыцынскі агляд і навучанне па зацверджанай праграме і маюць адпаведныя пасведчанні кваліфікацыйнай камісіі пра здачу экзамену па гэтай праграме, прайшлі стажыроўку на працоўным месцы і інструктаж па ахове працы. Аператараў цеплавых агрэгатаў, якія працуюць на газе або вадкім паліве, часта па традыцыі называюць «качагар», што не зусім дакладна.





Вырашыла паразмаўляць з мамай пра яе працу:

**— Як называецца твая пасада?**

— Аператар паравых катлоў.

**— У чым заключаецца твая праца і якія ў цябе абавязкі?**

— Забяспечыць бесперабойную і бяспечную працу вадагрэйных катлоў, якія падаюць цяпло на жылыя мікрараёны.

**— Якая адукацыя неабходна, каб атрымаць тваю пасаду?**

— Сярэдняя, альбо проста прайсці навучанне на курсах.

**— А якія ўмовы працы?**

— Падвышанай небяспекі.

**— Што табе больш за ўсё падабаецца ў тваёй справе?**

— Працаваць з тэхнічна складаным абсталяваннем, хутка прымаць рашэнні.

**— А што не падабаецца?**

— Занадта шумна.

**— Калі не сакрэт, узровень заробку задавальняе ці не?**

— Не сакрэт. Не задавальняе!

**— Апішы свой калектыў, якія людзі працуюць разам з табой?**

— Добрыя прафесіяналы, адказныя. Мне падабаюцца сяброўскія адносіны ў нашым калектыве.

— **Якія здольнасці, якасці, на тваю думку, найбольш важныя ў працы качагарам?**

— Адказнасць, хуткасць рэакцыі.

**— Праца дае табе якія-небудзь дадатковыя магчымасці?**

— Стасункі з калегамі, якія прыносяць мне асалоду.

**— Чаму ты выбрала менавіта такую працу?**

— Працу не выбіраюць, яна сама выбірае нас.

**— Якія існуюць магчымасці для твайго кар'ернага росту?**

— Павышэнне разраду. Усяго існуе шэсць разрадаў, у мяне — пяты.

А яшчэ ўдалося наведаць кацельню, але мне там не спадабалася. Шумнавата, нейкі нязвыклы пах. Але ж пасля таго як крыху пацікавілася гэтай прафесіяй, мне яна пачала здавацца важнай. Калі не будзе аператараў цеплавых агрэгатаў, у кватэрах стане холадна і знікне гарачая вада!

***Вераніка ГАМЗЮКОВА, 15 гадоў, Гомель***

# Барадаты, музычны, без узросту



***Ёсць такія рок-зоркі, як Курт Кабэйн альбо Янка Дзягілева. Канфліктныя, якія ярка жывуць і хутка згараюць. А ёсць іншыя. Барыс Грабеншчыкоў, напрыклад. У свае шэсцьдзясят выпраменьвае гармонію, інтарэс да жыцця, якім і сёй-той юнак пазайздросціць. Неверагодна працавіты, усё жыццё аддаены музыцы.***

***Барыс Грабеншчыкоў у чарговы раз наведаў Беларусь. Мінск, Гомель, Віцебск, Бабруйск... Багата прыхільнікаў у Барыса Барысавіча, квіткі выдатна раскупляюцца! «Бярозка» з задавальненнем наведала прэс-канферэнцыю з вядомым музыкантам, што мае рэпутацыю чалавека глыбокага і інтэлектуальнага.***

## Хоць спі на канцэрце — Грабеншчыкоў не супраць

— Мы не выконваем пажаданні публікі на канцэртах, мы ж не рэстаран з меню. Граем тое, што ў дадзены момант можам учацвярых сыграць, і тое, што нам цікава. Людзям, якія прыходзяць на канцэрты, у першую чаргу мусіць быць утульна. І каб не было адчування, што яны ўсяго толькі публіка, а мы — Музыкі! «Акварыум» проста спявае песні, а людзі сябе могуць паводзіць так, як хочацца. Могуць танчыць, могуць нават спаць. Увогуле, люблю Беларусь, добрых людзей на нашых выступленнях убачыў.

**— А як вам наша палітычная сітуацыя?**

— Мяне не цікавіць палітыка. Як толькі музыкант становіцца яшчэ і палітыкам, ён губляе свой статус творцы, творца не можа быць сябрам нейкай партыі. У мяне няма грамадзянскай пазіцыі. Я за ўсіх людзей. Значыць, супраць любой улады. Але звычайна людзям падабаецца ісці ў адной калоне, а гурт «Акварыум» — для тых нешматлікіх, каму патрэбна альтэрнатыва.

**— Як варта пачаць дзень, каб пражыць яго добра?**

— Можна пачаць яго як заўгодна, адно з другім не звязана. Але ж можна ўстаць да світанку, тады вам гарантаваны 3-4 спакойныя гадзіны. Сёння я, напрыклад, устаў у тры.

**— Сёння актыўна абмяркоўваецца апошні альбом Земфіры. Як ён вам?**

— Земфіра як Земфіра.

**— Вы як радыёжурналіст, які стварае вядомую перадачу «Аэрастат», ці маеце якія-небудзь асацыяцыі са спалучэннем «беларуская музыка»?**

— Ніякіх. Памятаю толькі, што гадоў дзесяць таму быў у Беларусі нейкі авангардны гурт з вялікай колькасцю ўдарных інструментаў. Спадзяюся, што хто-небудзь дашле мне беларускай музыкі для «Аэрастата»!

**— У 2012 годзе вы прызналіся, што з лета 2011-га не напісалі ніводнай песні. Як з тых часоў прасоўваецца творчасць?**

— Дрэнна. Я знаходжуся ў стане заўсёднага творчага крызісу. Нешта пішацца, але мала. Каб пачаць пісаць, трэба кінуць граць канцэрты. Ужо другі год запар у нас бесперапынная канцэртная дзейнасць. Канцэрты запланаваны, здаецца, да верасня. Калі мы перастанем гастраляваць, я пашлю ўсё далей і з'еду туды, дзе мяне ніхто не зможа знайсці. Вось тады толькі тыдні праз тры змагу думаць пра тое, каб зноўку пачаць пісаць песні.

**— Як паказвае суровы беларускі культурна-музычны кантэкст, масавы слухач узмоцнена затуманьвае сваю свядомасць нізкапробнай папсой і не імкнецца нават нешта новае шукаць. Ці можна прабіць гэтую сцяну?**

— Не трэба гэтую сцяну прабіваць. Калі яе прабіць, людзі, якія жывуць за гэтай сцяной, скажуць, што ў нас у бараку зноў сцяна зламалася, і давядзецца марнаваць шмат часу, каб адрамантаваць гэтую сцяну. Людзі без сцяны не могуць і не хочуць. Колькі іх не цягні да свабоды, яны будуць толькі плакаць. Свабода для тых, хто яе жадае! Але ў любога чалавека ёсць магчымасць удасканальвацца.

**— У вас такі напружаны графік. А на адпачынак ці ёсць час?**

— Не такі ўжо і напружаны ў нас графік. Напрыклад, учора быў вольны дзень.

**— І што рабілі?**

— Сядзеў і перакладаў чацвёртую главу Бхагавад-Гіты. Дакладней, рэдагаваў той пераклад, які ў мяне ёсць.

## «У мяне няма месэджа ўвогуле!»

**— Што вы закладваеце ў сваю музыку? Некаторыя людзі сцвярджаюць, што, калі слухаюць «Акварыум», пачынаюць верыць у светлую будучыню.**

— Калі б я нешта закладваў у сваю музыку, то быў бы хлусам. Танным гастралёрам, які імкнецца падманваць людзей. Тут не пытанне веры ўвогуле. Усё лепшае, усё цудоўнае не заўтра, а цяпер.

**— А ці можна тады гэта назваць галоўным месэджам?**

— У мяне няма месэджа ўвогуле!

**— Ці ёсць песні, якія вы ніколі больш не сыграеце?**

— Не, няма. Не памятаю ў рэпертуары «Акварыума» ніводнай песні, за якую мне было б няёмка.

**— А хто такі свабодны чалавек?**

— Вызначыць — гэта значыць абмежаваць. А як можна абмежаваць свабоднага чалавека? Калі нельга абмежаваць, то, значыць, нельга і вызначыць. Я думаю, што свабода — гэта ўнутранае адчуванне.

**— Які спосаб арганізацыі барады вам падабаецца больш за ўсё?**

— Маё сэрца падказвае, што лепш яе ніколі не стрыгчы. Але бываюць выпадкі, калі гэта так ці інакш адбываецца.

**— Вы ўжо шмат з кім сустракаліся з культавых музыкантаў. Ці ёсць яшчэ тыя, з кім хацелася б сустрэцца?**

— Я зусім мала кантактаваў з Рычардам Томпсанам. Мала бачыў у жыцці людзей, якія б былі настолькі грацыёзныя музычна. Томпсан — гэта проста фантан! Чалавек маштабу Хендрыкса.

**— Запытаюся ў вас як у журналіста. Якія пытанні вы проста ненавідзіце?**

— Адзін чалавек задасць вам пытанне — і вы адчуеце, якое яно банальнае. Потым падыдзе іншы чалавек, тое ж самае пытанне задасць, і вы скажаце, якое гэта цудоўнае пытанне!

**— Ці верным шляхам мы ідзём? Скажыце што-небудзь пра сучаснае грамадства.**

— Нікуды мы не ідзём. Людзі цудоўна апісаны ў Бібліі — з тых часоў нічога не змянілася. Трэба проста расслабіцца. І пачаць атрымліваць задавальненне.



**— Колькі ў гэтым годзе споўніцца «Акварыуму»?**

— Баюся, што ў творчага калектыва не можа быць узросту. Гэта як камяні цягнуць на вяроўцы — навошта? Што было, тое было. Што было, таго ўжо няма. У калектыва, які працуе цяпер, не можа быць мінулага. Ёсць толькі сучаснае.



**— Аднойчы ў інтэрв'ю вы прызналіся, што пачалі граць, каб падабацца дзяўчынам.**

— Я ніколі не бачыў людзей, якія пачыналі б граць, каб падабацца хлопчыкам! Увогуле, гэта нармалёва, гэта цудоўны рухавік, гэта бензін. І паехаць на ім можна далей, чым да раддома.

**— Вось ваша перадача пра музыку «Аэрастат». Такую колькасць праслуханага маеце ў галаве! Ці не стаміліся, не страцілі ўражвальнасць?**

— Сёння гадзін у пяць раніцы я пачаў абдумваць сваю перадачу пра сучасны музычны авангард. І зразумеў адну рэч: слова «авангард» больш не ўжываецца. Увесь музычны авангард скончыўся ў 90-я гады мінулага стагоддзя. Пачаў узгадваць каго-небудзь з гісторыі музыкі, узгадаў маладога Запу. Паслухаў пару спеваў. І зразумеў, што я абсалютна забыў яго! Ён настолькі бліскуча ўстаўляе цвік у любое вуха! Музыка можа ўразіць мяне і цяпер.

## «Ідзём з радасцю да бездані»

**— Калі б вы больш не змаглі займацца музыкай...**

— Дыхаў бы, еў.

**— Любіце есці?**

— Ну, калі не будзе музыкі, чымсьці ж трэба займацца!

**— Якая краіна ці горад вас найбольш уразілі?**

— Парыжам усё жыццё грэбаваў. Але цяпер палюбіў і проста з яго не вылажу. Пешкі хаджу. Калі мяне завезці ў Францыю, я там магу спакойна хоць дваццаць гадоў пражыць і кожны дзень нешта новае адкрываць. Калісьці прыязджаў у Непал і быў уражаны адносінамі жонак прадстаўнікоў рускай гандлёвай місіі: яны не любяць Непал, там жа так мала крам! Паўднёва-заходнюю Азію я ўвогуле не ведаю, але яна мне цікавая. А вось у Паўднёвую Амерыку не хочацца. Кідайце вашу працу і выпраўляцеся падарожнічаць!

**— Радасць і расчараванне 2012 года.**

— Расчараванне — гэта тое, што мы не запісалі ніякага новага альбома. Але тое, што гэтак шмат канцэртаў даём, радуе.

**— А ці ёсць у вас мэты?**

— Адзінай мэтай можа быць ачыстка ўласнай свядомасці. Але згодна з кітайскай філасофіяй, калі чалавек ставіць сабе мэты, тады ён сам сябе абмяжоўвае. Няма ніякага напрамку, акрамя вызвалення. Але калі мы вызваляемся, жыццё прыпыняецца. Таму мы ідзём з радасцю да бездані, а калі дойдзем, нас больш не будзе. Таму можна зразумець, што працэс бегу з'яўляецца каштоўным!

**— Вы заўжды пазітыў выпраменьваеце. Што вам дапамагае?**

— Мне ўяўляецца, што кожны з нас у любы момант жыцця здольны «зверыцца з компасам». Мы пра гэта, як правіла, не ведаем, але такая здольнасць у нас ёсць. Прыпыніцца, падумаць і зразумець, дзе ты знаходзішся. Узгадаць, навошта ты ўвогуле сюды прыйшоў. Тое, што «Акварыум» і ўся сусветная культура робіць, прыгадвае чалавеку, што кожнае наша імгненне тут каштоўнае.

**— Ці ёсць у вас слабасці?**

— Вядома! Я ж з іх складаюся!

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***



● **Дынамік**

# «Re1ikt» i яго пост-металкрыніцы




***DVD «Re1ikt» — «Kryhachod», Мн., 2012, «Vigma».***

Мінскі (з каранямі ў Светлагорску) гурт Re1ikt за мінулы год трапіў у намінанты многіх рок-прэмій, праявіў актыўнасць і на фанаграфічным, і на канцэртным рынку, таму размова пра яго на нашых старонках уяўляецца непазбежнай. «Kryhachod» — не першае музычнае відэа гурта. Але ж і ў ім шчырыя заўзятары здолеюць адшукаць нямала неверагодных, нечуваных раней звабаў. Тут і жывы эмацыйны кантакт з публікай, і здымкі некалькіх камер, і віртуозны мантаж, і выдатны стэрэагук. Прадстаўлены на дыску гурт грае не рэха калісь папулярных стыляў рок-музыкі, а найбольш актуальную плынь пост-метал-рока, што дало яму шанец паездзіць з канцэртамі не толькі па ўсёй Беларусі, але і па многіх краінах Еўропы: Польшча, Германія, Італія, Літва, Украіна... Re1ikt — сёння гэта гучыць з гонарам!

Аб'ектам увагі відэакружэлкі стаў канцэрт-прэзентацыя іхняга альбома «Рэкі прабілі лёд», які апынуўся настолькі прывабным, што праз год рынак запатрабаваў дадрукоўкі накладу. І гаворка тут не пра самапальную нарэзку камп'ютарных дыскаў, а пра паўнавартасны прамысловы тыраж альбома, які так шануюць сапраўдныя меламаны-калекцыянеры.

DVD уяўляе сабой прамысловы вытвор з маштабнай праграмай на паўтары гадзіны са зручным флэш-дызайнам і стылёвай мастацкай аздобай. Аздоба, зрэшты, падобна да так званай DIY-culture, для якой характэрны мінімалізм. І дададзім, што фантазіі маладога калектыву амаль адразу перакупіла салідная фірма «Vigma», якая супольна з «БМАgroup» і выдала сам альбом.

Але хлопцы ўсё ж далі прамашку, а выдаўцы проста не дагледзелі, бо забылі напісаць на вокладцы, што, акрамя поўнага канцэрту «Re1ikt» у прэстыжным сталічным клубе (на live-відэа — увесь альбом, 7 песень, агульным часам 1'02"09), дыск утрымлівае яшчэ і тры кліпы: «Рэкі падільдом» (0'10"52), «Тры хвіліны» (0'04"21), «LastSurgery» (рускамоўная версія 0'04"09). Дый прозвішчы рэжысёраў тых відэаролікаў не зашкодзіла б пазначыць для пільных калекцыянераў. Але ў астатнім DVD — грунтоўны прадукт.




*Гурт Re1ikt.*

Наўрад ці каго збянтэжыць, што дзве альбомныя песні трапілі на відэа ў дзвюх версіях — канцэртнай і кліпавай, бо асобная асалода глядзець кожную з іх. Дый дварова-індустрыяльны відэаабонус з ранніх запісаў, калі гурт Re1ikt шукаў сябе ў англа-рускамоўных практыкаваннях, каб вярнуцца ва ўлонне роднай культуры, зможа больш выразна акрэсліць перыпетыі творчага шляху, складнікі стылістычных і філасофскіх адкрыццяў на ім.

Зручна, што ўсе песні канцэртнай часткі відэа падзелены на асобныя трэкі, каб глядач мог лёгка адшукаць і паўтарыць найбольш упадабаныя фрагменты. Дый тэлеканалы заўтрашняй Беларусі, калі таго захочуць, змогуць аператыўна скарыстоўваць поўны канцэрт або ягоныя трэкі ў тэматычных гутарках будучых музычных тэлеперадач.

А яшчэ асабіста мяне найбольш уражвае першае знаёмства з дасканала пададзеным музычным вытворам сучаснага шоу-бізу: заладоўваеш дзіджытал-відэа-дыск у плэер, і на экран выплывае меню вольнага выбару — «Playall», «Selectsongs», «Clips», «Credits». Пра апошні параметр можаце адразу забыць, бо ён і так выплывае напрыканцы канцэрта — гэта выходныя звесткі фільма-канцэрта: дадзенае відэа было запісана 30 кастрычніка 2010 года ў клубе «Re:Public» (Мінск). Зрэшты, адмыслоўцам акурат будзе цікава адразу, хто і што там рабіў, бо няма таго нават на вокладцы, але давядзецца ўсё ж перакладаць з англійскай: Аляксандр Дземідзенка (бубны), Ягор Любічаў (гітара), Віталь Макшун (гітара), Зміцер Наркевіч (бас-гітара), Уладзімір Казлоў (вакал). Аператары Аляксандр Мядведскі (ён жа і мантажом займаўся), Віталь Наркевіч, Зміцер Новікаў. Прафесійнае мастацкае рэдагаванне ўсяго DVD таго ж Аляксандра Мядведскага з Піцера ды нашага Аляксандра Дземідзенкі, бубнара. Цітры (ды інтэрнэт-рэквізіты гурта) ідуць, натуральна, на фоне музыкі Re1ikt (кампазіцыя «Прыкметы»), хоць у альбоме і канцэрце яна 9 хвілін, тут жа спатрэбілася толькі 0’01”20. Праўда, цітры датычаць толькі канцэрта, а не кліпаў, хоць дастаткова было адным радком напісаць: рэжысёры і аператары кліпаў (раз, два, тры) канулі ў Лету...

 

А кліпы хоць і сціплабюджэтныя, але знатныя — сімвалічныя, сюжэтныя, месцамі сягаюць да эксперыментальнага мантажу, экзатычных планаў. Найбольш гэта датычыць «Рэкі пад ільдом», бо ў «Трох хвілінах» цаглінамі відэаканструкцыі стала нарэзка і мантаж канцэртна-сюжэтных кадраў, што, магчыма, найбольш адпавядае іхняй меланхалічнай, але ёмістай музыцы. Ёсць што паслухаць і на што паглядзець.

Калі ў рэжыме «Меню» націскаеш функцыю «Выбар песні», лёгка знаходзіш тыя ж «Прыкметы» (ці што яшчэ з 7 трэкаў альбома) і пераконваешся, што пачынаюцца яны з 21-й хвіліны канцэрта, каб завершыцца 30-й. Склейкі ў рэжыме «Total» практычна не заўважаеш (галівудскі мантаж!). Тэксты можна цытаваць наўпрост у рэжыме «Play» (галівудскі запіс):

Ой, рана на Йвана,  
Ой, рана на Йвана,  
Проці Йвана ночка мала,  
Ой, рана на Йвана.  
Дзе Купала начавала,  
Ой, рана на Йвана?  
Начавала ў чыстым полі,  
Ой, рана на Йвана...

Зрэшты, працытаваны тут фальклор — толькі фрагмент аўтарскага альбома, хоць практыка жывых кантактаў з сакральнай народнай творчасцю ў музыкаў гурта і без таго не бедная (прыгадаем хоць бы больш ранні сінгл «Вытокі» (2010), дзе яны старажытнымі мелодыямі падкрэслілі, адкуль выплывае іхні неверагодны пост-метал). Пасля шматлікіх прэзентацый сваіх рэлізаў 2012 года ў сталічных клубах, па рэгіёнах і ў замежжы яны справакавалі музычную прэсу на вестку пад загалоўкам “Re1ikt” едзе ў тур “па бабулек”». Ясна дзеля чаго: хлопцы будуць умацоўваць нітку жыцця свайго авангарднага progressive-post-metal, хоць ён і цяпер пераканаўчы і не банальны:

Тры хвіліны перакур, гадзіннік стане...  
Тры хвіліны перакур, я прыхаплю з сабою трохі туману.  
Туман, бы ў Англіі, застыне над вуліцамі былых гарадоў,  
Прывіды хутка іх пакінуць, прытулак ціхі апошніх сноў.

Гэта з фінальнай песні альбома «Рэкі прабілі лёд» і канцэрта «Крыгаход». Яна — самая кароткая — так і называецца «Тры хвіліны». Надзвычай сімвалічная, каб даць слухачу аптымістычны пасыл напрыканцы: «І няхай з ранку не ўзгадаю, чаму мне так баліць ў душы. / Ты сказаў, а я прымаю... можа і заеду калі?»

І заедзе ж. Бо не назаўсёды ж мы «скаваны, бы рэкі пад ільдом», і хоць пакуль цяжка, але ведаем, што «лёгкія дарогі не трымаюць след». А жыць — гэта значыць пакідаць сляды, таму абралі цяжкую дарогу.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА,***  
***музычны крытык***

# Шукаючы — знойдзеш!*

***Аповесць***

## 2

Удзень усё падалося яшчэ цікавейшым. Сад — выдатны, усе дрэвы дагледжаныя. Сцежка ад дома да брамкі даволі шырокая, выкладзена камянямі. Косцік ужо сабраўся прайсціся па ёй, як раптам вырашыў зазірнуць за хату. На заднім двары ляжалі складзеныя дровы. Толькі вось сякеры не бачылася, верагодна, ксёндз не сам займаўся нарыхтоўкай. Агледзеўшы ўвесь двор, Косцік рушыў да касцёла. Спецыяльна пайшоў не блізкім шляхам, як учора вечарам, а алеяй. Вельмі ж яна прыгожая. Косцік нават падумаў, што абавязкова высадзіць такую ж, калі вернецца дадому і адновіць храм. Такія думкі ўзніклі ў яго адвольна, не тое, каб ён раней марыў аднавіць касцёл. Тым не менш, яны яго не напалохалі.

Дзверы ў касцёл былі адчынены, і Косцік без перашкоды апынуўся ўнутры. У першую ж чаргу хлопчык схіліў калені насупраць алтара і падзякаваў Богу за тое, што ўбачыў такую прыгажосць сваімі вачыма. А потым погляд яго ўпаў на тыя самыя пліты, якія ён чысціў. І зноў захацелася плакаць. Настолькі яны адрозніваліся! Аказваецца, на іх была яшчэ каляровая мазаіка. Ён жа бачыў на сваіх раскопах толькі шэрыя пліты і шчыра гэтаму радаваўся.

Косцік так і стаяў на каленях ды гладзіў далонямі падлогу. Слёзы незаўважна для яго самога сцякалі па шчоках. «Як гэта ўсё можна падарваць? Як гэта можна запусціць?» Каляровая мазаіка падлогі паплыла перад вачыма, калі Косцік адчуў, што нехта дакрануўся да яго пляча. Ён падняў галаву і скрозь слёзы ўбачыў добры твар ксяндза Паўла. Святар не стаў паднімаць хлопчыка, сам прысеў побач на кукішкі.

— Прыгожа?

Косцік кіўнуў, і слёзы пацяклі яшчэ мацней. Нават галава пачала балець. Сам ад сябе не чакаў ён такой чуллівасці, і нічога не мог зрабіць: буйныя слёзы так і каціліся па твары. Ксёндз Павел дастаў з сутаны хустачку і працягнуў хлопчыку. Усхліпваючы, ён падзякаваў святару, выцер твар і сунуў платок у кішэню штаноў, зусім разгубіўшыся.

— У нас нічога не захавалася! Усё развалілася, або расцягалі, — пачаў, нарэшце, распавядаць Косцік, яшчэ ўсхліпваючы.

Яны з ксяндзом моўчкі ішлі па доўгім праходзе да алтара, і хлопчык увесь час глядзеў па баках.

---

* Працяг. Пачатак у № 2, 3 за 2013 г.





— На алтары ўсё зарастае травой. Я думаю, добра, што ў вёсцы няма больш дзяцей, акрамя мяне, бо ўсё б разламалі. Там унутры растуць дрэвы.

Косцік моўчкі паглядзеў вакол сабе, а потым працягнуў:

— Ксёндз Павел, мне здаецца, што трэба паспрабаваць нешта змяніць!

Хлопчык зноў спыніўся і паглядзеў святару ў вочы:

— Вы не павінны загінуць!

— Як жа не павінен? — спакойна і шчыра здзівіўся ксёндз. — Калі Гасподзь вырашыць, што павінен, то так таму і быць. Я думаю, што табе не варта больш гаварыць са мной на гэтую тэму. Я заўсёды раблю тое, што ад мяне залежыць. Калі на касцёл пачнуць нападаць, я буду яго абараняць. Але тое, што ад мяне не залежыць, я не спрабую змяніць. — Ён павольна абвёў вачыма ўвесь касцёл. — Што ж, калі яму наканавана ператварыцца ў руіны, не мая на тое воля. Але калі ты вырасцеш і захочаш аднавіць яго — Бог табе ў дапамогу. — Ксёндз Павел крыху памаўчаў, а потым спытаў: — Хочаш прайсці ў захрыстую?

Косцік толькі кіўнуў, адчуваючы, што калі скажа хоць слова, зноў пачне ліць слёзы, так шкада яму ксяндза Паўла.

У захрыстай на сцяне вісеў вялікі драўляны крыж, счарнелы ад часу. Прама пад ім, каля невялікага акенца стаялі масіўны дубовы стол і два крэслы па абодвух баках. На стале стаяла лямпа, пад ёй — разгорнутая кніга. Ад невялікага скразняку верхняя старонка крыху варушылася. А каля процілеглай сцяны стаяла шафа, дзе вісела адзенне. Непадалёк ад шафы знаходзілася вялікая тумба, дзе, відавочна, захоўвалася ўсё неабходнае для правядзення Святой Імшы. Зверху на тумбе стаяла невялікая ёмістасць са Святой Вадой і маленькая мяцёлка.

— Сядай, — прапанаваў ксёндз і паказаў на крэсла. Косцік сеў, ксёндз Павел уладкаваўся насупраць. Памаўчалі, паглядзелі ў акно.

— Распавядай, як там у вас, у будучыні! Электрычнасць ёсць?

— Ёсць! Тэлевізар, магнітафон, электрычная пліта, нават пральная машына. У нас там добра.

Распавядаючы пра дасягненні тэхнікі, Косцік раптам засумаваў па доме. Яму вельмі захацелася да мамы, таты і бабулі, у свой пакойчык. Ад ксяндза не ўтаілася змена ў твары хлопчыка.

— Веру, што ў вас там добра. І думаю, што табе пара вяртацца.

Косцік паглядзеў на стол, правёў пальцам па гладкім дрэве. Успомнілася, што планаваў хоць здалёк паглядзець на сваякоў, якіх ніколі не бачыў.

— Я б хацеў яшчэ схадзіць у вёску. А потым знікну, не буду вас больш угаворваць.

Ксёндз усміхнуўся.

— Вось і выдатна. Тады пайшлі ў вёску?



— Вы збіраецеся са мной? — Косцік не мог паверыць у тое, што пачуў.

— Чаму не? Імша толькі ў пяць гадзін, цяпер палова адзінаццатай, так што я цалкам магу прайсціся з табой. Будзеш распавядаць мне, як у вёсцы ў тваім часе.

На некалькі хвілін ксёндз Павел выйшаў, пакінуўшы Косціка аднаго. Потым дзверы адчыніліся, і святар паклікаў хлопчыка. Разам яны выйшлі з касцёла, і ад Косціка не ўкрыўся той факт, что нехта знутры зачыніў дзверы.

— У касцёле яшчэ хтосьці ёсць, акрамя вас?

Ксёндз усміхнуўся, а потым спакойна адказаў:

— Так, ёсць загадчык гаспадаркай, прыбіральніца, вартаўнік, ёсць клірыкі. Адзін з усім я б ніколі не справіўся. Ды і ніхто не справіцца. Але ёсць, слава Богу, добрыя людзі, дапамагаюць. Вось цяпер, напрыклад, я папрасіў вартаўніка зачыніць касцёл, каб без мяне ніхто староннí ў яго не ўвайшоў. Сам ведаеш, які цяпер час.

Косцік толькі хітнуў галавой. Да горла зноў падступілі слёзы.

Некаторы час прыйшлося ісці моўчкі і разглядаць буйныя камяні, якімі была выкладзена дарога скрозь алею, і далей, прама праз невялікае поле. Ксёндз таксама не парушаў цішыні. Неўзабаве вылузнуліся агароды. Дарога вяла да пагонкі. Толькі шлях, па якому ганялі жывёлу, моцна браў направа, а дарога да касцёла праставала наперад, і амаль уся абапал была засаджана дрэвамі, якія нагадалі Косціку клёны. Магчыма, што гэта яны і былі. Там, у дзевяностых, не засталося нічога — ні дарогі, ні алеі, ні касцёла, ні доміка ксяндза з садам. Толькі могілкі, і тое, мабыць, толькі таму, што недзе трэба было хаваць нябожчыкаў. Затое пагонка захавалася на тым жа самым месцы. Ды і на саму вёску было прыемна зірнуць. Усе хаты выглядалі значна багацейшымі, у кожным двары стаялі хлявы для хатняй жывёлы. Там кудахталі куры, спявалі пеўні. Па агародах шнырылі каты ў пошуках здабычы. На вуліцы гулялі маленькія дзеці: усім было не больш пяці-шасці гадоў, а некалькім і таго менш.

Бадай, толькі ў вёсцы і парушылі маўчанне, якое суправаджала шлях хлопчыка і святара ад касцёла да вёскі.

— Я думаю, што магу і не паказваць дом, дзе жывуць Сквароўскія? — Прамовіў ксёндз Павел і ўсміхнуўся.

Косцік жа паглядзеў на яго, адказаў, праўда, не так весела:

— Не. — Хлопцу зноў, да слёз, стала шкада ксяндза Паўла. «І за што такія добрыя людзі так рана сыходзяць. Яны, напэўна, вельмі патрэбныя там, на небе?»

Святар, адчуваючы душэўны стан хлопчыка, вырашыў памаўчаць, не прыцягваць да сябе ўвагу. Ён крыху пашкадаваў, што пайшоў з Касцікам, бо бачыў, якія сумныя думкі выклікае ў дзіцяці, і ад гэтага ксяндзу станавілася таксама нялёгка. Даводзілася самому думаць пра немінучае. А такія думкі не могуць радаваць мужчыну ў самым росквіце сіл. А тым больш святара, калі ён столькі яшчэ гатовы зрабіць для людзей.

— Вось і мой дом. Толькі лепей выглядае, вядома.

— Тады наперад! Брамка незачынена.

Косцік у нерашучасці паглядзеў на ксяндза, потым на дом насупраць. З акна выглядаў зацікаўлены твар хлопчыка. Але Косціку ён не спадабаўся, і ў душы ўзрадаваўся, што ў сваім жыцці не давялося з ім сутыкацца.

Нарэшце Косцік штурхнуў брамку і знаёмай сцежкай прайшоў да дзвярэй.

— І цяпер усё гэтаксама, — сказаў хлопчык. — Толькі мы дом з татам летам пафарбавалі.

Раптам ён спыніўся і паглядзеў на ксяндза, потым спытаў:

— А што мы скажам?

— А што ты бабулі казаў?

— Што я далёкі сваяк.

Святар глядзеў на хлопчыка і, здавалася, не бачыў. Ён напружана думаў, як выйсці з гэтай сітуацыі. Можа быць, і сапраўды сысці хутчэй, пакуль ніхто не заўважыў. Паглядзеў, як выглядае дом, і хопіць. Але было позна. Дзверы расчыніла знаёмая бабуля, ласкава ўсміхнулася.

— Ксёндз Павел! Канстанцін! Вось ужо не чакала вас тут убачыць! Праходзьце, калі ласка!

Адступаць было позна.

— Вось, прывёў хлопчыка паглядзець, як жывуць яго далёкія сваякі.

— Ну-ну, — толькі ціха адказала бабуля і шырэй адчыніла дзверы. Ад такога больш чым сціплага адказу ў Косціка пахаладзела ў грудзях. Бабуля, здавалася, бачыла яго наскрозь.

У першай частцы дома за сталом сядзеў дзед. Твар яго быў парэзаны глыбокімі маршчынамі, плечы сагнуліся пад цяжарам пражытых гадоў, ніжняя сківаца лёгка дрыжала, і глядзеў стары ў адно месца, кудысьці ў падлогу. Сядзець роўна дзядуля сам не мог, таму дзвюма рукамі абапіраўся на тоўстую самаробную ківеньку. Косціка прапусцілі ў дзверы першым, але ён чуў, як бабуля ціха сказала ксяндзу:

— Зусім дрэнны стаў. Вы як паўгода таму былі, пасля ўсё горш і горш рабілася. Нават ужо не ведаю, што і думаць.

— Пахвалёны Езус Хрыстус у гэтую хату! Як справы? — спытаў святар, падыходзячы да старога. Дзядуля, здавалася, толькі цяпер заўважыў, што нешта ў доме змянілася. Ён падняў вочы, абвёў усіх адсутным поглядам, які, тым не менш, спыніўся не на святары, а на хлопчыку. А потым прамовіў дрыжачым голасам:

— Да Сярожкі падобны!

— Так, дзед, — пачала бабуля сваім казачным голасам, прычым ненатуральна гучна, відаць, стары быў яшчэ і глухаваты. — Гэта твой далёкі сваяк,

у нашых месцах праездам. Папрасіў ксяндза Паўла, каб ён адвёў яго да нас. Дзе Сяргей?

— Дык я не бачыў! Гуляе, напэўна, недзе.

Не даслухаўшы, бабуля зазірнула ў іншы пакой. Унука нідзе не знайшла. Косцік гэтаму ўзрадваўся. Вельмі захацелася дадому. Таму ён падышоў да ксяндза Паўла і зашаптаў:

— Давайце пойдзем адсюль. Я забяру свае рэчы і шмыгну дадому праз дуб.

Ксёндз кіўнуў.

— Ну што ж, раз больш няма нікога, то мы, бадай, пакуль пойдзем. Потым Косцік яшчэ зазірне. А то, можа, і вы да мяне Сярожу накіруеце?

— Можа быць, няхай ён у нас пажыве? Усё ж сваякі? — прапанавала бабуля. Але пры гэтым на яе твары не было ані ценю гасціннасці. Нават дзіўна. З раніцы яна паставілася да хлопчыка з большай цеплынёй. Косцік умольна паглядзеў на ксяндза. Нават калі нешта адбудзецца, ён не хоча жыць у сям'і далёкіх сваякоў. Святар, не гледзячы на хлопчыка, адказаў:

— Не, калі прыйшоў адразу да мяне, то няхай у мяне і жыве. Я думаю, вам не будзе цяжка рыхтаваць для дваіх. Тым больш, што яму не столькі трэба, як мне, — прамовіў ксёндз, і весела засмяяўся, так што нават бабуля ўсміхнулася. Косцік з радасцю рушыў за ксяндзом. Калі яны выйшлі на двор, зрабілася весялей і лягчэй дыхаць. Косцік вырашыў падзяліцца сваімі думкамі са святаром.

— Я іх баюся. Не ведаю чаму, — ціха прагаварыў ён, калі яны ішлі па вуліцы ў зваротным напрамку.

— Проста гэта не на карысць — бачыць сваіх далёкіх сваякоў, продкаў. Гэта амаль тое ж, калі б яны прыляцелі да цябе на паганскае свята «Дзяды». Гэта ненармальна, таму табе і няўтульна.

Ксёндз Павел крыху памаўчаў, а потым спытаў:

— Вы адзначае «Дзяды»?

— Так, — прызнаўся Косцік.

— Я змагаюся-змагаюся, і ўсё роўна ціха, але адзначаюць. А твая прабабуля, між іншым, на апошняе свята напякла тоўстых бліноў, нагатавала рознай ежы і прапанавала мне, ксяндзу, паклікаць сваіх продкаў з акна.

Косцік усміхнуўся, святар следам, і напружання між імі як не было. Некалькі хвілін хлопчык ішоў і радаваўся, а потым зноў засумаваў. Часам ён сам сябе трываць не мог за гэтую звычку ўсё аналізаваць і абдумваць. Вось і цяпер, вакол усё шумела, жыло, а ён думаў пра тое, што да дзевяностых гадоў вёска амаль вымра, што з-за калектывізацыі разбураць усе гаспадаркі (гэта яму бабуля распавядала), шкадаваў, што няма ў яго свеце такога ксяндза, як Павел, а потым і зусім даразважаўся ледзь не да слёз. Зноў прыйшло на розум, што загіне такі выдатны чалавек.

— Чаму ты зноў засумаваў? — спытаў ксёндз Павел. Цяпер ён меў намер зрабіць так, каб хлопчык усё расказаў, ці хаця б супакоіўся. У душы ён здагадваўся, пра што сумуе дзіця, але хацеў, каб ён сам вымавіў гэта ўслых.

— Я вам казаў, што вас заб'юць. Як я магу не хвалявацца! — Яны ўжо выйшлі на дарогу, якая вяла да касцёла. — А яшчэ мне шкада вёску. Вас ужо

да таго часу не будзе, вы не даведаецеся, што такое калектывізацыя. Гэта адбудзецца ці не ў трыццатых гадах. Усе прыватныя гаспадаркі спустошаць, людзі будуць паміраць ад голаду. Чаму так, ксёндз Павел? Хіба гэта справядліва? — Ён спыніўся і паглядзеў на святара.

— Каго Бог любіць, таго і выпрабоўвае. На веру, на любоў да Яго, на моц. Потым людзі, можа, будуць успамінаць гэты час і не стануць рабіць такіх памылак.

Адказ Косціка не зусім задаволіў, але, тым не менш, ён неяк супакоіўся.

— А давайце, я вам дуб пакажу, — прапанаваў ён. — Потым забяру рэчы, і вы мяне зноў праводзіце?

— Як скажаш.

Ксёндз Павел быў настолькі рады супакаенню хлопчыка, што пагадзіўся ісці праз сырое поле да лесу, толькі каб яму было добра.

Чым бліжэй яны падыходзілі да месца, тым мацней у Косціка замірала сэрца. Абрысаў знаёмага дуба на ўскрайку лесу ён не ўбачыў, хоць добра ведаў гэта месца і не мог памыліцца. І ўсё ж, калі яны падышлі, дуба не было, нават маленькага. Косцік бы яшчэ нешта зразумеў, калі б на тым месцы рос хаця б пруток маленькага дубка, або дуб стаяў без расколіны. Тады можна было б выказаць здагадку, што дрэва з’явілася пазней, пасля дваццаць восьмага года, але там нічога не расло. Толькі пень, на якім Кастусь любіў сядзець у ранейшым свеце і разважаць. Але цяпер тут нічога не расло. НІЧОГА! Косцік заламаў сабе рукі. Ксёндз адразу зразумеў прычыну такой роспачы, але ўсё ж вырашыў даведацца падрабязнасці.

— Што здарылася? Дрэва знікла?

Косцік толькі кіўнуў. Здавалася, яго скіўіцы звяла сударага і ён не хутка зможа што-небудзь вымавіць. Ксёндз паклаў руку хлопчыку на плячо. Той здрыгануўся.

— Не хвалюйся, — папрасіў святар спакойным тонам. — Можа, яно з’явіцца такім жа чароўным чынам, як і знікла. Проста прыходзь сюды кожны дзень.

Косціка такая перспектыва не задавальняла. Ён ужо і забыўся, што хацеў застацца ў вёсцы даўжэй. Яму вельмі хацелася дамоў, як ніколі ў жыцці. Раней жа, знаходзячыся ў сваім часе, ён марыў, што з’едзе з вёскі, што яго чакаюць вялікія справы.

— Пойдзем, — прамовіў спакойна ксёндз Павел. Ён узяў на сябе поўную апеку над разгубленым хлопчыкам. — Прыйдзеш сюды заўтра.

Косцік паслухаўся. Ён нават не плакаў, толькі сумна агледзеў пустое месца, дзе ў яго часе рос дуб, і рушыў за ксяндзом.

Пайшоў снег. Ён падаў на зямлю і адразу таяў, апускаўся на шыю і сцякаў, кранаючыся чалавечага цяпла. Пачыналася зіма. Першая Косцікава зіма ў дзіўным месцы. Быццам бы і ў роднай вёсцы, а ўсё ж — у гасцях.

*Ганна СТАРЫКОВІЧ,*
*малюнкі Алены БОСАВАЙ*

*Працяг у наступным нумары*








***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 27 720 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 13 800 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 35 080 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 9700 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 10.04.2013. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,03. Тыраж 2417 экз. Заказ 1154. Кошт нумара ў розніцу 13 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.





**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**



**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**